# Порт у тумане

## I. Кошка ў доме

Калі а трэцяй гадзіне дня яны ад'язджалі з Парыжа, яшчэ свяціла няшчодрае восеньскае сонца. Не паспелі даехаць да Манту, як у купэ запалілі лямпы. А калі мінулі Эўрэ, за акном была ўжо цемрадзь. Нарэшце запацелае шкло аблажыў такі густы туман, што ў ім танулі нават чыгуначныя агні.

Уладкаваўшыся ямчэй у куце, Мэгрэ прытуліў галаву да сцяны і, прыплюшчыўшы вочы, машынальна назіраў за двума пасажырамі насупраць – такімі непадобнымі адно да аднаго.

Капітан Жарыс спіць. Парык з'ехаў набок – відаць яго абсалютна голы, што тое калена, чэрап. Гарнітур памяты.

А Жулі, склаўшы рукі на сумачцы са штучнай, пад кракадзілавую, скуры, стараецца, нягледзячы на стомленасць, захоўваць задуменны выгляд.

Камісар крымінальнай паліцыі Мэгрэ прывык, што ў яго жыццё віхурай урываюцца незнаёмыя людзі, цэлымі днямі, тыднямі, месяцамі патрабуюць пільнай увагі, а пасля зноў знікаюць у безаблічным натоўпе.

Пад стук колаў мерна цякуць яго думкі, заўсёды адны і тыя самыя ў пачатку кожнай новай справы. Якая яна будзе гэтым разам: агідная ці трагічная, заінтрыгуе ці не?

Мэгрэ глядзіць на Жарыса, ледзь прыкметна ўсміхаецца. Дзіўны чалавек! На набярэжнай Арфэўр[1] яго пяць дзён называлі – «гэты чалавек», нават імя не ўдавалася высветліць.

Падабралі яго на Вялікіх бульварах – кінулася ў вочы, як ён кідаўся то ўзад, то ўперад у патоку аўтобусаў і легкавых машын. Загаварылі з ім па-французску. Ні слова адказу. Паспрабавалі распытаць яго на сямі ці васьмі мовах. Зноў маўчанне. Мігаў глуханямых таксама не зразумеў.

Вар'ят? У кабінеце Мэгрэ яго абшукалі. Гарнітур,

---

[1] На набярэжнай Арфэўр знаходзіцца галоўны камісарыят крымінальнай паліцыі Парыжа.

бялізна, чаравікі – усё на ім было новае. Усе меткі з адзежы зрэзаны. Ні дакументаў, ні кашалька. Але ў адной кішэні – пяць зусім новенькіх купюр па тысячы франкаў.

Невясёлы, нічога не скажаш, пачатак расследавання! Пошукі ў службовых журналах, у антрапаметрычнай картатэцы. Тэлеграмы ва ўсе канцы Францыі і за мяжу. А «гэты чалавек», як ні мучаюць яго надакучлівымі допытамі, толькі лагодна ўсміхаецца з раніцы да вечара!

На выгляд яму гадоў пяцьдзесят. Каржакаваты карантыш. Ніякіх прыкмет неспакою або незадаволенасці не выказвае. Усміхаецца, і ўсё. Іншы раз, праўда, здаецца, намагаецца нешта ўспомніць, але надоўга яго не хапае. Страта памяці? Знялі парык і ўбачылі: не далей як два месяцы назад чэрап чалавеку раскавяліла куля.

Дактары ў захапленні ад хірургавай працы: нячаста даводзіцца сустракацца з гэтакім майстэрствам!

Новыя тэлеграмы ў шпіталі і клінікі Францыі, Бельгіі, Германіі, Галандыі…

Праходзяць пяць дзён карпатлівага пошуку. Вынікі аналізу плямаў на адзежы і пылінак у кішэнях бянтэжаць.

Знойдзена рэштка высушанай і скрышанай трасковай ікры, якую апрацоўваюць гэтакім чынам на поўначы Нарвегіі і выкарыстоўваюць як прынаду пры лоўлі сардзін.

Выходзіць, што «гэты чалавек» – адтуль? Можа, скандынаў? Некаторыя прыкметы паказваюць на тое, што ён зрабіў доўгае падарожжа па чыгунцы. Але як мог ён ехаць адзін – без'языкі. перапалоханы недарэка, які адразу звяртае на сябе ўвагу?

Змясцілі яго фота ў газетах. Атрымалі тэлеграму з Вістрэама: «Незнаёмы апазнаны».

За тэлеграмай прыехала жанчына, дакладней будзе сказаць – дзяўчына. І вось яна ў кабінеце ў Мэгрэ. Твар стомлены, са слядамі пamады і пудры. Завуць яе Жулі Легран, яна – служанка «гэтага чалавека».

Зрэшты, таго ўжо больш так не называюць, бо ведаюць, хто ён такі.

Гэта Іў Жарыс, былы капітан гандлёвага флоту, цяпер начальнік вістрэамскага порта.

Жулі плача. Яна нічога не разумее! Упрошвае свайго гаспадара сказаць ёй хоць слова. А той адно глядзіць на яе

пяшчотна і зычліва – як і на ўсіх астатніх.

Капітан Жарыс знік з Вістрэама шаснаццатага верасня. Цяпер канец кастрычніка.

Што здарылася з ім за гэтыя паўтара месяцы?

«У той вечар ён як звычайна, – расказала Жулі, – пайшоў у порт на начное шлюзаванне. Я легла спаць. А назаўтра, устаўшы, не знайшла яго ў доме…»

Спачатку вырашылі, што Жарыс няўдала ступіў і ўпаў у ваду – які ж густы быў у той вечар туман. Шукалі яго бусакамі. Пасля падумалі, што капітан уцёк, – была, відаць, на тое нейкая прычына.

– Лізьё! Прыпынак тры хвіліны.

Каб размяцца, Мэгрэ выйшаў на платформу, зноў набіў люльку. Ён ужо столькі паліў у дарозе, што ў купэ стала шыза.

– Цягнік адпраўляецца!

Жулі скарысталася адсутнасцю Мэгрэ і прыпудрыла кончык носа. Вочы ў яе яшчэ чырвоныя ад слёз.

Дзіўна, але яна то здаецца прыгожай і нават вытанчанай, то невядома чаму робіцца раптам няўклюдай, манеры якой проста бянтэжаць.

Цяпер яна папраўляе парык на галаве ў капітана, свайго «гаспадара», як сама яго называе. Робячы гэта, Жулі глядзіць на Мэгрэ, нібыта заяўляе: «Гэта маё права – даглядаць яго!»

Сям'і ў Жарыса няма. Ужо шмат гадоў Жулі жыве ў яго доме. Капітан называў яе сваёй ахмістрыняй.

«Ён любіў мяне, як родную дачку», – усхвалявана падкрэсліла Жулі.

Ворагаў у яго не было! Чалавек самавіты, ніякіх благіх звычак не меў.

Пасля трыццацігадовай службы на моры ён не змог прывыкнуць да бяздзейнасці і, нягледзячы на пенсійны ўзрост, папрасіў назначыць яго начальнікам вістрэамскага порта. Збудаваў сабе ў гарадку маленькі домік…

І вось увечары шаснаццатага верасня ён раптам знікае, а праз паўтара месяцы аказваецца ў Парыжы ў гэтакім выглядзе!

Жулі проста сумелася, калі ўбачыла свайго гаспадара ў шэрым крамным гарнітуры. Яна прывыкла бачыць яго толькі ў форме марскога афіцэра.

Яна нервуецца, ёй не па сабе. Кожны раз, калі глядзіць на капітана, на твары ў яе і замілаванасць, і няясны страх, і нейкая неадольная трывога. Гэта, вядома, ён, яе «гаспадар», але ў той жа час і не зусім ён.

«Ён паправіцца, праўда?.. Я буду яго даглядаць…»

Па шкле сцякаюць цяжкія кроплі. Вагон уздрыгвае, і масіўная галава Мэгрэ ківаецца з боку на бок… Камісар спакойна назірае за спадарожнікамі. Жулі, мусіць, думае, што можна было ўсё-такі абысціся, як яна казала, вагонам трэцяга класа – гэтак яна звычайна і робіць. Жарыс час ад часу прачынаецца і азіраецца, нічога не разумеючы, па баках.

Яшчэ адзін прыпынак у Кане, пасля – Вістрэам.

«У гэтым гарадку каля тысячы жыхароў, – сказаў камісару адзін саслужывец, родам з тых мясцін. – Порт невялікі, але важны, бо звязаны з Канам каналам, па якім праходзяць караблі ў пяць тысяч тон і болей».

Мэгрэ не спрабуе ўявіць сабе гэты гарадок. Ён ведае па вопыце, што ўсё роўна памыліцца. Пакуль што ён проста едзе туды, і позірк яго раз-пораз падае на парык, якім прыкрыты ўсё яшчэ ружовы шрам.

Да таго, як капітан знік, у яго былі густыя, вельмі цёмныя валасы з ледзь прыкметнай сівізною на скронях. Яшчэ адна прычына адчаю Жулі: яна бачыць не можа гэты голы чэрап! І кожны раз, калі парык спаўзае, яна спяшаецца паправіць яго.

«Я так думаю, што яго хацелі забіць», – сказала Жулі ў кабінеце.

У яго стралялі, гэта факт! Але потым давялі да ладу такія выдатныя дактары…

Калі ён знік, грошай пры ім не было. А знайшлі яго з пяццю тысячамі франкаў у кішэні!

Ёсць над чым падумаць.

А тут яшчэ Жулі адкрывае раптам сумачку.

– Зусім забылася! Я прывезла карэспандэнцыю гаспадара.

Пошта не дужа багатая. Праспекты фірм, якія гандлююць марацкімі таварамі, квітанцыя на ўплату сяброўскіх унёскаў у прафсаюз капітанаў гандлёвага

флоту… Паштоўкі ад сяброў, якія яшчэ плаваюць, адна – з Пунта-Арэнас[2]…

Ліст з Нармандскага банка ў Кане. Бланк запоўнены на машынцы:

«…маем гонар паведаміць вам, што праз пасрэдніцтва Нідэрландскага банка ў Гамбурзе на Ваш рахунак 14 173 пераведзена сума ў 300 000 франкаў».

А Жулі ўжо колькі разоў казала, што капітан небагаты! Мэгрэ глядзіць па чарзе на абаіх спадарожнікаў.

Трасковая ікра… Гамбург… Чаравікі нямецкай вытворчасці…

Адзін толькі Жарыс мог бы ўсё растлумачыць! Жарыс, які шырока і зычліва ўсміхаецца, як толькі прыкмячае, што Мэгрэ глядзіць на яго.

– Кан. Цягнік ідзе да Шэрбура. Пасажыры на Вістрэам Ліён-сюр-Мэр, Люк…

Сем гадзін вечара. Туман такі густы, што святло ліхтароў на платформе ледзь прабіваецца праз яго малочную заслону.

– Чым цяпер паедзем? – пытаецца Мэгрэ ў Жулі, прабіраючыся праз шчыльны натоўп пасажыраў.

– Больш няма чым. Цяпер прыгарадны ходзіць толькі два разы на дзень.

Каля вакзала стаяць таксі, можна садзіцца. Але Мэгрэ хоча есці. Ён не ведае, што чакае яго ў Вістрэаме, і прапануе Жулі павячэраць у буфеце.

Капітан Жарыс усё такі ж памяркоўны. Есць усё, што яму даюць, усё роўна як паслухмянае дзіця. Нейкі чыгуначнік круціцца каля іх стала, разглядвае Жарыса, пасля пытаецца ў Мэгрэ:

– Ці не начальнік гэта вістрэамскага порта?

І круціць пальцам каля скроні. Мэгрэ ківае, і той адыходзіць. Відаць, яму нялёгка паверыць у тое, што ён бачыць.

А Жулі ўсё незадаволеная:

– Дванаццаць франкаў за гэтакую вячэру! Дый згатавана не на масле. Нібыта нельга было павячэраць дома…

Мэгрэ думае: «Стрэл у галаву… Трыста тысяч

---

[2] Горад і порт у Чылі.

франкаў…» Ён пільна ўзіраецца ў нявінныя вочы Жарыса – разгледзець бы ў іх, якая такая загадка за ўсім гэтым…

На вакзале да іх пад'язджае таксі – старая прыватная машына. Рысоры бязбожна скрыпяць. Мэгрэ і яго спадарожнікі з цяжкасцю ўмяшчаюцца на прамятым сядзенні. Жулі сядзіць паміж мужчынамі, і яны ўвесь час навальваюцца на яе.

– Не памятаю, ці замкнула я садовую брамку, – шэпча яна. Відаць, яе ўжо адольваюць розныя гаспадарчыя клопаты.

Выязджаючы з горада, машына літаральна ўразаецца ў сцяну туману. Шафёр прытарможвае. Але ўсё роўна перад самым носам узнікаюць раптам, быццам здані, конь і павозка. Паабапал дарогі – прывідныя дрэвы, дамы…

Прыходзіцца ехаць яшчэ цішэй. Машына ўжо ледзь паўзе: дзесяць кіламетраў у гадзіну. Ды зноў з туману раптам выскоквае нехта на ровары – і ледзь не пад колы. Спыніліся. Усё абышлося добра.

Машына ўязджае ў Вістрэам. Жулі апускае шкло.

– Едзьце да порта, – кажа яна шафёру, – пасля будзе разводны мост, за ім і дом – каля маяка.

Ад гарадка да порта – з кіламетр шашы, абапал якой – бледныя светлячкі газавых ліхтароў. Каля моста ўбачылі святло ў нейкім вялізным акне, пачулі шум.

– Шынок «Марацкі прытулак», – растлумачыла Жулі. – Тут партавікі бавяць звычайна час.

За мостам шашы, лічы, ужо няма – дарога губляецца ў балотах, што падступаюць да самага берага рэчкі Орны.

Тут увогуле нічога няма, апроч маяка і двухпавярховага доміка з невялікім садам.

Таксі спыняецца. Мэгрэ назірае за Жарысам, які выходзіць сам з машыны і ўпэўнена кіруецца да брамкі.

– Бачыце, пан камісар! – ускрыквае Жулі. Яна ажно дрыжыць ад радасці. – Ён пазнаў дом! Я проста ўпэўнена, што ўрэшце ён ачуняе.

Яна ўстаўляе ключ у замок, адчыняе брамку – тая скрыпіць – ідзе па гравійнай сцежцы. Мэгрэ плаціць шафёру, даганяе Жулі. Таксі ад'язджае, і ўсё навокал тоне ў цемры.

– Запаліце, калі ласка, сярнічку! Не магу ніяк трапіць у замок…

Успыхвае запалка. Жулі адчыняе дзверы. Пад нагамі ў Мэгрэ прабягае нешта цёмнае. Жулі, якая ўвайшла ўжо ў калідор, запальвае святло, здзіўлена глядзіць на падлогу, шэпча:

– Гэта ж кошка выскачыла, здаецца?

Прывычна здымае капялюш і паліто, вешае, адчыняе дзверы кухні, запальвае там святло, міжволі паказваючы гэтым, што менавіта на кухні прымаюць гасцей у доме.

Кухня – прасторны пакой з выкладзенымі керамічнаю пліткаю сценамі, нашараваным пяском вялікім драўляным сталом. Паўсюды зіхацяць начышчаныя да бляску рондалі.

Капітан прывычна ідзе да плеценага крэсла каля печкі, садзіцца.

– Я ж, здаецца, калі ад'язджала, выпусціла кошку, – кажа Жулі сама сабе. Відаць, што яна занепакоеная. – Але, вядома... Усе дзверы зачыненыя... Пан камісар, калі ласка, давайце пройдзем разам па пакоях... Мне адной страшна...

Жулі такая напалоханая, што ледзь асмельваецца ісці першая.

Адчынілі дзверы ў сталовую. Ідэальны парадак. Паркет і мэбля – што люстра. Піяніна. Фарфор, прыгожыя кітайскія лакіраваныя цацкі, прывезеныя, пэўна, капітанам з Далёкага Ўсходу. Здаецца, гэтым пакоем ніколі не карысталіся.

– Гляньце, калі ласка, за шторамі, – просіць Жулі.

Пасля – гасцёўня. Мэбля тут расстаўлена ў тым самым парадку, у якім стаяла ў краме, дзе куплялася. Капітан ідзе за імі, яўна задаволены. Яны падымаюцца па засланай чырвоным дыванам лесвіцы. Наверсе – тры пакоі, адным з якіх зноў-такі, відаць, не карыстаюцца.

І ўсюды – ідэальная чысціня, бездакорны парадак. Прыемна пахне вёскаю і кухняю.

Нікога ў доме. Вокны і дзверы ў сад – зачыненыя.

– Кошка, мусіць, прабралася ў дом праз якую-небудзь дзірку, – кажа Мэгрэ.

– Няма ў нас ніякіх дзірак...

Усе вяртаюцца на кухню. Жулі адчыняе шафу.

– Можа, наліць вам чаго-небудзь выпіць? – пытаецца ў Мэгрэ Жулі.

Менавіта цяпер, у звычайным гаспадарчым клопаце, наліваючы лікёр у маленькія чарачкі, аздобленыя маляванымі кветачкамі, яна адчула асабліва востры адчай і заплакала.

Яна ўпотайкі кідае позірк на капітана, які спакойна сядзіць у крэсле. Ёй цяжка глядзець на свайго гаспадара, і яна адварочваецца ад яго і лапоча, каб хоць крыху забыцца:

– Я падрыхтую вам пакой…

І зноў плача. Здымае са сцяны белы фартух і выцірае слёзы.

– Я спынюся лепш у гатэлі, – кажа камісар. – Тут ёсць які-небудзь гатэль?

Жулі глядзіць на маленькі насценны гадзіннік – такія звычайна выйграюць на кірмашах. Ціканне яго вельмі натуральна ўпісваецца ў патрыярхальнасць дома.

– Але, ёсць, – адказвае дзяўчына. – Цяпер там яшчэ не спяць. Гэта па той бок шлюза, якраз непадалёк ад шынка, што вы бачылі.

Аднак відаць, што ёй не хочацца адпускаць яго. Пэўна, яна баіцца застацца адна з капітанам, бо і зірнуць цяпер на яго не асмельваецца.

– Вы думаеце, у доме няма нікога чужога? – пытаецца яна.

– Вы ж самі бачылі.

– Вы прыйдзеце заўтра раніцай?

Яна праводзіць яго да дзвярэй – і адразу ж зачыняецца. Туман такі густы, што Мэгрэ не ведае, куды ісці. Але брамку ўсё ж такі знаходзіць. Выйшаўшы з саду, ён адчувае спачатку, што ідзе па траве, пасля выходзіць на брук. Удалечыні чуваць нейкі гук, але нельга зразумець, што гэта такое.

Гук падобны на мычанне каровы, але нейкі роспачны.

– Во дзе дурань! – кажа раптам сам сабе Мэгрэ. – Гэта ж карабельны сігнал, на туман…

Камісар дрэнна арыентуецца. Далёка ўнізе, пад нагамі, ён бачыць ваду – яна дыміцца. Мэгрэ і не ведае, што стаіць на сцяне шлюза. Недзе скрыпяць дзержакі. Камісар не памятае, у якім месцы яны пераехалі канал, і, убачыўшы вузенькі масток, ужо мерыцца ступіць на яго.

– Асцярожна! – чуе ён голас.

Ну і ну! Голас зусім побач, Мэгрэ здаецца, што ён тут зусім адзін, а за тры метры ад яго, аказваецца, стаіць чалавек. Толькі пільна ўгледзеўшыся, Мэгрэ распазнае сілуэт.

Камісар адразу ж разумее перасцярогу: масток, на які ён ужо ледзь не ступіў быў, апускаецца. Гэта вароты шлюза. Неўзабаве відовішча робіцца яшчэ больш фантасмагарычнае: побач, за некалькі метраў ад Мэгрэ, узнікае ўжо не постаць чалавека, а сапраўдная сцяна вышынёю з добры дом. Уверсе, над сцяною – цьмяныя агеньчыкі.

Зусім побач з камісарам, як выцягнуць руку, праплывае параход! Падае швартоў, хтосьці падымае яго, цягне да кнехтаў і замацоўвае.

– Назад!.. Асцярожна! – зноў крычыць нехта, ужо на капітанскім мастку.

Яшчэ хвіліну назад усё навокал здавалася мёртвым, пустынным. А цяпер, ідучы ўздоўж шлюза, Мэгрэ прыкмячае, што ў тумане рухаюцца чалавечыя постаці. Хтосьці круціць дзяржак, нехта цягне другі швартоў. Таможнікі чакаюць, пакуль з борта спусцяць трап.

І ўсё гэта людзі робяць, лічы, усляпую.

Мэгрэ дакранаецца да вусаў – на іх цяжкія кроплі вільгаці.

– Хочаце перайсці? – крычыць яму зноў нехта.

Голас зусім побач з камісарам – Мэгрэ стаіць цяпер каля другіх варотаў шлюза.

– Давайце хутчэй, а то прыйдзецца чакаць хвілін пятнаццаць.

Мэгрэ пераходзіць, трымаючыся за парэнчы. Пад нагамі бурліць вада, а ўдалечыні гэтаксама, як і раней, чуецца роспачны гудок. Чым далей праходзіць наперад Мэгрэ, тым больш узнікае ў тумане постацей, тым жвавей віруе ў порце загадкавае жыццё. Увагу камісара прыцягвае недалёкі агеньчык. Мэгрэ падыходзіць бліжэй і ў прывязанай да пірса лодцы бачыць рыбака, які апускае і падымае вялікія сеткі, прымацаваныя да жэрдак.

Рыбак кідае на камісара абыякавы позірк і зноў пачынае разбіраць у сваім кашы дробную рыбу.

Побач з параходам трохі святлей. Відаць, як на

палубе ходзяць людзі. На мастку ангельская гаворка. На краі пірса мужчына ў форменнай фуражцы візіруе дакументы.

Начальнік порта. Чалавек, які замяняе цяпер Жарыса.

Як і той, гэты мужчына невысокага росту, але худзейшы і рухавейшы. Ён перакідваецца жартамі з афіцэрамі на караблі.

Увогуле, свет цяпер раздзелены для Мэгрэ на дзве часткі: некалькі адносна светлых квадратных метраў порта і бясконцая цемра, у якой угадваюцца абрысы сушы і мора, што ледзь чутна шуміць злева.

Ці не ў такі вось вечар знік з Вістрэама Жарыс? Пэўна, ён правяраў дакументы, як гэта робіць цяпер яго калега, гэтаксама жартаваў, сачыў за шлюзам, за манеўрам судна. Бачыць нешта ў гэтым тумане яму не трэба было: ён выдатна арыентаваўся па прывычных гуках. У порце звычайна ніхто і не глядзіць сабе пад ногі, калі ідзе.

Мэгрэ распальвае люльку і хмурыцца: яму непрыемна адчуваць сябе тут няўклюдным, нязграбным сухапутнікам, якога палохае і хвалюе ўсё, што мае дачыненне да мора.

Вароты шлюза адчыняюцца. Судна выходзіць у канал, толькі троху вузейшы за Сену ў Парыжы.

– Прабачце, вы – начальнік порта? Камісар Мэгрэ з крымінальнай паліцыі… Я толькі што прывёз дадому вашага калегу.

– Жарыса?.. Значыць, гэта праўда ён?.. Сёння раніцай мне расказвалі… Праўда, што ён?.. – кранае начальнік порта пальцам скроню.

– У гэты момант… Звычайна вы ўсю ноч праводзіце ў порце?

– Не, не больш пяці гадзін запар: толькі ў прыліў. У гэты час узровень вады даволі высокі, каб судны маглі ўвайсці ў канал або выйсці ў мора. Час прыліву непастаянны… Сёння, напрыклад, ён толькі што пачаўся і закончыцца недзе а трэцяй гадзіне ночы…

Чалавек трымаецца проста, размаўляе з Мэгрэ як з роўным: урэшце ён – такі ж самы чыноўнік на службе.

– Прабачце…

Ён глядзіць у мора, дзе і не відаць нічога, аднак

адразу ж аб'яўляе:

– Паруснік з Булоні. Ашвартаваўся каля пірса, чакае, калі адкрыюць шлюз.

– Вам паведамляюць пра судны, якія прыбываюць?

– Часцей паведамляюць. Асабліва пра параходы. Амаль усе яны ходзяць па раскладзе: з Ангельшчыны вязуць вугаль, з Кана – руду…

– Давайце пойдзем вып'ем чаго-небудзь, – прапануе Мэгрэ.

– Пакуль не магу: мушу быць тут да канца прыліву…

Начальнік порта аддае каманды падначаленым, якіх не бачыць, але хто з іх дзе, ведае выдатна.

– Вы расследуеце справу Жарыса?

З боку гарадка набліжаюцца крокі. Па варотах шлюза праходзіць мужчына. Ён аказваецца пад ліхтаром, і тут Мэгрэ прыкмячае за яго спінаю дула стрэльбы.

– Хто гэта?

– Мэр. Ідзе паляваць на качак… У яго ёсць будан на беразе Орны. Яго памочнік, мусіць, ужо там, рыхтуецца да начлегу…

– Як вы думаеце, гатэль яшчэ адкрыты?

– «Універсаль»? Вядома. Але спяшайцеся: гаспадар хутка закончыць гуляць у карты і пойдзе спаць… Тады ўжо не падымецца нізашто на свеце…

– Да заўтра, – кажа Мэгрэ.

– Бывайце. Буду ў порце з дзесяці раніцы, з пачаткам прыліву.

Яны паціскаюць адзін аднаму рукі, хоць практычна яшчэ і не знаёмыя. А ў тумане, у якім Мэгрэ раз-пораз на каго-небудзь наскоквае, па-ранейшаму віруе жыццё.

Камісара разбірае нейкі неспакой, наплывае трывога, ён прыгнечаны. Нібыта побач – чужы свет, які жыве сваім зусім асаблівым жыццём. У цемры – людзі або, напрыклад, парусік, які чакае сваёй чаргі за два-тры крокі ад вас, – а знаку ніякага.

Мэгрэ зноў праходзіць міма рыбака, што застыў пад ліхтаром. Камісару хочацца сказаць яму што-небудзь.

– Бярэ?

Замест адказу чалавек сплёўвае ў ваду, а Мэгрэ ідзе далей, злуючы на сябе: ну нашто ён гэта ляпнуў?

Шум аканіц, якія зачыняюць у Жарысавым доме, –

вось апошняе, што ён чуе, уваходзячы ў гатэль. Страшна, мусіць, Жулі: ніяк не забудзе пра кошку, што выскачыла з дому, як толькі адчынілі дзверы…

– Гэты гудок так і будзе выць усю ноч? – незадаволена пытаецца Мэгрэ, убачыўшы гаспадара гатэля.

– Пакуль туман… Але да гэтага прывыкаеш…

* * *

Спаў камісар неспакойна, як спяць, калі баліць страўнік, або ў дзяцінстве, калі чакаюць якой-небудзь важнай падзеі. Двойчы падымаўся, падыходзіў да акна, прыціскаўся тварам да халоднага шкла, але не бачыў нічога, апроч пустыннай дарогі і промня маяка, які, здавалася, шукаў у заслоне туману месца, каб праткнуць гэтую сцяну. І ўсё выў і выў гудок, нават гучней і яшчэ больш халадзіў кроў.

Прачнуўшыся другі раз, Мэгрэ паглядзеў на гадзіннік. Было чатыры гадзіны раніцы. У порт, стукаючы па асфальце сабо[3], ішлі з кашамі за плячыма рыбакі.

А неўзабаве нехта загрукатаў у дзверы і расчыніў іх, не чакаючы дазволу. Мэгрэ ўбачыў збянтэжаны твар гаспадара гатэля.

У акно ўжо свяціла сонца, але, нягледзячы на гэта, гудок усё яшчэ выў.

– Хутчэй! Капітан памірае!..

– Які капітан?

– Капітан Жарыс. Жулі прыбегла ў порт, каб тэрмінова выклікалі вас і доктара.

Мэгрэ, не прычэсваючыся, нацягнуў штаны, надзеў, не зашнуроўваючы, чаравікі, схапіў пінжак, а пра накладны каўнерык і зусім забыўся.

– Што-небудзь глынулі б?.. Кубак кавы?.. Шкляначку рому?..

Дзе тут ужо да гэтага! Няма калі. На вуліцы, нягледзячы на сонца, было даволі холадна, вільготна. Праходзячы цераз шлюз, камісар убачыў мора, зусім спакойнае, бледна-блакітнае. Віднелася, праўда, толькі

---

[3] Сабо *(фр.)* – чаравікі на драўлянай падэшве або выдзеўбаныя з дрэва.

вузенькая палоска: каля берага доўгі шлейф туману размыў небакрай.

На мосце да Мэгрэ падышоў нейкі чалавек.

– Вы – камісар з Парыжа? Я палявы вартаўнік. Рады пазнаёміцца. Вам ужо расказалі?

– Што?

– Кажуць, гэта проста жахліва!.. А вось і доктарава машына.

Рыбацкія лодкі ў порце ляніва пагойдваліся на вадзе, па якой прабягалі каляровыя блікі. Ветразі былі ўзнятыя, мабыць, на прасушку. На кожным напісаны чорнаю фарбаю нумар.

Перад капітанавым домікам, побач з маяком стаяла некалькі жанчын. Дзверы былі адчыненыя. Мэгрэ абагнала доктарава машына.

– Кажуць, яго атруцілі... Нібыта ён пазелянеў, – не адставаў ад камісара палявы вартаўнік.

Мэгрэ ўвайшоў у дом якраз у той самы момант, калі заплаканая Жулі, з прыпухлымі павекамі і чырвоным тварам, паволі спускалася з другога паверха. Яе толькі што выставілі з пакоя, дзе доктар аглядаў капітана. На ёй было накінута паліто, з-пад якога віднелася доўгая белая начная кашуля, на нагах – пантофлі.

– Гэта жудасна, пан камісар!.. Вы не можаце сабе ўявіць... Падымайцеся хутчэй!.. Можа быць...

Калі Мэгрэ ўвайшоў у спальню, доктар, які нахіліўся над ложкам, выпраставўся. Па яго твары было ясна відаць, што капітану ўжо нічым не паможаш.

– Я з паліцыі...

– А, добра... Усё скончана. Магчыма, яшчэ дзве-тры хвіліны можа... Пэўна, гэта стрыхнін, калі я не памыляюся...

Ён падышоў да акна і расчыніў яго: капітану, здавалася, не хапала паветра. А за акном – усё тая ж карціна: сонца, порт, лодкі з узнятымі ветразямі, рыбакі, якія перакладвалі рыбу, што так і зіхацела луской, з перапоўненых кашоў у скрыні.

На гэтым фоне Жарысаў твар здаваўся яшчэ больш жоўтым, бадай, нават зялёным – немагчыма было разабраць, што гэта за колер, настолькі ён не адпавядаў звычайным уяўленням пра чалавечае цела.

Рукі і ногі ў капітана выгіналіся і торгаліся, у той час як твар заставаўся спакойны і нерухомы, вочы нібы застылі, утаропіўшыся ў сцяну.

Доктар трымаў руку на капітанавым запясці, сачыў, як слабеў пульс. Нарэшце ён вачыма даў знаць Мэгрэ: «Зараз… зараз…»

У гэты момант здарылася нешта зусім нечаканае.

Пэўна, няшчасны апрытомнеў на якоесь імгненне. Твар у яго зморшчыўся, усё адно як у дзіцяці, што зараз заплача, склаўся ў жаласную грымасу пакутніка, які не можа больш цярпець невыноснага болю… Па шчоках каціліся дзве буйныя слязіны…

І тут – прыглушаны доктараў голас:

– Усё. Кончана.

Неверагодна, але слёзы цяклі па твары ў самы момант смерці.

Яны яшчэ жылі, гэтыя слёзы, сцякалі на падушку, а капітан ужо быў мёртвы.

На лесвіцы пачуліся крокі. Унізе гучна ўсхліпвала Жулі. Яе абступілі жанчыны. Мэгрэ выйшаў на пляцоўку і паволі вымавіў:

– У спальню не ўваходзіць.

– Ён… – пачаў быў нехта.

– Але! – адно і сказаў камісар, перапыняючы пытанне.

І адразу ж вярнуўся ў заліты сонцам пакой. Доктар рыхтаваў шпрыц, збіраючыся зрабіць Жарысу ўкол у сэрца, – бадай што, толькі дзеля таго, каб выканаць да канца свой абавязак.

А на садовым муры сядзела зусім белая кошка.

## II. Спадчына

Недзе ўнізе, мабыць, на кухні, у акружэнні суседак гучна рыдала Жулі.

Праз адчыненае акно Мэгрэ ўбачыў, што з гарадка ішлі і беглі людзі – жанчыны з дзецьмі на руках, мужчыны ў сабо… Хлопчыкі ехалі на роварах. Гэты стракаты ўсхваляваны натоўп дасягнуў моста, пераваліў праз яго і рушыў да капітанавага дома, нібы ўсіх там чакала прадстаўленне вандроўнага цырка або аўтамабільная

аварыя.

Неўзабаве на двары быў ужо такі гвалт, што Мэгрэ зачыніў акно. Муслінавыя шторы змякчалі сонечнае святло, і камісар адчуў сябе ў пакоі ямчэй, вальней. Агледзеўся.

Ружовыя шпалеры, светлая, начышчаная мэбля. На каміне – ваза з кветкамі.

Мэгрэ вярнуўся да доктара, які разглядваў на святло шклянку і графін, што стаялі на начным століку. Доктар памачыў палец у вадзе ў шклянцы і лізнуў яго.

– Атрута?

– Але. Мабыць, капітан меў звычку піць ноччу ваду. Калі я не памыляюся, ён піў гадзіны ў тры ночы. А чаму не паклікаў нікога – не разумею.

– Ды таму, што не мог гаварыць, нават гуку вымавіць быў няздольны, – здзіўлена паглядзеў на доктара Мэгрэ.

Ён паклікаў палявога вартаўніка і адправіў яго папярэдзіць мэра і пракурора ў Кане. Чуваць было, як унізе ўсё яшчэ ўваходзілі і выходзілі людзі. На дарозе яны збіраліся ў групкі. Некаторыя, каб было ямчэй чакаць, садзіліся на траву.

Пачынаўся прыліў, мора затапляла пясчаныя водмелі каля ўвахода ў порт. На гарызонце віднеўся дым парахода, які чакаў моманту, каб падысці да шлюза.

– У вас ужо ёсць якія-небудзь меркаванні? – пачаў быў доктар, але змоўк, убачыўшы, што Мэгрэ заняты. Камісар адчыніў сакрэтнік з чырвонага дрэва, які стаяў паміж вокнамі, і з уласцівай яму ў такія моманты засяроджанасцю разглядваў змесціва скрынак. Цяпер Мэгрэ каму хочаш здаўся бы грубым. Паволі зацягваючыся, ён паліў велізарную люльку і бесцырымонна перабіраў тоўстымі пальцамі кожны прадмет.

Больш за ўсё было фатаграфій – толькі паспявай разглядваць. На многіх – сябры ў марской форме, амаль усе Жарысавага ўзросту. Відаць было, што капітан падтрымліваў сувязь з таварышамі па марской школе ў Брэсце. Яны пісалі яму з усіх канцоў свету. Фатаграфіі ці не ўсе з паштоўку, з аднолькава банальнымі, ледзь не стандартнымі надпісамі, адкуль бы яны ні прыходзілі, з Сайгона ці з Сант'яга: «Прывітанне ад Анры!» або «Нарэшце

трэцяя лычка! Салют! Эжэн!».

Большасць гэтых фотакартак высланы на адрас: «Кан. Ангельска-Нармандская кампанія, судна «Дыяна», капітану Жарысу».

– Вы даўно знаёмы з капітанам? – спытаўся Мэгрэ ў доктара.

– Некалькі месяцаў. З тае пары, як ён служыў у порце. Да таго ён дваццаць восем гадоў плаваў капітанам на судне мэра.

– Судне мэра?

– Але, пана Эрнэста Гранмэзона, дырэктара Ангельска-Нармандскай кампаніі. І ўладальніка ўсіх яе адзінаццаці суднаў…

Яшчэ адна фатаграфія: Жарыс у дваццаць пяць гадоў. Ужо тады ён быў каржакаваты, і ўсмешка, відаць, часта з'яўлялася на яго шырокім, троху ўпартым твары. Сапраўдны брэтонец!

І нарэшце, у палатнянай папцы – дакументы, ад школьнага атэстата да дыплома капітана гандлёвага флоту… Розныя афіцыйныя паперы, метрыка, ваенны білет, пашпарт…

На падлогу ўпаў канверт – ужо крыху пажаўцелы. Мэгрэ падняў яго, выняў аркуш паперы.

– Завяшчанне? – спытаўся доктар, які, закончыўшы тут свае справы, чакаў прадстаўнікоў пракуратуры.

Мусіць, капітан поўнасцю давяраў Жулі: канверт нават не быў запячатаны. На аркушы было напісана прыгожым почыркам натарыуса:

«Я, што ніжэй падпісаўся, Іў-Антуан Жарыс, нарадзіўся ў Пэнполі, марак па прафесіі, пакідаю ўсю рухомую і нерухомую маёмасць маёй ахмістрыні Жулі Легран, у знак удзячнасці за шматгадовую верную службу.

Абавязваю яе перадаць:

кацер – капітану Дэлькуру; кітайскі фарфоравы сервіз – яго жонцы; кульбаку з разьбянай слановай косці…»

Не быў забыты амаль ніхто з партовых служачых, якіх Мэгрэ сустрэў ноччу. Нават шлюзаўшчык, якому капітан адпісаў «трайную рыбацкую сетку, што пад адлевам».

У гэты момант Жулі, скарыстаўшыся тым, што

жанчыны пакінулі яе адну, каб згатаваць ёй для падтрымання сілы грог, узбегла па лесвіцы, адчыніла дзверы ў капітанаву спальню, кінулася да ложка, выдаючы ўсім сваім выглядам на вар'ятку, і адразу ж адступілася, спалохаўшыся мерцвяка, грымнулася на дыван і стала крычаць нешта неразборлівае.

Можна было ўгадаць: «немагчыма… Мой бедны гаспадар… мой… мой…»

Мэгрэ паволі падышоў да яе, дапамог устаць і адвёў дзяўчыну, як тая ні супраціўлялася, у яе пакой. Там усё было ў беспарадку: на ложку валялася адзежа, на падлозе стаяў тазік з мыльнай вадою.

– Хто наліваў капітану ваду ў графін на начным століку?

– Я… Учора раніцай… Калі ставіла ў вазу кветкі.

– Вы ў доме былі адна?

Жулі цяжка дыхала, але патроху прыходзіла да памяці – і тут такія вось пытанні камісара.

– Што гэта вам прыйшло ў галаву? – ускрыкнула яна раптам.

– Нічога. Супакойцеся. Я толькі што прачытаў Жарысава завяшчанне.

– Ну і што?

– Ён пакінуў вам усю сваю маёмасць. Цяпер вы багатая…

У адказ Жулі толькі разрыдалася.

– Капітана атруцілі вадою з графіна.

Дзяўчына кінула на Мэгрэ поўны нянавісці позірк і літаральна завыла:

– Што вы хочаце гэтым сказаць, га? Што вы хочаце сказаць?

Яна была ў такім стане, што схапіла Мэгрэ за рукаў і ліхаманкава трэсла яго. Яшчэ трохі – і ўчапілася б пазногцямі, так раз'юшылі яе камісаравы словы.

– Цішэй. Супакойцеся. Расследаванне толькі пачынаецца. Я ні на што не намякаю, а толькі спрабую разабрацца, што здарылася.

У дзверы пастукалі. Гэта быў палявы вартаўнік.

– Пракурор зможа прыйсці толькі пасля абеду, – паведаміў ён. – Пан мэр вярнуўся раніцаю з палявання і яшчэ не ўстаў. Ён прыйдзе, як толькі будзе гатовы.

Усе ў доме былі ўзнерваваныя. А людзі на дварэ, якія самі не ведалі, чаго тут чакалі, толькі нагняталі гэтую ўзнерваванасць.

– Вы застанецеся тут? – спытаўся Мэгрэ ў дзяўчыны.

– Вядома. А куды мне яшчэ дзецца?

Мэгрэ папрасіў доктара выйсці з пакоя і замкнуў дзверы на ключ. Ён пакінуў з Жулі толькі дзвюх жанчын, жонку дазорца з маяка і жонку аднаго шлюзаўшчыка.

– Не пускайце нікога, – сказаў ён палявому вартаўніку. – Калі спатрэбіцца, паспрабуйце збыць занадта цікаўных.

Мэгрэ вышаў з дома, прайшоў праз натоўп і накіраваўся да моста. Удалечыні па-ранейшаму выў гудок, але цяпер ён ужо быў ледзь чутны, бо вецер дзьмуў на мора. Было цёпла, сонца свяціла ўсё ярчэй. Пачынаўся прыліў.

Два шлюзаўшчыкі былі ўжо на сваіх месцах. На мосце Мэгрэ сустрэў капітана Дэлькура, з якім гаварыў ноччу. Той падышоў да яго.

– Дык гэта праўда? – спытаўся капітан.

– Але. Жарыса атруцілі.

– Хто?

Натоўп каля Жарысавага дома пачаў раставаць. Было відаць, як палявы вартаўнік, жастыкулюючы, пераходзіў ад аднае групкі да другой і нешта казаў. Людзі азіраліся на камісара. Цяпер іх цікавіў толькі ён.

– Ну што, пачынаецца шлюзаванне?

– Яшчэ не. Трэба, каб вада ўзнялася на тры футы. Вунь тое судна на рэйдзе чакае з шасці раніцы.

Іншыя служачыя – таможнікі, механік, гаспадар вартавога кацера, інспектар рыбаахоўы – не рашаліся падысці да капітана з камісарам. Кідаючы ў іх бок позіркі, яны рыхтаваліся да працы.

Урэшце, гэта і былі тыя самыя людзі, постаці якіх Мэгрэ ледзь распазнаваў у начным тумане і якіх мог цяпер добра разгледзець.

«Марацкі прытулак» быў зусім побач. З яго вокнаў, прыгледзеўся Мэгрэ, можна было ўбачыць і шлюз, і мост, і пірс, і маяк, і Жарысаў дом.

– Хадзем вып'ем па шклянцы? – прапанаваў

камісар.

Ён здагадаўся, што ў час дзяжурства, калі можна было, увесь невялікі персанал порта збіраўся ў шынку. Капітан паглядзеў на ўзровень вады.

– Паўгадзіны ў мяне ёсць, – сказаў ён.

Яны ўвайшлі ў шынок – за імі нерашуча прасунуліся і астатнія. Мэгрэ запрасіў усіх за свой столік.

Трэба было пазнаёміцца з людзьмі, знайсці да іх нейкі ключ, заваяваць іх давер і нават стаць тут, наколькі гэта было магчыма, сваім.

– Што будзеце піць?

Усе пераглянуліся. Людзі яшчэ пачувалі сябе няёмка.

– Звычайна гэтай парой мы п'ём каву з ромам, – адказаў нехта.

Афіцыянтка прынесла каву. Людзі, якія, ідучы ад Жарысавага дома, пераходзілі мост, так і стараліся зазірнуць у вокны шынка. Відаць было, што разыходзіцца па дамах ім не хацелася – цікавей было бадзяцца ў порце, чакаючы, што там будзе далей.

Набіўшы люльку, Мэгрэ пусціў капшук па крузе. Капітан Дэлькур адмовіўся: ён паліў цыгарэты. Але механік, пачырванеўшы, прамармытаў: «З вашага дазволу» – і паклаў у рот каліва тытуню.

– Дзіўная гісторыя, згадзіцеся, – вымавіў нарэшце Мэгрэ.

Усе ведалі, што ён пачне размову пра гэта, – і ўсё-такі над столікам запала маўчанне.

– Здаецца, капітан Жарыс быў слаўны чалавек…

Сказаўшы гэта, Мэгрэ ўпотайкі зірнуў на твары партавікоў.

– І не кажыце, – сказаў Дэлькур.

Ён быў крыху старэйшы за свайго папярэдніка, не такі акуратны, як той, – можна было меркаваць па адзежы, і, здаецца, не грэбаваў спіртным.

Аднак ён не забываўся, паглядваючы раз-пораз у акно, назіраць за ўзроўнем вады і за суднам, якое якраз падымала якар.

– Рана пачынаюць! Цячэнне Орны можа знесці іх на водмель…

– Ваша здароўе… Урэшце, ніхто не ведае, што здарылася шаснаццатага верасня…

– Ніхто… Ноччу быў туман, як і сёння ноччу… Я тады не дзяжурыў. Праўда, прабыў тут да дзевяці гадзін – гуляў у карты з Жарысам і з сябрамі, якіх вы тут бачыце…

– Вы сустракаліся кожны вечар?

– Амаль што… У Вістрэаме не дужа дзе адпачнеш, хіба што ў гэтым шынку… У той вечар Жарыс некалькі разоў выходзіў, каб паглядзець, як праходзілі судны… А палове дзесятай прыліў скончыўся… Жарыс знік у тумане – думалі, што пайшоў дамоў…

– Калі вы даведаліся, што яго тут няма?

– На раніцу… Жулі прыйшла ў порт спытаць, дзе ён… Яна заснула да таго, як капітан мусіў вярнуцца дамоў, і здзівілася, калі не застала яго ў спальні…

– Я не хачу сказаць пра яго нічога благога, толькі ён быў нейкі не такі, як усе… Не тое каб ганарлівы, не!.. Але надта ўжо глядзеў за сабою, разумееце!.. Ён ніколі не прыйшоў бы на працу ў сабо, як Дэлькур. Гуляў тут у карты, па вечарах, але ўдзень не заходзіў сюды ніколі… Са шлюзаўшчыкамі быў на «вы»… Не ведаю, ці разумееце вы, што я хачу сказаць…

Мэгрэ выдатна яго разумеў. Ён правёў у чысцюткім доме Жарыса, дзе ўсё так і патыхала добрым буржуазным парадкам, некалькі гадзін. А цяпер бачыў заўзятых наведнікаў шынка, людзей нашмат прасцейшых за нябожчыка. Яны, напэўна, прапускалі тут чарку за чаркаю. Гамонка рабілася ўсё больш гучная, вольная, нязмушаная.

– Жарыс шмат выпіў у той вечар?

– Ён ніколі не піў больш аднае чаркі, – сказаў таможнік, якому, як было відаць, не цярпелася далучыцца да гаворкі. – І не паліў!

– Ну, а… скажыце… у яго з Жулі…

Усе пераглянуліся. Некаторыя нерашуча заўсміхаліся.

– Цяжка сказаць… Жарыс кляўся, што не… Толькі…

У гаворку зноў уступіў таможнік:

– Жарыс заходзіў сюды толькі, каб пагуляць трохі ў карты. Ніколі не расказваў пра сваё прыватнае жыццё і ішоў дамоў пасля першай чаркі.

– Жулі ўжо каля васьмі гадоў жыве ў яго доме… Тады, як ён яе ўзяў да сябе, ёй было шаснаццаць… Была простая вясковая дзяўчына, лічы, смаркатая, кепска

адзетая…

– А цяпер…

Падышла афіцыянтка, хоць яе ніхто і не клікаў, і зноў наліла рому ў шкляначкі, на дне якіх засталося крыху кавы. Мабыць, гэта таксама ўваходзіла ў рытуал.

– А цяпер вунь яна якая… Ну, вось… На вячорках яна ніколі не танцуе абы з кім… Калі хто ў краме з ёй па-простаму, дык яна ўжо сярдуе… А хто ты такая, калі ўжо на тое пайшло?.. А вось брат у яе…

– Брат?..

Механік паглядзеў таможніку ў вочы. Але Мэгрэ перахапіў гэты позірк.

– Камісар усё роўна дазнаецца пра яго! – сказаў таможнік, які, відаць, прапусціў сёння ўжо каторую добрую шкляначку. – Яе брат адбыў на катарзе восем гадоў… Неяк напіўся вечарам з сябрамі ў Анфлёры, ну, і нарабілі на вуліцы гвалту… Падаспела паліцыя, і хлопец так прыклаўся да аднаго паліцэйскага, што той праз месяц памёр.

– Ён – марак?

– Раней хадзіў у дальнія рэйсы, а потым вярнуўся сюды. Плавае цяпер на шхуне «Сэн-Мішэль» з Пэнполя.

Капітан Дэлькур занерваваўся.

– Хадзем! – сказаў ён, устаючы. – Пара ўжо…

– Параход яшчэ ў шлюз не ўвайшоў, – уздыхнуў таможнік – гэты не надта спяшаўся.

– «Сэн-Мішэль» бывае тут хоць калі?

– Але, заходзіць…

– Ён быў тут шаснаццатага верасня?

Таможнік, усё роўна як апраўдваючыся, сказаў суседу:

– Ён бы ўсё адно даведаўся пра гэта з партовага журнала!.. Быў ён тут… З-за туману яны нават правялі на ўваходзе ў порт ноч і адплылі толькі на золку…

– Куды?

– У Саўтхэмптан. Дакументы правяраў я… Яны везлі з Кана будаўнічы камень.

– А больш брата Жулі тут не бачылі?

Цяпер таможнік завагаўся. Уздыхнуў, дапіў ром.

– Трэба спытаць у тых, хто кажа, што бачыў яго ўчора… Асабіста я яго не сустракаў.

– Учора?

Таможнік пацiснуў плячыма. У акно было відаць, як праходзіць паволі між муроў шлюза, узвышаючыся над усім портам, велізарны чорны параход – яго труба плыла над старымі дрэвамі ўздоўж канала.

– Мне трэба ісці…

– Мне таксама…

– Колькі з нас, прыгажуня? – спытаўся Мэгрэ.

– Заплаціце другім разам. Гаспадыні цяпер няма…

Людзі, якія ўсё яшчэ чакалі, ці не здарыцца што-небудзь цікавае каля Жарысавага дома, назіралі цяпер за ангельскім параходам, што стаяў ужо ў шлюзе. Мэгрэ выйшаў з шынка. У гэты момант да порта падыходзіў нейкі мужчына, і камісар здагадаўся, што гэта мэр, якога ён бачыў ноччу здалёк.

Гэта быў чалавек высокага росту, гадоў прыкладна сарака пяці – пяцідзесяці, ружовашчокі, трохі цяжкаваты. На ім быў шэры строй паляўнічага, на нагах – гетры. Мэгрэ падышоў да яго.

– Пан Гранмэзон? Камісар Мэгрэ, з крымінальнай паліцыі.

– Вельмі прыемна, – машынальна вымавіў мэр і паглядзеў на шынок. Потым зірнуў на Мэгрэ – і зноў на шынок, нібыта кажучы: «Дзіўнаватая кампанія для такой персоны!»

Ён ішоў да шлюза, цераз які трэба было перабрацца, каб выйсці да Жарысавага дома.

– Кажуць, Жарыс памёр?

– Кажуць, – адказаў Мэгрэ, якому мэраў тон не прыйшоўся даспадобы.

Звычайна так паводзяць сябе мястэчковыя «шышкі», якія ўяўляюць, што яны – пуп зямлі. Апранаюцца, як вясковыя арыстакраты, і аддаюць даніну дэмакратыі, паціскаючы на хаду, бы міжволі, рукі грамадзянам, кідаюць ім пры гэтым два-тры нязначныя словы, а зрэдку нават распытваюць збольшага пра дзяцей.

– І вы ўжо знайшлі забойцу?.. Як я разумею, гэта вы прывезлі Жарыса і… Прабачце, калі ласка…

Мэр падышоў да інспектара рыбааховы, які, відаць, прыслугоўваў яму на паляванні, бо Гранмэзон сказаў яму цяпер:

– Увесь чарот злева трэба выпрастаць… Адна з падсадных качак нікуды не вартая, сёння ўранку была ледзь жывая…

– Добра, пан мэр.

Гранмэзон вярнуўся да Мэгрэ. Па дарозе паспеў паціснуць руку начальніку порта, спытаўшыся:

– Як тут у вас?

– Нармальна, пан мэр.

– Дык пра што, камісар, мы гаварылі?.. Колькі праўды ва ўсіх гэтых расказах пра зашыты чэрап, вар'яцтва і ўсё такое?..

– Як вы ставіліся да капітана?

– Ён служыў у мяне дваццаць восем гадоў. Слаўны чалавек, бездакорны на службе.

– Сумленны?

– Яны тут амаль усе сумленныя.

– Колькі ён зарабляў?

– Па-рознаму, вайна ж усё пераварушыла… Аднак дастаткова, каб купіць дамок. Іду ў заклад, што ў банку ў яго было сама меней тысяч дваццаць пяць.

– А можа, больш?

– Не думаю. Ну, хіба што тысяч на пяць, але не больш.

У гэты час адчынілі верхнія вароты шлюза, і судна выходзіла ў канал, а другое, што прыйшло з Кана, рыхтавалася заняць яго месца ў шлюзе, каб выйсці пасля ў адкрытае мора.

Стаяла цішыня. Людзі сачылі вачыма за камісарам і мэрам. З палубы ангельскага карабля матросы абыякава пазіралі на натоўп, не забываючыся манеўраваць.

– Што вы думаеце пра Жулі Легран, пан мэр?

Пан Гранмэзон прамаўчаў, пасля адказаў:

– Дурніца, якой ускружыла галаву занадта пачціваe Жарысава далікацтва… Думае пра сябе… немаведама што… ва ўсякім выпадку, зусім не тое, што яна ёсць на самой справе…

– А яе брат?

– Я яго ніколі не бачыў… Мне казалі, што нягодны чалавек…

Перабраўшыся праз шлюз, яны падыходзілі цяпер да агароджы Жарысавага дома, каля якой усё яшчэ

ашываліся некалькі хлопчыкаў.

– А чаго ён памёр?

– Стрыхнін.

Выгляд у Мэгрэ быў сама рашучы. Ён ступаў паволі, засунуўшы рукі ў кішэні, у роце была люлька, якая пасавала яго шырокаму твару, – у яе ўваходзіла чвэрць пачка махоркі.

На нагрэтай сонцам агароджы ляжала белая кошка. Прыкмеціўшы людзей, яна ўскочыла і ўцякла.

– Вы не будзеце заходзіць? – здзівіўся мэр, убачыўшы, што Мэгрэ чамусьці спыніўся.

– Хвілінку! Як вы думаеце, ці была Жулі каханкаю ў капітана?

– Не ведаю, – з раздражненнем адказаў Гранмэзон.

– Вы часта бывалі ў яго доме?

– Ніколі! Жарыс служыў у мяне, а ў такіх выпадках…

Зрабіўшы невялікую паўзу, мэр усміхнуўся – шматзначна, з годнасцю вялікага пана.

– Пакончым з гэтым хутчэй, – дадаў ён, – калі вы не пярэчыце. Неўзабаве абед, у мяне будуць госці…

– Вы жанаты?

Мэгрэ ўпарта распытваў мэра, паклаўшы рукі на клямку брамкі.

Гранмэзон паглядзеў на яго зверху ўніз (ён быў вышэйшы – прыкладна метр восемдзесят пяць). Камісар заўважыў, што мэр крыху касавокі.

– Мушу вас папярэдзіць, што калі вы і далей будзеце гаварыць са мною такім тонам, то для вас гэта можа скончыцца непрыемнасцю… Пакажыце мне тое, што вы павінны паказаць.

Мэр сам адчыніў брамку. Калі ён ступіў на ганак, палявы вартаўнік, які ахоўваў дом, пачціва адышоўся ўбок.

Праз зашклёныя дзверы кухні Мэгрэ кінулася ў вочы, што ў пакоі сядзелі абедзве жанчыны, але Жулі не было.

– Дзе яна? – спытаўся камісар.

– Паднялася да сябе… Зачынілася і не хоча выходзіць…

– Чаму гэта раптам?..

Жонка дазорцы з маяка растлумачыла:

– Ёй стала лепш… Праўда, яна яшчэ плакала, але

ўжо меней, толькі калі гаварыла… Я прапанавала ёй з'есці што-небудзь, і яна адчыніла шафу…

– Ну і што?

– Не ведаю… Мне здалося, яна спалохалася… Кінулася адразу ж па лесвіцы, мы і пераглянуцца не паспелі, як яна зачынілася на ключ…

У шафе не было нічога асаблівага: посуд, кошык з яблыкамі, талерка з марынаванымі селядцамі, дзве міскі з рэштками лою – мусіць, нядаўна там было мяса.

– Я чакаю, пакуль вы зробіце ласку заняцца справаю, – нецярпліва сказаў мэр з калідора. – Ужо ж палова дванаццатай… Мне здаецца, што паводзіны гэтай Жулі…

Мэгрэ замкнуў шафу, паклаў ключ у кішэню і, цяжка ступаючы, рушыў да лесвіцы.

## III. Кухонная шафа

– Адчыніце, Жулі!

Ні слова адказу. Чуваць адно, як дзяўчына кінулася на ложак.

– Адчыніце!

Зноў маўчанне. Тады Мэгрэ ўдарыў плячом у дзверы, і замок вылецеў.

– Чаму вы не адчынялі?

Яна не плакала. На твары – ніякага хвалявання. Больш таго, яна спакойна скурчылася на ложку і, застылая, глядзела на шклянку вады на крэсле. Калі камісар падышоў да дзяўчыны, яна ўскочыла і кінулася да дзвярэй.

– Пакіньце мяне адну! – вымавіла яна.

– Добра. Толькі аддайце мне цыдулку, Жулі.

– Якую цыдулку?

Дзяўчына, пэўна, спадзявалася, што як будзе дзёрзкая, дык не выдасць сябе, што маніць.

– Капітан дазваляў вашаму брату наведваць вас?

Маўчанне.

– Значыцца, не дазваляў. А ваш брат усё-такі прыходзіў! І, здаецца, прыходзіў той ночы, калі знік Жарыс.

Яна кінула на яго злосны позірк – здавалася,

вось-вось выбухне нянавісцю.

– «Сэн-Мішэль» стаяў у порце, і, натуральна, брат мог зайсці да вас. Адно пытанне: калі ён прыходзіць, вы яго корміце?..

– Жывёліна! – выціснула Жулі.

Мэгрэ гаварыў:

– Ён прыходзіў сюды ўчора, калі вы былі ў Парыжы. Не застаўшы вас тут, пакінуў цыдулку. А для ўпэўненасці, што вы яе знойдзеце, паклаў у кухонную шафу... Дайце мне гэтую цыдулку.

– У мяне яе ўжо няма!

Мэгрэ паглядзеў на халодны камін, на зачыненае акно.

– Дайце мне яе!

Жулі ўся сціснулася і была цяпер падобная не на дарослую дзяўчыну, а на раззлаванае дзіця. Злавіўшы яе позірк, Мэгрэ зычліва сказаў:

– Дурніца!

Цыдулка была пад падушкаю, на якой Жулі толькі што ляжала. Але замест таго, каб прыціхнуць, упартая дзяўчына зноў пачала наступаць на Мэгрэ, спрабуючы вырваць цыдулку. Яго ж такія паводзіны проста пацяшалі.

– Ну, годзе! – нарэшце пагрозліва вымавіў ён, перахапіўшы руку дзяўчыны.

Цыдулка была кароткая. Адразу ж кінуліся ў вочы нязграбныя літары і мноства памылак: «Калі вернешся з гаспадаром, глядзі за ім, бо ёсць чалавек, які мае на яго зуб. Я вярнуся з суднам праз два-тры дні. Катлет не шукай, я іх з'еў. Твой брат навек».

Мэгрэ апусціў галаву, настолькі збіты з панталыку, што забыўся ўжо зусім на дзяўчыну.

Праз чвэрць гадзіны начальнік порта сказаў яму, што «Сэн-Мішэль» цяпер, мабыць, у Фекане і прыйдзе сюды, калі не пераменіцца вецер, ноччу.

– Вы ведаеце, дзе якое судна ў які час?

Мэгрэ занепакоена паглядзеў на зіхоткае мора – недзе ўдалечыні віднеўся адзінокі дымок.

– Паміж портамі існуе сувязь. Паглядзіце, вось спіс суднаў, якія мы чакаем сёння, – паказаў капітан Дэлькур на чорную дошку, што вісела на сцяне партовай канторы: там былі напісаны крэйдаю назвы суднаў.

– Знайшлі што-небудзь?.. Не верце надта таму, што расказваюць… Нават калі гэта людзі сур'ёзныя!.. Ведалі б вы толькі, колькі тут можа быць розных дробных разлікаў!.. Зайздрасць, якая-небудзь крыўда, – сказаў Дэлькур, памахаўшы рукой капітану судна, што выходзіла ў мора. Потым, зірнуўшы ў бок шынка, уздыхнуў. – Убачыце самі!

Гадзіны ў тры дня прадстаўнікі пракуратуры закончылі агляд дома нябожчыка, выйшлі на двор, адчынілі садовую брамку і накіраваліся да сваіх машын, каля якіх сабралася нямала вістрэамцаў.

– Мабыць, тут багата качак! – сказаў пракурораў намеснік мэру, акінуўшы позіркам наваколле.

– Сёлета не вельмі… А вось летась…

Мэр кінуўся да першае машыны, якая кранулася з месца.

– Спынімся на хвілінку ў мяне, добра? Жонка чакае нас…

Мэгрэ застаўся на вуліцы адзін, і мэр, хочучы здавацца ветлівым, сказаў яму:

– Едземце з намі. Вам трэба пабыць трохі з гэтымі людзьмі.

У капітанавым доме засталіся толькі Жулі і дзве жанчыны, а каля дзвярэй палявы вартаўнік чакаў фургон, які павінен быў забраць нябожчыка ў Кан.

У машынах размовы ўжо дужа выдавалі на тыя, што нярэдка здараюцца пасля пахавання і заканчваюцца ў людным кампаніі вельмі і вельмі весела. Мэгрэ ўладкаваўся не лепшым чынам: сядзеў на адкідным крэсле. Мэр гаварыў з пракуроравым намеснікам:

– Калі б гэта залежала ад мяне аднаго, я жыў бы тут увесь год. Але жонцы вёска не вельмі даспадобы, таму і жывём больш у нашым доме ў Кане… Цяпер яна вярнулася з Жуан-ле-Пэн, дзе адпачывала месяц з дзецьмі…

– Колькі гадоў старэйшаму?

– Пятнаццаць.

Партовыя служачыя глядзелі на машыны, што праехалі акурат міма іх, з відавочнай цікаўнасцю.

Неўзабаве пад'ехалі да мэравай вілы. Стаяла яна каля дарогі на Ліён-сюр-Мэр. Гэта быў вялікі дом, пабудаваны ў нармандскім стылі. Вакол яго былі газоны з белымі агароджамі і фаянсавымі фігуркамі звяркоў.

У вялікай прыхожай гасцей сустрэла пані Гранмэзон, у сукенцы з цёмнага шоўку. Яна стрымана ўсміхалася, як і належыць даме з вышэйшага свету. Дзверы ў гасцёўню былі адчыненыя. На стале было поўна лікёраў і скрыначак з цыгарамі.

Усе добра ведалі адно аднаго: тут сабралася цяпер ці не ўся канская эліта. Служанка ў белым фартуху прымала паліто і капелюшы.

– Пан суддзя, вы напраўду не былі ні разу ў Вістрэаме, хоць і жывяце ў Кане столькі гадоў?..

– Дванаццаць гадоў, пані... Бог ты мой, а вось і мадэмуазель Жызэль...

Да гасцей выйшла пакланіцца дзяўчынка гадоў чатырнаццаці, якая здавалася ўжо дзяўчынаю, асабліва манераю трымацца, вельмі свецкай, як і ў яе маці. Між тым пазнаёміць Мэгрэ з гаспадыняю дома забыліся.

– Мяркую, пасля таго што вы ўбачылі, вы ахвотней вып'еце чарачку лікёру, а не гарбаты... Трошкі каньяку, пан намеснік пракурора? Ваша жонка ўсё яшчэ ў Фантэнбло?..

Гаварылі з усіх бакоў разам. Мэгрэ лавіў абрыўкі фраз.

– Не!.. Дзесятак качак за ноч – сама болей... Клянуся, зусім не холадна... Будан уцеплены...

З іншага боку:

– ...вялікія маюць страты ад крызісу ў фрахтаванні?..

– Усё залежыць ад кампаніі. Тут гэта не адчуваецца. Ніводнага судна не паставілі на прыкол. Але дробныя суднаўладальнікі, асабліва тыя, у каго толькі маленькія кабатажныя шхуны, ужо ў накладзе... Можна сказаць, у прынцыпе ўсе шхуны мэтазгодна прадаць: яны сябе не акупляюць...

– Не, мадам, – шэптам тлумачыў непадалёк пракурораў намеснік. – Не трэба нічога баяцца. Тайна гэтага забойства, калі яна існуе, хутка будзе разгадана. Ці ж не так, пан камісар?.. Але... Дарэчы, вас пазнаёмілі?.. Камісар Мэгрэ, адзін з выдатных кіраўнікоў нашай крымінальнай паліцыі...

Мэгрэ ўсё роўна як застыў на месцы, твар у яго быў абсалютна абыякавы. Ён неяк дзіўна зірнуў на Жызэль,

якая падавала яму талерку з пірожнымі.

– Дзякую, не трэба.

– Вы не любіце пірожных?

– Ваша здароўе!

– За здароўе нашай мілай гаспадыні!

Судовы следчы, высокі хударлявы чалавек гадоў пяцідзесяці, які вельмі дрэнна бачыў, хоць і насіў акуляры з тоўстымі лінзамі, адвёў Мэгрэ ўбок.

– Вядома, я даю вам поўную свабоду дзеяння. Але тэлефануйце мне кожны вечар і трымайце ў курсе. Што вы пра ўсё гэта думаеце? Забойства з мэтаю рабунку, праўда?..

І паколькі да іх падыходзіў Гранмэзон, ён загаварыў гучней:

– Вам пашанцавала з мэрам: ён аблегчыць вашу задачу… Ці ж не, мой мілы сябар?.. Я казаў камісару, што…

– Калі ён таго пажадае, мой дом будзе і яго домам… Мне здаецца, вы спыніліся ў гатэлі?

– Але. Дзякую за запрашэнне, толькі там мне бліжэй да порта.

– І вы мяркуеце, што падступіцеся да разгадкі ў шынку?.. Асцярожней, камісар!.. Вы не ведаеце Вістрэама!.. Падумайце, чаго толькі не забяруць у галаву людзі, што днямі сядзяць у шынку!.. Ды яны на бацьку нагавораць, на маці, абы языкамі пачасаць…

– Давайце не будзем болей пра гэта, – прапанавала пані Гранмэзон, лагодна ўсміхаючыся. – Пірожнае, камісар?.. Няўжо?.. Вы праўда не любіце салодкага?..

Другім разам! Гэта ўжо лішне! Мэгрэ ледзь не выцягнуў з кішэні сваю велізарную люльку.

– Дазвольце развітацца… Мне трэба разабрацца ў некаторых дэталях справы…

Ніхто і не спрабаваў яго трымаць. Зрэшты, яго прысутнасцю тут не даражылі, як і сам ён не адчуваў асалоды ад кампаніі гэтых людзей. На вуліцы ён набіў люльку і пайшоў паволі ў порт. Камісара тут ужо ведалі. Знаючы, што ён прапусціў з партавікамі ў шынку, некаторыя здароўкаліся з ім, як з добрым знаёмым.

Калі ён падыходзіў да пірса, машына, якая забрала цела капітана Жарыса, каціла ўжо ў бок Кана. За акном на

першым паверсе дома нябожчыка можна было разгледзець твар Жулі, якую жанчыны спрабавалі вывесці на кухню.

Каля рыбацкага баркаса, які вярнуўся толькі што з уловам, стаяла некалькі чалавек. Два матросы перабіралі рыбу. Таможнікі, абапершыся на парапет моста, бавілі доўгія гадзіны дзяжурства.

– Мне толькі што пацвердзілі, што «Сэн-Мішэль» прыбывае заўтра, – сказаў капітан, падыходзячы да Мэгрэ. – Ён прастаяў тры дні ў Фекане на рамонце бушпрыта…

– Скажыце, ён перавозіць калі-небудзь сушоную трасковую ікру?

– Трасковую ікру? Не. Яе прывозяць з Нарвегіі на скандынаўскіх шхунах ці параходзіках… Але яны не заходзяць у Кан, а ідуць адразу да портаў, у раёнах якіх ловяць сардзіны, – у Канкарно, Сабль-д'Алон, Сэн-Жандэ-Люз…

– А маржовы тлушч?

Капітан аж вочы вылупіў.

– А гэта нашто?..

– Не ведаю…

– Не! Судны кабатажнага плавання перавозяць заўсёды амаль адно і тое ж: гародніну, асабліва цыбулю – у Ангельшчыну, вугаль – у брэтонскія парты, камень, цэмент, шыфер… Я гаманіў са шлюзаўшчыкамі наконт апошняга заходу «Сэн-Мішэля». Шаснаццатага верасня ён прыйшоў з Кана якраз у канцы прыліву. Партавікі збіраліся закончыць работу. Жарыс сказаў, што ў фарватэры мала вады, каб выходзіць у мора, асабліва ў тумане. А капітан дамогся ўсё ж такі свайго, і ім дазволілі прайсці шлюз, каб яны маглі адплыць ужо на золку. Яны правялі ноч вось тут, у пярэдняй частцы порта, прышвартаваўшыся да паляў. У адліў судна ледзь не села на водмель, і яны адплылі толькі а дзевятай гадзіне раніцы…

– Брат Жулі быў на борце?

– Вядома! Іх усяго трое: капітан, ён жа і гаспадар судна, і два матросы. Вялікі Луі…

– Гэта мянушка катаржніка?

– Але. А імя – Луі. Ён ростам вышэйшы за вас і прыдушыць любога адной рукою…

– Небяспечны тып?

– Калі вы спытаеце пра яго ў мэра або ў іншага тутэйшага буржуа, вам скажуць, што небяспечны. Ну, а я ведаў яго да таго, як ён трапіў на катаргу. Нячаста ён тут і бывае. Магу адно сказаць, што ў Вістрэаме ён глупстваў ніколі не рабіў. П'е, вядома… Ці пэўна п'е… цяжка сказаць… Заўсёды нейкі спляжаны… То з'явіцца, то знікне… Накульгвае на адну нагу, галава і плечы ўсё роўна як крыху перакошаныя – вось і выглядае падазрона… Толькі капітан «Сэн-Мішэля» ім задаволены…

– І ён быў учора, калі адсутнічала сястра?

Дэлькур адвярнуўся, не рашыўшыся зманіць. І Мэгрэ зразумеў, што ўсяе праўды яму тут ніколі не скажуць: усе гэтыя людзі мора былі звязаны нейкім моцным духам еднасці.

– Не адзін ён.

– Што вы хочаце сказаць?

– А нічога. Кажуць, што бачылі нейкага незнаёмага… Зрэшты, хто яго ведае…

– Хто яго бачыў?

– Не ведаю… Кажуць так некаторыя… Можа, вып'ем?..

Гэтым разам Мэгрэ ўвайшоў у шынок, паціскаючы працягнутыя рукі.

– Хуценька ж яны ўправіліся, пракуратуршчыкі!..

– Што будзеце піць?

– Піва.

За ўвесь дзень сонца ні разу не схавалася. Але паміж дрэвамі працягнуліся ўжо смугі туману, дый вада ў канале пачынала дыміцца.

– Зноў на ўсю ноч у гэтую вату! – уздыхнуў капітан.

І адразу ж завыла сірэна.

– Гэта сігнальны буй, там, пры ўваходзе ў фарватэр.

– Капітан Жарыс часта хадзіў у Нарвегію? – спытаўся раптам Мэгрэ.

– Калі служыў у Ангельска-Нармандскай кампаніі, дык нярэдка. Асабліва адразу пасля вайны: не хапала дрэва. Паршывы груз, ніякай магчымасці манеўраваць…

– Вы служылі ў адной кампаніі?

– Нядоўга. Я больш служыў у бардоскай кампаніі «Вормс». Хадзіў, як мы кажам, на «трамваі», гэта значыць па адным і тым самым маршруце: Бардо – Нант, Нант –

Бардо… І так – васемнаццаць гадоў!

– Адкуль родам Жулі?

– Дачка рыбака з Порт-ан-Бэсэна… Зрэшты, які там рыбак!.. Бацька ніколі сур'ёзнай справай не займаўся… Памёр у вайну… Маці, напэўна, і сёння гандлюе на вуліцы рыбай, а больш п'е ў шынку.

І зноў, думаючы пра Жулі, Мэгрэ ледзь прыкметна ўсміхнуўся. Ён згадаў, як яна рашуча ўвайшла ў яго кабінет у Парыжы, а потым, як сёння раніцай спрабавала вырваць у яго з рук братаву цыдулку.

Жарысаў дом ужо знікаў у тумане. Святла не было ні на другім паверсе, адкуль забралі нябожчыка, ні ў сталовай – яно гарэла толькі ў калідоры і, мабыць, на кухні, дзе суседкі сядзелі з Жулі.

У шынок увайшлі памочнікі шлюзаўшчыкоў. Каб не замінаць камісару і капітану, яны селі за столік у глыбіні шынка і пачалі партыю ў даміно. У порце запалілі маяк.

– Паўтарыце! – сказаў капітан афіцыянтцы, паказваючы на чаркі. – Цяпер я частую, – зноў павярнуўся ён да Мэгрэ.

А той спытаў у яго нечакана мяккім голасам:

– А дзе б ён цяпер быў, Жарыс, калі б быў жывы? Тут?..

– Не! Сядзеў бы ў сябе дома ў пантофлях!

– У сталовай? У спальні?

– На кухні… чытаў бы газету, потым садовую кнігу… З нейкага часу ён захапіўся кветкамі… Паглядзіце! Позняя восень, а ў яго поўны сад кветак…

Астатнія наведнікі шынка засмяяліся. Але, відаць, ім было крыху ніякавата ад таго, што яны марнуюць час тут, а не маюць якога-небудзь вартага захаплення, накшталт кветак, як у Жарыса…

– Ён не хадзіў на паляванне?

– Зрэдку… Хіба што калі яго хто запрашаў…

– З мэрам?

– І такое бывала… Калі качак было багата, яны разам палявалі з будана…

Святло ў шынку было такое слабае, што ў тытунёвым дыме амаль не было відаць гульцоў у даміно. І паветра было спёртае: увесь час палілі ў печцы. На вуліцы была поўная цемра, але ў тумане яна рабілася мутная – нечым

нездаровым патыхала ад яе. Па-ранейшаму выла сірэна. Люлька ў Мэгрэ патрэсквала.

Адкінуўшыся на крэсле і прыплюшчыўшы вочы, ён спрабаваў злучыць асобныя дэталі справы, пакуль яшчэ нічым між сабою не звязаныя.

– Жарыс знік на паўтара месяцы і вярнуўся з разбітым і залатаным чэрапам! – сказаў ён, не прыкмеціўшы, што думае ўголас. – А ў дзень вяртання яго чакала тут атрута. І толькі на раніцу Жулі знайшла цыдулку ад брата!

Мэгрэ цяжка ўздыхнуў і прамармытаў, нібы рабіў выснову:

– Урэшце, яго спрабавалі забіць! Пасля вылечылі. А потым усё ж такі забілі! Калі толькі…

Гэтыя тры падзеі ніяк не звязваліся ў адно. І тут раптам у галаву прыйшла дзіўная думка – настолькі дзіўная, што нават спалохала яго.

«Калі толькі першы раз яго спрабавалі не забіць, а проста зрабіць ідыётам…»

Хіба парыжскія медыкі не казалі, што аперацыю зрабіў майстар сваёй справы?

Але няўжо, каб зрабіць чалавека непаўнацэнным, трэба раскраіць яму чэрап?

І потым, што гаворыць за тое, што Жарыс страціў розум?

На Мэгрэ глядзелі ў пачцівым маўчанні. Хіба што таможнік паказаў адзін раз афіцыянтцы на чаркі:

– Тое ж самае…

Усе сядзелі, ёмка ўладкаваўшыся на крэслах, разамлелыя ад цяпла і задуменныя. І думкі гэтыя, і без таго не надта ясныя, рабіліся зусім цьмяныя.

Чуваць было, як праехалі тры машыны: прадстаўнікі пракуратуры вярталіся ў Кан пасля прыёму ў мэра. А цела капітана Жарыса ў гэты час ужо ляжала ў халодным моргу Інстытута судова-медыцынскай экспертызы.

Усе маўчалі. У куце пастуквалі па абшарпаным стале костачкамі даміно памочнікі шлюзаўшчыкоў. І адчувалася ўжо, што загадка Жарысавай смерці занепакоіла спакваля і партавікоў, ціснула на кожнага з іх, здавалася, павісала ўжо ў паветры і не давала думаць ні пра што іншае… Твары нахмурыліся. Сама малады таможнік не выцерпеў і

ўстаў.

– Пайду дамоў… Жонка чакае…

Мэгрэ працягнуў свой капшук суседу, які, набіўшы люльку, перадаў яго далей. Тады пачуўся голас Дэлькура. Той таксама ўстаў, бо не мог тут болей трываць.

– Колькі я вінен вам, Марта?

– За дзве порцыі?.. Дзевяць франкаў семдзесят пяць сантымаў… Плюс тры дзесяць за ўчарашняе…

Цяпер ужо ўсталі ўсе. Праз зачыненыя дзверы ў шынок цягнула халодным паветрам. Паціснулі адзін аднаму рукі.

На вуліцы, ахутанай туманам, кожны пайшоў у свой бок. Чуваць быў стук абцасаў, які перакрыла раптам сірэна.

Мэгрэ, нерухомы, прыслухоўваўся нейкі час да крокаў – яны былі то цяжкія, то няўпэўненыя, то рабіліся раптам хуткія…

І камісар зразумеў, што немаведама як, але страх працяў гэтых людзей.

Яны баяліся, усе, што ішлі цяпер дамоў, баяліся ўсяго і нічога – нейкае няяснае небяспекі, нечага нядобрага, што нельга было пакуль яшчэ прадказаць, баяліся і цемры і святла.

«Што, калі гэтым не скончыцца?» – думалі, мусіць, яны.

Мэгрэ вытрас з люлькі попел і зашпіліў паліто.

## IV. «Сэн-Мішэль»

– Ну як? – занепакоена пытаўся гаспадар гатэля, як толькі Мэгрэ браўся за новую талерку.

– Нічога, – адказваў камісар, які, па праўдзе сказаць, і не заўважаў, што ён еў.

Мэгрэ сядзеў адзін у гатэльным рэстаранчыку на сорак – пяцьдзесят чалавек. Жыццё ў гатэлі віравала толькі ўлетку, калі ў Вістрэам прыязджалі адпачыць на беразе мора. Мэбля – як і ва ўсіх пляжных гатэлях. Вазачкі на сталах.

Нічога агульнага з Вістрэамам, які цікавіў камісара і які ён, адчуваючы задавальненне, пачынаў разумець.

У кожным расследаванні ён больш за ўсё не любіў

менавіта пачатку: за няёмкасць першых сустрэч і розныя падманлівыя меркаванні.

Напрыклад, ужо сама назва – Вістрэам. У Парыжы яму чамусьці здавалася, што гэта – партовы гарадок, як Сэн-Мало. А потым, у першы ўжо вечар, Мэгрэ зразумеў, што гэта – змрочны куток зямлі, населены суровымі і маўклівымі людзьмі.

Цяпер ён ведаў Вістрэам і пачуваў сябе ў ім як дома. Не дужа самавіты гарадок, у які вядзе абсаджаная дрэўцамі дарога. Адзін толькі порт і заслугоўвае ўвагі: шлюз, маяк, Жарысаў дом, шынок «Марацкі прытулак». Цікава было назіраць жыццё гарадка, якое раней здалося загадкавым, цяпер рабілася ўсё больш зразумелым: два шлюзаванні на дзень, рыбакі з кашамі, жменька людзей, якія толькі тым і займаюцца, што сочаць за праходам суднаў, якія вяртаюцца з кабатажнага плавання, іх капітаны…

Ключа да разгадкі тайны пакуль не было. Усё заставалася загадкавым. Але добра было ўжо хоць тое, што цяпер ён бачыў дзейных асоб гэтай заблытанай гісторыі кожную на сваім месцы, у сваім асяродку, занятую сваёй заўсёднай справаю…

– Вы тут надоўга? – спытаўся гаспадар, падаючы каву.

– Не ведаю.

– Здарылася б гэта ў сезон, былі б у мяне вялікія страты…

Цяпер Мэгрэ дакладна адрозніваў чатыры Вістрэамы: Вістрэам-порт, Вістрэам-гарадок, Вістрэам буржуазны, з некалькімі віламі, як у мэра, уздоўж дарогі, і, нарэшце, Вістрэам курортны, які часова не існуе.

– Пойдзеце куды-небудзь?

– Пайду пагуляю крыху перад сном.

Пачынаўся прыліў. Было халадней, чым напярэдадні, бо туман, не радзеючы, ператвараўся ў кропелькі ледзяной вады.

Усё наўкол было чорнае, вокны і дзверы зачыненыя. Віднелася толькі вільготнае вока маяка. Са шлюза даносіліся галасы.

Кароткі гудок карабля. Набліжаліся два агні – чырвоны і зялёны. Уздоўж шлюза плыла нейкая велізарная

маса.

Цяпер Мэгрэ зразумеў, што з мора ішоў параход. Камісар убачыў чалавечую постаць. Зараз марак прыме з судна швартоў і замацуе яго на першым кнехце. Потым капітан загадае даць задні ход, каб судна спынілася.

Міма Мэгрэ, неспакойна гледзячы на пірсы, прайшоў Дэлькур.

– Што здарылася?

– Не ведаю…

Ён хмурыў бровы, з усёй сілы ўзіраючыся ў мора, нібыта можна было, напружыўшы волю, разгледзець што-небудзь у гэтай непрагляднай цемрадзі. Двое рабочых ужо збіраліся зачыняць вароты шлюза. Дэлькур крыкнуў ім:

– Пачакайце крыху!

І раптам вымавіў здзіўлена:

– Гэта ён…

У той самы момант метраў за пяцьдзесят ад іх пачуўся голас:

– Гэй, Луі! Стаў фок і падыходзь левым бортам.

Голас даносіўся знізу, з цёмнай дзіркі, ад пірсаў. Светлячок набліжаўся. Цяпер можна было ўжо разгледзець збольшага чалавека на палубе. Зазвінелі колцы ветразей, якія са звонам упалі на леер.

Потым міма Мэгрэ праплыў, як выцягнуць руку, разгорнуты грот-парус.

– Ну і ну! – прабурчаў капітан. – Злаўчыліся ж!

Павярнуўшыся да парусніка, Дэлькур крыкнуў:

– Дайце наперад! Носам да левага борта парахода, інакш не зачыніць вароты…

Нейкі чалавек саскочыў на зямлю са швартовым і, упёршыся рукамі ў бокі, выглядваў нешта ў цемры.

– «Сэн-Мішэль»? – спытаўся Мэгрэ.

– Ён самы… Яны ішлі з хуткасцю парахода…

Унізе, на палубе, гарэла толькі адна маленькая лямпачка, якая асвятляла бочку, груду канатаў, чалавека, што бег ад руля да носа шхуны.

Адзін за адным падыходзілі шлюзаўшчыкі і, не верачы вачам, глядзелі на судна.

– На месцы, хлопцы!.. Давайце!.. Гэй там, каля дзержакоў!

Калі вароты зачыніліся, вада пайшла праз засаўкі і судны пачалі падымацца. Слабы агеньчык наблізіўся яшчэ больш. Палуба была ўжо на ўзроўні прычала, і чалавек на ёй загаварыў з начальнікам порта:

– Як справы?

– Нічога, – адказаў Дэлькур. – Хутка ж вы ўправіліся!

– Вецер быў спадарожны, і Луі паставіў усе ветразі. Нават абышлі нейкі параход!

– Ты ў Кан ідзеш?

– Але, на разгрузку! Тут нічога новага?

Мэгрэ стаяў за два крокі ад капітана «Сэн-Мішэля», з якім гаварыў Дэлькур, Вялікі Луі – крыху далей, але яны амаль не бачылі адзін аднаго.

Начальнік порта павярнуўся да камісара, не ведаючы, што і сказаць.

– Праўда, што Жарыс вярнуўся? Здаецца, пра гэта пісалі ўжо ў газеце…

– Ён вярнуўся і зноў паехаў…

– Як гэта?

Засунуўшы рукі ў кішэні, Вялікі Луі падышоў крыху бліжэй. Незвычайна высокі і шырокі ў плячах, быў ён нейкі нязграбны, скасабочаны, азызлы. Праўда, у гэтакай цемрадзі ён мог здацца шмат больш непрыгожы целам, чым быў на самой справе.

– Ён памёр…

Цяпер Луі наблізіўся да Дэлькура ўсутыч.

– Гэта праўда? – выціснуў ён з сябе.

Толькі цяпер пачуў Мэгрэ ягоны голас. Ён быў нейкі млявы, хрыплы, манатонны. Твар па-ранейшаму быў нябачны.

– У першую ж ноч, як вярнуўся, яго атруцілі…

Абачлівы Дэлькур паспяшаўся дадаць – з яўным намерам папярэдзіць:

– Вось камісар з Парыжа, якому даручана справа.

Дэлькуру стала лягчэй. Ён ужо даўно думаў, як ім пра гэта паведаміць. Можа, ён баяўся якой-небудзь неабачлівасці экіпажа «Сэн-Мішэля»?

– А, гэта пан з паліцыі…

Судна ўсё яшчэ падымалася. Капітан перамахнуў праз борт на прыстань, не ведаючы, падаваць Мэгрэ руку

ці не.

– Ну і ну! – вымавіў ён, думаючы пра Жарыса.

Адчувалася, што ён таксама занепакоены – і яшчэ больш, чым Дэлькур. Велізарны нязграбны Луі тупаў на месцы. Ён усё роўна як прагаўкаў нешта зусім неразборлівае.

– Што ён кажа? – спытаў камісар.

– Балбоча па-тутэйшаму: «Свалата на свалаце!..»

– Хто – свалата? – спытаўся Мэгрэ ў былога катаржніка.

Але той толькі паглядзеў яму ў вочы. Цяпер Мэгрэ і Луі стаялі амаль побач. Відаць было, што твар у матроса азызлы, адна шчака таўсцейшая або здавалася такой, бо ён трымаў галаву набок. Вочы – вялікія, лупатыя.

– Учора вы былі тут, – сказаў яму камісар.

Шлюзаванне скончылася. Адчыніліся верхнія вароты. Параход паплыў па канале, і Дэлькуру прыйшлося бегчы за ім, каб спытаць, які ў яго танаж і адкуль ён ідзе. З мастка данеслася:

– Дзевяцьсот тон!.. Руан…

Але «Сэн-Мішэль» са шлюза не выходзіў. Людзі, якія стаялі на сваіх месцах, гатовыя да манеўру, адчувалі, што адбываецца нешта незвычайнае, і напружана чакалі.

Вярнуўся Дэлькур, занатоўваючы на хаду ў нататнік атрыманыя звесткі.

– Ну дык як? – нецярпліва спытаўся Мэгрэ ў Луі.

– Што – як? – прабурчаў той. – Вы кажаце, што я быў тут. Ну, значыцца, быў…

Зразумець яго было нялёгка, бо ён неяк дзіўна глытаў словы, гаварыў, не разяўляючы рота, усё адно як жаваў штосьці. Да таго ж у яго было тыповае тутэйшае вымаўленне.

– Навошта вы прыходзілі?

– З сястрою пабачыцца…

– А раз яе не было дома, пакінулі ёй цыдулку.

Мэгрэ ўпотайкі разглядваў капітана шхуны, які быў апрануты гэтаксама проста, як і яго матрос. Нічога асаблівага ў ім не было. Выдаваў хутчэй на заводскага майстра, чым на капітана.

– Прастаялі тры дні на рамонце ў Фекане. Вось Луі і скарыстаўся выпадкам, каб праведаць Жулі! – умяшаўся

ён.

Людзі, што стаялі вакол шлюза, прыслухоўваліся, напэўна, да размовы і стараліся не шумець. Удалечыні выла сірэна. Туман рабіўся ўсё больш вільготны, і брук пад нагамі аж блішчаў.

На палубе шхуны адкрыўся люк, высунулася нечыясь галава. Валасы ў чалавека былі раскудлачаныя, твар няголены.

– Ну і што?.. Так і будзем стаяць тут?..

– Заткніся, Сэлестэн! – рэзка крыкнуў гаспадар шхуны.

Дэлькур прытупваў нагамі – можа, каб сагрэцца, а можа, каб не выдаць сваёй збянтэжанасці, бо не ведаў, што цяпер рабіць: заставацца тут ці ісці, куды яму трэба.

– Чаму вы лічыце, Луі, што Жарысу пагражала небяспека?

– Ну… раз яму рассадзілі чэрап, – паціснуў плячыма матрос, – дык няцяжка здагадацца.

Каб размаўляць з ім, патрэбны быў, бадай што, перакладчык, так нялёгка было разабраць яго бурчанне.

Дужа скоўвала няёмкасць, а тут яшчэ ўсё адно як нейкая трывога павісла ў паветры.

Луі паглядзеў у бок Жарысавага дома, але нічога не ўбачыў.

– Яна там, Жулі?

– Там… Вы пойдзеце да яе?

Ён пакруціў галавою, усё роўна як мядзведзь.

– Чаму?

– Раве цяпер, відаць, – сказаў ён з агідаю чалавека, які цярпець не можа слёз.

Туман гусцеў і гусцеў. Дэлькур не мог ужо больш выносіць гэтага маўчання і тупання на адным месцы.

– Можа, хадзем вып'ем?..

Нейкі рабочы, які стаяў непадалёк, папярэдзіў:

– Шынок толькі што зачынілі.

Тады капітан «Сэн-Мішэля» прапанаваў:

– Давайце прапусцім па адной у кубрыку – калі хочаце…

* * *

Яны сядзелі ўчатырох: Мэгрэ, Дэлькур, Вялікі Луі і капітан судна Ланэк. Кубрык быў невялікі. Маленькая печачка ажно палала, і ўсё вакол запацела. Святло падвеснай газнічкі здавалася чырвоным.

Сцены былі з пакрытых лакам сасновых дошак. Дубовы стол сцёрты і парэзаны нажом, месца жывога на ім не было. На стале – брудныя талеркі, залапаныя шклянкі з тоўстага шкла, паўбутэлькі чырвонага віна.

Ложкі капітана і Луі, яго памочніка, былі незасланыя. На іх валяліся боты і брудная адзежа. Пахла смалою, спіртам, кухняй і спальняй, але ўсё гэта перабівалі карабельныя пахі, якія цяжка назваць нейкім пэўным словам.

У асветленым пакоі людзі ўжо не здаваліся такімі загадкавымі. У Ланэка былі цёмныя вусы, жывыя, разумныя вочы. Ён ужо дастаў з шафы бутэльку і апалоскваў цяпер шклянкі, выліваючы ваду на падлогу.

– Здаецца, вы былі тут у ноч на шаснаццатае верасня? – спытаўся Мэгрэ.

Вялікі Луі сядзеў, ссутуліўшыся і паклаўшы рукі на стол. Наліваючы ў шклянкі, Ланэк адказаў:

– Але, былі.

– Вы рэдка начуеце ў порце? З-за прыліву тут вачэй нельга спускаць са швартовых…

– Бывае такое, – адказаў Ланэк і вокам не маргнуўшы.

– Гэта дае магчымасць выйграць некалькі гадзін, – уступіў у гамонку Дэлькур, які, здаецца, узяў на сябе ролю лагодна настроенага пасрэдніка.

– Капітан Жарыс не падымаўся ў тую ноч да вас на борт?

– Калі шлюзаваліся… А больш не.

– І вы і не бачылі і не чулі нічога дзіўнага?

– Ваша здароўе!.. Не… нічога.

– Вы, Луі, ужо спалі?..

– Здаецца, спаў…

– Што вы сказалі?

– Я сказаў, што, здаецца, спаў… І ўжо даўно.

– Вы не заходзілі да сястры?

– Можа, і заходзіў… Ненадоўга.

– А хіба Жарыс не забараніў вам прыходзіць у яго

дом?

– Пустое!

– Што вы хочаце гэтым сказаць?

– Нічога... Пустая балбатня – і ўсё... Я вам яшчэ патрэбен?

Ніякіх фактаў супраць яго не было.

– Сёння – не.

Луі сказаў нешта па-брэтонску гаспадару, узняўся, дапіў налітае і дакрануўся рукою да брыля фуражкі.

– Што ён вам сказаў? – спытаўся камісар.

– Што я не маю ў ім патрэбы, каб схадзіць у Кан і назад. Я забяру яго па дарозе назад, разгрузіўшыся.

– Куды ён пайшоў?

– Гэтага ён не сказаў.

Дэлькур падышоў да люка, высунуў галаву і прыслухаўся.

– Ён на борце драгі, – сказаў начальнік порта.

– На борце чаго?

– Вы бачылі дзве драгі, у канале? Яны стаяць на прыколе. Там можна заначаваць. Маракі ахвотней спыняюцца нанач на судне, чым у гатэлі.

– Яшчэ шкляначку? – прапанаваў Ланэк.

Прыплюшчыўшы вочы, Мэгрэ агледзеўся па баках і ўладкаваўся ямчэй на крэсле.

– У які порт зайшлі вы адразу пасля шаснаццатага верасня, як выйшлі з Вістрэама?

– У Саўтхэмптан... Мне трэба было выгрузіць там будаўнічы камень...

– А потым?

– У Булонь.

– А ў Нарвегію вы не заходзілі пасля гэтага?

– Я быў там толькі адзін раз, шэсць гадоў таму...

– Вы добра ведалі Жарыса?..

– Мы тут, вы разумееце, усе няблага знаёмыя... Ад Ля Рашэлі да Ратэрдама... Ваша здароўе! Джын я прывёз якраз адтуль, з Галандыі. Вы цыгары паліце?

Ён дастаў з шуфляды скрыначку з цыгарамі.

– Яны каштуюць там дзесяць цэнтаў... цэлы франк штука!..

Цыгары былі тоўстыя, з залатымі абадкамі.

– Дзіўна! – уздыхнуў Мэгрэ. – Мне сказалі, што

Жарыс падымаўся да вас на борт ужо ў порце, разам з нейкім чалавекам…

Ланэк засяроджана абрэзаў кончык цыгары. Калі ён падняў галаву, твар у яго быў такі ж спакойны, як і да камісаравай заўвагі.

– Мне не было б сэнсу ўтойваць гэта…

Пачуўся шум – наверсе нехта скочыў на палубу. Над лесвіцай паказалася галава.

– Параход з Гаўра!

Дэлькур ускочыў і ўжо на хаду кінуў камісару:

– Трэба падрыхтаваць для яго шлюз… «Сэн-Мішэль» зараз адправіцца…

– Думаю, што мне можна ісці далей, – сказаў Ланэк.

– У Кан?

– Ну. Заўтра вечарам закончым, пэўна, разгрузку…

Усе яны здаваліся прастадушнымі. Усе глядзелі адзін аднаму ў вочы. І ўсё ж такі ва ўсім адчувалася і нешта фальшывае! Але пачуццё гэтае было настолькі няўлоўнае, што цяжка было сказаць, чаму яно ўзнікала, ад чаго менавіта патыхала фальшам.

Мілыя людзі! І Ланэк, і Дэлькур, і Жарыс, і ўсе наведнікі «Марацкага прытулку» – пра каго з іх можна было сказаць што благое? А хіба Вялікі Луі не здаваўся ладным марачком?

– Я сам аддам швартоў, Ланэк… Сядзі!

І начальнік порта пайшоў здымаць трос з кнехта. Стары матрос, які вылез з будкі, зусім скалелы і незадаволены, вылаяўшыся, сказаў:

– Вялікі Луі зноў змыўся!

Ён паставіў ветразі – фок і бом-клівер, пасля бусаком адштурхнуў шхуну ад прычала. Мэгрэ саскочыў на зямлю ў сама апошні момант. Цяпер ужо ішоў дождж, які разагнаў туман. Можна было ўбачыць агні ў порце, постаці людзей, параход з Гаўра, які нецярпліва даваў гудкі.

Скрыпелі дзержакі. Вада выцякала са шлюза праз адчыненыя пад'ёмныя засаўкі. Ветразі шхуны перакрывалі перспектыву канала.

Стоячы на мосце, Мэгрэ разгледзеў дзве драгі – жудаснага выгляду збудаванні з вельмі складанымі контурамі і змрочнымі заржавелымі надбудовамі.

Ён падышоў да іх асцярожна, бо наўкол валялася

ўсялякае смецце, старыя канаты, якары, розныя жалязякі. Пасля прайшоў па дошцы, якая служыла сходкамі, і ўбачыў праз шчыліны слабае святло.

– Луі! – паклікаў ён.

Святло адразу ж пагасла. З люка, які нічым не быў прыкрыты, высунуўся Вялікі Луі і буркнуў:

– Чаго вам?

У той самы час пад ім, у труме драгі, пачуўся шоргат. Потым асцярожна праслізнуў нейкі цень. Чуваць было, як чалавек на нешта натыкаўся. Разы са тры празвінела ліставое жалеза перакрыцця.

– Хто тут з табою?

– Са мною?..

Мэгрэ агледзеўся, зрабіў крок убок і ледзь не ўпаў у трум, на дне якога было ці не па калені гразі.

Несумненна, тут нехта толькі што быў, але цяпер ужо ён далёка адсюль. Скрып даносіўся з другога боку драгі. Мэгрэ ступіў яшчэ крок і ўдарыўся галавою аб велізарны коўш.

Не маючы ніякага ўяўлення пра тое, што і дзе тут месціцца, камісар адчуваў сябе на дразе бы сляпы.

– Маўчыш?

У адказ пачулася нейкае невыразнае мармытанне, якое, пэўна, азначала: «Не разумею, пра што вы будзеце казаць…»

Каб абшукаць у гэтакай цемрадзі абедзве дарогі, спатрэбіўся б добры дзесятак паліцэйскіх, якія выдатна ведаюць порт. Мэгрэ адступіў. Праз дождж галасы было чуваць здалёк – проста надзіва. Камісар пачуў, як нехта ў порце сказаў:

– …якраз папярок фарватэра…

Мэгрэ падышоў да шлюза. Памочнік капітана з гаўрскага парахода паказваў нешта Дэлькуру, які, убачыўшы камісара, збянтэжыўся.

– Цяжка паверыць, што яны згубілі яе і не прыкмецілі гэтага, – сказаў чалавек з парахода.

– Што згубілі? – спытаўся Мэгрэ.

– Шлюпку.

– Якую шлюпку?

– Тую, на якую мы натыкнуліся ў порце, – адказаў чалавек з парахода. – З парусніка, што ішоў наперадзе

нас. Назва напісана на карме «Сэн-Мішэль».

– Можа, яна сама адвязалася, – уставіў Дэлькур, паціснуўшы плячыма. – Бывае і такое.

– Яна не магла адвязацца з той простай прычыны, што ў дрэннае надвор'е шлюпку трымаюць не на вадзе, за кармою, а падымаюць на палубу.

Шлюзаўшчыкі, кожны на сваім месцы, па-ранейшаму прыслухоўваліся да размовы.

– Заўтра паглядзім. Пакіньце лодку тут.

Павярнуўшыся да Мэгрэ, Дэлькур прамармытаў, ненатуральна ўсміхнуўшыся:

– Бачыце, што за работа ў нас. Вечна што-небудзь здарыцца.

Але камісар не ўсміхнуўся ў адказ. Наадварот, ён сама сур'ёзным тонам сказаў:

– Калі заўтра ў сем ці, скажам, восем гадзін раніцы мяне тут не будзе, тэлефануйце ў пракуратуру Кана.

– Што?..

– Дабранач! А шлюпка няхай застанецца тут.

Каб збіць іх з панталыку, Мэгрэ пайшоў уздоўж пірса, засунуўшы рукі ў кішэні і ўзняўшы каўнер. Мора шумела каля яго ног – і ўперадзе, і справа, і злева. Паветра, напоўненае пахам ёду, лагодна лашчыла твар.

Дайшоўшы амаль да канца пірса, ён нахіліўся і падняў нешта з зямлі.

## V. Капліца ў дзюнах

На золку, ледзь цягнучы ногі ад стомы, Мэгрэ вярнуўся ў гатэль. Ад сырасці яго паліто ацяжэла, у горле пяршыла: усю ноч ён паліў люльку за люлькаю. У гатэлі было пуста. Пахадзіўшы, камісар знайшоў гаспадара на кухні – той разводзіў агонь.

– Правялі ўсю ноч у порце?

– Але. Прынясіце мне кавы, і, калі ласка, як мага хутчэй. А ванну ў вас можна прыняць?

– Калі толькі катлы распаліць.

– Тады не варта…

Раніца была шэрая, усё яшчэ стаяў туман, але ўжо празрысты. Пашчыпвала павекі. Чакаючы, калі гаспадар прынясе каву, Мэгрэ падышоў да адчыненага акна.

Дзіўная ноч. Нічога асаблівага ён не знайшоў – хіба што адкрыў колькі больш-менш цікавых дэталяў. Аднак ён усё ж пасунуўся крыху наперад у расследаванні гэтай драмы, намацаў у ёй новыя звенні.

Прыбыццё «Сэн-Мішэля». Паводзіны Ланэка. Нельга, вядома, сказаць, што яны двухсэнсоўныя. Але ж адчувалася ў іх і нейкая няўпэўненасць. Тое самае можна было сказаць і пра Дэлькура. Дый пра ўсіх астатніх, хто быў тады ў порце!

Напрыклад, наводзяць на падазрэнні паводзіны Вялікага Луі. Ён не адправіўся на шхуне ў Кан, а пайшоў начаваць у драг. І было ясна, што быў ён там не адзін.

А крыху пазней стала вядома, што перад тым, як увайсці ў порт, «Сэн-Мішэль» згубіў шлюпку. У канцы пірса быў знойдзены прадмет, дужа незвычайны для гэтага месца: асадка з залатым пяром.

Пірс быў драўляны і стаяў на палях. У канцы яго, каля зялёнага сігнальнага агню, у мора спускалася жалезная лесвіца. Там і знайшлі лодку.

Значыць, на «Сэн-Мішэлі», калі той прыбыў у порт, быў пасажыр, якому важна было, каб у Вістрэаме яго не заўважалі. Ён прычаліў да берага ў шлюпцы, а потым яна паплыла па цячэнні. На верхніх прыступках лесвіцы, калі ён нахіліўся, каб выбрацца на пірс, з яго кішэні выпала асадка з залатым пяром.

Пасажыр схаваўся на адной дразе, куды і прыйшоў да яго потым Луі.

Дакладнасць гэтай лагічнай пабудовы была амаль матэматычная. Растлумачыць гэтыя факты неяк інакш было немагчыма.

Выснова: у Вістрэаме хаваецца незнаёмы. Прыбыў ён сюды не проста так: у яго была пэўная мэта. І быў ён з таго кола людзей, у якім карыстаюцца асадкамі з залатым пяром!

Гэта не марак! І не просты бадзяга! Раз чалавек меў такую асадку, значыцца, і вопратка ў яго была адпаведная. Такога чалавека ў гэтых мясцінах назавуць, вядома, панам.

А зімою ў Вістрэаме такую асобу не могуць не прыкмеціць. Удзень ён драгу пакінуць не мог. Тады, можа, ноччу выберацца дзеля справы, якая яго сюды прывяла?..

Не ў лепшым гуморы згадзіўся Мэгрэ з неабходнасцю сачыць гэтай ноччу за драгаю: гэта ж занятак для вышукніка-пачаткоўца. Гадзінамі трэба будзе сядзець пад дажджом і напружліва ўзірацца ў вычварныя абрысы гэтай драгі.

І прамучыўся ён гэтую ноч марна, нікога не падпільнаваў. А на світанку злаваўся, што не можа прыняць гарачую ванну. Глядзеў на свой ложак і думаў, ці варта класціся на колькі гадзін.

Гаспадар прынёс каву.

– Вы спаць не збіраецеся?

– Пакуль не ведаю. Маглі б вы зрабіць ласку занесці на пошту тэлеграму?

Гэта быў загад інспектару Люка, з якім камісар звычайна вёў разам справу, прыехаць у Вістрэам. Мэгрэ не хацелася зноў правесці ўсю ноч на нагах.

Праз расчыненае акно былі добра бачныя порт, Жарысаў дом, пясчаныя водмелі бухты.

Пакуль Мэгрэ пісаў тэкст тэлеграмы, гаспадар стаяў каля акна і пазіраў на вуліцу. Не надаючы значэння сваім словам, ён сказаў:

– А вунь і капітанава служанка выйшла прагуляцца...

Камісар узняў галаву і ўбачыў Жулі, якая, зачыніўшы брамку, хутка пайшла да пляжа.

– Што ў тым баку?

– Пра што гэта вы?

– Куды яна можа пайсці? Там ёсць дамы?

– Ніякіх дамоў там няма. Проста бераг, на які ніколі не ходзяць, бо там хвалярэз і ямы з цінаю.

– А ёсць якая-небудзь дарога ці хоць сцежка?

– Не! Ад самага вытоку Орны ўздоўж берага адны балоты... Не, забыўся!.. У балотах ёсць буданы для палявання на качак...

Нахмурыўшы лоб, Мэгрэ выйшаў з гатэля. Ён хутка прайшоў праз мост, і, калі выйшаў на бераг, паміж ім і Жулі было толькі нейкіх дзвесце метраў.

Бераг – суцэльная пустка. Адны чайкі з крыкамі лёталі ў тумане. Справа былі дзюны, і камісар зайшоў за іх, каб заставацца нябачным.

Паветра дыхала прахалодаю. Мора было

неспакойнае. Белы яго краёчак накатваўся і накатваўся, разбіваючыся, на бераг. Шапацелі раструшчаныя ракавіны.

Жулі не прагульвалася. Яна ішла хутка, захінаючыся ў чорнае паліто. Пасля смерці Жарыса яна не паспела яшчэ справіць сабе жалобную адзежу і насіла ўсё чорнае ці проста цёмнае, што толькі знайшла ў сябе: шарсцяныя панчохі, капялюш з паламанымі палямі, паліто, якое даўно ўжо выйшла з моды…

Ногі яе гразлі ў пяску, і таму паходка была вельмі няроўная. Двойчы яна азіралася, але не прыкмеціла Мэгрэ, які ішоў, хаваючыся за дзюнамі.

Нарэшце, прыкладна за кіламетр ад Вістрэама, яна павярнула направа – і зрабіла гэта так раптоўна, што камісар ледзь не выдаў сябе.

Але ішла яна не да будана, як падумаў спачатку Мэгрэ, а да невялікай будыніны, што самотна ўзвышалася сярод пяску і асакі.

Тварам да мора, метраў за пяць ад таго месца, да якога ў прыліў даходзіла вада, стаяла капліца. Адзін яе мур быў цалкам зруйнаваны. Пабудавана яна была, пэўна, яшчэ некалькі стагоддзяў назад.

Скляпенне было паўкруглае. Пралом у муры даваў магчымасць вызначыць таўшчыню іншых муроў: каля метра кладкі.

Жулі ўвайшла ў капліцу – і неўзабаве Мэгрэ пачуў, як яна шоргае там нейкімі невялікімі прадметамі, хутчэй за ўсё марскімі ракавінамі.

Камісар падкраўся да капліцы. У дальнім ад яго муры была невялікая закратаваная ніша. Пад ёю было нешта накшталт малюпасенькага алтара. Нахіліўшыся долу, Жулі штосьці там шукала.

Дзяўчына імкліва азірнулася, пазнала камісара, які не паспеў схавацца, і хутка спытала:

– Што вы тут робіце?

– А вы?

– Я… я прыйшла памаліцца Божай Маці Дзюнаў.

Жулі была ўстрывожаная. Па ёй няцяжка было здагадацца, што яна нешта хавае. Мабыць, яна дрэнна спала гэтай ноччу, бо вочы ў яе былі чырвоныя. З-пад капелюша выбіваліся дзве пасмачкі кепска прычасаных

валасоў.

– Дык гэта што – капліца Божай Маці Дзюнаў?..

Сапраўды, за кратамі ў нішы стаяла статуя Божай Маці, такая старая і знявечаная часам, што яе і пазнаць было амаль немагчыма.

На муры, вакол нішы, людзі зрабілі, хто алоўкам, хто сцізорыкам, надпісы, якія напаўзалі адзін на адзін:

«Няхай Дэніза здасць экзамен… Святая багародзіца, зрабі так, каб Жажо навучыўся хутка чытаць… Дай здароўя ўсёй сям'і і асабліва дзядулю з бабуляю…»

Былі і такія – над сэрцамі, працятымі стрэламі:

«Рабэр і Жанна – каханне навек».

На кратах засталіся сухія сцяблінкі, якія калісь былі кветкамі.

Увогуле, капліца была падобная на многія іншыя – адно што ў гэтай былі марскія ракавіны, складзеныя на разбураным алтары. Ракавіны ўсякіх формаў, якія толькі можна ўявіць… І на ўсіх, у асноўным, алоўкам, надпісы. Найчасцей няўпэўнены дзіцячы почырк.

«Няхай будзе ўдалы лоў на Новай Зямлі, і няхай тату не трэба будзе ісці ў новы рэйс».

Але іншы раз адчувалася і больш моцная рука.

Глінабітная падлога. Праз велізарную дзірку ў муры бачны быў прыбярэжны пясок і серабрыстае, у белай смузе мора. Жулі, не ведаючы, як сябе паводзіць, з асцярогай паглядвала на ракавіны.

– Вы прынеслі сваю? – спытаўся Мэгрэ.

Яна адмоўна пакруціла галавою.

– Аднак, калі я прыйшоў, вы іх перасоўвалі. Што вы шукалі?

– Нічога… Я…

– Вы?

– Нічога!

Жулі ўпарцілася і яшчэ больш захуталася ў паліто.

Мэгрэ прыйшлося перабіраць ракавіны адну за адной і чытаць надпісы на іх. І раптам ён усміхнуўся. На адной велізарнай ён прачытаў:

«Святая багародзіца, зрабі так, каб Луі ўсё ўдалося і мы сталі шчаслівыя».

Пад надпісам была пазначана дата: «13 верасня». Інакш кажучы, гэтая ракавіна з просценькім надпісам

Жулі была пакладзена тут за тры дні да знікнення Жарыса!

І ці не прыйшла сюды цяпер дзяўчына, каб забраць яе?

– Вы гэта шукалі?

– А што вам да гэтага?

Яна вачэй не адводзіла ад ракавіны. Можна было падумаць, што яна збіралася кінуцца на Мэгрэ, каб вырваць яе ў яго з рук.

– Аддайце яе мне!.. Пакладзіце яе на месца!..

– Я пакладу яе на месца, добра, але трэба, каб і вы яе адсюль не забіралі… Хадзем!.. А па дарозе пагаворым…

– Мне няма пра што гаварыць з вамі…

Яны пайшлі, нахіляючыся наперад, бо ногі гразлі ў мокрым пяску. Было так холадна, што насы ў іх пачырванелі, а скура на твары задубела.

– Ваш брат нічога талковага ў жыцці не зрабіў, праўда?

Яна моўчкі глядзела на пясчаны бераг.

– Ёсць рэчы, якіх нельга ўтоіць. Я не толькі пра тое… што прывяло яго на катаргу…

– Ну як жа, зноў гэта! І праз дваццаць гадоў будуць языкі часаць.

– Ды не! Не, Жулі. Ваш брат – добры марак. Кажуць, нават выдатны марак, мог бы стаць і памочнікам капітана. Толькі прыходзіць раптам дзень – і ён напіваецца з выпадковымі сябрамі, робіць розныя глупствы, не вяртаецца на судна, недзе бадзяецца цэлымі тыднямі, нідзе не працуючы. Хіба не? І ідзе ў такія дні за дапамогаю да вас. Да вас, а яшчэ некалькі тыдняў назад і да Жарыса. А потым зноў жыве спакойна і не турбуе вас.

– Ну і што?

– Які ў вас быў план трынаццатага верасня? Вы ж хацелі, каб вам нешта ўдалося?

Жулі спынілася, паглядзела Мэгрэ ў твар. Цяпер яна была намнога спакайнейшая. Мусіць, абдумалася. У вачах у яе з'явілася прыемная сур'ёзнасць.

– Я ведала, што ўсё гэта прывядзе да няшчасця. Але брат мой, знайце, не рабіў нічога благога! Я клянуся вам, што, калі б ён забіў капітана, я была б першая, хто адплаціў бы яму тым самым.

У яе глухім голасе пачулася рашучасць.

– Проста бываюць супадзенні. А тут яшчэ гэтая гісторыя з катаргай, якую ўвесь час прыгадваюць. Зробіць чалавек у жыцці адну памылку, ну і вешаюць на яго пасля ўсе чужыя грахі…

– Які ў Луі быў план?

– Гэта быў не план. Усё намнога прасцей. Ён сустрэў нейкага чалавека, вельмі багатага, не ведаю вось толькі – у Гаўры ці ў Ангельшчыне. Мне ён яго прозвішча не называў. Чалавеку гэтаму надакучыла жыць на сушы, і ён хацеў купіць яхту. Вось і папрасіў брата знайсці яму судна.

Яны ўсё яшчэ стаялі. Удалечыні, там, дзе быў Вістрэам, адсюль віднеўся толькі бялюткі маяк, які добра вылучаўся на фоне бледнага неба.

– Луі расказаў пра гэта гаспадару. Ланэк і сам з некаторага часу падумваў прадаць «Сэн-Мішэль». Вось і ўсё! «Сэн-Мішэль» – лепшы кабатажнік, які толькі можна знайсці, каб перарабіць яго на яхту. Спачатку брат павінен быў атрымаць, калі тое выйдзе, дзесяць тысяч франкаў. А пасля пакупнік прапанаваў яму застацца на гэтым судне капітанам – як даверанаму чалавеку.

Яна адразу ж пашкадавала, што сказала апошнія словы – Мэгрэ мог іранічна засумнявацца, – і ўгледзелася цяпер у яго твар, чакаючы ўсмешкі.

Не ўбачыўшы яе, дзяўчына адчула ўдзячнасць. Мэгрэ ж мог і прыкладна так адказаць: «Катаржнік – даверанaя асоба?!»

Але нічога падобнага яму ў галаву не прыйшло. Камісар думаў. Ён быў здзіўлены простасцю гэтага расказу, тою простасцю, якая надавала словам Жулі праўдзівасць.

– Толькі вы не ведаеце, хто гэты пакупнік?

– Не ведаю.

– Дзе ваш брат мусіў зноў сустрэцца з ім?

– Не ведаю.

– Калі?

– Вельмі хутка. Здаецца, шхуну хацелі пераабсталяваць у Нарвегіі, а праз месяц яна павінна была адправіцца ў Міжземнае мора, да Эгіпта.

– Гэты чалавек – француз?

– Не ведаю.

– А сёння вы прыйшлі ў капліцу забраць вашу

ракавіну?

– Таму што падумала: знойдуць яе – чаго толькі не падумаюць, апрача праўды. Прызнайцеся, вы ж не верыце мне?

Замест адказу ён спытаў:

– Вы бачыліся з братам?

Яна ўздрыгнула.

– Калі?

– Сёння ноччу ці раніцай.

– Луі тут?

Здавалася, што пытанне напалохала яе, збіла з панталыку.

– «Сэн-Мішэль» прыйшоў.

Гэтыя словы крыху яе супакоілі, быццам яна баялася, што брат з'явіцца тут без шхуны.

– Дык ён адправіўся ў Кан?

– Не! Ён пайшоў спаць на драгу.

– Хадзем! – сказала яна. – Мне холадна.

Вецер з мора ўсё свяжэў, а хмары яшчэ больш зацягвалі неба.

– І часта ён спіць на старых суднах?

Яна не адказала. Гаворка абарвалася сама сабою. Яны ішлі, чуючы толькі шапаценне пяску пад нагамі і гудзенне прыбярэжнай машкары – устрывожаная людзьмі, яна спыніла свой пір і кружыла цяпер над водарасцямі, выкінутымі на бераг прылівам.

«Яхта... Асадка з залатым пяром», – круцілася ў галаве ў Мэгрэ.

Камісар думаў. Раніцай цяжка было растлумачыць, хто б мог згубіць на пірсе гэтую асадку: знаходка ніяк не вязалася ні з экіпажам «Сэн-Мішэля», ні з ягонымі гасцямі, людзьмі для такой рэчы дужа простымі. «Яхта... Асадка з залатым пяром...»

Цяпер з'яўлялася логіка! Багаты немалады мужчына шукае яхту для падарожжаў і губляе асадку з залатым пяром...

Але заставалася яшчэ растлумачыць, чаму гэты чалавек, замест таго каб прыйсці ў порт са шхунаю, сышоў з яе і перасеў у лодку, потым выбраўся на пірс і схаваўся на дразе, якая ці не напалову ўжо затанула.

– У той вечар, калі знік Жарыс, брат, як прыходзіў

да вас, нічога не казаў пра свайго пакупніка? Не казаў, напрыклад, што той на шхуне?

– Не… Ён толькі аб'явіў мне, што справа амаль ужо скончана.

Яны падышлі да маяка. Жарысаў дом стаяў побач, злева, і ў садзе яшчэ віднеліся кветкі, пасаджаныя капітанам.

Жулі пахмурнела, разгублена азірнулася вакол, як чалавек, які ўжо не ведае, што рабіць у жыцці.

– Мусіць, вас хутка выклічуць да натарыуса з нагоды завяшчання. Цяпер вы багатая…

– Ды кіньце вы! – сказала яна суха.

– Што вы хочаце сказаць?

– Самі добра ведаеце… Казкі ўсё гэта – пра багацце… Капітан не быў багаты…

– Вы не можаце гэта ведаць.

– Ён нічога не ўтойваў ад мяне. Калі б у яго былі сотні тысяч франкаў, ён сказаў бы. І, вядома, купіў бы летась зімою паляўнічую стрэльбу за дзве тысячы франкаў. Яна ж яму так спадабалася! Ён убачыў яе ў мэра і даведаўся пра цану…

Яны падышлі да брамкі.

– Вы зойдзеце?

– Не… Я, мабыць, хутка вас убачу…

Яна не рашалася ўвайсці ў дом, дзе зноў застанецца адна.

* * *

Прайшло некалькі гадзін. Нічога не здарылася. Мэгрэ хадзіў вакол драгі, пазіраючы на яе, усё роўна як разявака ў нядзелю, які з міжвольнай пачцівасцю назірае новае для сябе відовішча. А тут было што разглядаць: вялікія трубы, каўшы, ланцугі, кабестаны…

Гадзін у адзінаццаць ён выпіў аперытыву з партавікамі.

– Не бачылі Вялікага Луі?

Яго бачылі раніцай. Ён выпіў у шынку дзве чаркі рому і рушыў некуды па шашы.

Мэгрэ хацелася спаць. Ноччу ён, мусіць, прастудзіўся. І настрой у яго быў, як у чалавека, які захварэў на грып.

Гэта можна было прыкмеціць па яго рухах і млявым твары.

Камісар і не спрабаваў хаваць свой дрэнны настрой, што яшчэ больш устрывожыла наведнікаў шынка, якія ўпотайкі паглядвалі на яго. Размова не клеілася. Капітан Дэлькур спытаў:

– Што мне рабіць са шлюпкаю?

– Прышвартуйце яе дзе-небудзь.

І зноў Мэгрэ задаў пытанне без неабходнай хітрасці:

– Ніхто не бачыў сёння на вуліцы незнаёмага?.. Не заўважылі нічога такога каля драг?..

Ніхто нічога не бачыў! Але цяпер, пасля гэтага пытання, усе пачалі нечагась чакаць.

Цікава: людзі чакалі, што здарыцца нейкая драма. Прадчуванне? Пачуццё таго, што ланцуг падзей не замкнуўся, што ў ім не хапае нейкага звяна?

Пачуўся гудок парахода, які запрошваў у шлюз. Партавікі ўзняліся. Мэгрэ пайшоў на пошту паглядзець, ці няма яму якіх паведамленняў. Люка адбіў тэлеграму, што прыедзе ў дзве гадзіны дзесяць хвілін.

У названы час цягнічок, які ішоў уздоўж канала Кан – Вістрэам і быў падобны на дзіцячую цацку – са сваімі вагонамі ўзору тысяча васемсот пяцідзесятага года, прагудзеў удалечыні. Пад грукат тугіх тармазоў і свіст пары ён спыніўся каля самага порта.

Люка выйшаў, падаў камісару руку. Здзівіўся, убачыўшы хмурны твар Мэгрэ.

– Ну як?

– Нармальна.

Нягледзячы на розніцу ў чыне, Люка не ўтрымаўся ад смеху.

– Па вас не скажаш!.. Ведаеце, я не абедаў…

– Хадзем у гатэль. Там што-небудзь засталося напэўна, каб перакусіць…

Яны селі ў вялікай зале, дзе гаспадар зладзіў стол новаму жыльцу. Гаварылі вельмі ціха. Гаспадар, здавалася, чакаў моманту, каб уставіць слова.

Падаўшы сыр, ён рашыў, што момант настаў, і спытаўся ў Мэгрэ:

– Ведаеце, што здарылася з мэрам?

Мэгрэ ўздрыгнуў. Твар у яго быў такі ўстрывожаны, што гаспадар сумеўся.

– Нічога асаблівага… Карацей кажучы, ён упаў у сябе дома на лесвіцы… Не ведаю, як гэта яго собіла, але твар у яго цяпер такі размаляваны, што ён нават злёг…

У галаве ў Мэгрэ адразу ж бліснула здагадка. Менавіта здагадка, бо ў адно імгненне ён выразна ўявіў, як яно здарылася.

– Пані Гранмэзон цяпер у Вістрэаме?

– Не. Раніцаю, як толькі развіднела, паехала з дачкою на машыне… Думаю, у Кан…

У камісара грыпозны настрой як рукою зняло.

– Доўга ты яшчэ будзеш аб'ядацца? – буркнуў ён інспектару.

– Ну, вядома, – спакойна адказаў Люка, – таму, у каго жывот поўны, галодны за сталом здаецца монстрам… Яшчэ тры хвіліны! Не забірайце камамбер[4], гаспадар!

## VI. Падзенне на лесвіцы

Гаспадар гатэля не падмануў. Але ўсё-такі перабольшыў: Гранмэзон не ляжаў у ложку.

Калі, адаслаўшы Люка назіраць за драгаю, Мэгрэ падыходзіў да мэравай вілы, ён заўважыў за адным акном постаць чалавека ў класічнай позе хворага, вымушанага сядзець дома.

Камісар не разгледзеў твару. Але, відавочна, гэта быў мэр.

Далей ад акна стаяў яшчэ адзін чалавек, распазнаць якога было немагчыма.

Калі Мэгрэ пазваніў, крокаў у доме пачулася больш, чым калі б нехта проста пайшоў адчыняць. Нарэшце з'явілася служанка, жанчына сярэдніх гадоў, даволі свавольнага выгляду. Пэўна, яна без меры пагарджала ўсімі наведнікамі, бо нават слова не сказала.

Адчыніўшы, яна ўзнялася па прыступках, якія вялі ў хол, і Мэгрэ прыйшлося самому зачыняць за сабою дзверы. Потым яна пастукалася ў мэраў кабінет і знікла, калі камісар ужо ўваходзіў.

Ва ўсім гэтым адчувалася штосьці загадкавае. Гэта быў не той выпадак, калі нешта адразу ж кідаецца ў вочы.

---

4 Гатунак сыру.

Здзіўлялі розныя дробязі, якія выдавалі, што ў доме не зусім спакойна.

Віла была вялікая, амаль новая, пабудаваная ў стылі, які часта сустракаецца на ўзбярэжжы.

Але, улічваючы той факт, што Гранмэзон быў уладальнікам амаль усіх акцый буйной Ангельска-Нармандскай кампаніі, можна было чакаць большага багацця.

Можа, яго дом у Кане быў раскошнейшы? Мэгрэ ступіў некалькі крокаў, і толькі тады пачуўся голас:

– Гэта вы, камісар?

Голас даносіўся ад акна. Гранмэзон сядзеў у глыбокім фатэлі, паклаўшы ногі на крэсла. Супраць святла яго было дрэнна відаць, але Мэгрэ ўсё ж прыкмеціў, што замест каўнерыка на шыі ў гаспадара была чорная хустка. Левую шчаку мэр прыкрываў рукою.

– Сядайце, – сказаў ён.

Мэгрэ абышоў пакой і сеў акурат насупраць суднаўладальніка. Камісар не без цяжкасці стрымліваў усмешку: ён не чакаў сустрэць мэра ў такім стане.

Яго левая шчака, якую рука закрывала не поўнасцю, прыкметна распухла, як і вусны. Але больш за ўсё мэр стараўся прыкрыць велізарны сіняк пад вокам.

Усё гэта выглядала б не так камічна, калі б суднаўладальнік не стараўся захоўваць важнасць. Нерухомы, ён глядзеў на Мэгрэ варожа і з недаверам.

– Вы прыйшлі паведаміць мне пра вынікі расследавання?

– Не. Вы так добра прынялі мяне мінулы раз, што я хацеў падзякаваць вам за гасціннасць.

Мэгрэ ніколі не ўсміхаўся іранічна. Наадварот, чым больш ён насміхаўся з чалавека, тым больш сур'ёзным здаваўся яго твар.

Ён разглядваў кабінет. Сцены былі пазавешваны схемамі грузавых суднаў і фатаграфіямі караблёў Ангельска-Нармандскай кампаніі. Мэбля была звычайная: чырвонае дрэва добрай якасці – і толькі. На пісьмовым стале ляжала некалькі папак, лісты, тэлеграмы.

Падлога была пакрытая лакам, і, спыняючы раз-пораз вочы на яе гладкай паверхні, камісар пачаў задаваць пытанні.

– З вамі, здаецца, нешта здарылася?

Мэр уздыхнуў, паварушыў нагамі і прабурчаў:

– Спатыкнуўся на лесвіцы.

– Сёння раніцай? Як, мусібыць, напалохалася пані Гранмэзон!..

– Жонкі тады ўжо не было.

– Сапраўды, у такое надвор'е няма чаго рабіць каля мора… Хіба што паляваць на качак… Мяркую, пані Гранмэзон цяпер у Кане, разам з дачкою?

– Не, у Парыжы.

Адзеўся суднаўладальнік не надта вытанчана. Цёмныя штаны, халат на фланелевую кашулю, лямцавыя пантофлі.

– А што было ўнізе лесвіцы?

– Што вы маеце на ўвазе?

– На што вы ўпалі?

Злаславы позірк, сухі адказ:

– На падлогу.

Гэта была мана, мана відавочная! Такі сіняк пад вокам не заробіш, упаўшы проста на падлогу. І ўжо на шыі слядоў таго, што цябе душылі, напэўна не застанецца!

А Мэгрэ выдатна бачыў кожны раз, калі хустка ў мэра хоць трохі збівалася з шыі, кровападцёкі, якія спрабаваў той схаваць.

– Вы, вядома, былі ў доме адзін?

– Чаму «вядома»?

– Ды таму, што няшчасныя выпадкі заўсёды здараюцца, калі няма каму памагчы!

– Служанка пайшла па прадукты.

– У доме толькі яна?

– Ёсць яшчэ садоўнік, але ён паехаў у Кан, таксама нешта купляць…

– Мусіць, і балела ж вам…

Больш за ўсё непакоіла мэра сур'ёзнасць Мэгрэ, яго спагадлівы голас.

Гадзіннік паказваў толькі палову чацвёртай, але ўжо цямнела, і мэраў твар стала відаць яшчэ горш.

– Вы дазволіце? – выцягнуў Мэгрэ сваю люльку.

– Калі хочаце цыгару – яны на каміне.

Цэлы стос скрыначак з цыгарамі. На падносе – бутэлька старога арманьяку. Мэгрэ звярнуў увагу на

высокія дзверы з пакрытай лакам смольнай сасны, якія вялі ў гасцёўню.

– Ну, як ваша расследаванне? – спытаўся мэр.

Невыразны жэст камісара. Мэгрэ стараўся не глядзець на гэтыя дзверы: яны неяк дзіўна пачыналі ні з таго ні з сяго дрыжаць.

– Ніякіх вынікаў?

– Ніякіх.

– Хочаце пачуць, што я пра гэта думаю? Не трэба было рабіць з гэтай гісторыі нічога складанага.

– Ну вядома! – адказаў Мэгрэ. – Што ж тут складанага, у гэтай гісторыі?! Аднойчы вечарам знікае чалавек, і паўтара месяца ніхто не ведае, што з ім. Нарэшце яго знаходзяць у Парыжы з разбітым і залатаным чэрапам, зусім без памяці. Яго прывозяць дамоў, і тае ж ночы ён памірае – атручаны. Тым часам з Гамбурга на яго банкаўскі рахунак прыходзіць трыста тысяч франкаў. Усё проста! Усё ясна!

Нягледзячы на камісаравы словы і даволі зычлівы тон, з якім яны былі сказаны, мэр адказаў яшчэ больш катэгарычна:

– Ва ўсякім выпадку, справа, можа, усё роўна прасцейшая, чым вы думаеце. І, дапускаючы, што ў ёй нямала дзіўнага, не варта было, лічу, надаваць ёй такі трывожны характар. Калі разважаць пра гэта ў шынках, дык можна дужа засмуціць галовы тым, у каго мазгі праз алкаголь і без таго размяклі.

Мэгрэ адчуваў на сабе жорсткі інквізітарскі позірк. Мэр гаварыў павольна, чаканіў словы, усё роўна як прамаўляў абвінаваўчы акт.

– З другога боку, паліцыя ані разу не звярнулася да кампетэнтных органаў улады!.. Я, мэр, нічога не ведаю тое, што адбываецца ў порце…

– Ваш садоўнік носіць сандаліі на вяровачнай падэшве?

Мэр хутка зірнуў на паркет, дзе віднеліся сляды. Малюнак вяровачнай падэшвы быў выразны.

– Адкуль я ведаю?

– Прабачце, што перапыніў вас… Проста ў галаву прыйшла адна думка… Дык вы кажаце?..

Але працягваць свой наступ на камісара мэр не стаў.

– Перадайце мне, калі ласка, скрынку з цыгарамі… Вось гэтую… Дзякую…

Ён запаліў цыгару і прастагнаў, бо занадта шырока разявіў рот.

– Увогуле, што вам удалося даведацца? Вы, напэўна, багата што высветлілі…

– Так мала!

– Дзіўна… У партавікоў фантазіі хапае, асабліва пасля некалькіх чарак аперытыву…

– Мяркую, вы адправілі жонку ў Парыж, каб уберагчы яе ад хваляванняў, звязаных з усімі гэтымі драматычнымі падзеямі?.. І тымі, што могуць яшчэ здарыцца?..

З абодвух бакоў адчувалася непрыязнасць. Урэшце, камісар і мэр былі людзі з розных грамадскіх класаў, вельмі непадобныя адзін на аднаго.

Мэгрэ выпіваў у партовым шынку з рыбакамі і шлюзаўшчыкамі.

Мэр прымаў паноў з пракуратуры, частаваў іх чаем з лікёрамі і піробнымі.

Мэгрэ быў просты чалавек, сацыяльную прыналежнасць якога цяжка было вызначыць.

Пан Гранмэзон належаў да мясцовае знаці, паходзіў са старадаўняй буржуазнай сям'і, меў рэпутацыю самавітага суднаўладальніка, прыбыткі якога няспынна растуць.

Вядома, паводзінам мэра была ўласцівая дэмакратычнасць. Ён размаўляў на вуліцы з простымі людзьмі. Але гэтая дэмакратычнасць была маскаю, якую трэба надзяваць, каб мець поспех і на наступных выбарах. Гэта была частка абдуманай жыццёвай лініі.

Камісар трымаўся вельмі ўпэўнена. А з пухлага ружовага твару пана Гранмэзона спакваля сыходзіла важнасць, саступаючы месца разгубленасці.

Каб не выдаць сябе, мэр зрабіў выгляд, што сярдуе.

– Пан Мэгрэ, – пачаў ён, вымавіўшы гэтыя два словы так, нібыта збіраўся дэкламаваць. – Пан Мэгрэ, я дазволю сабе нагадаць вам, што ў якасці мэра абшчыны…

Камісар падняўся – і зрабіў гэта так нязмушана, што субяседнік шырока расплюшчыў вочы. Мэгрэ падышоў да дзвярэй у гасцёўню і спакойна адчыніў іх.

– Ды ўваходзьце ўжо, Луі! Гэта дзейнічае на нервы – няспынна бачыць, як дрыжаць дзверы, і чуць, як вы за імі сапяце!

* * *

Калі Мэгрэ спадзяваўся на тэатральны эфект, дык яго чакала расчараванне. Вялікі Луі, скасабочыўшы як звычайна плечы і нахіліўшы галаву, пакорліва ўвайшоў у кабінет і ўтупіўся вачыма ў падлогу.

Гэта была поза чалавека, які трапіў у далікатнае становішча: як мог ён, просты матрос, апынуцца ў доме ў такой важнай і багатай асобы?

Што ж да мэра, дык гэты зацягваўся цыгараю, выпускаў густыя клубы дыму і глядзеў некуды нерухомымі вачыма.

У пакоі ўжо амаль нічога не было відаць. На вуліцы запалілі ліхтар.

– Я запалю святло, з вашага дазволу, – сказаў Мэгрэ.

– Хвілінку… Закрыйце спярша шторы… Мінакам неабавязкова бачыць… Вось так… Левы шнур… Асцярожна…

Вялікі Луі застыў пасярод пакоя. Мэгрэ павярнуў выключальнік, падышоў да каміна і паварушыў вуголле.

Гэта была яго старая звычка. Яшчэ ён мог, калі быў заклапочаны, стаяць каля печы, заклаўшы рукі за спіну, пакуль не пачынала пячы ў бакі.

Але ж ці змянілася хоць крыху сітуацыя? Гранмэзон па-ранейшаму насмешліва пазіраў на камісара, які на хвіліну задумаўся.

– Вялікі Луі быў тут, калі… калі з вамі гэта здарылася?

– Не! – суха адказаў мэр.

– Шкада! Вы маглі б упасці, скажам, на яго кулак…

– Што дазволіла б вам яшчэ больш растрывожыць некаторыя галовы, расказваючы ў партовым шынку розныя фантастычныя гісторыі… Лепей, мусіць, скончыць з гэтым, камісар?.. Гэтай драмай трэба заняцца нам абодвум… Вы прыехалі з Парыжа… Прывезлі мне адтуль капітана ў вельмі нецікавым стане, і ўсё гаворыць за тое,

што не ў Вістрэаме яго так апрацавалі… Вы былі тут, калі яго забілі… Следства вы ведзяце, як вам заманецца…

У голасе ў мэра гучала рашучасць.

– Я мэр гэтага гарадка ўжо дзесяць гадоў, ведаю ўсіх яго жыхароў і лічу сябе адказным за ўсё, што з імі здараецца. І як мэр кірую адначасова і мясцовай паліцыяй… Дык вось!..

Ён спыніўся на нейкі момант, каб зацягнуцца цыгараю. Попел упаў і рассыпаўся ў яго на халаце.

– Пакуль вы бегаеце па шынках, я таксама не сяджу склаўшы рукі, хай гэта вас не пакрыўдзіць…

– І выклікаеце Вялікага Луі…

– Я выклікаю і іншых, калі знаходжу гэта патрэбным… А цяпер, мяркую, вы не маеце больш нічога істотнага паведаміць мне?..

Ён устаў, каб праводзіць наведніка да дзвярэй. Было відаць, што ногі ў яго трохі зацяклі.

– Спадзяюся, – ціха сказаў Мэгрэ, – вы не будзеце мець нічога супраць, калі Луі пойдзе са мною… Учора ноччу ён ужо даваў мне паказанні… Мне трэба задаць яму яшчэ некалькі пытанняў…

Гранмэзон паказаў жэстам, што яму гэта ўсё роўна. Але сам Вялікі Луі і з месца не скрануўся, усё адно як здранцвеў, – стаяў, апусціўшы вочы.

– Пакуль што не, – буркнуў ён як звычайна.

– Заўважце, – сказаў мэр, – я зусім не супраць таго, каб ён ішоў з вамі. І хачу, каб вы зафіксавалі гэты факт у сваёй памяці і не закідалі мне, што я ўстаўляю вам палкі ў колы… Я выклікаў Вялікага Луі для высвятлення некаторых акалічнасцей… Калі ён пажадаў застацца ў мяне, значыцца, яму ёсць яшчэ што мне сказаць…

Аднак цяпер у вачах у мэра была трывога – не, паніка! Вялікі Луі ўсміхаўся з нейкім жывёльным задавальненнем.

– Я пачакаю вас на вуліцы! – сказаў Мэгрэ матросу.

Але адказу камісар не пачуў. Толькі мэр выціснуў з сябе:

– Да сустрэчы, пан камісар…

Дзверы былі адчыненыя. З кухні прыйшла служанка і моўчкі, з незадаволеным тварам праводзіла Мэгрэ да дзвярэй вілы, якія адразу ж і зачыніла, толькі ён выйшаў.

Дарога была пустынная. Метраў за сто ад вілы ў акне нейкага дома гарэла святло, і далей свяціліся агеньчыкі, але адлегласць паміж імі была вельмі вялікая: пабудовы ўздоўж дарогі Рыва-Бэла танулі ў велізарных садах.

Засунуўшы рукі ў кішэні і ссутуліўшыся, Мэгрэ ступіў некалькі крокаў і апынуўся ў канцы садовага плота, за якім пачыналася пустка. Усе вістрэамскія дамы цягнуліся ўздоўж дзюнаў. За садамі не было нічога, апроч пяску і асакі.

У цемры з'явілася чыясьці постаць. Пачуўся голас:

– Гэта вы, камісар…

– Люка? – адгукнуўся Мэгрэ.

Яны хутка сышліся.

– Чалавек з драгі…

– Выйшаў адсюль? – перапыніў Мэгрэ.

– Не, яшчэ тут.

– Даўно?

– Не больш чвэрці гадзіны… Адразу за вілай.

– Праз плот пералез?

– Не… Здаецца, чакае некага… Я пачуў вашы крокі і пайшоў паглядзець…

– Вядзі…

Яны абышлі сад і апынуліся за вілаю. Люка вылаяўся.

– Што такое?

– Яго тут болей няма…

– Ты ўпэўнены?

– Ён стаяў каля таго куста тамарыксу…

– Думаеш, зайшоў у дом?

– Не ведаю…

– Заставайся тут і не сыходзь з месца ні ў якім выпадку…

Мэгрэ пабег да дарогі. Але і там нікога не ўбачыў. У акне кабінета віднелася палоска святла, аднак да падаконніка нельга было дацягнуцца.

Камісар не стаў вагацца. Рашуча прайшоў праз увесь сад і пазваніў у дзверы. Служанка адчыніла амаль адразу.

– Здаецца, я пакінуў у кабінеце пана мэра люльку…

– Зараз пагляджу.

Яна пакінула яго на ганку, але як толькі жанчына трохі адышла, камісар увайшоў і, ціха падняўшыся на колькі приступак, зазірнуў у кабінет.

Мэр па-ранейшаму сядзеў на сваім месцы, выцягнуўшы ногі. Перад ім стаяў маленькі столік, з другога боку якога сядзеў Вялікі Луі. На століку ляжалі шашкі.

Перасунуўшы шашку, былы катаржнік усё адно як гаўкнуў:

– Ваш ход…

З раздражненнем гледзячы на служанку, якая марудліва шукала яго люльку, мэр ледзь не сарваўся на крык:

– Ну, вы ж бачыце, што яе тут няма… Скажыце камісару, што ён згубіў яе, мабыць, недзе на вуліцы… Ваш ход, Луі…

– А потым вы прынесяце нам выпіць! – самаўпэўнена, нахабна сказаў матрос.

## VII. Дырыжор

Калі Мэгрэ выйшаў з вілы, Люка зразумеў, што настае вельмі адказны момант. Выгляд у камісара быў дужа заклапочаны – здаецца, ён нічога не бачыў перад сабою.

– Ты яго не знайшоў?

– Думаю, што і шукаць не варта. Каб злавіць чалавека ў дзюнах, трэба арганізаваць натуральную аблаву.

Пакусваючы канец люлькі, Мэгрэ зашпіліў паліто і засунуў рукі ў кішэні.

– Бачыш шчыліну ў шторах? – паказаў ён на акно кабінета. – І сцяну насупраць. Дык вось, стаўшы вунь на той карніз, што на гэтай сцяне, ты, я думаю, зможаш сёе-тое праз гэтую шчыліну ўбачыць.

Люка быў такі ж масіўны, як і Мэгрэ, але меншы ростам. Уздыхнуўшы, ён палез на карніз, адначасова гледзячы на дарогу, каб пераканацца, што там цяпер няма мінакоў.

Са змярканнем пацягнула ветрам. Ён хутка набіраў сілу, дрэвы ў садзе шумелі.

– Бачыш што-небудзь?

– Не, трошкі не дацягваюся, сантыметраў пятнаццаць – дваццаць.

Мэгрэ моўчкі падышоў да груды камення ўскрай

дарогі і прынёс некалькі.

– Паспрабуй так.

– Край стала бачу, людзей – яшчэ не.

Камісар прынёс яшчэ некалькі камянёў.

– Цяпер добра! Яны гуляюць у шашкі. Служанка падае шклянкі, яны дымяцца – думаю, гэта грог.

– Заставайся тут!

І Мэгрэ пачаў крочыць узад і ўперад па дарозе. Метраў за сто ад вілы віднеўся «Марацкі прытулак», а за ім – порт. Праехаў грузавічок булачніка. Камісар ледзь не спыніў яго, каб пераканацца, што ў ім ніхто не хаваецца, але перадумаў.

Бываюць аперацыі на першы погляд даволі простыя, але правесці іх немагчыма. Напрыклад, знайсці чалавека, які раптам нібыта скрозь зямлю праваліўся за мэравай вілаю! Дзе яго шукаць: у дзюнах, на беразе, у порце, у гарадку? Перакрыць усе дарогі? Дык і дваццаці жандараў на тое б не хапіла. Калі гэты чалавек хітры – усё роўна з рук выслізне.

А тут невядома яшчэ, ні хто ён, ні як выглядае.

Мэгрэ вярнуўся да сцяны, на карнізе якой стаяў, трымаючыся з усяе сілы, Люка.

– Што яны робяць?

– Гуляюць.

– Размаўляюць?

– Не разяўляючы рота. Катаржнік паклаў локці на стол і п'е ўжо трэцюю шклянку грогу.

Прайшло яшчэ чвэрць гадзіны. Люка пачуў званок і паклікаў камісара.

– Звоніць тэлефон. Мэр хоча падысці, але слухаўку здымае Луі.

Яны не чулі, што гаварыў Луі, але было абсалютна ясна, што ён задаволены.

– Скончыў?

– Зноў пачалі гуляць.

– Заставайся тут.

Мэгрэ рушыў да шынка. Там, як звычайна ў гэты час, некалькі партавікоў гулялі ў карты. Убачыўшы камісара, яны пачалі запрашаць яго выпіць з імі.

– Не цяпер. Дзяўчына, у вас ёсць тэлефон?

Апарат вісеў на сцяне ў кухні. Там сядзела старая –

чысціла рыбу.

– Алё, гэта пошта? Я з паліцыі. Будзьце ласкавы, скажыце, адкуль толькі што тэлефанавалі мэру?

– З Кана, пан.

– Які нумар?

– Сто дваццаць два… Гэта вакзальны шынок…

– Дзякую…

Нейкі час ён так і стаяў пасярод шынка, нічога не прыкмячаючы вакол сябе.

– Адсюль да Кана дванаццаць кіламетраў, – прашаптаў ён раптам.

– Трынаццаць! – паправіў капітан Дэлькур, які толькі што ўвайшоў у шынок. – Як справы, камісар?

Мэгрэ нічога не чуў.

– Інакш кажучы, паўгадзіны на ровары, – зноў прашаптаў ён.

Ён успомніў, што партовыя рабочыя, якія амаль усе жылі ў гарадку, прыязджалі ў порт на роварах і пакідалі іх на цэлы дзень каля шынка.

– Праверце, калі ласка, ці ўсе ровары на месцы!

І з гэтага моманту ўсё пайшло, нібы ў зладжаным механізме. Думка Мэгрэ працавала, быццам шасцярня, рух якой дакладна адпавядаў развіццю падзей.

– Чорт! Няма майго…

Камісар не здзівіўся, не задаваў пытанняў. Ён зноў прайшоў на кухню і зняў слухаўку.

– Дайце мне паліцэйскі камісарыят Кана… Так… Дзякуй… Алё! Гэта галоўны камісарыят? З вамі гаворыць камісар Мэгрэ з крымінальнай паліцыі. Калі адыходзіць цягнік на Парыж?.. Як?.. Не раней адзінаццаці?.. Не!.. Слухайце!.. Будзьце ласкавы, занатуйце… Першае. Праверце, ці праўда пані Гранмэзон… але, жонка суднаўладальніка… паехала на аўтамабілі ў Парыж. Другое. Даведацца, ці не з'яўляўся ў іх у доме або ў канторы хто-небудзь незнаёмы. Але, гэта проста! Толькі гэта яшчэ не ўсё. Вы натуеце? Трэцяе. Абысці ўсе гаражы горада. Колькі іх?.. Каля дваццаці?.. Чакайце! Мяне цікавяць толькі тыя, што даюць машыны напракат… Пачніце з раёна вакзала… Высветліце таксама, ці не браў хто напракат машыну да Парыжа, з шафёрам ці без… Даведайцеся, ці не купіў хто старую машыну… Алё!

Чакайце, я вам кажу!.. Магчыма, ён пакінуў у Кане ровар… Але, гэта ўсё!.. У вас хопіць паліцэйскіх, каб зрабіць гэта ўсё адразу ж?.. Добра, дамовіліся!.. Як толькі хоць пра што-небудзь даведаецеся, тэлефануйце мне ў «Марацкі прытулак» у Вістрэаме…

Партавікі, якія пацягвалі патроху аперытыў у горача натопленай зале, чулі ўсё. Калі Мэгрэ вярнуўся з кухні, твары ў іх былі сур'ёзныя, устрывожаныя.

– Вы думаеце, мой ровар… – пачаў быў шлюзаўшчык.

– Грогу! – суха загадаў Мэгрэ.

Гэта быў ужо не той чалавек, які яшчэ ўчора зычліва ўсміхаўся і чокаўся з кожным з іх. Цяпер ён ледзь бачыў наведнікаў шынка, амаль не пазнаваў…

– «Сэн-Мішэль» не вярнуўся з Кана?

– Яны занялі чаргу на вячэрняе шлюзаванне. Але надвор'е не дазволіць ім выйсці ў мора.

– Шторм?

– Ва ўсякім разе, вецер будзе вялікі. Ды яшчэ паўночны, а з гэтым лепш не жартаваць. Вы чуеце мяне?

Напружыўшы слых, можна было пачуць, як б'юцца аб палі пірса хвалі. Дзверы ў шынку аж дрыжалі – так усхадзіўся вецер.

– Калі мне раптам будуць тэлефанаваць, паклічце мяне. Я буду на дарозе… Метраў сто адсюль…

– Насупраць мэравага дома?

На вуліцы Мэгрэ з вялікаю цяжкасцю распаліў люльку. Густыя хмары праплывалі так нізка, што, здавалася, закраналі вершаліны таполяў уздоўж дарогі. Нават за пяць метраў было амаль немагчыма разгледзець інспектара Люка, які па-ранейшаму стаяў на карнізе.

– Нічога новага?

– Больш не гуляюць. Луі раптам абрыдла, і ён змяшаў шашкі.

– Што цяпер робяць?

– Мэр сядзіць у крэсле, выцягнуў ногі. Луі паліць цыгары і п'е грог. Разламаў ужо з дзесятак цыгар. Робіць гэта з іранічным выглядам, каб больш раззлаваць мэра.

– Колькі ён грогу выпіў?

– Пяць або шэсць шклянак…

Мэгрэ бачыў толькі вузкую палоску святла. Міма

праехалі на роварах да гарадка муляры – вярталіся з працы. Потым з'явілася нейкая павозка. Разгледзеўшы ў цемры постаці людзей, селянін пачаў паганяць каня – аддаляючыся, колькі разоў з трывогаю азірнуўся.

– А што служанка?

– Яе больш не відаць. Мабыць, на кухні. Мне яшчэ доўга тут стаяць?.. Прынясіце ўжо хоць яшчэ колькі камянёў, а то ж на дыбачках стаю…

Мэгрэ прынёс камяні. Мора ўсё больш раз'юшвалася. Хвалі каля берага падымаліся, пэўна, метры на два і разбіваліся на пяску ў белы шум.

У раёне порта нехта гучна бразнуў дзвярыма. Відаць, у шынку. У садзе з'явілася чыясьці постаць – чалавек нешта выглядваў. Мэгрэ кінуўся да яго.

– А, гэта вы… Вас просяць да тэлефона… Выклікаў Кан.

– Алё!.. Камісар Мэгрэ? Як вы гэта ўгадалі?!. Пані Гранмэзон праехала сёння раніцаю праз Кан з Вістрэама ў Парыж. Яна пакінула дачку дома, пад нагляд гувернанткі… Апоўдні выехала на машыне… Наконт незнаёмага вы таксама ўгадалі… Толькі мы звярнуліся ў першы ж гараж, насупраць вакзала, нам адразу адказалі… Гэты чалавек прыехаў на ровары… Хацеў узяць напракат машыну без шафёра… Яму адказалі, што яны такіх паслуг не робяць… Чалавек спяшаўся… Ён спытаў, ці нельга купіць якую машыну, хуткую на хаду, але пажадана старую… Яму прадалі аўтамабіль за дванаццаць тысяч франкаў, якія ён адразу ж і выклаў… Машына – жоўтая, спартовага тыпу, з адкрытым верхам… Як і на ўсіх машынах, што на продаж, на ёй напісана літара «w»…

– Вам вядома, куды яна накіравалася?

– Чалавек пытаўся, як праехаць у Парыж праз Лізьё і Эўрэ.

– Тэлефануйце ў паліцыю і жандармерыю Лізьё, Эўрэ, Манту, Сэн-Жэрмэна… Папярэдзьце Парыж, каб сачылі за ўсімі ўездамі ў горад, асабліва ў раёне Маё…

– Машыну трэба спыніць?

– Але, і арыштаваць вадзіцеля! У вас ёсць яго апісанне?

– Гаспадар гаража кажа, што ён даволі высокага росту, сярэдніх гадоў, у светлым элегантным гарнітуры…

– Загад у сіле: тэлефанаваць мне ў Вістрэам, як толькі…

– Прабачце, хутка сем гадзін… Пасля сямі тэлефоннай сувязі з Вістрэамам няма… Хіба што вы звернецеся да мэра…

– Чаму?

– Таму што яго нумар першы і ноччу ў яго прамая сувязь з Канам.

– Пасадзіце каго-небудзь на камутатар. Калі папросяць мэра, трэба праслухаць размову… У вас ёсць машына?

– Але, малалітражка.

– Ну й хопіць, каб даехаць да мяне з паведамленнем… Я па-ранейшаму ў «Марацкім прытулку».

У шынку капітан Дэлькур асмеліўся спытацца ў Мэгрэ:

– Гэта вы забойцу ловіце?

– Не ведаю!

Людзі ў шынку не маглі зразумець, чаму Мэгрэ, яшчэ ўчора такі сардэчны і просты, здаваўся цяпер далёкім ад іх і нават злым.

Ён выйшаў, нічога не растлумачыўшы. Вецер усё больш хваляваў мора. На мосце, які дрыжаў пад націскам буры, камісару прыйшлося шчыльна зашпіліцца.

Каля Жарысавага дома ён спыніўся і пасля некаторых ваганняў зазірнуў у замок. У глыбіні калідора ён убачыў зашклёныя дзверы кухні. Гарэла святло. Нехта хадзіў паміж плітою і сталом.

Мэгрэ пазваніў. Жулі замерла са сподачкам у руках, пасля паставіла яго на стол і выйшла з кухні да дзвярэй.

– Хто там? – спытала яна з трывогаю.

– Камісар Мэгрэ!

Жулі адчыніла, прапусціла яго. Яна нервавалася, увесь час азіралася, вочы ў яе былі чырвоныя ад слёз.

– Уваходзьце… Я рада, што вы прыйшлі. Ведалі б вы, як мне страшна ў гэтым доме адной! Мусіць, я тут не застануся…

Мэгрэ ўвайшоў у кухню, як звычайна старанна прыбраную.

На стале, засланым белай цыратаю, стаялі толькі кубак і талерка з хлебам і маслам. Ад рондаля на пліце ішоў

салодкі пах.

– Какава? – спытаўся Мэгрэ.

– Не хочацца гатаваць сабе адной... Вось абыходжуся кубкам какавы...

– Не звяртайце на мяне ўвагі... Ешце...

Спачатку яна саромелася, пасля, рашыўшыся, наліла ў кубак какавы і пачала ўмачаць у яе вялікія кавалкі намазанага маслам хлеба, які ела потым з лыжкі, апусціўшы застылыя вочы.

– Ваш брат яшчэ не прыходзіў?

– Не! Нічога не разумею... Толькі што хадзіла ў порт, думала сустрэць яго там. Маракі, калі ім няма чаго рабіць, заўсёды бадзяюцца ў порце...

– Вы ведалі, што ваш брат сябруе з мэрам?

Жулі кінула на камісара разгублены позірк.

– Што вы хочаце сказаць?

– Цяпер яны гуляюць у шашкі ў мэравым доме.

Дзяўчына падумала, што яе разыгрываюць, але калі Мэгрэ запэўніў яе, што гэта чыстая праўда, яна сумелася яшчэ больш.

– Не разумею...

– Чаму?

– Таму што мэр не такі ўжо просты з людзьмі... А галоўнае, я ведаю, як ён не любіць Луі. Колькі разоў чапляўся да яго! Хацеў нават пазбавіць пасведчання на права жыхарства...

– А з капітанам Жарысам?

– Што?

– Пан Гранмэзон сябраваў з капітанам?

– Як з усімі! Здароўкаецца за руку. Жартуе... Дадае колькі слоў пра надвор'е – але гэта ўсё. Іншы раз, я ўжо вам казала, ён браў майго гаспадара на паляванне... Але толькі каб не быць аднаму...

– Вы яшчэ не атрымалі ліст ад натарыуса?

– Атрымала! Ён паведамляе, што я адзіная спадчынніца... Што б гэта ўсё магло значыць? Праўда, што дом застаецца мне?

– І трыста тысяч франкаў таксама!

Амаль нерухомая, яна машынальна працягвала есці, пасля, круцячы галавою, вымавіла:

– Гэта немагчыма... Недарэчнасць нейкая... Я ж вам

кажу: у капітана ніколі не было такіх грошай!

– Дзе яго звычайнае месца?.. Ён вячэраў на кухні?

– Там, дзе вы седзіце, у плеценым крэсле.

– Вы елі разам?

– Звычайна… Хіба што час ад часу я ішла зірнуць на пліту і падаць што-небудзь… За вячэраю ён любіў чытаць газету, іншы раз уголас…

Мэгрэ быў не надта чуллівы. І ўсё ж такі яго ўсхваляваў ідылічны спакой, у якім ён цяпер сябе адчуваў. Здавалася, што гадзіннік цікаў надзвычай марудна. Водбліск святла ад меднага маятніка адбіваўся на сцяне. І гэты салодкі пах какавы… Пры кожным руху Мэгрэ плеценае крэсла прыемна паскрыпвала – як і тады, пэўна, калі ў ім сядзеў капітан Жарыс…

Жулі было страшна адной у гэтым доме. Але яна не рашалася пакінуць яго. І камісар разумеў, што нешта трымала яе ў гэтых сценах – не адпускала, бадай, звычка… Яна ўстала і пайшла да дзвярэй. Мэгрэ сачыў за ёю вачыма. Жулі ўпусціла ў кухню белую кошку, якая падышла да міскі з малаком каля печы.

– Бедная Міну! – сказала дзяўчына. – Гаспадар так любіў яе… Сядзела пасля вячэры ў яго на каленях, пакуль ён не ішоў спаць…

Які глыбокі спакой – у ім адчувалася нават нейкая пагроза… Спакой цяжкі і напружаны…

– Вы напраўду нічога не хочаце мне сказаць, Жулі?

Яна дапытліва глянула на яго.

– Я думаю, што вось-вось адкрыю праўду… Любое ваша слова дапаможа мне… Вось чаму я і пытаюся, ці не хочаце вы расказаць мне што-небудзь…

– Клянуся вам…

– Пра капітана Жарыса…

– Нічога!

– Пра вашага брата…

– Нічога… Клянуся вам…

– Пра чалавека, які, пэўна, быў у гэтых мясцінах і якога вы не ведаеце…

– Не разумею…

Яна ўсё ела кавалкі хлеба, якія плавалі ў жоўтай ад масла какаве – Мэгрэ і глядзець на гэтакую ежу было непрыемна.

– Добра, я пайду!

Жулі кінула на камісара роспачны позірк, у якім адчувалася і нейкая крыўда. Дзяўчыну зноў чакала адзінота. Відаць было, што ёй хочацца пра нешта спытацца.

– Скажыце, а пахаванне… Я думаю, – узняла яна на яго вочы, – нельга так доўга чакаць… бо труп…

– Ён пакладзены ў лёд, – з цяжкасцю знайшоў камісар адказ.

Жулі ўздрыгнула.

* * *

– Ты тут, Люка?

Было так цёмна, што ўжо нічога нельга было разгледзець. Да таго ж бура заглушала ўсё навокал. У порце, кожны на сваім месцы, чакалі прыбыцця судна з Глазга, якое, зрабіўшы няправільны манеўр, гудкамі падавала каля пірса сігналы.

– Я тут.

– Што яны робяць?

– Ядуць. Хацеў бы я быць на іх месцы. Крэветкі, малюскі, амлет і нешта падобнае на халодную цяляціну.

– Яны абодва за сталом?

– Абодва. Луі ўсё яшчэ не зняў са стала локці.

– Гутараць?

– Мала. Час ад часу выціскаюць па слову, але, здаецца, ім няма пра што гаварыць.

– П'юць?

– Матрос п'е. На стале дзве бутэлькі. Дарагое віно. Мэр увесь час падлівае.

– Бы напаіць хоча?

– Выдае на тое. Служанка смешна трымаецца. Так баіцца зачапіць госця, што калі ёй трэба прайсці міма, дык абыходзіць яго.

– Ніхто больш не званіў?

– Не… Чакайце. Луі сморкаецца ў сурвэтку, устае… Ідзе па цыгары. Скрынка – на каміне. Падае мэру – той адмаўляецца, круціць галавою. Служанка нясе сыр… Хоць бы сесці на што-небудзь! – жаласна дадаў Люка. – У мяне ногі замерзлі. Паварушыцца баюся, каб не грымнуцца.

Гэтага было мала, каб разжаліць Мэгрэ: ён і сам дзесяткі разоў быў у падобных сітуацыях.

– Зараз прынясу табе паесці і выпіць.

У гатэлі «Універсаль» была добрая вячэра, але Мэгрэ абышоўся кавалкам хлеба з паштэтам, праглынуў яго стоячы. Пасля зрабіў калегу бутэрброд і ўзяў недапітую бутэльку бардоскага віна.

– А я зрабіў вам такі буайбэс[5], які вы і ў Марселі не пакаштуеце! – пачаў угаворваць прысесці гаспадар.

Але нішто ўжо не магло ўтрымаць камісара. Вярнуўшыся да Люка, ён у каторы раз задаў тое самае пытанне:

– Што яны робяць?

– Служанка прыбрала стол. Мэр у крэсле паліць адну за адной цыгары. Па-мойму, Луі засынае. Цыгара ў яго ўсё яшчэ ў роце, але дыму не відаць.

– Што яму далі выпіць?

– Поўную шклянку з бутэлькі, што на каміне.

– Арманьяк, – успомніў Мэгрэ.

– Чакайце... На трэцім паверсе запалілася святло... Пэўна, служанка збіраецца спаць. Мэр устае, ідзе...

Чуюцца нейкія галасы – недзе каля шынка. Шум матора. Можна разабраць адсюль некаторыя словы:

– За сто метраў? У доме?..

– Не. Каля дома.

Мэгрэ пайшоў насустрач машыне. Спыніў яе даволі далёка ад дома, каб не ўстрывожыць мэра. У машыне сядзелі некалькі чалавек у паліцэйскіх мундзірах.

– Што новага?

– З Эўрэ паведамілі, што чалавек у жоўтай машыне арыштаваны.

– Хто ён?

– Пачакайце! Ён пратэстуе. Пагражае, што выкліча пасла.

– Іншаземец?

– Нарвежац. Нам сказалі па тэлефоне яго прозвішча, але немагчыма было разабраць: Марціно ці Маціно... Здаецца, што дакументы ў парадку... Жандары пытаюцца, што з ім рабіць...

---

5 Рыбны суп з часнаком і вострымі прыправамі.

– Везці яго сюды, разам з жоўтай машынаю… Хто-небудзь з жандараў, напэўна, умее вадзіць. А вы едзьце ў Кан… Паспрабуйце даведацца, дзе звычайна спыняецца пані Гранмэзон, калі прыязджае ў Парыж…

– Нам гэта ўжо сказалі. Гатэль «Лютэцыя», бульвар Распай.

– Тэлефануйце туды з Кана і даведайцеся, ці прыехала яна і што робіць. Гэта не ўсё! Калі яна там, звярніцеся ад майго імя ў крымінальную паліцыю і папрасіце ўзяць яе пад нагляд. Але каб асцярожна!..

Машына ў тры прыёмы развярнулася на вузкай дарозе. Мэгрэ зноў падышоў да Люка – той чамусьці спускаўся ўніз.

– Чаму ты злез?

– А няма на што больш глядзець.

– Разышліся?

– Не. Але мэр падышоў да акна і зашмаргнуў шторы…

Метраў за сто ў шлюз паволі ўваходзіла судна з Глазга. Чуліся ангельскія каманды. Вецер сарваў з галавы камісара капялюш. Святло ў акне на трэцім паверсе раптам пагасла. Віла патанула ў цемры.

## VIII. Мэр вядзе следства

Мэгрэ стаяў пасярод дарогі, засунуўшы рукі ў кішэні і нахмурыўшы бровы.

– Вы чымсьці ўстрывожаны? – спытаў Люка, які добра ведаў свайго шэфа.

Сам ён быў устрывожаны, бо надта змрочна пазіраў на вілу.

– Нам трэба быць там, усярэдзіне, – ціха сказаў камісар, узіраючыся ў кожнае акно.

Але ўсе яны зачыненыя. Не было ніякай магчымасці прайсці ў дом. Мэгрэ ціха падышоў да дзвярэй, нахіліў галаву, прыслухаўся. Зрабіў памочніку знак маўчаць. І абодва прыпалі вушамі да дубовых дзвярэй.

Галасоў чуваць не было. Але з кабінета даносіўся тупат ног і глухі, мерны стук.

Няўжо яны біліся? Наўрад ці: удары не былі б такія роўныя. Калі б яны біліся, дык, пэўна, перамяшчаліся б па

пакоі, штурхалі адзін аднаго і натыкаліся на мэблю, а ўдары былі б то часцейшыя, то радзейшыя.

А тут нібыта палі забівалі. Можна было нават пачуць цяжкае дыханне таго, хто наносіў удары:

– Х-ха!.. Х-ха!.. Х-ха!..

І як кантрапункт гэтаму хаканню – глухі хрып.

Мэгрэ глянуў інспектару ў вочы, паказаў рукою на замок – і Люка ўсё зразумеў, выняў з кішэні набор адмычак.

– Толькі ціха! – папярэдзіў Мэгрэ.

І ў доме цяпер было ціха. Цішыня была нейкая цяжкая, трывожная. Ні ўдараў, ні крокаў. Хіба што чулася яшчэ крыху хрыплае дыханне чалавека, як бы з астатняй сілы.

Люка даў знак і адчыніў дзверы. Злева, з кабінета, прабівалася святло. Мэгрэ пацiснуў плячыма, нічога не разумеючы. Ён перавысіў свае паўнамоцтвы. Вельмі перавысіў. І зрабіў гэта ў доме афіцыйнай асобы, ды яшчэ такой далікатнай, як мэр Вістрэама.

– Ну, што тут ужо зробіш!

З калідора выразна даносілася дыханне, але толькі аднаго чалавека. Ніякіх рухаў. Люка намацаў у кішэні рэвальвер. Адным штуршком Мэгрэ адчыніў дзверы.

І адразу ж, збянтэжаны, застыў. Ён не стаў сведкам новай драмы.

Перад яго вачыма было нешта зусім іншае.

Карціна, якую ўбачылі Мэгрэ і Люка, была дзіўная і недарэчная. Гранмэзон стаяў з разбітымі вуснамі і падбародкам, залітым крывёю. Халат, раскіданыя валасы, тупы выраз твару надавалі яму выгляд баксёра, які прыходзіць да прытомнасці пасля накаўта.

Ледзь трымаючыся на нагах, ён абапіраўся на камін, так моцна адхіліўшыся назад, што можна было толькі дзівіцца, як ён яшчэ не грымнуўся вобзем.

За два крокі ад яго стаяў Вялікі Луі. Валасы раскудлачаныя, на яшчэ сціснутых кулаках – кроў. Кроў мэра!

Выходзіць, гэта яго дыханне чулі яны ў калідоры. Гэта ён соп, лупцуючы Гранмэзона! Ад матроса пахла спіртным. На стале – перакуленыя шклянкі.

Камісар і інспектар былі настолькі разгублены, а мэр і

Вялікі Луі так атупелі, знясіленыя, што прайшло яшчэ колькі часу, перш чым яны загаварылі.

Гранмэзон выцер вусны і падбародак крысам халата і, стараючыся трымацца на нагах, прамармытаў:

– Што ж... што ж гэта?..

– Выбачайце мяне за тое, што я ўвайшоў у дом, – пачціва сказаў Мэгрэ. – Я пачуў шум... Дзверы былі не зачыненыя.

– Хлусня!

Мэр сабраў усю сваю сілу, каб вымавіць гэтае слова.

– Ва ўсякім выпадку, я задаволены, што своечасова прыйшоў, каб абараніць вас і...

Мэгрэ кінуў позірк на Вялікага Луі, які не здаваўся разгубленым, – наадварот, неяк дзіўна ўсміхаўся, пільна гледзячы на мэра.

– Я не маю патрэбы ў ахове.

– Аднак гэты чалавек напаў на вас.

Стоячы перад люстрам, Гранмэзон спрабаваў прывесці сябе ў парадак і нерваваўся, бо кроў не пераставала цячы.

Цяпер гэта было неверагоднае, вычварнае спалучэнне сілы і слабасці, упэўненасці і млявасці.

Заплылае вока, сінякі і раны сагналі з яго твару лялечную гладкасць – ён стаў шэры.

З нечаканай хуткасцю мэр зноў напусціў на сябе самаўпэўнены выгляд і, прытуліўшыся спінаю да каміна, пачаў атаку на камісара з інспектарам:

– Мяркую, што вы зламалі дзверы майго дома...

– Прабачце! Мы хацелі памагчы вам.

– Хлусня! Вы не маглі ведаць, што мне што-небудзь пагражае. І мне нішто не пагражала! – наўмысна адчаканіў ён апошнія словы.

Мэгрэ ўважліва ўглядзеўся ў Вялікага Луі.

– Спадзяюся, аднак, што вы дазволіце мне забраць гэтага пана...

– Ні ў якім разе!

– Ён вас біў. І, дарэчы, жорстка...

– Мы ва ўсім разабраліся самі. І гэта нікога не датычыцца, апроч самога мяне!

– Я магу меркаваць, што вы, крыху спешна спускаючыся сёння раніцаю па лесвіцы, натыкнуліся

менавіта на яго кулак…

Тут варта было б сфатаграфаваць усмешку Вялікага Луі: той проста свяціўся ад задавальнення. Аддыхваючыся, матрос разам з тым сачыў, што адбывалася вакол яго. Апошняя сцэна, здавалася, была яму асабліва прыемная – чыстая асалода. Бясспрэчна, Луі былі вядомыя таемныя спружыны таго, што хацеў цяпер разгадаць камісар!

– Я ўжо казаў вам, пан Мэгрэ, што і я са свайго боку вяду расследаванне. Я не ўмешваюся ў вашыя справы, дык, будзьце ласкавы, не ўмешвайцеся і вы ў мае… І не здзіўляйцеся, калі я падам на вас у суд за парушэнне недакранальнасці жытла з узломам.

Цяжка сказаць, чаго было больш у гэтай сцэне: камічнага ці трагічнага. Мэр хацеў здавацца важным, трымаўся, расправіўшы плечы, але з яго вуснаў па-ранейшаму цякла кроў, а твар быў як адзін вялізны сіняк, халат быў увесь памяты…

Нарэшце, прысутнасць Вялікага Луі, здавалася, усё роўна як падсцёбвала яго.

Памятаў ён, мусіць, і пра папярэднюю сцэну, якую няцяжка было ўявіць: катаржнік, напэўна, біў з блізкай адлегласці і з такою сілаю, што ўрэшце не мог ужо і размахнуцца як след.

– Выбачайце, пан мэр, але я не магу пайсці ад вас зараз. Улічваючы той факт, што вы – адзіны грамадзянін Вістрэама, у якога ноччу дзейнічае тэлефон, я дазволіў сабе даць ваш нумар, бо мне павінны званіць.

Замест адказу Гранмэзон суха сказаў:

– Зачыніце дзверы!

Сапраўды, дзверы былі зачыненыя.

Мэр узяў адну з рассыпаных на каміне цыгар, хацеў запаліць, але, відаць, адзін ужо дотык цыгары да вуснаў выклікаў у яго вельмі непрыемнае пачуццё, бо ён з раздражненнем адкінуў яе.

– Калі ласка, Люка, злучы мяне з Канам.

Камісар перавёў позірк з мэра на Вялікага Луі. Думкі імкліва праносіліся ў яго галаве.

На першы погляд жорстка адлупцаваны Гранмэзон павінен быў здавацца пераможаным, слабым не толькі фізічна, але і маральна: яго ж заспелі ў надзвычай непрыемнай сітуацыі, якая так уніжала яго!

Дык не! За колькі хвілін ён падабраўся і хоць збольшага вярнуў сабе рэспектабельны выгляд паважанага буржуа.

Цяпер ён быў амаль спакойны і глядзеў на Мэгрэ высакамерна.

У Вялікага Луі роля была прасцейшая. Ён быў пераможца, на ім не было ніводнае драпіны. І яшчэ хвіліну назад ва ўсмешцы ў яго ззяла амаль дзіцячая радасць.

Але неўзабаве матрос пачаў адчуваць сябе неяк няёмка і не ведаў цяпер, што рабіць, як стаць, куды глядзець.

«Хто з іх можа быць галоўны ў гэтай справе?» – задаваў сабе пытанне Мэгрэ.

Ні адзін, ні другі адказ ідавочным не здаваўся. Пад падазрэннем заставаліся абодва.

– Алё! Паліцыя Кана? Камісар Мэгрэ просіць перадаць вам, што ён будзе ўсю ноч у доме мэра… Мэра… Тэлефануйце па нумары адзін… Алё!.. Ёсць што-небудзь новае? Ужо ў Лізьё?.. Дзякуй! Але.

Паклаўшы слухаўку, Люка сказаў камісару:

– Машына толькі што праехала праз Лізьё. Яна будзе тут праз сорак пяць хвілін.

– Калі я не памыляюся, – пачаў мэр, – вы сказалі…

– Што я застануся тут на ўсю ноч. З вашага дазволу, натуральна… Ужо два разы вы пачыналі расказваць мне пра ваша ўласнае расследаванне. Думаю, лепей за ўсё будзе, калі вы дазволіце аб'яднаць вынікі, якія мы атрымалі абодва.

Мэгрэ не іранізаваў. Ён злаваўся, бо нічога не разумеў у сітуацыі.

– Растлумачце мне, калі ласка, Луі, чаму, калі мы ўвайшлі, вы… хм… білі пана мэра?

Але Вялікі Луі не адказваў, пазіраючы на мэра так, нібыта прапаноўваў яму: «Гаварыце вы!»

Гранмэзон вымавіў:

– Гэта мая асабістая справа.

– Вядома! Кожны мае права быць адлупцаваным, калі яму гэта даспадобы, – усміхнуўся раззлаваны Мэгрэ. – Люка, папрасіце гатэль «Лютэцыя».

Удар быў дакладны. Гранмэзон разявіў рот, хочучы нешта сказаць. Яго рука сціснула мармуровую дошку

каміна.

Люка гаварыў па тэлефоне:

– Пачакаць тры хвіліны?.. Дзякуй... Але...

Мэгрэ гучна запытаўся:

– Вам не здаецца, што расследаванне прымае дужа дзіўны характар? Дарэчы, пан Гранмэзон, вы маглі б зрабіць мне паслугу... Вы – суднаўладальнік і, пэўна, ведаеце некаторых людзей вашага кола з іншых краін. Ці не чулі вы пра такога... чакайце... як гэта яго... Марціно... ці Маціно... з Бергена або Транхейма... Нарвежца, словам...

Маўчанне. Твар у Вялікага Луі пасуровеў. Матрос машынальна наліў сабе ў шклянку віна.

– Шкада, што вы яго не ведаеце... Зараз ён прыедзе...

Усё! Можна было ні пра што больш не распытваць: ніхто не адкажа ні слова! Ніхто і не ўздрыгне нават! Гэта можна было зразумець па адных толькі паставах мэра і матроса.

Гранмэзон змяніў тактыку. Ён прытуліўся спінаю да каміна – вуголле палала каля самых яго ног, – і, гледзячы на яго збоку, можна было падумаць, што ў пакоі толькі ён адзін і быў.

Ну і твар быў у яго цяпер! Размытыя рысы, з падцёкамі і сінякамі, кроў на падбародку. Сумесь рашучасці і пакуты. Адчувалася, што ён панікуе.

Вялікі Луі, паставіўшы ногі на крэсла, усеўся на яго спінцы. Пазяхнуўшы тры ці чатыры разы, ён задрамаў.

Зазваніў тэлефон. Мэгрэ хутка зняў слухаўку.

– Алё! Гатэль «Лютэцыя»? Алё?.. Не вешайце слухаўку... Дайце мне, калі ласка, пані Гранмэзон... Але, яе... Яна павінна была прыехаць сёння пасля абеду ці ўвечары... Я чакаю...

– Спадзяюся, – бляклым голасам пачаў мэр, – вы не збіраецеся ўблытваць маю жонку ў вашыя, скажам так, прынамсі, дзіўныя манеўры?

Але камісар моўчкі чакаў, прыціснуўшы слухаўку да вуха і разглядваючы сурвэту на стале.

– Алё!.. Слухаю... Як вы кажаце?.. Паехала назад?.. Хвілінку... Давайце па парадку... Калі яна прыехала?.. У сем гадзін... Выдатна!.. На сваёй машыне і з шафёрам...

Кажаце, павячэрала ў гатэлі, а потым яе паклікалі да тэлефона?.. І адразу ж паехала назад?.. Дзякуй… Не, гэтага дастаткова…

Ніхто не паварушыўся. Гранмэзон здаваўся яшчэ больш спакойным. Мэгрэ павесіў слухаўку, неўзабаве зняў зноў.

– Алё! Паштовае аддзяленне Кана?.. З вамі гавораць з паліцыі… Будзьце ласкавы, скажыце, абанент, ад якога я вам тэлефаную, заказваў размову з Парыжам яшчэ да майго званка?.. Кажаце, хвілін з пятнаццаць назад?.. Мусіць, прасіў злучыць з гатэлем «Лютэцыя»?.. Дзякую вам…

На лобе ў Мэгрэ блішчалі кропелькі поту. Ён павалі набіў пальцам люльку, потым наліў віна ў адну з дзвюх шклянак, што стаялі на стале.

– Мяркую, камісар, вы ўсведамляеце, што вашыя цяперашнія дзеянні – процізаконныя? Вы залезлі ў дом, зламаўшы дзверы. Застаяцеся тут без майго дазволу. Ды яшчэ сееце паніку ў маёй сям'і. Нарэшце, трымаецеся са мною ў прысутнасці іншага чалавека, як са злачынцам. Вам прыйдзецца адказваць за ўсё гэта.

– Адкажу!

– І раз ужо я не гаспадар у сваім уласным доме, прашу вашага дазволу пайсці спаць.

– Не!

Камісар ужо прыслухоўваўся да шуму матора на дарозе.

– Ідзі адчыні ім, Люка.

Мэгрэ машынальна кінуў у агонь шуфлік вугалю і павярнуўся да дзвярэй якраз у той самы момант, калі ў пакой увайшлі два жандары з Эўрэ.

Паміж імі ішоў мужчына ў кайданках.

– Пакіньце нас, – сказаў Мэгрэ жандарам. – Ідзіце ў партовы шынок і чакайце мяне там усю ноч.

Ні мэр, ні Вялікі Луі не зварухнуліся. Можна было падумаць, што яны ці нічога перад сабою не бачылі, ці не хацелі бачыць. Што ж да чалавека ў кайданках, дык гэты захоўваў абсалютны спакой. Хіба што ледзь прыкметна ўсміхнуўся, калі заўважыў распухлы мэраў твар.

– З кім я мушу гаварыць? – спытаўся ён, аглядваючы прысутных.

Мэгрэ пацiснуў плячыма, усё роўна як паказваў тым самым, што жандары відавочна перастараліся, выняў з кішэні маленькі ключ і разамкнуў кайданкі.

– Дзякую вам… Я быў так здзіўлены…

Мэгрэ з абурэннем спытаўся:

– Здзіўлены?.. Чым?.. Тым, што вас арыштавалі?.. Вы ўпэўнены, што гэта вас так здзівіла?

– Інакш кажучы, я чакаю, калі мне паведамяць, у чым мая віна.

– Ды хоць бы ў тым, што вы ўкралі ровар!

– Прабачце, але я, так сказаць, пазычыў яго! Гаспадар гаража, у якім я купіў машыну, можа гэта пацвердзіць. Я пакінуў ровар у ягоным гаражы і папрасіў гаспадара пераправіць яго ў Вістрэам, а таксама заплаціць яго ўладальніку за нанесеную шкоду…

– Ну, ну!.. Але ж, здаецца, вы не нарвежац?..

Незнаёмы гаварыў без акцэнту ды і з твару не быў падобны на скандынава. Ён быў высокага росту, даволі малады, фігуру меў прыгожую. Элегантны гарнітур быў крыху пamяты.

– Прабачце! Я не нарвежац па паходжанні, але нарвежскі падданы…

– А жывяце ў Бергене?

– У Трамсё, на Лафатэнскіх астравах.

– Вы – камерсант?

– У мяне завод па перапрацоўцы адходаў траскі.

– Такіх, як ікра, напрыклад?

– Ікра і ўсё астатняе. Робім з галоў і печані рыбін тлушч, з касцей – угнаенне…

– Выдатна! Проста выдатна! Застаецца толькі высветліць, што вы рабілі ў Вістрэаме ў ноч з шаснаццатага на семнаццатае верасня…

Незнаёмы не разгубіўся, паволі азірнуўся і адказаў:

– Мяне не было ў Вістрэаме.

– Дзе ж вы былі?

– А вы?

Усміхнуўшыся, ён растлумачыў свой адказ:

– Я хачу сказаць: ці б маглі вы самі вось гэтак раптоўна сказаць, што вы рабілі ў які-небудзь дзень, гадзіну, калі з тае пары прайшло ўжо больш за месяц?

– Вы былі ў Нарвегіі?

– Магчыма.

– Трымайце!

І Мэгрэ працягнуў субяседніку асадку з залатым пяром, якую нарвежац, падзякаваўшы, спакойна паклаў у кішэню.

Дальбог, прыгожы мужчына! Прыкладна таго ж узросту і росту, што і мэр, але больш статны і дужы. У яго цёмных вачах можна было ўгадаць напружанае ўнутранае жыццё. А ўсмешка тонкіх вуснаў казала пра вялікую ўпэўненасць чалавека ў сабе.

На камісаравы пытанні ён адказваў пачціва.

– Мяркую, – сказаў ён, – наша сустрэча – простая памылка, і быў бы рады зноў адправіцца ў дарогу…

– Гэта ўжо іншае пытанне. Дзе вы пазнаёміліся з Вялікім Луі?

Але незнаёмы, насуперак чаканню Мэгрэ, і не паглядзеў на матроса.

– Вялікім Луі? – перапытаў нарвежац.

– Вы пазнаёміліся з капітанам Жарысам, калі ён яшчэ плаваў?

– Прабачце. Я не разумею.

– Вядома! А калі я спытаю ў вас, чаму вы начуеце на борце развалiны-драгі замест таго, каб уладкавацца ў гатэлі, вы таксама будзеце здзіўлены?

– А як вы думаеце? Згадзіцеся, што на маім месцы…

– І, аднак, учора вы прыбылі ў Вістрэам на борце «Сэн-Мішэля». Пры ўваходзе ў порт пераселі са шхуны ў шлюпку. Потым перабраліся на драгу і правялі там ноч. Сёння пасля абеду абышлі вілу, у якой мы цяпер знаходзімся, потым узялі ровар і паехалі ў Кан. Купілі там машыну. Выехалі ў Парыж. І ці не з пані Гранмэзон вы павінны былі сустрэцца ў гатэлі «Лютэцыя»? У такім выпадку няма патрэбы нікуды ехаць. Або я дужа памыляюся, або яна будзе тут сёння ноччу.

Маўчанне. Мэр ператварыўся ў статую. Позірк у яго быў настолькі нерухомы, што ў ім не адчувалася ніякага жыцця. Вялікі Луі пачэсваў раз-пораз патыліцу і пазяхаў, усё яшчэ седзячы, тым часам як усе астатнія стаялі.

– Вас завуць Марціно?

– Але, Жан Марціно.

– Ну дык вось, пан Жан Марціно, падумайце! Ці

сапраўды вам няма чаго паведаміць нам? Вельмі нават магчыма, што адзін з тых, хто тут прысутнічае, хутка ўстане перад судом.

– Мне не толькі няма чаго вам сказаць, але і хочацца папрасіць вашага дазволу папярэдзіць нарвежскага консула, каб ён прыняў неабходныя меры.

І гэты туды ж! Гранмэзон пагражаў ужо, што паскардзіцца, цяпер і Марціно збіраецца зрабіць тое самае! Хіба што адзін Вялікі Луі нікому нічым не пагражаў, згодзен цярпець што хочаш, было б толькі што выпіць.

Чуваць было, як бушаваў шторм, які з прылівам дасягнуў свайго піку.

Позірк у Люка быў вельмі красамоўны. Канечне, ён думаў: «Ну і ўліплі ж мы ў гісторыю! Хоць бы што-небудзь высветлілася!..»

Мэгрэ хадзіў па пакоі, сердаваў, паліў.

– Значыць, вы нічога не ведаеце, ні адзін, ні другі, пра знікненне капітана Жарыса і яго смерць?

Абодва моўчкі пакруцілі галавою. Раз-пораз Мэгрэ спыняў свой позірк на Марціно.

У гэты момант звонку пачуліся хуткія крокі і стук у дзверы. Пасля кароткіх ваганняў Люка пайшоў адчыняць. Убегла Жулі. Яна цяжка дыхала. Спыніўшыся, ледзь вымавіла:

– Камісар, мой брат…

І адразу ж здзіўлена змоўкнула, убачыўшы перад сабою гіганцкую постаць Вялікага Луі, які ўстаў з крэсла.

– Ваш брат?.. – перапытаў Мэгрэ.

– Нічога… Я…

Яна паспрабавала ўсміхнуцца, усё яшчэ цяжка дыхаючы. Адступаючы спінаю назад, наткнулася на Марціно, павярнулася да яго.

– Прабачце, пан…

Стала ясна, што яна не знаёмая з ім.

Праз адчыненыя дзверы ў пакой урываўся вецер.

## IX. Змова маўчання

Жулі спяшалася ўсё расказаць:

– Я была дома зусім адна… Мне было страшна… Легла спаць не раздзеўшыся. Раптам у дзверы моцна

пастукалі… Прыйшоў Ланэк, братаў капітан…

– «Сэн-Мішэль» у порце?

– Ён быў у шлюзе, калі я праходзіла міма… Ланэк хацеў тэрмінова пабачыць брата… Здаецца, яны спяшаюцца адплыць… Я сказала яму, што Луі нават не заходзіў да мяне… І ўстрывожылася за яго, бо ён плёў нешта дзіўнае, я нават не разабрала нічога…

– Чаму вы прыйшлі сюды? – спытаўся Мэгрэ.

– Хацела даведацца, ці няма для Луі якой небяспекі… Ланэк сказаў, што небяспека ёсць і што, мажліва, нічым ужо не паможаш… А ў порце мне перадалі, што вы тут…

Незадаволены матрос пацiснуў плячыма, быццам казаў тым самым, што жанчыны часта хвалююцца праз любую драбязу.

– Вам пагражае небяспека? – спытаўся Мэгрэ, спрабуючы злавіць яго позірк.

Вялікі Луі засмяяўся. Смех у яго быў штучны і здаўся ідыёцкім.

– Чым устрывожаны Ланэк?

– А я адкуль ведаю?

Агледзеўшы прысутных, камісар задуменна, з горыччу вымавіў:

– Значыцца, вы нічога не ведаеце! І ўсе ў аднолькавым становішчы. Вы, пан мэр, не знаёмы з панам Марціно і не ведаеце, чаму Вялікі Луі, якога вы прымаеце, як добрага знаёмага, гуляеце з ім у шашкі, корміце і поіце, пачынае раптам біць вас па твары кулакамі, проста м а л а ц і ц ь…

Ні слова ў адказ.

– І гэта яшчэ не ўсё! Вы лічыце такія паводзіны матроса натуральнымі! Не бароніцеся! Адмаўляецеся нават падаць на яго скаргу. Ды што там – і не думаеце выставіць «вашага сябра» за дзверы!

Камісар павярнуўся да Вялікага Луі.

– Вы таксама нічога не ведаеце! Праводзіце ноч на дразе, але хто там быў з вамі – сказаць не можаце… Вас прымаюць у гэтым доме, як дарагога госця, а за гасціннасць вы плаціце гаспадару лупцоўкаю… І, вядома, вы, як і ўсе, ніколі не сустракаліся з панам Марціно!..

Ніхто нават не ўздрыгнуў. Усе ўпарта разглядвалі

карункі на сурвэце.

– І вы, пан Марціно, таксама ведаеце не больш за іншых. Вам вядома хоць, на чым вы прыбылі з Нарвегіі ў Францыю? Не?.. Вам ямчэй спаць на старой канапе на борце драгі, чым у мяккім ложку ў гатэлі... У Парыж вы едзеце спачатку на ровары, пасля купляеце машыну... Але вы не ведаеце нічога і нікога! Ні пана Гранмэзона, ні Луі, ні капітана Жарыса... Ну, а вы, Жулі, натуральна, ведаеце пра ўсё гэта яшчэ менш за іншых!..

Камісар разгублена зірнуў на Люка. Той зразумеў: і думаць нават не прыходзілася, каб арыштаваць усіх.

Кожны з іх паводзіў сябе вельмі дзіўна, маніў і сам сабе пярэчыў. Але ж і ніхто не даваў сапраўднага доказу!

Гадзіннік паказваў адзінаццаць вечара. Мэгрэ выбіў люльку ў камін.

– Я вымушаны прасіць вас усіх заставацца ў руках правасуддзя. Мне, несумненна, прыйдзецца яшчэ задаць вам некалькі пытанняў, нягледзячы на тое, што вы нічога не ведаеце... Мяркую, пан мэр, вы не маеце намеру пакінуць Вістрэам?

– Не!

– Я вам удзячны... Вы, пан Марціно, маглі б зняць нумар у гатэлі «Універсаль», дзе спыніўся і я...

Нарвежац пачціва нахіліў галаву.

– Люка, правядзі пана ў гатэль, – сказаў камісар памочніку і павярнуўся да Вялікага Луі і Жулі. – Вы абое ідзіце за мною...

Выйшаўшы з вілы, Мэгрэ рушыў спачатку ў шынок. У перапынку паміж шлюзаваннямі партавікі пілі там гарачы грог, грэліся. Камісар адпусціў жандараў, што чакалі яго тут, як ён загадаў. На дварэ зірнуў услед Люка і Марціно. У гатэлі яшчэ гарэла святло: гаспадар не клаўся спаць, чакаў пастаяльцаў.

Жулі была без паліто і дрыжала цяпер ад холаду. Луі зняў куртку і сілаю накінуў яе дзяўчыне на плечы.

Дзьмуў такі моцны вецер, што амаль немагчыма было гаварыць. Закладвала вушы. Халоднае паветра апякала твар, балелі павекі. Ішлі, нахіляючыся ўперад. Партавікі ў шынку глядзелі ім у спіну.

– Гэта «Сэн-Мішэль»? – спытаўся камісар, убачыўшы парусьнік, які выходзіў са шлюза ў порт. Судна

здалося Мэгрэ вышэйшым, чым тады, калі ён убачыў яго ўпершыню.

Матрос нешта прабурчаў. Камісар ледзь зразумеў, што той хацеў сказаць: судна выгрузілася ў Кане і цяпер ішло ўлегцы па новы груз.

Яны падыходзілі ўжо да доміка Жарыса, калі да іх наблізіўся чыйсьці цень. Каб пазнаць адно аднаго, трэба было стаць твар у твар. Чалавек, што падышоў да іх, не надта ўпэўнена сказаў Вялікаму Луі:

– А, вось і ты... Спяшайся, адплываем...

Мэгрэ паглядзеў на недарослага капітана-брэтонца, пасля на мора, якое з грукатам кідала свае магутныя хвалі на пірсы. Неба, скрозь у хмарах, якія плылі і плылі, было трывожнае.

«Сэн-Мішэль» стаяў на якары каля паляў, у поўнай цемры, калі не лічыць маленькае лямпачкі, што гарэла пад рубкаю.

– Хочаце адплываць? – спытаўся камісар.

– А што ж нам рабіць?

– Куды курс?

– У Ларашэль, загрузімся віном...

– Вялікі Луі вам вельмі патрэбны?

– А вы думаеце, можна ўправіцца ўдвух у такое надвор'е?

Жулі змерзла. Слухаючы мужчын, яна пераступала з нагі на нагу. Луі глядзеў то на Мэгрэ, то на судна, на якім ужо скрыпелі шківы.

– Чакайце мяне на шхуне, – сказаў камісар Ланэку.

– Толькі...

– Што?

– Праз дзве гадзіны вада спадзе, і тады нам у мора не выйсці...

У вачах у Ланэка прамільгнуў нейкі цьмяны неспакой. Відаць было, што яму ніякавата. Ён таксама пераступаў з нагі на нагу і не мог ні на чым спыніць позірк.

– Мне трэба зарабляць на жыццё!

Капітан і Луі коратка пераглянуліся, і Мэгрэ зразумеў, якімі думкамі паспелі яны абмяняцца. Іншы раз інтуіцыі можна даверыцца.

Ланэкаў позірк здаваўся нецярплівым і выказваў

нешта накшталт гэтага: «Судна побач… Застаецца аддаць швартоў… Умантуль разок паліцэйскаму – і парадак!»

Пасля кароткіх ваганняў Вялікі Луі змрочна зірнуў на Жулі, крутнуў галавою.

– Чакайце мяне на судне! – паўтарыў Мэгрэ.

– Але… – пачаў быў капітан…

Мэгрэ не адказаў і падаў брату і сястры знак ісці за ім у дом.

* * *

Яны сядзелі ўтраіх на кухні. У жалезнай печы дамавіта гарэў агонь, гудзенне якога часам пераходзіла аж у грукат – такая была цяга.

– Дай нам чаго-небудзь выпіць, – сказаў камісар Жулі.

Дзяўчына дастала з шафы графін з кальвадосам і размаляваныя шклянкі.

Мэгрэ адчуваў, што быў тут цяпер лішні. Жулі дорага б заплаціла, каб застацца з братам сам-насам. Той сачыў за ёй вачыма, у якіх угадваліся любоў і нейкая няўклюдная пяшчота.

Як сапраўдная гаспадыня, Жулі, наліўшы мужчынам, засталася стаяць і падкінула ў печ вугалю.

– Светлая памяць капітану, – сказаў Мэгрэ.

Потым запала доўгае маўчанне. Мэгрэ не спяшаўся з размоваю.

Цішыня давала кожнаму магчымасць лепш адчуць прыемную, цёплую ўтульнасць пакоя.

Патроху гудзенне ў печы загучала пад роўнае ціканне гадзінніка як нейкая мелодыя. Пасля ветру і холаду шчокі расчырванеліся, вочы заблішчалі. Паветра ў пакоі напоўнілася вострым пахам кальвадосу.

– Капітан Жарэс… – задуменна сказаў камісар. – Цяпер я сяджу на яго месцы, у яго крэсле… Плеценым крэсле, якое скрыпіць пры кожным руху… Калі б капітан быў жывы, дык вярнуўся б у гэты час з порта і, пэўна, таксама папрасіў бы крыху спіртнога, каб сагрэцца… Так, Жулі?..

Дзяўчына адвярнулася.

– Ён не адразу пайшоў бы спаць… Іду ў заклад, што

капітан зняў бы абутак, вы прынеслі б яму пантофлі… А ён сказаў бы: «Ну і надвор'е… «Сэн-Мішэль» усё-такі вырашыў выйсці ў мора, памагай яму Бог…»

– Адкуль вы ведаеце?

– Што?

– Што ён так казаў: «Памагай яму Бог»? Менавіта так ён і гаварыў!..

Дзяўчына расхвалявалася і глядзела на камісара з удзячнасцю. Вялікі Луі ўнурыўся.

– Больш ён гэтага не скажа… А які быў шчаслівы… Меў прыгожы дом, сад з кветкамі, якія так любіў, і грошы ў яго былі… Здавалася, усе яго любяць… І ўсё ж такі нехта паклаў усяму гэтаму канец, раптоўна, усыпаўшы крыху белага парашку ў шклянку з вадою…

Жулі зморшчылася. Яна ледзь трымалася, каб не заплакаць.

– Крыху белага парашку – і ўсё… А той, хто гэта зрабіў, будзе жыць шчасліва – ніхто ж не ведае, хто ён!.. Хоць, мусіць, быў нядаўна сярод нас…

– Маўчыце! – папрасіла Жулі, умольна склаўшы рукі. Па твары ў яе цяклі слёзы.

Але камісар ведаў, што робіць. Ён ціха, павалі вымаўляў слова за словам. Гульнёю гэта нельга было назваць – Мэгрэ аддаўся ёй сам. Віною таму быў ідылічны спакой гэтага вечара, які так хваляваў душу, варта толькі было ўявіць сабе ў чатырох сценах кухні каржакаватую Жарысаву постаць.

– У нябожчыка толькі адзін сябар – я!.. Чалавек, які б'ецца ў адзіноце, каб адкрыць праўду і перашкодзіць забойцу Жарыса быць шчаслівым.

Жулі, не вытрымаўшы, рыдала – Мэгрэ гаварыў далей:

– А ўсе вакол маўчаць, усе хлусяць, так што міжволі падумаеш, што ўсе ў нечым вінаватыя, усе маюць дачыненне да злачынства!

– Гэта няпраўда! – крыкнула Жулі.

Вялікі Луі, які адчуваў сябе ўсё больш ніякавата, зноў наліў у абедзве шклянкі.

– Луі першы маўчыць, – зірнуў на матроса камісар.

Жулі паглядвала праз слёзы на брата, быццам працятая праўдай, якую яна толькі што пачула.

– А ён сёе-тое ведае... І нямала ведае... Можа, ён баіцца забойцы?.. Можа, яму ёсць чаго баяцца?..

– Луі! – крыкнула Жулі.

Луі сурова глядзеў некуды ўбок.

– Скажы, што гэта няпраўда, Луі!.. Ты чуеш?..

– Не ведаю я, чаму гэта камісар...

Матрос узняўся – на месцы яму не сядзелася.

– Луі маніць больш за іншых! Запэўнівае, што не знаёмы з нарвежцам, а сам яго ведае! Кажа, што не мае ніякіх спраў з мэрам, а я застаю яго ў доме гэтага мэра, калі ён лупцуе гаспадара...

На вуснах у катаржніка з'явілася ледзь прыкметная ўсмешка. Інакш адрэагавала на гэтыя словы Жулі.

– Гэта праўда, Луі?

І, паколькі той не адказваў, схапіла яго за руку.

– Тады чаму ты не кажаш праўды?.. Ты ж не зрабіў нічога благога, я ў гэтым упэўнена!..

Усхваляваны, ён вызваліў руку. Магчыма, ён быў гатовы здацца. Мэгрэ не даў яму часу абдумацца.

– Хапіла б, можа, адной маленькай дэталі, адной малюпасенькай праўды, каб развалілася ўся гэтая вежа хлусні!..

Ды не! Нягледзячы на ўмольны позірк сястры, Луі быццам скалануўся, усё роўна як скідваў з сябе дробных, але злых ворагаў.

– Нічога я не ведаю...

Адчуўшы, што брат нешта таіць, Жулі спыталася:

– Чаму ты маўчыш?

– Я нічога не ведаю...

– Камісар кажа...

– Я нічога не ведаю!..

– Паслухай, Луі! Я заўсёды верыла табе, ты гэта добра ведаеш! І абараняла цябе, нават перад капітанам Жарысам...

Тут яна пачырванела, пашкадавала, пэўна, што сказала апошнія словы, і спешна загаварыла зноў:

– Ты скажаш праўду, Луі! Я не магу так больш... Я не застануся больш адна ў гэтым доме!..

– Маўчы! – выдыхнуў Луі.

– Што ён павінен сказаць вам, камісар?

– Дзве рэчы. Па-першае, хто такі Марціно.

Па-другое, чаму мэр дазваляе лупцаваць сябе?..

– Чуеш, Луі? Гэта ж няцяжка.

– Я нічога не ведаю…

Жулі пачала злавацца.

Агонь у печы гудзеў і гудзеў. Роўна цікаў гадзіннік, у медным маятніку адбівалася святло лямпы.

На гэтай чысцюткай кухні сціплага ранцье матрос здаваўся залішне вялізным, няўклюдным, грубым. Ён сядзеў, схіліўшы галаву набок, плечы як звычайна былі перакошаныя, вялізныя рукі не знаходзілі сабе месца, позірк бегаў і бегаў, не ведаў, на чым спыніцца.

– Трэба, каб ты сказаў!

– Няма чаго мне казаць…

Ён хацеў наліць сабе яшчэ, але Жулі схапіла графін.

– Хопіць! Зноў нап'ешся!

Жулі была ўзнерваваная ўшчэнт. Яна цьмяна адчувала, наколькі важны можа быць гэты момант, і чаплялася за надзею, што ўсё стане ясна з аднаго слова.

– Луі… гэты чалавек… нарвежац… гэта ён хацеў купіць «Сэн-Мішэль» і стаць тваім гаспадаром, га?

Адказ быў хуткі і катэгарычны:

– Не!

– Тады хто ён? Яго ніколі не бачылі ў нас. Іншаземцы сюды не заязджаюць…

– Не ведаю…

Але сястра настойліва напірала на яго, з чыста жаночым пачуццём знаходзіла патрэбныя словы:

– Мэр цярпець цябе не мог… Праўда, што ты вячэраў сёння ў яго?

– Праўда…

Яна задрыжала ад нецярпення.

– Дык скажы мне тады хоць што-небудзь! Гэта неабходна, Луі! Або клянуся табе, што стану думаць…

Жулі недаказала. Знясіленая, разгубленая, яна апусціла рукі, зірнула роспачна на плецёнае крэсла, пасля на печ, гадзіннік, размаляваную кветкамі вазу…

– Ты паважаў капітана, я гэта ведаю!.. Сто разоў гэта казаў, і калі вы пасварыліся, дык…

Яна адчула, што гэта трэба растлумачыць камісару.

– Не падумайце толькі чаго-небудзь такога, пан камісар! Брат паважаў капітана… І той яго таксама…

Толькі вось… Але няважна!.. Луі не можа саўладаць з сабою, калі ў яго заводзяцца грошы, адразу ж усё спускае… Капітан ведаў, што іншы раз ён бярэ ў мяне грошы, якія я ашчаджала патроху… Ну, і выгаворваў яму… Вось і ўсё!.. І калі ўрэшце забараніў яму прыходзіць сюды, дык толькі таму, каб Луі не браў у мяне грошай!.. Але мне капітан казаў, што па сутнасці Луі – добры хлопец, хіба што з адным недахопам – слабым характарам…

– А Луі, мусіць, ведаў, – паволі сказаў Мэгрэ, – што, калі б Жарыс памёр, вы атрымалі б у спадчыну трыста тысяч!

Усё адбылося так імгненна, што камісар ледзь не апынуўся на падлозе. Луі наваліўся на яго, спрабуючы схапіць за горла. Жулі заенчыла з усяе сілы.

Камісару ўдалося схапіць на ляту руку Луі. Павольным, але моцным рухам ён вывернуў яе матросу за спіну і прахрыпеў:

– Прымі лапы!

Жулі, прыціснуўшыся да сцяны і закрыўшы твар рукамі, рыдала, час ад часу слаба, няўцешна ўскрыкваючы:

– Божа мой! Божа мой!

– Будзеш ты гаварыць, Луі! – адчаканіў Мэгрэ, выпускаючы руку былога катаржніка.

– Мне няма чаго сказаць.

– А калі я цябе арыштую?

– Арыштоўвай.

– Ідзі за мною.

Жулі ўскрыкнула:

– Пан камісар, я прашу вас! Луі, кажы, што ведаеш, я заклінаю цябе!

Яны ўжо стаялі каля зашклёных дзвярэй кухні. Вялікі Луі азірнуўся. Твар у яго быў барвовы, вочы блішчалі. Хочучы перадаць свае пачуцці, ён зрабіў нейкую грымасу, якую нельга апісаць словамі, і працягнуў руку да пляча сястры.

– Жулі, клянуся табе…

– Не чапай мяне!..

Пасля кароткіх ваганняў ён ступіў у калідор, азірнуўся.

– Паслухай…

– Не! Не! Ідзі адсюль!

Пачуўшы гэта, ён пасунуўся ўслед за Мэгрэ, спыніўся на ганку, хацеў азірнуцца яшчэ раз, але перасіліў сябе. Дзверы за імі зачыніліся. Не прайшлі яны і некалькіх метраў, як дзверы адчыніліся і на ганак выскачыла Жулі. Яна паклікала:

– Луі!

Але было позна. Шквальны вецер быў такі, што мужчыны не пачулі яе.

Дождж умомант вымачыў іх дашчэнту, вецер, здалося, прадзьмуў наскрозь. Нічога не было відаць, нават сцен шлюза. Раптам над імі пачуўся голас:

– Гэта ты, Луі?

Гаварыў Ланэк, з борта шхуны. Ён пачуў крокі і высунуў галаву з люка. Пэўна, ён зразумеў, што матрос ішоў не адзін, бо надта хутка сказаў па-брэтонску:

– Ускоквай на бак, і змываемся.

Мэгрэ зразумеў, але чакаў, бо не бачыў у цемрадзі, дзе пачынаецца і дзе канчаецца шхуна. Ён толькі няясна ўгадваў масіўную постаць Луі, яго мокрыя плечы, што блішчалі пад дажджом.

## X. Трое са шхуны

Вялікі Луі зірнуў на мора, якое ператварылася ў адну вялізную чорную пляму, пасля ўпотайкі на Мэгрэ, паціснуў плячыма і спытаўся ў камісара:

– Падымецеся на борт?

Мэгрэ заўважыў, што Ланэк трымае нешта ў руках: гэта быў канец швартова. Угледзеўшыся, камісар убачыў, як па берагавым кнехце слізнуў, вяртаючыся на судна, трос. Значыць, трос быў проста накінуты на кнехт, а абодва яго канцы былі замацаваны на палубе. Гэта дазваляла экіпажу «Сэн-Мішэля» аддаць швартовы, не сыходзячы на бераг.

Камісар ступіў на стрынгер, скочыў на палубу. Услед за ім – Луі.

Мэгрэ ведаў, што ў порце не было нікога. Жулі, напэўна, рыдала цяпер на кухні, трыста метраў адсюль, і калі не лічыць яе, дык бліжэй за ўсіх да судна былі партавікі ў цёплым шынку.

Нягледзячы на хваляррэзы, мора ў порце было неспакойнае, і «Сэн-Мішэль» то падымаўся, то апускаўся на хвалях, нібы падпарадкоўваўся магутнаму подыху стыхіі.

У чэрнядзі ночы віднеліся толькі слабыя жоўтыя водбліскі на вадзе і ў некаторых мясцінах сушы. На носе суднаківалася цьмяная капітанава постаць: Ланэк здзіўлена паглядваў на Луі. На капітане былі высокія гумовыя боты, плашч-дажджавік, зюйдвестка, у руках – канат.

Ніхто нічога не гаварыў, усе нечагась чакалі. Трое на шхуне асцярожна назіралі за Мэгрэ, такім дзіўным сярод іх у сваім паліто з аксамітным каўняром і ў капелюшы, які ён прытрымліваў рукою.

– Вы не адплывяце сёння ноччу! – сказаў ён.

Ніхто не запярэчыў, хіба што Ланэк і Вялікі Луі абмяняліся позіркамі, якія, мабыць азначалі:

«Адплывём усё-такі?»

«Не варта».

Парывы ветру рабіліся такія лютыя, што цяжка было ўтрымацца на нагах. Мэгрэ накіраваўся да знаёмага яму люка:

– Пагаворым… Паклічце таксама другога матроса…

Ён вырашыў, што будзе лепш, калі ў тыле ў яго не застанецца нікога. Усе чацвёра спусціліся па стромкай лесвіцы. Маракі знялі боты і плашчы. Гарэла падвешаная лямпа, на стале побач з марскою картаю ў тлустых плямах і алоўкавых паметках стаялі шклянкі.

Ланэк кінуў у печ два брыкеты вугалю. Ён не запрашаў госця выпіць і пазіраў на яго скрыва. Стары Сэлестэн сеў у дальнім куце. Злы і ўстрывожаны, ён гадаў, нашто яго паклікалі ў кубрык.

Па адных толькі паставах маракоў можна было здагадацца, што ніхто не хацеў пачынаць размову, не ведаючы, чаго хоча ад іх Мэгрэ. Капітан дапытліва глядзеў на Вялікага Луі, які адказваў яму поўнымі адчаю позіркамі.

Хіба ж мог Луі растлумачыць Ланэку тое, што ведаў, у двух словах?

Адкашляўшыся, капітан спытаўся:

– Вы добра падумалі?

Мэгрэ сядзеў на лаўцы, паклаўшы локці на стол, і

машынальна круціў у руках засаленую шклянку.

Вялікі Луі стаяў, крыху нахіліўшы галаву, каб не даставаць да столі. Ланэк рабіў выгляд, што нешта шукае ў шафе.

– Пра што? – адказаў Мэгрэ на пытанне.

– Не ведаю, якія ў вас правы, але магу сказаць, што асабіста я падпарадкоўваюся толькі марскім уладам. Адны яны могуць забараніць судну ўвайсці ў порт або выйсці з яго.

– Ну і што з таго?

– Вы не даяце мне адплыць з Вістрэама, а мне трэба ў Ларашэль, дзе мяне чакае новы груз. За кожны дзень спазнення я плачу няўстойку.

Размова пачыналася блага: дужа сур'ёзны, бадай, афіцыйны тон быў у Ланэка. Мэгрэ ўжо чуў нешта падобнае: мэр пагражаў яму прыкладна гэтаксама, дый Жан Марціно згадваў пра ўлады, толькі дыпламатычна.

Мэгрэ з шумам удыхнуў паветра, кінуў на маракоў хуткі позірк, які можна было б назваць гарэзлівым.

– Не прыкідвайся хітруном, – сказаў ён Ланэку па-брэтонску, – а лепш налі выпіць.

Карта, якую пусціў у ход камісар, магла быць бітаю.

Але стары матрос першы здзіўлена павярнуўся да Мэгрэ.

Разгладзіліся маршчыны на твары ў Вялікага Луі. Ланэк, які яшчэ не зусім адтаяў, спытаўся:

– Вы брэтонец?

– Не зусім. Я з Луары, але вучыўся ў Нанце…

Капітан скрывіўся. Гэта была натуральная грымаса сапраўднага брэтонца з узбярэжжа, які пачуў пра брэтонца з унутраных раёнаў, ужо не кажучы пра паўбрэтонца з Нанцкага раёна.

– Няма больш таго галандскага джыну, што мы пілі таго разу?

Ланэк узяў бутэльку, паволі наліў у шклянкі. Здавалася, ён быў рады хоць чымсьці заняцца. Што рабіць, ён яшчэ не ведаў. А Мэгрэ, дабрадушна ўсміхаючыся, з люлькай у роце, ссунуўшы капялюш на патыліцу, уладкоўваўся ямчэй.

– Можаш сесці, Луі.

Той сеў. Няёмкасць заставалася, але была яна ўжо

іншая: гэтыя трое сердавалі на сябе за тое, што не адказвалі сардэчнасцю на сардэчнасць. І ўсё ж такі яны былі вымушаны пільнавацца.

– Ваша здароўе, хлопцы! Але прызнайцеся ўсё-такі, што, перашкаджаючы вам выйсці ў мора сёння ноччу, я ратую вас ад добрае гойданкі.

– Небяспечна ў асноўным, калі выходзіш з порта, – прамармытаў Ланэк, глынуўшы джыну. – Калі выйдзеш у адкрытае мора, ужо не страшна... Але праход небяспечны: плынь Орны, пясчаныя водмелі... Кожны год хто-небудзь ды сядзе...

– А «Сэн-Мішэль» ніколі не меў непрыемнасцей?

Капітан спешна пастукаў пальцамі па драўляным стале. Сэлестэн, пачуўшы пра непрыемнасці, нешта незадаволена сказаў.

– «Сэн-Мішэль», можа быць, найлепшы паруснік на ўзбярэжжы... Ну вось вам выпадак. Два гады назад у непраглядным тумане ён усім днішчам сеў на камяні каля ангельскага берага... Прыбой быў – звар'яцець, ды толькі... Другое судна так і засталося б сядзець на камянях, а наша, апынуўшыся на плаву ў наступны прыліў, нават у сухі док на агляд не стала заходзіць...

Мэгрэ адчуваў, што ў такой гамонцы яны маглі б знайсці агульную мову. Але яму не хацелася гутарыць усю ноч пра суднаваджэнне. Ад мокрай адзежы пачынала ўжо ісці пара, на падлогу кроплямі сцякала вада. Да таго ж ён блага пераносіў гойданку, якая рабілася ўсё больш прыкметная, – час ад часу судна нават ударалася бортам аб палі.

– З вашай шхуны выйдзе неблагая яхта! – вымавіў ён, азіраючыся.

На гэты раз Ланэк уздрыгнуў.

– Але, магла б выйсці, – паправіў ён. – Хіба што палубу трэба было б перарабіць ды ветразі зрабіць больш лёгкімі, асабліва ўверсе...

– Нарвежац ужо ўсё падпісаў, што трэба?

Ланэк кінуў на Вялікага Луі хуткі позірк. Той уздыхнуў. Гэтыя двое дорага б заплацілі за хвілінку размовы сам-насам. Капітан гадаў: пра што можна сказаць камісару не баючыся?

Вялікі Луі маўчаў. Немагчыма было растлумачыць

Ланэку, што адбываецца. Усё так складана! Вядома, зараз пачнуцца непрыемнасці.

Заставалася хіба што выпіць. Ён наліў сабе джыну, выпіў і, нібы скарыўшыся, кінуў на Мэгрэ позірк, які нельга было назваць варожым.

– Які нарвежац?

– Ну, нарвежац, які не зусім нарвежац… Марціно… Аднак ён не мог убачыць «Сэн-Мішэль» у Трамсё: шхуна ніколі не хадзіла так далёка на поўнач?..

– Але магла б гэта зрабіць. «Сэн-Мішэль» спакойна дойдзе і да Архангельска.

– Калі Марціно стане сапраўдным уладальнікам шхуны?

Стары матрос усміхнуўся.

«Ну, ну, паглядзім цяпер, што з гэтага выйдзе», – здавалася, казаў ён Луі і Ланэку.

Капітан не надта ўпэўнена вымавіў:

– Не разумею, што вы гэтым хочаце сказаць.

Мэгрэ штурхнуў яго ў бок.

– Хітрун!.. Ну, хлопцы, хопіць хмурыць ілбы, нібыта на пахаванні, і ўпарціцца… Хоць вы і сапраўдныя брэтонцы, але досыць ужо… Марціно абяцаў купіць шхуну… Дык купіць ён яе ўрэшце ці не?..

І тут у галаве ў камісара мільганула здагадка.

– Дайце мне рэестр экіпажа…

Ён адразу ж адчуў дакладнасць удару.

– Не ведаю, дзе ён…

– Я ж прасіў цябе, Ланэк, не хітраваць! Дай мне рэестр, я табе кажу!

Мэгрэ прыкінуўся грубым «свойскім хлопцам». Капітан, адчыніўшы шафу, дастаў збузаваны партфель, які ад часу стаў шэры. У партфелі ляжалі дакументы, дзелавыя лісты на бланках навігацыйных кампаній.

У вялізнай жоўтай папцы, новай на выгляд, камісар убачыў аркушы паперы. Гэта і быў рэестр экіпажа. Складзены ён быў паўтара месяца назад, дакладна адзінаццатага верасня, гэта значыць за пяць дзён да знікнення капітана Жарыса.

«Шхуна «Сэн-Мішэль», водазмяшчэннем 270 тон, абсталяваная для кабатажнага плавання. Уладальнік – Луі Легран, з Пор-ан-Бэсэна. Капітан – Іў Ланэк. Матрос –

Сэлестэн Гроле».

Вялікі Луі зноў наліў сабе джыну. Разгублены Ланэк апусціў галаву.

– Вось яно як! Выходзіць, ты цяпер уладальнік судна, Луі?

Той не адказаў. Сэлестэн у сваім куце жаваў тытунь.

– Паслухайце, хлопцы, не будзем марнаваць часу. Я ненамнога дурнейшы за вас, хоць мала што разумею ў марскіх справах. Як вы думаеце?.. У Вялікага Луі за душою ніводнага су[6]. А судна, як ваша, каштуе сама меней сто пяцьдзесят тысяч франкаў... Значыць, Луі купіў «Сэн-Мішэля» некаму другому! Скажам, Жану Марціно, які чамусьці не хоча, каб ведалі, што ён – уладальнік шхуны... Ваша здароўе!

Сэлестэн паціснуў плячыма, нібы гэтая гісторыя была яму вельмі агідная.

– Адзінаццатага верасня, калі была прададзена шхуна, Марціно быў у Фекане?

Маракі нахмурыліся. Луі ўзяў кавалачак тытуню для жавання, які ляжаў на стале, і адкусіў ад яго, а Сэлестэн мудрагеліста размалёўваў падлогу кубрыка пляўкамі.

Размова перапынілася, бо ў лямпе скончылася газа і яна капціла. Прыйшлося пайсці на палубу па бітон. Ланэк вярнуўся ўвесь змоклы. З хвіліну сядзелі ў цемры, і калі святло зноў запалілася, усе заставаліся на сваіх месцах.

– Марціно быў там, я ў гэтым упэўнены! Ён купіў судна на імя Вялікага Луі, а Ланэк застаўся на ім капітанам, можа, назаўсёды, а можа, толькі на нейкі час...

– На нейкі час.

– Выдатна! Я так і думаў! Якраз на той час, за які «Сэн-Мішэль» можа зрабіць адзін незвычайны рэйс...

Ланэк устаў, запаліў. У вачах у яго ясна віднелася раздражненне.

– Вы прыйшлі ў Вістрэам. Ноччу шаснаццатага верасня шхуна стаяла ў порце. Дзе быў Марціно?

Капітан зноў сеў. Ён абмяк, але гаварыць не збіраўся ўсё роўна.

– Шаснаццатага верасня раніцай «Сэн-Мішэль» выходзіць у мора. Хто на борце? Марціно ўсё яшчэ тут? А

---

[6] Манета ў пяць сантымаў, 1/20 франка.

Жарыс?

Мэгрэ не быў падобны ні на суддзю, ні на паліцэйскага. Голас у яго заставаўся зычлівы, вочы – хітрыя. Здавалася, ён гуляў з сябрукамі ў загадкі-адгадкі.

– Вы ідзяце ў Ангельшчыну, пасля бераце курс на Галандыю. Гэта там Марціно і Жарыс пакідаюць шхуну? Бо ім трэба плыць далей. Я магу смела меркаваць, што яны адправіліся ў Нарвегію…

Вялікі Луі нешта прабурчаў…

– Што ты кажаш?

– Што ў вас нічога не выйдзе.

– Капітан Жарыс быў ужо ранены, калі падняўся на борт? Ці яго ранілі па дарозе? Альбо ўжо ў Скандынавіі?

Адказу камісар ужо не чакаў.

– Вы ўтрох працягваеце кабатажныя плаванні, як і раней, але не пакідаеце паўночных раёнаў, чакаеце ліста або тэлеграмы, у якіх былі б указаны час і месца сустрэчы. На тым тыдні вы стаіце ў Фекане, порце, дзе Марціно сустрэў вас упершыню. Вялікі Луі даведваецца, што капітана Жарыса знайшлі ў Парыжы ў вельмі дзіўным стане і што яго прывязуць у Вістрэам. Ён прыязджае сюды на цягніку. У доме ў капітана нікога няма. Тады ён пакідае сястры цыдулку і вяртаецца ў Фекан.

Мэгрэ ўздыхнуў, распаліў не спяшаючыся люльку.

– І вось мы падышлі да канца. Прыязджае Марціно. Вы вяртаецеся ў Вістрэам разам з ім. Пры ўваходзе ў порт ён сыходзіць з судна – доказ таго, што ён не хоча, каб яго бачылі. Пасля адбываецца сустрэча паміж ім і Вялікім Луі на дразе… Ваша здароўе.

Ён наліў сабе джыну, выпіў, адчуваючы на сабе змрочныя позіркі маракоў.

– Урэшце, каб усё зразумець, застаецца адно высветліць, навошта Вялікі Луі хадзіў да мэра, у той час як Марціно паехаў у Парыж. Даволі дзіўнае даручэнне: адлупцаваць чалавека, дужа вядомага сваёй пераборлівасцю ў знаёмствах!

Прыгадаўшы, як ён лупцаваў мэра, Вялікі Луі міжволі расплыўся ў шчаслівай усмешцы.

– Вось так, сябры мае! А цяпер пастарайцеся зразумець, што ўсё роўна клубок разблытаецца. Дык ці ж не здаецца вам, што лепш зрабіць гэта адразу?

Мэгрэ выбіў люльку, пастукаўшы ёю па абцасе свайго чаравіка, набіў яе зноў. Сэлестэн ужо спаў: хроп, разявіўшы рот. Вялікі Луі, нахіліўшы галаву, разглядваў брудную падлогу. Ланэк дарэмна спрабаваў, кідаючы на яго позірк, хоць без слоў параіцца, як тут быць.

Нарэшце капітан сказаў:

– Нам няма чаго сказаць.

На палубе пачуўся шум, усё роўна як бы ўпала нешта цяжкае. Мэгрэ ўздрыгнуў. Вялікі Луі высунуў галаву ў люк – на лесвіцы віднеліся толькі яго ногі.

Калі б ён вылез, камісар, відавочна, выбраўся б наверх сам. Цяпер чуваць было толькі шум дажджу і скрып шківаў.

Колькі часу Луі разглядваў, што б там такое магло здарыцца? Сама больш паўхвіліны. Матрос спусціўся, валасы ў яго прыліплі да лоба, па твары цякла вада. Тлумачыць нічога не стаў.

– Што там такое? – спытаўся ў яго Ланэк.

– Шкіў ударыўся аб рэлінгі.

Капітан падкінуў у печ вугалю. Кінуў на Луі дапытлівы позірк. Пасля патрос за плячо Сэлестэна.

– Ідзі пастаў шкот на бізань-мачце.

Матрос цёр вочы, нічога не разумеючы. Ланэку прыйшлося паўтарыць яшчэ раз. Тады Сэлестэн накінуў плашч, насунуў на галаву зюйдвестку, падняўся па лесвіцы, усё яшчэ сонны і, вядома, незадаволены, што трэба выходзіць на холад і дождж.

Чуваць было, як ён грымеў сваімі сабо, ходзячы па палубе акурат над галовамі тых, што засталіся ў кубрыку. Вялікі Луі наліў сабе ці не шостую ўжо шклянку – але не п'янеў зусім.

Усё тыя ж няправільныя рысы крыху азызлага твару, вылупленыя вочы. Выглядаў ён, як чалавек, што панура брыдзе па жыцці.

– Што ты пра гэта думаеш, Луі?

– Пра што?

– Ну, што ты хітруеш? Ты падумаў пра сваё становішча? Хіба не разумееш, што расплачвацца прыйдзецца табе? Спачатку – тваё мінулае. Ты ж былы катаржнік! Пасля ты робішся гаспадаром гэтага судна, хоць у цябе не было ні су! Жарыс не хацеў бачыць цябе

больш у сваім доме, бо ты надта часта цягнуў з сястры грошы! «Сэн-Мішэль» стаіць у Вістрэаме ў ноч выкрадання капітана! Ты знаходзішся тут і тае ночы, калі яго атруцілі… Нарэшце, твая сястра атрымлівае па завяшчанні трыста тысяч франкаў!..

Ці думаў цяпер увогуле пра што-небудзь Вялікі Луі? Позірк у яго быў пусты-пусты і абсалютна нерухомы.

– Што ён там робіць! – занепакоіўся Ланэк, гледзячы на адчынены люк, з якога сцякала на падлогу вада – назбіралася ўжо добрая лужа.

Мэгрэ выпіў яшчэ крыху. Мала, але даволі, каб ударыла ў галаву кроў, асабліва ў гэтай заблытанай сітуацыі. Досыць, каб разамлець ад розных думак, звязаных з жыццём маракоў, што сядзелі насупраць яго…

Цяпер, калі ён добра ведаў усіх трох, ён без цяжкасці ўяўляў сабе, як праходзілі іх дні на борце «Сэн-Мішэля», што быў ім светам.

Адзін – на ложку, амаль заўсёды адзеты. На стале – бутэлька і брудныя шклянкі. Другі – на палубе, чуваць, як ён ходзіць па ёй, стукаючы сабо… А яшчэ гэты глухі рокат мора, што ніколі не аціхае… Ледзь свеціцца компас… Святло ліхтара, які матляецца на фок-мачце… Вочы няспынна ўзіраюцца ў цемрадзь, шукаюць светлячок маяка… Дзень пры дні – пірсы, пагрузка, разгрузка… Пасля – два-тры дні адпачынку, якія з ранку да вечара праходзяць у шынках, такіх падобных адзін на адзін…

Наверсе пачуўся нейкі няясны шум. Вялікі Луі, здавалася, таксама задрамаў. Маленькі будзільнік паказваў ужо тры гадзіны. Бутэлька была амаль пустая…

Відаць, у такую самую ноч і знік капітан Жарыс… У кубрыку было гэтаксама душна, пахла потам і спіртным, горача была напалена печ… Ці сядзеў тады ён разам з імі, змагаючыся са сном?..

Раптам на палубе пачуліся нейкія галасы. Вецер быў вельмі моцны, і да кубрыка даносіліся толькі асобныя гукі.

Мэгрэ ўстаў, нахмурыў бровы, убачыў, як наліваў сабе джыну Ланэк. Нахіліўшы галаву, драмаў Вялікі Луі. Вочы ў яго былі ўжо прыплюшчаныя.

Мэгрэ намацаў у кішэні рэвальвер, узняўся па прыступках стромкай лесвіцы.

Люк быў якраз такой шырыні, каб праз яго мог

пралезці чалавек, а камісар быў шырокі ў плячах.

Таму Мэгрэ нават абараняцца не змог: толькі ён высунуў галаву з люка, як на рот яму накінулі павязку і завязалі яе на патыліцы.

Зрабіў гэта Сэлестэн і яшчэ нехта, той самы чалавек, які быў да таго на палубе са старым матросам.

А знізу ў яго выхапілі рэвальвер і звязалі яму рукі за спінаю.

Мэгрэ з усяе сілы брыкнуў нагою і трапіў, здаецца, у чыйсьці твар. Але прайшло якое імгненне, і яму канатам звязалі ногі.

– Цягні! – абыякава сказаў Вялікі Луі.

А зрабіць гэта было нялёгка: Мэгрэ быў цяжкі. Знізу яго падштурхоўвалі, зверху цягнулі.

Дождж падаў стромкай сцянаю. Вецер урываўся ў бухту з неверагоднай сілаю.

Мэгрэ здалося, што людзей было чацвёра. Было зусім цёмна: ліхтар патушылі. Да таго ж збіваў з панталыку і раптоўны пераход з цяпла і святла да ледзяной цемрадзі...

– Раз... два... Хоп!..

Яго раскачалі, як нейкі мяшок. Ён падляцеў даволі высока і ўпаў на мокрыя камяні пірса. Вялікі Луі падышоў да яго, аглядзеў вяроўкі, каб пераканацца, што звязаны камісар надзейна. На нейкі час твар былога катаржніка наблізіўся да твару Мэгрэ. Камісару здалося, што рабіў Луі ўсё гэта з вельмі змрочным выглядам, неахвотна.

– Трэба будзе сказаць сястры... – пачаў ён...

Што сказаць? Ён і сам не ведаў. На шхуне чуліся хуткія крокі, скрып, каманды напаўголаса. Паставілі ўжо кліверы, па мачце паволі падымаўся грот.

– Трэба будзе сказаць, але, трэба будзе сказаць ёй, што калі-небудзь мы яшчэ ўбачымся... І, магчыма, з вамі таксама...

Ён цяжка ўскочыў на судна. Мэгрэ ляжаў тварам да мора. Ліхтар на канцы фала даставаў да верху мачты. Каля штурвала віднелася чыясьці чорная постаць.

– Адчальваем!

Вакол кнехтаў заслізгалі канаты, якія цягнулі з судна. Залапаталі ветразі. Нос шхуны адышоў ад паляў, і судна развярнулася ледзь не на трыста шэсцьдзесят градусаў – такі моцны быў парыў ветру.

Але рулявы здолеў усё ж выраўняць шхуну. На імгненне «Сэн-Мішэль» замёр на месцы – і паплыў паміж пірсамі…

Яго чорная маса на вачах знікала ў непрагляднай цемрадзі… На палубе свяцілася нейкая кропка… Высока на мачце – другая… Яна здавалася зоркаю, што згубілася ў штармавым небе…

Мэгрэ і паварухнуцца не мог. Ляжаў у лужыне, на краі бясконцага прасцягу…

Напэўна, яны разап'юць цяпер там, на шхуне, бутэльку джыну – для настрою. Хто-небудзь падкіне ў печ пару брыкецін.

Адзін стаіць каля руля… Астатнія ляжаць у сырых. ложках.

Чамусьці здавалася, што сярод кропляў, якія сцякалі па твары, адна была саланейшая за іншыя.

Вялікі і дужы чалавек, бадай, сама мужны ва ўсёй крымінанальнай паліцыі Францыі, ляжаў каля кнехта, на краі пірса – і разумеў, што знайсці яго змогуць, відаць, толькі раніцай.

Калі б ён мог павярнуцца, дык убачыў бы маленькі драўляны будыначак «Марацкага прытулку», у якім нікога ўжо не было.

## XI. Водмель «Чорныя каровы»

Мора хутка адступала. Мэгрэ чуў, як біліся хвалі – спачатку ў канцы пірсаў, потым далей, на пясчаным беразе, з якога сплывала вада.

Як заўсёды, з адлівам аціхаў і вецер. Стрэлы дажджу радзелі, і калі на досвітку пачалі святлець сама нізкія хмары, начны лівень ператварыўся ў імжысты дождж, яшчэ больш халодны.

Пакрысе з цемры выступала ўсё, што патанула ў ёй ноччу. Угадваліся касыя мачты рыбацкіх лодак, што ляжалі цяпер, у адліў, на прыбярэжнай ціне.

Дзесьці вельмі далёка ад берага мыкалі каровы. Царкоўны звон нягучнымі ўдарамі сціпла заклікаў да ютрані – значыць, было ўжо сем гадзін.

Але трэба было яшчэ чакаць: дарога ў царкву праходзіла не цераз порт. Шлюзаўшчыкам да пачатку

прыліву няма чаго тут рабіць. Хіба што мог завітаць выпадкова які-небудзь рыбак… Ды толькі наўрад ці нават і рыбакі вылазяць з ложка ў такое надвор'е…

Цяпер, думаў Мэгрэ, ён, мусіць, падобны на мокрую грудуануч… Камісар уяўляў сабе ўсе ложкі Вістрэама, самавітыя драўляныя ложкі з вялізнымі пухавікамі, у якіх пад цёплымі коўдрамі ляніва песцяцца жыхары гарадка, непрыязна паглядаючы на бледны прамавугольнік акна. І, бадай што, кожны з вістрэамцаў усё адцягвае і адцягвае той момант, калі прыйдзецца ўсё ж нарэшце ступіць на халодную падлогу босымі нагамі.

Цікава, ці спіць яшчэ Люка? Можа быць, яго таксама звязалі?.. Інакш як растлумачыць тое, што ўначы на борце «Сэн-Мішэля» з'явіўся нейкі іншы чалавек – напэўна, Марціно?.. Або… мэр?!. Ці ёсць яшчэ які-небудзь удзельнік гэтай заблытанай гісторыі?..

Пакуль што камісар абмалёўваў сабе сітуацыю так: Жану Марціно ўдалося нейкім чынам вызваліцца з-пад нагляду інспектара. Пасля Марціно падышоў да «Сэн-Мішэля» і пачуў яго, Мэгрэ, голас. Цярпліва чакаў, калі хто-небудзь выйдзе на палубу. А калі Вялікі Луі высунуў галаву з люка, нарвежац даў яму знак – можа, шапнуў, можа, перадаў цыдулку – як паводзіць сябе далей.

Зрабіць астатняе было няцяжка. Шум на палубе. Пасылаюць наверх Сэлестэна. Той перагаворваецца з Марціно. А пачуўшы галасы, нельга было не выбрацца з кубрыка.

І як толькі ён высунуўся з люка, двое наверсе заткнулі яму рот, а Ланэк і Луі звязалі рукі і ногі.

Цяпер шхуна, пэўна, далёка ад зоны тэрытарыяльных водаў, якую аддзяляюць ад берага толькі тры мілі. Калі толькі яны не зойдуць у якісьці французскі порт, што малаверагодна, затрымаць іх будзе ўжо немагчыма.

Мэгрэ не варушыўся, бо пры кожным руху пад паліто цякла вада.

Прыцісну́ўшы вуха да зямлі, ён чуў розныя гукі, пазнаваў іх адзін за адным. Так ён пазнаў шум помпы ў Жарысавым садзе.

Значыць, Жулі ўстала. Надзела сабо і пайшла пампаваць ваду, каб памыцца. Але ўсё роўна дзяўчына нікуды не пойдзе з дому.

Крокі... Нейкі чалавек перайшоў мост і ступіў на мураваны пірс... Ішоў ён павольна... Кінуў нешта ў лодку, мусіць, звязку вяровак...

Рыбак?.. Мэгрэ з цяжкасцю павярнуў галаву і ўбачыў яго метраў за дваццаць ад сябе. Чалавек збіраўся спусціцца па жалезнай лесвіцы, што вяла ў мора. Нягледзячы на кляп, камісару ўдалося ціха прастагнаць.

Рыбак азірнуўся, убачыў чорную груду, доўга і недаверліва пазіраў на яе, нарэшце рашыўся падысці.

– Што вы тут робіце?

Ён, відавочна, чуў пра меры засцярогі, неабходныя пры выяўленні злачынства, бо памяркоўна сказаў:

– Мусіць, трэба спачатку пашукаць паліцыю.

Але кляп усё ж такі выняў. Камісар пачаў тлумачыць, што з ім здарылася, і рыбак не надта ўпэўнена стаў развязваць вяроўкі, лаючы таго, хто завязаў такія мудрагелістыя вузлы.

У шынку служанка расчыніла аканіцы. Мора па-ранейшаму было неспакойнае, хоць вецер і сціх. Але яно ўжо не шумела так раз'юшана, як ноччу. Хвалі з адкрытага мора дасягалі на пясчаных водмелях трох метраў вышыні і разбіваліся з глухім грукатам – стваралася ўражанне, што трасецца зямля.

Рыбак, невысокі, зарослы барадою стары, усё яшчэ глядзеў на Мэгрэ з недаверам, не ведаючы, што рабіць.

– Трэба было б усё ж паведаміць пра вас у паліцыю.

– Ды кажу ж вам, што я сам паліцыя – толькі ў цывільным!

– Жандар у цывільным? – перапытаў стары.

Яго позірк слізнуў па паверхні мора, прабег па лініі гарызонта і спыніўся раптам на нейкай кропцы справа ад пірса, у кірунку Гаўра. Праз якую хвілінку стары перавёў спалоханыя вочы на Мэгрэ.

– Ну, што там такое?

Рыбак быў такі ўсхваляваны, што не адказваў. Камісар усё зразумеў, як толькі глянуў на небакрай.

Вістрэамская бухта абязводнела. На адлегласці больш чым мілі скрозь віднеўся пясок, колеру спелага жыта, і толькі недзе ўдалечыні бушавалі яшчэ белыя ад шуму хвалі.

Справа ад пірса, прыкладна з кіламетр, сядзела на мелі нейкае судна. Адна яго палова ляжала на пяску,

другая заставалася ў вадзе. Хвалі з сілаю разбіваліся аб яго корпус.

Дзве мачты, адна з якіх – квадратная. Шхуна з Пэнполя. Відаць, «Сэн-Мішэль».

У тым баку ўсё было мярцвяна-бледнага колеру: мора і неба зліваліся.

У гэтай шэрані вылучалася чорнаю кропкаю судна, якое села на мель.

– Надта позна выйшлі ў мора пасля прыліву, – заўважыў уражаны відовішчам рыбак.

– Такое часта бывае?

– Здараецца! Вада ў праходзе стаяла нізка. Вось іх і выкінула цячэннем ракі на водмелі «Чорных кароў»...

Наўкол – панурая цішыня. У імжыстым дажджы паветра здавалася ватным. Гледзячы на судна, якое выступала з вады, цяжка было ўявіць, што яго экіпажу пагражала якаясьці небяспека.

Але калі яно села на мель, мора яшчэ даставала да дзюнаў. Не менш дзесяці радоў раз'юшаных хваляў!

– Трэба папярэдзіць начальніка порта...

Дробная дэталь: рыбак машынальна павярнуўся да Жарысавага дома, пасля паволі вымавіў:

– Праўда што...

І пайшоў у другі бок. Шхуну, мабыць, прыкмецілі з іншага месца, хутчэй за ўсё з царкоўнага цвінтара, бо да іх набліжаліся капітан Дэлькур і яшчэ трое. Начальнік порта паціснуў камісару руку, не прыкмеціўшы нават, што той прамок да ніткі.

– Я ж ім казаў!

– Яны папярэдзілі, што выходзяць?

– Не. Але калі я ўбачыў, як яны тут швартуюцца, дык падумаў, што яны не будуць чакаць прыліву. Ну, і параіў Ланэку сцерагчыся цячэння...

Ішлі па пяску, па лужынах, ногі загразалі па шчыкалаткі. Дабраліся з цяжкасцю, страціўшы шмат часу.

– Гэта ім небяспечна? – спытаўся Мэгрэ.

– Іх ужо няма на борце! Інакш яны падавалі б сігналы трывогі, узнялі б флаг бедства, – адказаў Дэлькур.

І раптам заклапочана дадаў:

– Вось толькі шлюпкі ў іх не было... Памятаеце?.. Калі параход прывёў шлюпку, яе паставілі ў шлюз...

– Ну і што вы думаеце?

– Значыць, дабраліся да берага плывам… Ці хутчэй за ўсё…

Дэлькур адчуваў сябе ніякавата. Яго нешта трывожыла.

– Дзіўна, што яны не паставілі шхуну на падпоры, каб яна не легла на борт… Калі толькі адразу не перавярнулася… Ну і ну!..

Падышлі бліжэй. Камісар канчаткова зразумеў, у якой бядзе апынулася судна. Бачны быў зялёны кіль, да якога прыліплі ракаўкі.

Маракі ўжо разглядвалі шхуну з усіх бакоў, шукалі пашкоджанні, але нічога не знаходзілі.

– Проста селі на мель…

– Нічога сур'ёзнага?

– З бліжэйшым прылівам буксір выцягне – не сумняваюся… Не разумею толькі…

– Чаго вы не разумееце?

– Чаму яны пакінулі судна… Хлопцы не з баязлівых… Дый ведаюць, што шхуна многае можа вытрымаць… Вы паглядзіце толькі, што гэта за судна!.. Гэй, Жан-Баціст!.. Схадзі пашукай лесвіцу…

Без лесвіцы немагчыма было залезці на шасціметровы борт нахіленай шхуны.

– Не трэба!

Са шхуны звешваўся парваны вант. Зачапіўшыся за яго, Жан-Баціст ускараскаўся па ім, нібы малпа, пагайдаўся колькі секунд у паветры і саскочыў на палубу. Праз некалькі хвілін ён спусціў уніз канец вяровачнай лесвіцы.

– На борце нікога?

– Нікога!

На беразе за некалькі кіламетраў віднеліся дамы гарадка Дзіў, заводскія коміны. Можна было разгледзець абрысы Кабура, Улгата, скалісты выступ, за якім хаваліся Давіль і Трувіль.

Каб выканаць да канца свой абавязак, Мэгрэ падняўся па лесвіцы. Але адчуў сябе на нахіленай палубе не надта ўпэўнена. Адчуванне небяспекі было большае, чым на маленькім судне ў час страшнага шторму!

У кубрыку – асколкі разбітага шкла, расчыненыя

шафы…

Начальнік порта не ведаў, што і рабіць. Шхуна ж не была яго ўласным суднам! Пачынаць здымаць яе з мелі, выклікаць буксір з Трувіля, узяць на сябе адказнасць за ўсё, што трэба рабіць у такім выпадку?

– Калі пакінуць тут шхуну да наступнага прыліву – капцы! – змрочна сказаў Дэлькур.

– Добра, паспрабуйце зрабіць усё, што ў вашых сілах… Скажаце, што гэта я загадаў…

Ніколі яшчэ дагэтуль трывога не была такая цяжкая, не прыгнятала так, як цяпер. Людзі міжволі паглядвалі ў бок пустынных дзюнаў, усё роўна як чакалі, што адтуль з'явяцца Ланэк, Вялікі Луі, Сэлестэн…

І дарослыя і дзеці ішлі з вёскі ў порт. Калі Мэгрэ падыходзіў да Вістрэама, насустрач яму выбегла Жулі.

– Гэта праўда?.. Яны пацярпелі крушэнне?..

– Не… Селі на мель… Такі дужы хлопец, як ваш брат, павінен быў выбрацца…

– Дзе ён?

Ніякавата адчуваў сябе камісар у гарадку. Толькі ён падышоў да гатэля «Універсаль», гаспадар спытаў:

– Я яшчэ не бачыў двух вашых сяброў. Будзіць іх?

– Не трэба…

Мэгрэ сам падняўся ў нумар Люка, які ляжаў на ложку, звязаны гэтаксама надзейна, як і Мэгрэ якую гадзіну назад.

– Зараз усё растлумачу…

– Не трэба!.. Хадзем…

– Ёсць што новае? Ну і змоклі вы!.. Дасталася вам, відаць…

Мэгрэ прывёў яго на пошту насупраць у верхняй частцы гарадка. Тыя, хто мог, беглі на бераг, астатнія стаялі на ганках.

– Ты што, абараніцца не змог?

– Ён мяне на лесвіцы скруціў… Падымаліся на другі паверх… Ён ішоў ззаду… Раптам схапіў мяне за нагу – і ўсё гэта здарылася так хутка, што я і пальцам не паспеў варухнуць. Вы ж яго бачылі!

Убачыўшы Мэгрэ, усе разгубіліся. Можна было падумаць, што ён усю ноч праседзеў па шыю ў вадзе. На пошце ён нават не змог пісаць: папера намакала ад вады,

што сцякала з яго адзежы.

– Вазьмі пяро… Тэлеграмы ва ўсе мэрыі і жандарскія аддзяленні дэпартамента… Дзіў, Кабур, Улгат… Паўднёвыя пасёлкі таксама: Люк-сюр-Мэр, Льён, Кутанс… Правер па карце… Усе вёсачкі на дзесяць кіламетраў ад Вістрэама… Прыкметы чатырох: Луі, Марціно, Ланэка, Сэлестэна… Калі адправіш тэлеграмы, тэлефануй у бліжэйшыя мэрыі і аддзяленні, каб выйграць яшчэ час…

Пакінуўшы інспектара займацца тэлеграмамі і тэлефоннымі перагаворамі, Мэгрэ заскочыў у шынок насупраць пошты, выпіў залпам шклянку гарачага грогу. Прыпаўшы да акна, у камісара цікаўна ўзіраліся хлапчукі.

Вістрэам прачнуўся. Усе хваляваліся, нерваваліся, глядзелі на мора або спускаліся да берага, перадавалі навіны, якія абрасталі рознымі дэталямі і рабіліся неверагодныя.

Па дарозе Мэгрэ сустрэў старога рыбака, які вызваліў яго раніцай.

– Ты не расказваў, што…

– Я сказаў, што знайшоў вас, – абыякава адказаў стары.

Камісар даў яму дваццаць франкаў і зайшоў у гатэль пераапрануцца. Праймалі дрыжыкі. Кідала то ў гарачку, то ў холад. Мэгрэ глянуў у люстра. Шчаціннe, пад вачыма – мяшкі. Аднак, нягледзячы на стомленасць, галава была ясная. Нават больш ясная, чым звычайна. Ён паспяваў усё заўважыць вакол сябе, адказваў людзям, задаваў ім пытанні – і рабіў усё гэта з бездакорнай логікай.

Калі ён вярнуўся на пошту, было каля дзесяці гадзін. Люка заканчваў тэлефонныя перагаворы. Тэлеграмы былі ўжо адпраўлены. На яго пытанні жандары адказвалі, што пакуль нічога асаблівага не прыкмецілі.

– Мадэмуазель, пан Гранмэзон не заказваў тэлефоннай размовы?

– Гадзіну назад… З Парыжам…

Яна назвала яму нумар. Камісар пагартаў тэлефонны даведнік і зразумеў, што гэта нумар апарата ў калежы «Станіслаў».

– Мэр часта заказвае гэты нумар?

– Нярэдка. Здаецца, гэта пансіён, дзе вучыцца яго сын.

– Але, у яго ёсць сын. Гадоў пятнаццаці, так?

– Мусіць, так. Але я ніколі яго не бачыла.

– Пан Гранмэзон не званіў у Кан?

– Не, але званілі яму. З Кана. Нехта з родных ці служачых, бо званок быў з дому.

Затрашчаў тэлеграф. Дэпеша ў порт: «Буксір Атос будзе рэйдзе поўдзень. Подпіс: параходства Трувіля».

Нарэшце званок з паліцыі з Кана:

– Пані Гранмэзон прыбыла ў Кан у чатыры гадзіны раніцы. Ноч правяла дома, на вуліцы Дзюфур. Толькі што выехала на машыне ў Вістрэам.

* * *

Калі Мэгрэ зірнуў з порта на бераг, то ўбачыў, што мора адступіла ўжо далёка і «Сэн-Мішэль» заставаўся недзе на паўдарозе паміж вадою і дзюнамі. Усе з трывогай глядзелі на гарызонт. Асабліва змрочны быў капітан Дэлькур.

Сумненняў не заставалася. З адлівам вецер сціх, але ў поўдзень, калі пачнецца прыліў, узнімецца сапраўдная бура. Гэта адчувалася па колеры неба – яно было нейкае непрыемна шэрае, хваляў – дзіўна зялёных.

– Мэра ніхто не бачыў?

– Служанка перадавала мне ад яго імя, што яму нездаровіцца і што ён даручае мне кіраваць работамі па ратаванні судна.

Засунуўшы рукі ў кішэні, Мэгрэ павольна накіраваўся да вілы. Пазваніў. Чакаў, калі яму адчыняць, хвілін дзесяць.

Служанка хацела нешта яму растлумачыць. Не слухаючы яе, камісар пайшоў па калідоры. У яго быў такі рашучы выгляд, што яна змоўкла і пабегла да дзвярэй кабінета.

– Гэта камісар! – крыкнула яна.

Мэгрэ ўвайшоў у пакой, добра ўжо яму знаёмы, кінуў капялюш на крэсла і кіўком галавы паздароўкаўся з мэрам, які сядзеў, выцягнуўшы ногі, у фатэлі.

Сляды ўчарашніх пабояў адразу ж кідаліся ў вочы: мэраў твар быў ужо не чырвоны, а сіні. Палаў камін.

Было відаць, што Гранмэзон вырашыў маўчаць і

нават не зважаць на камісара. Мэгрэ паводзіў сябе гэтаксама. Ён зняў паліто, падышоў да каміна, павярнуўся спінай да агню, нібы толькі пра тое і думаў, каб сагрэцца. Полымя апякала яму лыткі. Ён часта пыхкаў люлькаю.

– Да вечара справа будзе скончана! – вымавіў ён нарэшце, быццам сам сабе.

Мэр па-ранейшаму спрабаваў ігнараваць камісара. Узяўшы газету, якая ляжала побач, стаў рабіць выгляд, што чытае.

– Можа, вам прыйдзецца з'ездзіць з намі, скажам, у Кан.

– У Кан?

Гранмэзон узняў галаву і нахмурыўся.

– Але, у Кан! Варта было б сказаць вам пра гэта раней, тады б пані Гранмэзон не трэба было ехаць сюды.

– Не разумею, якое дачыненне можа мець мая жонка...

– Да гэтай гісторыі? – скончыў Мэгрэ. – І я таксама не разумею!

Камісар прайшоў да пісьмовага стала, на якім ляжалі запалкі, зноў распаліў люльку.

– Зрэшты, гэта няважна, – сказаў ён ужо больш спакойна, – бо хутка ўсё высветліцца... Дарэчы, ведаеце, хто цяпер уладальнік «Сэн-Мішэля», якога збіраюцца зняць з мелі?.. Вялікі Луі!.. Дакладней, мусіць, не ўладальнік, а падстаўная асоба, якая дзейнічае ў інтарэсах Марціно...

Мэр стараўся ўгадаць, у якім кірунку працуе камісарава думка. Але пытанняў не задаваў і ўвогуле размовы не падтрымліваў.

– Зараз вы зразумееце сувязь. Вялікі Луі купляе «Сэн-Мішэль» гэтаму самаму Марціно за пяць дзён да знікнення Жарыса... Гэта адзінае судна, якое пакінула Вістрэам адразу ж пасля гэтай падзеі. Яно заходзіць у Ангельшчыну і Галандыю. І ў мяне ёсць факты, якія дазваляюць мне сцвярджаць, што да таго як апынуцца ў Парыжы, капітан Жарыс пабываў у Нарвегіі... А Марціно ж – нарвежац...

Мэр уважліва слухаў.

– Гэта не ўсё. Марціно вяртаецца ў Фекан, каб сесці на «Сэн-Мішэль». Вялікі Луі, яго давераная асоба, знаходзіцца тут за некалькі гадзін да смерці Жарыса.

Крыху пазней прыходзіць «Сэн-Мішэль» з Марціно на борце… А сёння ноччу гэты самы Марціно спрабуе ўцячы разам з большасцю тых, каго я прасіў застацца тут у маім распараджэнні… Толькі вас і знайшоў на месцы!

Мэр маўчаў. Толькі ўздыхнуў.

– Застаецца высветліць, навошта Марціно вярнуўся ў Вістрэам, чаму спрабаваў дабрацца да Парыжа, а таксама чаму вы загадалі па тэлефоне жонцы тэрмінова ехаць назад.

– Спадзяюся, вы не намякаеце на тое, што…

– Я? Ну што вы? Чуеце? Шум матора. Іду ў заклад, што гэта прыехала з Кана пані Гранмэзон. Магу я папрасіць вас нічога ёй не казаць? Будзьце ласкавы.

Званок. Крокі служанкі ў калідоры. Адгалоскі прыцішанай размовы, потым служанчын твар у прыадчыненых дзвярах. Але чаму яна маўчыць? Чаму так трывожна паглядвае на гаспадара?

– Ну, што яшчэ? – з нецярпеннем спытаўся мэр.

– Бачыце…

Мэгрэ адштурхнуў яе, выскачыў у калідор, у якім убачыў аднаго толькі шафёра ў ліўрэі.

– Вы згубілі пані Гранмэзон па дарозе? – спытаўся ён, працінаючы шафёра вачыма.

– Яна…

– Дзе яна вас пакінула?

– На развілку дарог на Кан і Давіль. Яна дрэнна сябе адчувала.

Мэр, які застаўся ў кабінеце, узняўся. Ён часта дыхаў, твар у яго стаў яшчэ больш змрочны.

– Пачакайце мяне! – крыкнуў ён шафёру.

Але, сутыкнуўшыся з Мэгрэ, які заступіў дарогу, спыніўся перад яго магутнай постаццю.

– Мяркую, вы згодзіцеся, што…

– Поўнасцю згодзен. Мы павінны ехаць туды.

## XII. Няскончаны ліст

Машына спынілася на развілцы. Дамоў тут не было, і шафёр азірнуўся, каб атрымаць новае распараджэнне. З таго моманту, як яны выехалі з Вістрэама, Гранмэзон здаваўся іншым чалавекам.

На віле ён кантраляваў сябе і думаў пра сваю годнасць нават у сама складаных для яго сітуацыях.

Зусім не тое было цяпер! Пэўна, яго ахапіла паніка. І гэта было тым больш адчувальна, што твар у яго ад пабояў літаральна ссінеў. Позірк быў неспакойны.

Калі машына спынілася, ён дапытліва зірнуў на Мэгрэ, і камісар, успомніўшы, як яшчэ ўчора вечарам расказваў яму мэр пра сваё расследаванне, не вытрымаў.

– Што будзем рабіць? – спытаўся ён, тоячы ўсмешку.

Ні на дарозе, ні ў навакольных садах не было ні душы. Вядома, пані Гранмэзон выйшла з машыны не для таго, каб пасядзець на абочыне. Калі яна, дабраўшыся да гэтае мясціны, адаслала шафёра – значыцца, у яе была прызначана тут сустрэча ці яна прыкмеціла чалавека, з якім хацела пагаманіць без сведкаў.

Лісце на дрэвах было вільготнае. Зямля патыхала перагноем. Каровы, не перастаючы жаваць, глядзелі нерухомымі вачыма на машыну.

А мэр усё ўзіраўся ў сады, бы хацеў праццяць іх поглядам, так спадзяваўся ўбачыць жонку за якім-небудзь плотам ці дрэвам.

– Глядзіце! – сказаў Мэгрэ, нібы дапамагаючы нявопытнаму памочніку.

На дарозе ў Дзіў віднеліся сляды шынаў. Відаць было, што тут спынялася нейкая машына, якая з цяжкасцю развярнулася на вузкай дарозе і паехала назад.

– Стары грузавічок... Паехалі, шафёр!

Ад'ехалі недалёка. Задоўга да ўезду ў Дзіў сляды абрываліся каля камяністай сцежкі. Гранмэзон, па-ранейшаму насцярожаны, глядзеў вакол сябе з трывогаю, на Мэгрэ – з нянавісцю.

– Што там, як вы думаеце?

– Вёсачка, метраў пяцьсот.

– У такім выпадку машыну лепш пакінуць тут.

Камісар быў настолькі стомлены, што выглядаў абыякавым да ўсяго. Ён ледзь не спаў на хаду. Здавалася, заставаўся яшчэ на нагах толькі па інерцыі. Убачыўшы, як яны ідуць па дарозе, кожны падумаў бы, што камандуе тут мэр, а Мэгрэ пакорліва сунецца за ім, як і належыць падначаленаму.

Прайшлі міма дома, вакол яго корпаліся куры. Гаспадыня здзіўлена глянула на незнаёмых. Мінулі невялікую цэркаўку, няшмат большую за звычайнае сялянскае жытло. Злева ад яе была тытунёвая крама.

– Вы дазволіце? – сказаў Мэгрэ, паказваючы пусты капшук.

Ён увайшоў у краму, дзе прадаваліся таксама бакалейныя тавары і розныя прадметы хатняга ўжытку. З пакоя са скляпеністай столлю выйшаў стары, паклікаў дачку, і тая прадала камісару тытуню. Пакуль дзверы заставаліся адчыненыя, камісар паспеў убачыць на сцяне тэлефон.

– У колькі гадзін мой сябар прыходзіў званіць сёння раніцай?

– Ды болей чым гадзіну назад, – адразу ж адказала жанчына.

– Значыцца, і пані прыехала?

– Прыехала! Нават да нас заходзіла, дарогі пыталася... Вам няцяжка будзе знайсці, дзе тут яны спыніліся... Па гэтай самай вуліцы – апошні дом справа...

Мэгрэ выйшаў у поўным спакоі. А Гранмэзон стаяў перад царквою, пазіраючы вакол сябе з такім выглядам, што проста не мог не выклікаць у вяскоўцаў падазрэння.

– Я падумаў, – ціха сказаў Мэгрэ, – давайце падзелімся... Вы будзеце шукаць злева, там, дзе поле, а я справа...

Камісар прыкмеціў у вачах у спадарожніка радасны бляск. Мэр разлічваў першы знайсці жонку і пагаварыць з ёю сам-насам. Але, радуючыся, трымаў сябе ў руках.

– Добра, – адказаў ён, напусціўшы на сябе абыякавасць.

* * *

У вёсцы было дамоў дваццаць, не болей. У некаторых мясцінах, прыціснуўшыся адзін да аднаго, хаты збіраліся ў нешта накшталт вулкі, якая, праўда, была завалена купкамі гною. Усё яшчэ ішоў дождж, такі дробненькі, што можна было сказаць, гэта сыпаўся з неба нейкі вадзяны пыл. На вуліцы нікога не было. Аднак фіранкі на вокнах варушыліся. За імі ў хатнім паўзмроку ўгадваліся

зморшчаныя твары старых жанчын.

На самым краі вёсачкі, акурат каля агароджы вакол лугу, пасвіліся два кані. Мэгрэ ўбачыў невялічкую хаціну, дах якой прыкметна пакасіўся. Камісар азірнуўся і, пачуўшы мэравы крокі на другім канцы вёсачкі, не стаў стукацца ў дзверы.

Увайшоўшы ў хату, ён пачуў нейкі шоргат. Было зусім цёмна, у печы ледзь гарэла. Перад вачыма вырасла нейкая згорбленая старая ў белым каўпаку.

– Хто там? – спыталася яна, тупаючы насустрач камісару.

Было горача. Пахла саломаю, капустаю, седалам. Вакол дроў, складзеных у куце, нешта дзяўблі кураняты.

Мэгрэ, які амаль даставаў галавою да столі, убачыў дзверы ў глыбіні памяшкання і зразумеў, што дзейнічаць трэба хутка. Не кажучы ні слова, падышоў да гэтых дзвярэй і адчыніў іх. Пані Гранмэзон была там. Седзячы за сталом, яна нешта пісала. Побач з ёю стаяў Жан Марціно.

Убачыўшы камісара, яны разгубіліся. Жанчына ўзнялася з саламянага крэсла, а Марціно адразу ж схапіў і змяў аркуш паперы. Абое інстынктыўна наблізіліся адно да аднаго.

У хаціне былі толькі два пакоі. Другі быў спальняю старой. На яго сценах, пабеленых вапнаю, віселі два партрэты і танныя лубкі ў чорных з пазалотаю рамках. Высокі ложак і стол, за якім пісала пані Гранмэзон. Відно было, што з яго толькі што знялі тазік, які стаяў цяпер на падлозе.

– Праз некалькі хвілін ваш муж будзе тут! – пачаў Мэгрэ.

Марціно з нянавісцю кінуў:

– І гэта вы прывялі яго сюды?

– Маўчы, Раймон, – спыніла пані Гранмэзон.

Яна была з ім на «ты» і называла яго не Жан, а Раймон.

Адзначыўшы сам сабе гэтыя дэталі, Мэгрэ падышоў да дзвярэй, прыслухаўся і вярнуўся да стала.

– Будзьце ласкавы, перадайце мне ліст, які вы пачалі пісаць.

Раймон-Марціно і пані Гранмэзон пераглянуліся. Жанчына была стомленая і бледная. Мэгрэ ўжо бачыў яе

аднойчы, але тады яна выконвала пачэсныя абавязкі гаспадыні багатага дома, якая прымае ў сябе знакамітых людзей Кана.

Тады ён адзначыў яе бездакорнае выхаванне і завучаную грацыёзнасць, з якой яна ўмела падаць кубак гарбаты або адказаць на камплімент.

Ён уявіў сабе яе жыццё: хатнія клопаты ў Кане, візіты, выхаванне дзяцей. Штогод два-тры месяцы на водах або ў санаторыях. Умеранае какецтва. Імкненне не так здавацца прыгожай, як захаваць годнасць.

Бясспрэчна, усё гэта было ў жанчыне, якая стаяла цяпер перад ім. Але праглядвала і штосьці іншае. Па праўдзе кажучы, яна трымалася больш спакойна і ўпэўнена, чым яе спадарожнік.

– Аддай яму ліст, – сказала яна, калі ён сабраўся разарваць скамячаны аркуш.

Напісана было ўсяго толькі некалькі слоў:

«Пан дырэктар, маю гонар прасіць вас…»

Буйны почырк з нахілам – тыповы для жанчын, якія выхоўваліся ў пансіёнах пачатку стагоддзя.

– Сёння раніцай вам двойчы званілі, праўда?.. Адзін раз – ваш муж… Ці, дакладней, вы яму самі паведамілі, што едзеце ў Вістрэам. Потым званіў пан Марціно: прасіў вас прыехаць сюды. Ён паслаў па вас на развілак грузавічок.

На стале за чарніліцаю ляжаў нейкі пачак, які Мэгрэ не адразу прыкмеціў, – стос банкнотаў па тысячы франкаў.

Марціно злавіў камісараў позірк. Хаваць грошы было позна. Надламаны стомаю, што агарнула яго, апусціўся на край ложка і ўтаропіўся абыякавымі вачыма ў падлогу.

– Гэта вы прывезлі яму грошы?

І зноў маўчанне, у каторы ўжо раз у гэтым следстве! Маўчала Жулі. Не сказалі ні слова ў адказ Гранмэзон і Вялікі Луі на мэравай віле, калі камісар заспеў матроса якраз у той самы момант, як ён лупцаваў гаспадара. Ні ў чым не адкрыліся мінулай ноччу і сябры экіпажа «Сэн-Мішэля».

Ну і ўпартасць! Ніводнага слова, якое б дапамагло хоць што-небудзь прасвятліць!

– Мяркую, вы збіраліся адрасаваць гэты ліст

дырэктару калежа «Станіслаў»? Ваш сын вучыцца там, і пісьмо, напэўна, датычыць яго... А грошы... Ну вядома! Спяшаючыся, Марціно быў вымушаны пакінуць шхуну, якая села на мель, і дабірацца да берага плывам... Там ён, як я разумею, і згубіў кашалёк... А вы прывезлі яму грошы, каб...

Раптоўна змяніўшы і тэму і тон, ён спытаўся:

– А астатнія, Марціно? Усе цэлыя?

Марціно нейкі час вагаўся, алё ўрэшце кіўнуў галавою.

– Я не пытаюся ў вас, дзе яны хаваюцца. Ведаю, што гэтага вы не скажаце...

– Праўда.

– Што – «праўда»?

Гэта гучаў голас раз'юшанага мэра – дзверы былі шырока расчыненыя. Яго нельга было пазнаць. Ён проста задыхаўся ад нянавісці. Сціскаў кулакі, гатовы кінуцца на ворага. Пераводзіў позірк з жонкі на Марціно, з Марціно на стос банкнот, які ўсё яшчэ ляжаў на стале.

Погляд у яго быў пагрозлівы, але раз-пораз мільгалі ў ім не то жах, не то адчуванне краху.

– Што – праўда?.. Што ён сказаў?.. Што ён вам яшчэ наманіў?.. А яна? Яна, якая... якая...

Ён больш не мог гаварыць. Мэгрэ стаяў побач, гатовы ўмяшацца.

– Што – праўда?.. Што тут адбываецца?.. Што за балбатню вы тут развялі?.. І чые гэта грошы?..

Чуваць было, як у суседнім пакоі старая шоргала нагамі і клікала з ганка куранят: «Цып-цып-цып-цып!..»

Кукурузныя зярняткі градам сыпаліся на каменныя прыступкі ганка. Старая адганяла нагою суседскую курыцу:

– Кыш, кыш, пайшла вон, Чарнушка!..

А ў спальні – ні гуку! Глыбокая цішыня! Яна прыгнятала, як неба ў гэты дажджлівы ранак.

Гэтыя трое нечага баяліся... Вядома, баяліся!.. Усе трое!.. І Марціно, і мэр, і яго жонка!.. І кожны баяўся па-свойму... У кожнага быў свой страх!..

Мэгрэ напусціў на сябе ўрачысты выгляд і паволі, быццам суддзя, пачаў:

– Пракуратура даручыла мне знайсці і арыштаваць

забойцу капітана Жарыса, раненага стрэлам з пісталета ў галаву, а праз месяц атручанага стрыхнінам у сябе дома. Ці не хоча хто з прысутных заявіць што-небудзь з гэтай нагоды?

Дагэтуль ніхто не заўважыў, што печ у пакоі была няпаленая, – і раптам усе адчулі, як тут было холадна. Кожнае слова гучала гулка, як у царкве. Здавалася, што ўсё яшчэ чуецца: «…атручанага стрыхнінам…» Асабліва стаялі ў вушах апошнія словы: «Ці не хоча хто з прысутных заявіць што-небудзь з гэтай нагоды?»

Марціно першы апусціў галаву. Пані Гранмэзон кінула позірк на мужа, пасля на нарвежца. Вочы ў яе блішчалі.

Але ніхто не вымавіў ні слова. Ніхто не мог вытрымаць цяжкага позірку Мэгрэ.

Дзве хвіліны… Тры… Чуваць было, як старая падкідвала ў печ дровы…

Зноў камісараў голас, наўмысна сухі, без ніякага пачуцця:

– Жан Марціно, імем закона вы арыштаваны!

Крык жанчыны. Усёй сваёй істотаю пані Гранмэзон падалася была да Марціно – і адразу ж страціла прытомнасць.

Раз'юшаны мэр павярнуўся да сцяны.

А Марціно, нібыта скарыўшыся, стомлена ўздыхнуў. І нават не падышоў да жанчыны.

Мэгрэ нахіліўся над ёю, пашукаў вачыма шклянку вады.

– Воцат ёсць? – спытаўся ён, адчыніўшы дзверы, у старой.

І без таго цяжкае паветра халупы змяшалася з пахам воцату.

Неўзабаве пані Гранмэзон апрытомнела. Узнервавана ўсхліпнуўшы некалькі разоў, яна спыніла позірк на нейкім узоры на дыване.

– Вы можаце ісці.

Яна слаба кіўнула галавою, паднялася і пайшла да дзвярэй няроўнай паходкаю.

– Прашу вас ісці за мною, панове! Спадзяюся, гэтым разам я магу разлічваць на тое, што вы будзеце памяркоўныя?

Разгубленая старая моўчкі глядзела ім услед. І толькі калі ўжо ўсе выйшлі на двор, яна кінулася да дзвярэй і крыкнула:

– Пан Раймон, вы вернецеся абедаць?

Раймон! Ужо другі раз гучала гэтае імя. Марціно адмоўна пакруціў галавою.

Усе чацвёра пайшлі па вясковай вуліцы. Перад тытунёвай крамай Марціно спыніўся і сказаў Мэгрэ:

– Выбачайце, але я не ведаю, ці вярнуся яшчэ сюды, і мне не хацелася б пакідаць за сабою даўгі. Я павінен заплаціць тут за тэлефон, грог і пачак цыгарэт.

Заплаціў Мэгрэ. Выйшлі з вёскі. У канцы няроўнай дарогі іх чакала машына. Камісар запрасіў усіх сесці ў яе і, падумаўшы крыху, сказаў шафёру:

– У Вістрэам! Але спачатку спыніцеся каля жандармерыі.

Усю дарогу праехалі моўчкі. Па-ранейшаму ішоў дождж, неба было ўсё такое ж шэра-халоднае, вецер спакваля ўзмацняўся і пагойдваў мокрыя дрэвы.

Перад жандармерыяй Мэгрэ папрасіў Марціно выйсці з машыны і загадаў начальніку аддзялення:

– Пасадзіць яго ў камеру… Вы адказваеце за яго. Тут нічога новага?

– Буксір прыйшоў. Чакаюць, калі павысіцца ўзровень мора.

Паехалі далей. Мэгрэ трэба было пабываць у порце, і камісар яшчэ раз спыніў машыну, выйшаў з яе на хвілінку.

Быў поўдзень. Шлюзаўшчыкі чакалі на сваіх месцах параход з Кана. Мора падыходзіла ўсё бліжэй да берага, белыя хвалі набіралі ўсё больш моцы.

Справа стаяў вялікі натоўп. Людзі з цікаўнасцю разглядвалі буксір з Трувіля, што стаяў на якары за паўмілі ад берага. Да «Сэн-Мішэля», які з прылівам ужо напалову выраўняўся, набліжалася невялікая шлюпка.

Глянуўшы на машыну, Мэгрэ заўважыў, што мэр таксама назірае за выратавальнымі работамі. З шынка выйшаў капітан Дэлькур.

– Атрымаецца? – спытаўся камісар.

– Думаю, што ўсё будзе нармальна. Вось ужо дзве гадзіны яны вызваляюць шхуну ад баласту. Толькі б швартовы не парваліся. – Спрабуючы ўгадаць, які будзе

вецер, ён паглядзеў на неба, бы на карту. – Трэба адно зрабіць усё гэта да канца прыліву.

Начальнік порта заўважыў, што ў машыне сядзяць мэр і яго жонка, пачціва павітаў іх, але больш у іх бок не глядзеў.

Падышоў Люка, адвёў камісара на колькі крокаў ад Дэлькура.

– Узялі Вялікага Луі.

– Гм!

– Сам папаўся!.. Сёння раніцай жандары з Дзіў заўважылі сляды на полі... Сляды чалавека, які ішоў напрасткі, перамахваючы праз агароджы... Сляды вялі да ракі, да мясціны, дзе адзін рыбак пакідае звычайна на беразе лодку... А тут яна была на другім беразе...

– Жандары перабраліся туды?

– Але... І выйшлі акурат насупраць шхуны. Там, каля дзюнаў, ёсць...

– Разваліны капліцы!

– Вы ўжо ведаеце?

– Капліца Божай Маці Дзюнаў...

– Ну, там яго і накрылі... Ён залез туды і назіраў за выратавальнымі работамі. Калі я прыйшоў, ён упрошваў жандараў не забіраць яго адразу і дазволіць заставацца там, пакуль не выратуюць шхуну... Я дазволіў... Ён у кайданках... Аддае загады: баіцца, што без яго судна загіне... Не хочаце глянуць на яго?

– Не ведаю... Можа, крыху пазней...

Камісара чакалі ў машыне мэр з жонкаю.

– Думаеце, дакапаемся ўрэшце да праўды? – спытаўся Люка.

І, паколькі Мэгрэ не адказваў, інспектар дадаў:

– Асабіста я пачынаю думаць, што не. Усе маняць! А тыя, што не маняць, маўчаць, хоць і ведаюць сёе-тое. Можна падумаць, што ў смерці Жарыса вінаваты ўвесь гарадок...

Але камісар адно паціснуў плячыма і пайшоў да машыны.

– Да сустрачы! – толькі і сказаў на хаду.

У машыне ён вельмі здзівіў шафёра, загадаўшы:

– Дамоў!

Нібыта гаворка ішла пра яго ўласны дом, гаспадаром

якога быў ён сам.

– Дамоў у Кан?

Па праўдзе кажучы, Мэгрэ яшчэ пра гэта не думаў, але словы шафёра навялі яго на думку.

– Але, у Кан!

Гранмэзон нахмурыўся. Што да яго жонкі, дык тая, здавалася, скарыўшыся, плыла па цячэнні.

* * *

Па дарозе ад гарадскіх варот да вуліцы Дзюфур з Гранмэзонамі павіталіся чалавек пяцьдзесят. Відаць, мэраву машыну ведалі ўсе. Віталіся вельмі пачціва. Суднаўладальнік быў падобны на сеньёра, што аб'язджае свае землі.

– Простая фармальнасць! – сказаў Мэгрэ праз зубы, калі машына спынілася. – Выбачайце, што прывёз вас сюды. Але, як я ўжо вам казаў, неабходна, каб сёння вечарам усё было скончана…

Паабапал ціхай вуліцы стаялі прыватныя дамы, якія цяпер можна ўбачыць толькі ў правінцыі. Перад домам з пачарнелага каменю ўзвышалася вежа. На агароджы перад уваходам вісела медная шыльда з надпісам: «Ангельска-Нармандская навігацыйная кампанія».

У двары стаяў указальнік: «Каса». На дзвярах вісела яшчэ адна шыльда: «Кантора адчынена з 9 да 16 гадзін».

Было крыху больш за дванаццаць. Дарога да Кана заняла ўсяго толькі дзесяць хвілін. У гэты час большасць служачых абедала, але некаторыя сядзелі яшчэ за сваімі сталамі. У пакоях было змрочна. Тоўстыя дываны і мэбля ў стылі Луі-Філіпа надавалі канторы ўрачысты выгляд.

– Пані, зрабіце ласку, падыміцеся да сябе. Праз нейкі час я, напэўна, папрашу вас знайсці для мяне колькі хвілін.

Першы паверх быў цалкам адведзены пад памяшканні кампаніі. У вялізным вестыбюлі па баках стаялі свяцільні з каванага жалеза. На другі паверх, які займалі муж і жонка Гранмэзон, вяла мармуровая лесвіца.

Мэр Вістрэама, пахмурны, злосны, чакаў, што скажа яму Мэгрэ.

– Што вы яшчэ хочаце ведаць? – ціха спытаў ён і,

падняўшы каўнер паліто, насунуў капялюш на вочы, каб служачыя не бачылі яго твару, спляжанага кулакамі Вялікага Луі.

– Нічога асаблівага. Я толькі прашу ў вас дазволу пахадзіць тут, падыхаць паветрам дома.

– Я вам патрэбен?

– Не.

– У такім выпадку дазвольце мне падняцца да пані Гранмэзон.

Пачцівы тон, з якім ён гаварыў пра сваю жонку, ніяк не вязаўся з ранішняй сцэнаю ў халупе ў старой. Мэгрэ пачакаў, пакуль мэр падымецца па лесвіцы. Пасля прайшоў у канец калідора і пераканаўся, што ў доме быў толькі адзін выхад. Выйшаў на вуліцу, знайшоў непадалёк паліцэйскага і загадаў яму стаяць каля агароджы.

– Зразумелі? Выпускаць усіх, апроч суднаўладальніка. Вы яго ведаеце?

– Ну, як не ведаць!.. Але… што ён нарабіў? Такі чалавек!.. Вы знаеце, што ён старшыня гандлёвай палаты?

– Тым лепш!

Кабінет справа ў вестыбюлі «Генеральны сакратарыят». Мэгрэ пастукаў, адчыніў дзверы, удыхнуў пах цыгары, але нікога не ўбачыў.

Кабінет злева: «Дырэктар». Тая ж самавітая, урачыстая атмасфера, тыя ж цёмна-чырвоныя дываны, шпалеры з пазалотаю, столі з мудрагелістай лепкаю.

Уражанне такое, што ніхто не асмеліўся б размаўляць тут уголас. Камісар уявіў сабе перапоўненых годнасцю паноў, у візітках і штанах у палоску, з тоўстымі цыгарамі ў зубах, за дзелавой размоваю.

Самавітая кампанія! З традыцыямі, якія перадаюцца тут, у правінцыі, праз стагоддзі з пакалення ў пакаленне. «Пан Гранмэзон?.. Яго подпіс надзейны, як золата ў злітках».

Мэбля ў кабінеце была ў стылі ампір, які больш падыходзіў для галоўнага пакоя кампаніі. На сценах – фатаграфіі караблёў, статыстычныя табліцы, каляровыя графікі.

Мэгрэ хадзіў па кабінеце, засунуўшы рукі ў кішэні, калі ў дзвярах з'явіўся нейкі стары.

– Што гэта такое?! – разгубіўся ён.

– Паліцыя! – кінуў Мэгрэ такім сухім тонам, што збоку можна было падумаць: ён кажа так, любячы кантрасты.

Стары, збянтажаны ўжо дазвання, мала не закалаціўся.

– Не хвалюйцеся. Я расследую справу па даручэнні вашага патрона. Вы ж…

– Галоўны касір, – спешна пацвердзіў стары.

– Гэта вы служыце ў кампаніі вось ужо… вось ужо…

– Сорак два гады. Я пачынаў тут яшчэ пры пане Шарлі.

– Вельмі прыемна. Значыць, гэта ваш кабінет справа? Па сутнасці цяпер усё тут трымаецца на вас, праўда? Ва ўсякім выпадку мне так казалі.

Тут усё ў Мэгрэ ішло як па масле. Дастаткова было ўбачыць дом, пасля гэтага старога слугу, каб здагадацца пра ўсё.

– Гэта ж натуральна, вы не згодны? Калі пан Эрнэст адсутнічае…

– Пан Эрнэст?

– Пан Гранмэзон. Я ведаў яго, калі ён быў яшчэ зусім дзіця, вось і называю яго панам Эрнэстам.

Мэгрэ нібыта між іншым увайшоў у канторку старога. Гэта быў сціплы пакой, адчувалася, што наведнікаў тут не бывае. Затое стол быў завалены папкамі. Сярод іх ляжалі загорнутыя ў паперу бутэрброды. На спіртоўцы дыміўся маленькі кафейнік.

– Вы тут і абедаеце, пан… Вось табе і на, забыў раптам ваша імя…

– Бернардэн… Але ўсе завуць мяне «дзядзька Бернар»… Я жыву адзін, так што і на абед дамоў хадзіць няма чаго… Вось… А пан Эрнэст запрасіў вас з нагоды дробнага крадзяжу на тым тыдні?.. Трэба было яму мяне папярэдзіць… Усё ўжо ў парадку… Адзін малады чалавек узяў у касе дзве тысячы франкаў… Але яго дзядзька вярнуў грошы… Малады чалавек даў слова… Вы разумееце?.. У такім узросце!.. Ды столькі ў нас дрэнных прыкладаў перад вачыма!..

– Мы пра гэта яшчэ пагаворым… Прашу вас, не звяртайце на мяне ўвагі, абедайце… Словам, вы былі даверанай асобай спачатку пана Шарля, а потым ужо яго

сына, пана Эрнэста...

– Спачатку я быў касірам... Тады ў іх яшчэ не было галоўнага касіра... Можна нават сказаць, што гэтую пасаду ўвялі спецыяльна для мяне...

– Пан Эрнэст адзіны сын у пана Шарля?

– Але, адзіны. Была яшчэ дачка, якая выйшла замуж за прамыслоўца з Ліля, але яна памерла пры родах разам з дзіцёнкам...

– А пан Раймон?

Стары здзіўлена ўскінуў галаву.

– Як? Пан Эрнэст казаў вам?..

«Дзядзька Бернар» адразу ж насцярожыўся.

– Ён не належаў да гэтай сям'і?

– Стрыечны брат. Таксама Гранмэзон... Толькo спадчыны ён не атрымаў... Яго бацька памёр недзе ў калоніях... Такое ж часта здараецца ва ўсіх сем'ях, праўда?..

– Ва ўсіх сем'ях! – пацвердзіў не маргнуўшы вокам Мэгрэ.

– Бацька пана Эрнэста ўсё роўна як усынавіў яго... Карацей кажучы, знайшоў тут яму месца...

Мэгрэ патрабаваліся факты больш дакладныя, і ён перастаў хітраваць.

– Хвілінку, пан Бернар! Дазвольце, я збяруся з думкамі... Заснавальнік «Англьска-Нармандскай кампаніі» – пан Шарль Гранмэзон, так?.. У пана Шарля Гранмэзона – адзіны сын, пан Эрнэст, сённяшні дырэктар кампаніі...

– Але...

Стары зноў разгубіўся. Яго бянтэжыў такі дапытлівы тон.

– Так! У пана Шарля быў брат, які памёр у калоніях, таксама пакінуўшы адзінага сына – Раймона Гранмэзона.

– Але... Я не...

– Чакайце! Ды ешце, прашу вас. Пана Раймона, сірату без грошай, прымаюць у дом дзядзькі, даюць месца ў кампаніі. Якое?

– Гм, – запнуўся стары. – Яго назначылі ў аддзел фрахтавання нейкім начальнікам.

– Так! Пан Шарль памірае і пакідае спадчыну пану Эрнэсту. Пан Раймон усё яшчэ тут.

– Але.

– І раптам яны сварацца. Хвілінку! У момант сваркі пан Эрнэст быў жанаты?

– Не ведаю, ці магу я…

– Я раіў бы вам гаварыць, калі вы не хочаце мець на старасці гадоў непрыемнасці з правасуддзем.

– Правасуддзем? Пан Раймон вярнуўся?

– Няважна. Пан Эрнэст быў ужо жанаты?

– Не. Яшчэ не быў.

– Так! Пан Эрнэст – дырэктар кампаніі. Яго стрыечны брат – начальнік аддзела. Што адбываецца пасля?

– Я не думаю, што маю права…

– Я даю вам гэтае права.

– Такое бывае ва ўсякіх сем'ях… Пан Эрнэст быў чалавек сур'ёзны, як яго бацька… Нават у тым узросце, калі яшчэ робяць звычайна глупствы, ён быў такі, як цяпер…

– А пан Раймон?

– Поўная процілегласць!

– Ну і?..

– Пра гэта ведаю толькі я і сам пан Эрнэст… Былі выяўлены парушэнні ў справаздачнасці… Сур'ёзныя парушэнні…

– І?..

– Пан Раймон знік… Інакш кажучы, замест таго каб аддаць яго ў рукі правасуддзя, пан Эрнэст папрасіў яго выехаць за мяжу…

– У Нарвегію?

– Не ведаю… Я пра яго больш нічога не чуў…

– Пан Эрнэст ажаніўся неўзабаве пасля таго?

– Але… Прайшло колькі месяцаў…

Уздоўж сцен цягнуліся паліцы з папкамі непрыемнага зялёнага колеру. Стары клерк еў без усялякага апетыту. Ён быў устрывожаны і злаваўся на сябе, што міжволі столькі ўжо расказаў.

– Калі гэта здарылася?

– Чакайце… Гэта было ў той год, калі пашыралі канал… Пятнаццаць гадоў таму… Не, крыху меней…

Ужо некалькі хвілін над галавою чуліся чыесьці крокі.

– Гэта ў сталовай? – спытаў Мэгрэ.

– Але…

Раптам крокі сталі больш частыя, пачуўся глухі ўдар, гук цела, якое падала на падлогу.

«Дзядзька Бернар» збялеў, як папера, у якую былі загорнуты яго бутэрброды.

## XIII. Дом насупраць

Мэр быў мёртвы. Ён ляжаў на дыване. Яго цела здавалася велізарным: галава – каля ножак стала, ногі – каля акна. Крыві амаль не было. Куля прайшла паміж рэбраў акурат у сэрца.

За некалькі сантыметраў ад Гранмэзона ляжаў рэвальвер, які выпаў з яго рук.

Пані Гранмэзон не плакала. Яна стаяла, абапіраючыся на масіўны камін, і глядзела на нябожчыка, быццам не разумела яшчэ, што здарылася.

– Усё! – сказаў Мэгрэ, выпростваючыся.

Пакой был вялікі і сціпла абсталяваны. Праз цёмныя шторы на вокнах прабівалася шызаватае святло.

– Ён гаварыў з вамі?

Яна адмоўна пакруціла галавою. Пасля з цяжкасцю прашаптала:

– Калі мы вярнуліся, ён усё хадзіў узад і ўперад… Два-тры разы павярнуўся да мяне, і я падумала, што ён збіраецца нешта мне сказаць… А потым раптам стрэліў, але я нават не бачыла рэвальвера…

Яна гаварыла так, як гавораць вельмі ўсхваляваныя жанчыны, калі ім цяжка сачыць за ходам сваіх думак. Але вочы ў яе заставаліся сухія.

Было відаць, што яна ніколі не кахала Гранмэзона, ва ўсякім разе сапраўднага кахання паміж імі не было.

Яна была яго жонкаю і выконвала свой абавязак. Прывычка, сумеснае жыццё ў нейкай меры зблізілі іх.

Але нясцерпнага гора, якое звычайна ахапляе людзей у момант смерці па-сапраўднаму блізкага чалавека, яна перад целам мёртвага мужа не адчувала.

– Гэта ён? – ціха спыталася яна ў Мэгрэ.

– Ён, – пацвердзіў камісар.

Запала доўгае маўчанне. Мэгрэ назіраў за пані Гранмэзон. Тая глядзела ў акно. Вочы яе нібыта нешта шукалі на вуліцы. Твар у яе быў вельмі сумны.

– Дазвольце задаць вам некалькі пытанняў, пакуль ніхто яшчэ не прыйшоў.

Яна згадзілася.

– Вы ведалі Раймона да знаёмства з мужам?

– Я жыла ў доме насупраць.

Шэры дом, вельмі падобны на гэты. Над дзвярыма – пазалочаны герб натарыуса.

– Я кахала Раймона. І ён кахаў мяне. Эрнэст заляцаўся да мяне, але рабіў гэта зусім не так, як Раймон.

– Яны – вельмі розныя, праўда?

– Эрнэст ужо тады быў такі, якім вы яго ведалі. Халодны чалавек без узросту. А ў Раймона была благая рэпутацыя, бо жыццё, якое ён вёў, было для нашага маленькага гарадка дужа бязладнае. З гэтай прычыны, а таксама таму, што ён быў бедны, бацька не згаджаўся на мой шлюб з ім.

Дзіўныя былі гэтыя прызнанні, якія яна рабіла каля цела мёртвага мужа. Здавалася, яна падводзіла сумны рахунак свайго жыцця.

– Вы былі каханкай Раймона?

Яна апусціла павекі.

– І ён паехаў?

– Нікога не папярэдзіўшы. Ноччу. Мне сказаў пра гэта Эрнэст. Паехаў, узяўшы з сабою нейкую частку грошай з касы кампаніі.

– І Эрнэст ажаніўся з вамі? Ваш сын – не яго, праўда?

– Гэта сын Раймона. Уявіце сабе, калі ён паехаў і пакінуў мяне адну, я ўжо ведала, што стану маці. А Эрнэст прасіў маёй рукі. Вы толькі паглядзіце на гэтыя дамы, вуліцу, горад, дзе ўсе ведаюць адно аднаго.

– Вы сказалі яму праўду?

– Але. І ўсё ж такі ён ажаніўся са мною. Дзіця нарадзілася ў Італіі, дзе я правяла амаль год, каб пазбегнуць розных перасудаў. Я лічыла, што муж паводзіў сябе проста геранчна.

– А потым?

Яна адвярнулася, бо позірк яе ўпаў на мужава цела. Уздыхнуўшы, загаварыла зноў:

– Не ведаю. Думаю, ён кахаў мяне па-свойму. Ён хацеў, каб я стала яго жонкаю, – і атрымаў мяне, вы гэта можаце зразумець? Чалавек, няздольны да парыву.

Ажаніўшыся, ён жыў, як і раней, для самога сябе. Я была часткай яго дома. Нешта накшталт даверанай асобы ў канторы. Не ведаю, ці паведамлялі яму пасля што-небудзь пра стрыечнага брата, але калі аднаго разу сын убачыў фатаграфію Раймона і спытаўся, хто гэта, Эрнэст толькі і сказаў:

– Стрыечны брат, які дрэнна скончыў.

Мэгрэ быў крыху ўсхваляваны: перад яго вачыма прайшло цэлае жыццё. І жыццё не аднаго чалавека, а цэлага дома, сям'і!

І гэтак праляцелі пятнаццаць гадоў! Купляліся новыя параходы. У гэтым вось пакоі ладзіліся прыёмы, партыі ў брыдж і абеды, вячэры…

Лета праводзілі ў Вістрэаме і ў гарах.

А цяпер пані Гранмэзон адчувала толькі стомленасць. Яна апусцілася ў крэсла, правяла рукою па твары.

– Не разумею, – прашаптала яна. – Гэты капітан… Я яго ніколі раней не бачыла. Вы сапраўды думаеце, што?..

Мэгрэ прыслухаўся і пайшоў адчыняць дзверы. За імі стаяў «дзядзька Бернар». Ён быў устрывожаны, але ўвайсці ў пакой не асмельваўся. Клерк дапытліва паглядзеў на камісара.

– Пан Гранмэзон памёр. Паведаміце гэта яго доктару. А служачым і слугам скажаце крыху пазней.

Мэгрэ зачыніў дзверы, сунуў быў руку ў кішэню па люльку, але перадумаў паліць.

У яго душы нарадзілася дзіўнае пачуццё сімпатыі, павагі да гэтай жанчыны, якая пры першай сустрэчы здалася яму вельмі банальнай істотай.

– Гэта муж паслаў вас учора ў Парыж?

– Але. Я не ведала, што Раймон у Францыі. Муж мяне проста папрасіў забраць сына з калежа і правесці з ім колькі дзён на поўдні. Я не разумела, нашто гэта трэба, аднак зрабіла, як ён хацеў. Але толькі я прыехала ў «Лютэцыю», Эрнэст пазваніў мне і сказаў, каб я не ішла ў калеж, а вярталася дамоў.

– А сёння раніцай вам званіў Раймон?

– Званіў. Прасіў тэрмінова прывезці яму крыху грошай. Кляўся, што ад гэтага залежыць наш далейшы спакой.

– Не вінавацію вашага мужа?

– Не. Там, у халупе, ён нават не ўспомніў пра яго. Гаварыў пра нейкіх сяброў, маракоў, якім ён павінен заплаціць, перш чым паехаць з Францыі. Казаў яшчэ нешта пра нейкае караблекрушэнне.

Прыйшоў доктар, сябра сям'і. З жахам, не верачы вачам, глядзеў на труп.

– Пан Гранмэзон скончыў жыццё самагубствам! – цвёрда вымавіў Мэгрэ. – А вам трэба вызначыць хваробу, ад якой ён памёр. Вы мяне разумееце? Паліцыю я бяру на сябе…

Ён падышоў да пані Гранмэзон, пакланіўся ёй. Тая пасля некаторых ваганняў спытала:

– Вы не сказалі мне, чаму…

– Раймон вам калі-небудзь усё раскажа… Апошняе пытанне… Шаснаццатага верасня ваш сын быў у Вістрэаме з вашым мужам, так?

– Так, ён заставаўся там да дваццатага.

Адышоўшы спінай да дзвярэй, Мэгрэ выйшаў з пакоя. Цяжка ступаючы, ён спусціўся па лесвіцы на першы паверх, прайшоў па калідоры, адчуваючы нейкі цяжар на плячах і агіду ў душы.

На вуліцы ён глыбока ўдыхнуў свежае паветра. Нейкі час стаяў пад дажджом з голай галавою, як бы хацеў асвяжыцца, скінуць з сябе ўсё тое жахлівае, што вынес з дома Гранмэзонаў.

Зірнуў апошні раз на вокны. Пасля паглядзеў на дом насупраць, у якім мэрава ўдава правяла сваю маладосць, і глыбока ўздыхнуў.

* * *

– Выходзьце!

Мэгрэ адчыніў дзверы камеры, у якой сядзеў Раймон, і знакам загадаў арыштаванаму ісці за ім. Камісар ішоў паперадзе, спачатку па вуліцы, пасля па дарозе ў порт.

Раймон дзівіўся, не разумеючы прычыны гэтага раптоўнага вызвалення.

– Вы нічога не хочаце мне сказаць? – кінуў Мэгрэ наўмысна незадаволеным тонам.

– Нічога!

– Вы дадзіце вынесці вам прысуд?

– Я паўтару перад суддзямі, што нікога не забіваў!

– Але праўды не скажаце?

Раймон апусціў галаву. Удалечыні ўжо віднелася мора, чуліся гудкі буксіра, які ішоў да пірса, ведучы за сабою на стальным тросе «Сэн-Мішэля». Тады, быццам бы гэта было нешта зусім звычайнае, кінуў:

– Гранмэзон памёр.

– Га?.. Што вы сказалі?..

Раймон схапіў яго за руку і ліхаманкава сціснуў яе.

– Ён?..

– Налажыў на сябе рукі. Гадзіну таму назад, у сябе дома.

– Ён усё расказаў?

– Не! Хадзіў туды-назад па гасцёўні хвілін пятнаццаць, пасля стрэліў. Вось і ўсё!..

Яны зрабілі яшчэ некалькі крокаў. Удалечыні, на сценах шлюза, стаялі, назіраючы за выратавальнымі работамі, людзі.

– Цяпер вы можаце сказаць мне ўсю праўду, Раймон Гранмэзон… Зрэшты, я ўжо ведаю яе ў сама агульных рысах… Вы хацелі забраць з сабою вашага сына?

Ні слова адказу.

– Сярод людзей, у якіх вы прасілі дапамогі, быў і капітан Жарыс… Але, на жаль…

– Змоўкніце! Калі б вы ведалі…

– Хадземце сюды. Тут меней народу…

Дарога вяла да пустыннага берага, на які накатваліся хвалі.

– Вы праўда ўцяклі некалі з касай?

– Гэта Элен вам сказала?..

Ягоны голас стаў з'едлівы.

– Ну вядома!.. Эрнэст расказаў ёй усё па-свойму… Што ж, я не сцвярджаю, што быў святы… Наадварот!.. Жыў, як кажуць, весела… І адзін час захапляўся гульнёю… Выйграваў, прайграваў… Праўда, аднаго разу я скарыстаўся грашыма кампаніі, і кузен гэта прыкмеціў… Я абяцаў вярнуць паступова ўсе грошы і ўмольваў яго не даводзіць справу да скандалу… Ён усур'ёз сабраўся звярнуцца ў суд і згадзіўся толькі пры адной умове: каб я паехаў за мяжу і ніколі болей не вяртаўся ў Францыю!.. Цяпер вы разумееце? Ён хацеў, каб Элен стала яго

жонкаю! І ён гэтага дабіўся!

Горка ўсміхнуўшыся, Раймон нейкі час маўчаў, пасля пачаў зноў:

– Звычайна людзі адпраўляюцца на поўдзень або ўсход… А мне падабалася поўнач, і я пасяліўся ў Нарвегіі… З радзімы я ніякіх навін не меў… Лісты, якія я пісаў Элен, заставаліся без адказу, а ўчора я даведаўся, што яны ніколі да яе не даходзілі… Я пісаў і кузену таксама, але адказу ні разу не атрымаў… Не, я не збіраюся здацца вам лепшым, чым я ёсць на самай справе, або разжаліць вас гісторыяй няшчаснага кахання. Спачатку я не думаў пра гэта шмат… Вы ўбачыце, што я кажу вам абсалютную праўду!.. Я працаваў… Былі ўсякія цяжкасці, пра іх трэба было думаць… Хіба што вечарамі на мяне находзіла настальгія… Здараліся і непрыемнасці… У кампаніі, якую я арганізаваў, справы ішлі няважна… Гэтак і праходзіў год за годам, то лепш, то горш, у чужой краіне… Там я змяніў прозвішча… Каб лепш было працаваць, прыняў нарвежскае падданства… Калі-нікалі ў гасцях у мяне бывалі афіцэры з французскіх суднаў, вось ад іх я і даведаўся, што ў мяне ёсць сын… Я сумняваўся, але параўнаў даты – і зразумеў, што гэта праўда!.. Напісаў у роспачы Эрнэсту… Умольваў дазволіць вярнуцца ў Францыю, хоць на некалькі дзён… Ён адказаў тэлеграмаю: «Арышт пры перасячэнні мяжы». Ішоў час. Я стаў апантана рабіць грошы… Гэта нецікава расказваць… Толькі вось у душы ўсё роўна як пустэча была… У Трамсё – тры месяцы палярная ноч… І тады настальгія па радзіме проста з'ядала мяне… Каб падмануць самога сябе, я паставіў мэту: стаць такім жа багатым, як і стрыечны брат. І вось я дайшоў гэтай мэты. Разбагацеў на трасковай ікры. Але адчуў сябе сама няшчасным чалавекам на свеце… Тады я раптам вярнуўся ў Францыю. Вырашыў дзейнічаць… Але, праз пятнаццаць гадоў!.. Бадзяўся тут… бачыў сына на пляжы… Элен, здалёк… Ніяк не разумею, як я мог дагэтуль жыць без сына… Ці разумееце вы гэта?.. Купіў судна… Калі б я дзейнічаў адкрыта, Эрнэст не задумваючыся засадзіў бы мяне ў турму… У яго заставаліся доказы!.. Вы бачылі маіх маракоў – добрыя людзі, нягледзячы на іх выгляд… Разлічылі ўсё… У той вечар Эрнэст быў дома адзін з хлопчыкам… Для большай надзейнасці, каб выкарыстаць

усе шанцы, я папрасіў дапамогі ў капітана Жарыса, з якім пазнаёміўся ў Нарвегіі, калі ён яшчэ плаваў... Капітан ведаў Эрнэста, і мы дамовіліся, што ён наведае яго, прыдумаўшы якую-небудзь прычыну, а пакуль яны будуць гаварыць, Вялікі Луі паможа мне выкрасці сына... Але скончылася ўсё гэта драмаю... Жарыс гаварыў з Эрнэстам у кабінеце... Мы ўвайшлі праз заднія дзверы, але, як назло, я зачапіў у калідоры швабру, што стаяла каля сцяны... Швабра ўпала... Эрнэст пачуў шум. Ён вырашыў, што яго хочуць абрабаваць, і выхапіў з сакрэтніка рэвальвер... Што было далей?.. Цяжка і расказаць... Нейкае насланнё... Жарыс выскачыў у калідор услед за Эрнэстам... Святла там не было... Стрэл... І трэба ж было так здарыцца, што куля трапіла ў Жарыса!.. Я ледзь не звар'яцеў з адчаю... Баяўся скандалу, асабліва перажываў за Элен... Ну хіба ж мог я расказаць усю гэтую гісторыю паліцыі?.. Разам з Вялікім Луі я перанёс Жарыса на борт «Сэн-Мішэля»... Капітану была неабходная медыцынская дапамога... Мы пайшлі ў Ангельшчыну, куды дабраліся праз некалькі гадзін... Але без пашпартоў нас на бераг не пускалі... Паліцыя была пільная: строгі кантроль па ўсім узбярэжжы... Калісьці я займаўся трохі медыцынай... Зрабіў сёе-тое, каб памагчы Жарысу, але гэтага было мала... Тады ўзялі курс на Галандыю... Там раненага трэпанавалі, але не маглі трымаць яго больш у клініцы, не паведаміўшы ўладам... Жахлівае падарожжа!.. Вы ўяўляеце нас на борце судна з чалавекам, які памірае?.. Трэба было сама меней месяц лячыць чалавека, даглядаць яго... Я хацеў быў весці шхуну ў Нарвегію. Але рабіць гэта не прыйшлося, бо выпадак звёў нас з капітанам аднаго судна, якое ішло на Лафатэнскія астравы... Я ўзяў Жарыса з сабою на борт... На моры мы былі ў большай небяспецы, чым на сушы... У маім доме ён правёў восем сутак. Але суседзі зацікавіліся таямнічым госцем... Трэба было зноў некуды рушыць... Капенгаген... Гамбург... Жарыс адчуваў сябе лепш... Рана зацягнулася, але ён страціў пры гэтым і памяць, і здольнасць гаварыць... Ну што я мог зрабіць, скажыце?.. Мне здавалася, што дома, у прывычнай атмасферы, ён ачуняе хутчэй, чым бадзяючыся па свеце... Я вырашыў хоць бы забяспечыць яго матэрыяльна і паслаў на яго імя ў банк трыста тысяч франкаў... Але як памагчы яму дабрацца

дадому?.. Вярнуцца сюды з ім я сам не мог, бо вельмі многім рызыкаваў бы… А калі перапраівіць яго ў Парыж, падумалася мне, дык ён абавязкова трапіць у паліцыю, дзе яго ўрэшце апазнаюць і завязуць дамоў… Так і здарылася… Толькі аднаго я не мог прадугледзець: што стрыечны брат, які дрыжаў ад страху пры адной думцы пра тое, што Жарыс можа яго выдаць, гнюсна атруціць капітана… Гэта ж ён падсыпаў стрыхнін у шклянку з вадою… Дастаткова было ўвайсці ў дом з чорнага ўвахода, па дарозе на паляванне…

– І прадоўжылі барацьбу? – паволі сказаў Мэгрэ.

– Інакш я і не мог! Я хацеў, каб мой сын быў са мною! Толькі Эрнэст наглядаў за ім пільна. Хлопчык вярнуўся ў свой калеж, адкуль мне б яго не аддалі…

Мэгрэ ведаў усё гэта. Але цяпер ён лепш разумеў тую нябачную барацьбу, якая пачалася паміж стрыечнымі братамі.

Барацьбу не толькі паміж імі двума, але і супраць яго, Мэгрэ!

Нельга было дапусціць, каб у гэтую гісторыю ўмяшалася паліцыя! Ні адзін, ні другі не мог сказаць праўду!

– Я прыйшоў сюды на «Сэн-Мішэлі»…

– Ведаю! І вы паслалі Вялікага Луі да мэра…

Раймон міжволі ўсміхнуўся – камісар расказваў за яго.

– Раз'юшаны Луі спагнаў на ім усю сваю злосць за ўсё тое, што яму прыйшлося зведаць у жыцці… І ён мог лупцаваць мэра, не баючыся, што той пакліча на дапамогу… Вось і адвёў душу!..Урэшце ён вымусіў яго напісаць ліст, у якім дазваляў вам забраць хлопчыка з калежа…

– Але… Я хаваўся за вілаю, а ваш калега вісеў у мяне літаральна на пятах… Вялікі Луі пакінуў ліст у дамоўленым месцы, а я перахітрыў вашага памочніка… Узяў ровар… У Кане купіў машыну… Трэба было спяшацца… Пакуль я ехаў забіраць сына, Луі заставаўся ў мэра, каб не даць яму адмяніць якім-небудзь чынам тое, што ён напісаў у лісце… Дарэмна, бо Эрнэст паспеў ужо выправіць па дзіця Элен… Вы загадалі затрымаць мяне… Барацьба скончылася… Яе немагчыма было працягваць: вы ж так упарта імкнуліся дакапацца да праўды… Заставалася толькі ўцячы… Калі б

мы засталіся, вы б непазбежна ўсё разгадалі… Адсюль і падзеі апошняй ночы… Але няўдачы не адставалі ад нас… Шхуна села на мель… Мы з вялікай цяжкасцю дабраліся да берага, а я згубіў пры гэтым на наша няшчасце кашалёк… Без грошай!.. І жандары на хвасце!.. Заставалася адно: тэлефанаваць Элен і прасіць у яе некалькі тысяч франкаў, каб мы маглі дабрацца ўчацвярых да мяжы… У Нарвегіі я мог бы аплаціць сябрам усё, што яны страцілі праз мяне… Элен прыехала адразу ж… Але і вы таксама! Вы ўвесь час паўставалі на нашай дарозе. Упарта дамагаліся разгадаць праўду, а мы вам нічога не маглі сказаць. Не мог жа я крыкнуць вам, што праз вас могуць здарыцца новыя няшчасці!..

Раптам у вачах у яго прамільгнула трывога. Перамяніўшы голас, ён спытаў:

– Скажыце, Эрнэст напраўду скончыў жыццё самагубствам?

А што, калі яго падманулі, каб прымусіць гаварыць?

– Калі зразумеў, што праўды не схаваць… А ўцяміў ён гэта, калі я арыштаваў вас… Ён здагадаўся, што я пайшоў на арышт толькі дзеля таго, каб даць яму час падумаць…

Дайшоўшы да пірса, яны спыніліся. Перад імі павольна праходзіў «Сэн-Мішэль». З гордасцю круцячы штурвалам, шхуну вёў нейкі стары рыбак.

Тут нехта падбег да натоўпу на пірсе, адштурхнуў аднаго, другога і ўскочыў на палубу шхуны.

Вялікі Луі!

Ён уцёк ад жандараў, сарваў кайданкі! Адштурхнуўшы рыбака, Луі схапіў руль у свае рукі.

– Цішэй, няхай на вас!.. Шхуну загубіце! – з усяе сілы крыкнуў ён матросам з буксіра.

– А астатнія двое? – спытаўся Мэгрэ ў Раймона.

– Сёння раніцай вы былі за метр ад іх. Яны абодва схаваліся ў пуні ў старой сялянкі…

Люка, прадзіраючыся праз натоўп, набліжаўся да Мэгрэ. На твары ў яго было здзіўленне: не чакаў ён убачыць тут побач з камісарам Марціно.

– Вы ведаеце, мы іх узялі!..

– Каго?

– Ланэка і Сэлестэна…

– Яны тут?

– Жандары з Дзіў толькі што даставілі.

– Ну, дык скажы, каб іх выпусцілі. І няхай абодва ідуць у порт…

Насупраць іх бачны быў дом капітана Жарыса і сад, у якім у начную буру зляцелі з ружаў апошнія пялёсткі. За фіранкаю – постаць Жулі. Убачыўшы на палубе брата, яна не паверыла вачам.

Каля шлюза партавікі сабраліся вакол капітана Дэлькура.

– Ну і намучыўся ж я праз іх цьмяныя адказы! – уздыхнуў Мэгрэ, кіўнуўшы на маракоў.

Раймон усміхнуўся:

– Гэта ж маракі!

– Я ўжо ведаю, што гэта за людзі. Не любяць яны, калі сухапутныя тыпы, як я, лезуць у іх справы!

Пальцам ён умінаў тытунь у сваёй люльцы. Запаліўшы, спытаўся:

– Што ім сказаць?..

Эрнэст Гранмэзон быў мёртвы. Ці трэба казаць гэтым людзям, што забойца – ён?

– Можна было б, – пачаў быў Раймон…

– Не ведаю! Скажу, відаць, што нейкая даўняя гісторыя. Адзін замежны марак адпомсціў і ўцёк…

Маракі з буксіра паволі ішлі ў шынок і знакамі клікалі шлюзаўшчыкоў.

А Вялікі Луі імкліва крочыў то ўзад, то ўперад па шхуне, абмацваючы ўсё, што траплялася пад руку, – гледзячы на яго, камісар міжволі прыгадаў сабаку, які, вярнуўшыся дадому, радасны, хоча пераканацца, што ўсё на месцы і не змянілася…

– Гэй! – крыкнуў яму Мэгрэ.

Матрос аж падскочыў. Але падысці да камісара ці пакінуць шхуну ён не рашаўся. А калі ўбачыў раптам, што Раймон на волі, здзівіўся не менш за Люка:

– Як гэта?..

– Калі «Сэн-Мішэль» зможа выйсці ў мора?

– Хоць зараз! Усё ў поўным парадку! Цуд, а не судна, клянуся!..

Луі дапытліва глядзеў на Раймона. Той вымавіў:

– У такім выпадку прагуляйся на шхуне з Ланэкам і

Сэлестэнам…

– Яны тут?

– Зараз прыйдуць… Некалькі тыдняў марской прагулкі… Далей адсюль… Каб пра «Сэн-Мішэль» тут ужо болей не гаварылі…

– Я мог бы прыхапіць з сабою і сястру – займалася б кухняю… Ведаеце, Жулі не з палахлівых…

І ўсё ж такі яму было няёмка перад Мэгрэ. Перад вачыма стаялі падзеі апошняй ночы. І ён яшчэ не ведаў, ці можна ўсміхнуцца, маючы іх на ўвазе.

– Вы хоць не прастудзіліся?

Яны стаялі на краі шлюза, і Мэгрэ адным штуршком адправіў матроса ў ваду.

– Здаецца, мой цягнік адыходзіць у шэсць, – сказаў пасля камісар. Аднак ён не рашаўся пайсці. Глядзеў вакол сябе з сумам: гэты маленькі порт стаў яму дарагі. Усё ж такі цяпер яму былі знаёмыя ўсе яго закуткі… І ў якое толькі надвор'е не давялося яму пабываць ці не ў кожным з іх: і пад слабым яшчэ ранішнім сонцам, і ў буру, і ў дождж, і ў непраглядны туман…

– Вы едзеце ў Кан? – спытаўся Мэгрэ ў Раймона, які ўсё яшчэ стаяў каля яго.

– Не адразу. Думаю, так будзе лепш… Трэба, каб прайшоў нейкі час…

– Час, – скончыў за яго Мэгрэ.

Калі праз чвэрць гадзіны вярнуўся Люка і спытаў, дзе Мэгрэ, яму паказалі на «Марацкі прытулак», дзе ўжо гарэла святло.

Праз запацелыя вокны шынка інспектар угледзеўся ў камісара…

Той сядзеў, ёмка ўладкаваўшыся на саламяным крэсле, з люлькаю ў зубах і кухлем піва ў руках, і слухаў розныя гісторыі, якія расказвалі вакол яго людзі ў марскіх фуражках і гумавых ботах…

У цягніку, гадзін каля дзесяці вечара, Мэгрэ ўздыхнуў.

– Мусіць, сядзяць цяпер усе трое ў кубрыку ў цяпле…

– У якім кубрыку? – спытаўся Люка.

– На «Сэн-Мішэлі»… На зрэзаным стале – лямпа,

цяжкія шклянкі і бутэлька галандскага джыну... Печ патрэсквае... Дай мне запалкі!..

# Чалавек на лаўцы

## 1. ЖОЎТЫЯ ЧАРАВІКІ

Забойства здарылася ў панядзелак, 19 кастрычніка – у швагеркі камісара Мэгрэ быў якраз дзень нараджэння. Дзіўна, але на набярэжнай Арфэўр даўно заўважылі, што ў панядзелак забойстваў бывае меней, чым у астатнія дні.

Гэта была першая восеньская справа, расследуючы якую Мэгрэ адчуў набліжэнне зімы.

Усю нядзелю ліў дождж, халодны і дробны. Дахі і асфальт заблішчалі, а потым узняўся жаўтаваты туман, які, здавалася, украдаўся ў жытло праз аконныя шчыліны.

Стала так холадна, што ў панядзелак раніцай пані Мэгрэ сказала:

– Трэба закласці шчыліны лямцам.

Камісар гадоў ужо пяць сама меней абяцаў жонцы кожную восень зрабіць гэта «ў наступную нядзелю».

Калі ён выйшаў з дому, першы раз надзеўшы гэтай восенню прапахлае нафталінам паліто – прапанавала жонка, – была ўжо палова дзевятай, але на вуліцы было так змрочна, што ў кватэры яшчэ гарэла святло.

Удзень дождж скончыўся, аднак асфальт не прасыхаў і рабіўся ўсё больш брудны. А гадзіны ў чатыры Парыж зноў ахутаў той самы жаўтаваты туман, у якім расплывалася святло ліхтароў і вітрын.

Калі зазваніў тэлефон, у бюро не было ні Люка, ні Жанв'е, ні нават маленькага Лапуэнта. Адказаў Сантоні, карсіканец, новы чалавек у брыгадзе – да гэтага ён працаваў у аддзеле азартных гульняў, потым – у аддзеле нораваў.

– Шэф, вас турбуе інспектар Нэвэ, з трэцяга раёна, – далажыў Сантоні камісару. – Хоча пагаварыць асабіста з вамі. Здаецца, справа тэрміновая.

Мэгрэ ўзяў слухаўку:

– Слухаю, даражэнькі.

– Званю з бістро на бульвары Сэн-Мартэн. Толькі што

знайшлі аднаго тыпа. Зарэзаны.

– На самым бульвары?

– Не, не зусім. У адным тупічку.

Нэвэ, які ўжо даўно працаваў у паліцыі, ведаў, пра што адразу ж падумае Мэгрэ. Такое забойства, асабліва ў густанаселеных кварталах, – справа следчаму мала калі цікавая. Найчасцей гэта вынік п'яных сварак альбо звядзеяне рахункаў сярод шпаны, гішпанцаў, арабаў. Таму інспектар таропка дадаў:

– Справа здаецца мне няпростай. Лепей бы вы прыехалі. Гэта паміж вялікай ювелірнай крамай і крамкаю штучных кветак.

– Добра. Еду.

Камісар упершыню паехаў з Сантоні і цяпер ніяк не мог дачакацца, калі ж яны прыедуць на месца – так моцна наадэкалоніўся інспектар. Каб здацца вышэйшым, нізкарослы карсіканец насіў чаравікі на высокіх абцасах, валасы ў яго былі напамаджаныя, на безыменным пальцы жаўцеў буйны брыльянт, напэўна, фальшывы.

На бульвары Сэн-Мартэн стаяў натоўп чалавек трыццаць. Іх стрымлівалі паліцэйскія ў накідках. Нэвэ, які чакаў камісара, адчыніў дзверцы машыны.

– Я папрасіў доктара пачакаць вас, – сказаў ён.

Быў той час, калі гэтая частка Вялікіх бульвараў робіцца найбольш шматлюднай. Вялікі святлісты гадзіннік над ювелірнай крамай паказваў дваццаць хвілін на шостую. Але ў краме штучных кветак, якая выходзіла на вуліцу толькі адной вітрынаю, было ўжо цёмна. Шкло вітрыны было такое бруднае, што, здавалася, у краму ніхто ніколі і не заглядваў.

Паміж крамай і крамкаю – вузкі тупічок, дакладней, неасветлены, якіх багата ў гэтым квартале, праход ва ўнутраны двор.

Нэвэ праціснуўся наперад, вызваляючы дарогу камісару. Метры за тры-чатыры ад пачатку праходу іх чакалі ў цемрадзі нейкія людзі. У двух былі ліхтарыкі, але твары можна было разгледзець толькі зблізу.

Тут было яшчэ халадней, чым на бульвары – дзьмуў скразны вецер. Паміж ног круціўся, колькі яго ні адштурхоўвалі, нейкі сабака.

На зямлі, ля сырой сцяны, ляжаў чалавек. Адна

ягоная рука была закінута за спіну, а другая, выцягнутая ва ўсю даўжыню, загароджвала амаль увесь праход.

– Мёртвы?

Доктар кіўнуў:

– Смерць, відаць, наступіла імгненна.

Усё роўна як пацвярджаючы гэтыя словы, святло ліхтара прапаўзло па целе забітага і спынілася на нажы, усаджаным у спіну. Другі ліхтар асвяціў паварот твару, адкрытае вока, шчаку, разадраную аб камяні пры падзенні.

– Хто яго знайшоў?

Адзін з паліцэйскіх, які толькі гэтага і чакаў, выступіў наперад.

– Я рабіў абход. Я звычайна зазіраю ва ўсе закуткі, бо ў іх усё і здараецца. І тут убачыў яго. Спярша я падумаў, што ён п'яны.

– Ён быў ужо мёртвы?

– Напэўна. Але цела было яшчэ цёплае.

– Які гэта быў час?

– Без чвэрці пяць. Я засвістаў паставому і пабег званіць у аддзяленне.

– Слухаўку падняў я, – уступіў у размову Жэнэ. – І адразу ж прыбыў на месца. Загадаў выклікаць доктара. Паліцэйскае аддзяленне было паблізу.

– Ніхто нічога не чуў?

– Не ведаю.

Непадалёк віднеліся невялікія дзверы, над якімі гарэла слабенькая лямпачка.

– Што гэта?

– Дзверы ў кантору ювелірнай крамы. Імі рэдка карыстаюцца.

З'явіліся эксперты, якіх Мэгрэ выклікаў, выязджаючы з набярэжнай Арфэўр.

– А што там, у канцы двара? – спытаўся Мэгрэ.

– Нічога. Сцяна. Ёсць дзверы ў дом па вуліцы Мэле, але яны даўно закалочаныя.

Было відавочна: чалавека забілі ўдарам нажа ў спіну, як толькі ён зайшоў у глыб тупічка. Нехта, праслізнуўшы ўслед за ім, ціха зрабіў сваю справу.

– Я праверыў кішэні і выняў кашалёк.

Нэвэ працягнуў яго Мэгрэ. Адзін з экспертаў пасвяціў

ліхтарыкам. Кашалёк як кашалёк, не новы, але і не надта заношаны, з добрай скуры. Усярэдзіне – тры паперкі па тысячы франкаў і некалькі па сто, пасведчанне, выдадзенае на імя Луі Турэ, кладаўшчыка, жыхара Жувізі (вуліца Таполяў, 37), картка выбаршчыка з тым самым іменем, шматок паперы, на якім напісаны алоўкам пяць-шэсць слоў, і старая фатаграфія маленькай дзяўчынкі.

– Ну што, прыступім? – спытаўся эксперт.

Мэгрэ кіўнуў. Зазіхацелі бліцы, зашчоўкалі фотаапараты. Эксперты рабілі свае вымярэнні спакойна, не задавалі ніякіх пытанняў, адчувалася адно, што ім трохі нязручна працаваць у такім вузкім праходзе. Натоўп з боку бульвара павялічваўся, і паліцэйскія з цяжкасцю стрымлівалі яго.

Эксперты асцярожна вынялі нож і паклалі яго ў скрыню. Перавярнулі цела на спіну. На твары ў забітага, чалавека гадоў сарака – пяцідзесяці, застыла здзіўленне. Было ў гэтым здзіўленні штосьці дзіцячае. Чалавек, напэўна, так і не зразумеў, што з ім здарылася. Нехта, гледзячы на яго, узнервавана хіхікнуў.

Апрануты ён быў прыстойна: чыстыя цёмны гарнітур і бэжавае дэмісезоннае паліто. Але вось на нагах былі жоўтыя чаравікі, зусім не па сезоне.

Каб не яны, то на вуліцы гэтага чалавека ніхто і не заўважыў бы, такі ён быў неадметны.

Аднак паліцэйскі, які знайшоў яго, сказаў:

– Мне здаецца, я яго недзе бачыў…

– Дзе?

– Не памятаю. Але твар мне знаёмы. Ведаеце, часта сустракаеш адных і тых самых людзей, а твары неяк не запамінаюцца.

Нэвэ пацвердзіў:

– Мне ён таксама некага нагадвае. Магчыма, працаваў тут непадалёк.

Але што магло спатрэбіцца нябозе ў гэтым тупіку?

Мэгрэ паглядзеў на Сантоні. Карсіканец доўга працаваў у паліцыі нораваў і мог запомніць яго, як аднаго з маньякаў – шукальнікаў адзіноты. Там іх ведаюць амаль усіх. Часам гэта значныя людзі. Зрэдку іх ловяць, але калі адпускаюць, яны зноў бяруцца за сваё.

Аднак Сантоні пакруціў галавою.

– Ніколі не бачыў.

Тады Мэгрэ прыняў рашэнне:

– Працягвайце, панове. Калі завезяце яго ў Інстытут, не распранайце да майго загаду. А мы, Сантоні, паедзем. Паглядзім на яго сям'ю, калі такая ёсць.

Камісар быў заінтрыгаваны: забіты зусім звычайны, нічым не прыкметны чалавек...

– У Жувізі! – загадаў Мэгрэ шафёру.

Яны спыніліся на момант ля Італійскіх варотаў, каб выпіць па куфлі піва. А калі ў Жувізі, ля вакзала, пачалі распытваць пра вуліцу Таполяў, дык адказаў ім толькі пяты чалавек:

– Гэта вунь там, у недабудаваным раёне. Як даедзеце, дык глядзіце на шчыткі. Там кожная вуліца носіць назву якогасьці дрэва, а так яны ўсе аднолькавыя.

Спачатку доўга ехалі ўздоўж сарціровачнай станцыі, на якой лязгалі, пераязджаючы з аднаго пуці на другі, вагоны, свісталі і сіпелі, пускаючы клубы дыму, дзесяткі два паравозаў. Нарэшце дабраліся да патрэбнага раёна. Вузенькія вулкі і праўда зусім аднолькавыя, сотні, можа, тысячы досыць новых домікаў, пабудаваных па адной мадэлі. Дрэвы, пасадкі якіх давалі назвы вуліцам, яшчэ не паспелі вырасці, сям-там не было нават ходнікаў. За аднымі дамамі – пусткі, за іншымі – чэзлыя садкі, у якіх засыхалі апошнія восеньскія кветкі.

Дубовая вуліца... Бэзавая... Букавая... Магчыма, калі-небудзь гэты раён будзе падобны на парк, калі толькі ўсе гэтыя дрэнна пабудаваныя дамы не разваляцца, перш чым вырастуць як след дрэвы.

Жанчыны за вокнамі кухняў гатавалі вячэру. На вуліцах пуста. Дзе-нідзе – маленькія крамы, таксама даволі новыя з выгляду, аднак вітрыны іх нічым не вабілі.

– Налева.

Хвілін дзесяць кружылі, пакуль не прачыталі на шчытку патрэбную назву. Але дом праскочылі, бо трыццаць сёмы нумар ішоў чамусьці адразу ж за дваццаць першым.

Святло гарэла толькі на кухні, унізе. Было відаць, як за штораю ходзіць мажная жанчына.

– Хадзем, – уздыхнуў Мэгрэ, з цяжкасцю вылазячы з маленькай машыны, і выбіў люльку аб абцас.

Калі ён ступіў на ходнікі, штора зварухнулася і жанчына прыпала тварам да акна. Выдавала на тое, што прыезд машыны быў ёй падзеяй.

Мэгрэ ступіў на ганак і спыніўся перад пакрытымі лакам сасновымі дзвярыма, з жалезнай ручкаю і сінім акенцам. Ён пачаў шукаць кнопку званка, але перш чым знайшоў яе, пачуў голас з-за дзвярэй:

– Хто там?

– Пані Турэ?

– Я.

– Я хацеў бы пагаварыць з вамі.

Але жанчына не рашалася адчыніць дзверы.

– Паліцыя, – ціха дадаў Мэгрэ.

Гаспадыня зняла ланцужок, адсунула засаўку і, агледзеўшы мужчын праз шчыліну прыадчыненых дзвярэй, спыталася:

– А што вам трэба?

– Пагаварыць з вамі.

– Чым вы дакажаце, што вы з паліцыі?

Мэгрэ паказаў паліцэйскі жэтон.

– Добра. Спадзяюся, ён не фальшывы, – сказала пані Турэ, убачыўшы жэтон, і ўпусціла нечаканых гасцей.

Вузкі калідор, выбеленыя сцены, пакрытыя лакам дзверы і плінтусы. Дзверы на кухню заставаліся адчыненыя, жанчына правяла іх у суседні пакой і запаліла святло.

Мэгрэ разгледзеў гаспадыню. Сорак – сорак пяць гадоў, як і мужу, паўнейшая за яго, але не рыхлая, а шырокая ў касцях. Імпазантнай не назавеш. Шэрая сукенка і фартух, які яна машынальна церабіла, яшчэ больш спрошчвалі яе.

Спыніліся яны ў сталовай. Абсталюнак у вясковым стылі, кожная рэч на сваім месцы, як на вітрыне мэблевай крамы. Нідзе нічога лішняга – ні кінутай люлькі ці пачка цыгарэт, ні шытва ці нават газеты, нічога такога, што магло б даць хоць нейкае ўяўленне, чым тут людзі жывуць.

Сесці гаспадыня гасцей не запрасіла, але выразна паглядзела на іхнія ногі, перасцерагаючы ўсім сваім выглядам: «Не запэцкайце лінолеум!»

– Слухаю вас.

– Вашага мужа зваць Луі Турэ?

Нахмурыўшы бровы і спрабуючы здагадацца, што прывяло сюды паліцыю, яна кіўнула галавою.

– Ён працуе ў Парыжы?

– Памочнікам дырэктара фірмы «Каплан і Занэн», на вуліцы Бондзі.

– Ён працаваў калі-небудзь на складзе?

– Працаваў.

– Даўно?

– Некалькі гадоў таму назад. Але ўжо тады ён быў у дырэктара першым памагатым.

– У вас няма яго фатаграфіі?

– А нашто яна вам?

– Мне б хацелася ўпэўніцца…

– У чым? – Падазрона ўзіраючыся ў гасцей, пані Турэ запыталася: – Луі трапіў у аварыю?

Яна машынальна паглядзела на насценны гадзіннік, які вісеў на кухні, усё роўна як прыкідвала, дзе цяпер можа быць муж.

– Спярша я павінен упэўніцца, ці ён гэта.

– Гляньце на сервант, – сказала яна.

Падышоўшы да серванта, Мэгрэ ўбачыў некалькі фатаграфій: на адной – маладзенькая дзяўчына, на другой – чалавек, – зарэзаны ў тупіку, але маладзейшы, у чорным.

– Вы часам не ведаеце, ці ёсць у вашага мужа ворагі?

– Адкуль яны ў яго могуць быць?

Гаспадыня выйшла на хвілінку ў кухню і выключыла газавую гарэлку – на пліце нешта закіпела.

– А якой гадзіне вяртаецца ён звычайна дамоў?

– Ён выязджае з Ліёнскага вакзала ў шэсць дваццаць дзве. Дачка вяртаецца наступным цягніком, яна пазней заканчвае працаваць. У яе адказная пасада, і…

– Я вымушаны папрасіць вас праехаць з намі ў Парыж.

– Луі памёр? – Яна паглядзела на іх спадылба, позіркам жанчыны, якая не церпіць маны. – Скажыце мне праўду.

– Яго забілі.

– Дзе?

– У тупіку ля бульвара Сэн-Мартэн.

– Што яму там спатрэбілася?

– Не ведаю.

– Калі гэта здарылася?

– Мы мяркуем, недзе пасля паловы пятай.

– А палове пятай ён быў яшчэ ў Капланаў. Вы з імі гаварылі?

– Не, не паспелі. Ды мы й не ведаем яшчэ, дзе ён працуе.

– А хто ж яго забіў?

– Якраз гэта мы і спрабуем высветліць.

– Ён быў адзін?

Мэгрэ адчуў раздражненне.

– Ці не лепей вам апрануцца і паехаць разам з намі?

– Што вы з ім зрабілі?

– Цяпер ён у Інстытуце судова-медыцынскай экспертызы.

– Гэта морг?

Мэгрэ змаўчаў.

– Як мне папярэдзіць дачку?

– Можаце пакінуць цыдулку.

Гаспадыня задумалася.

– Не. Мы лепей заедзем да маёй сястры, і я перадам ёй ключ. Яна прыйдзе сюды і дачакаецца Монікі. Дачку вам таксама трэба ўбачыць?

– Пажадана.

– Дзе ёй лепш сустрэцца з намі?

– У маім бюро на набярэжнай Арфэўр. Гэта будзе найбольш аператыўна. Колькі ёй гадоў?

– Дваццаць два.

– А вы не маглі б папярэдзіць яе па тэлефоне?

– Па-першае, у нас няма тэлефона, а па-другое, яна ўжо пайшла з працы і едзе на вакзал. Пачакайце мяне.

Яна паднялася наверх па лесвіцы, якая ўся рыпела пад ёю – дом быў пабудаваны з уцэненых матэрыялаў, і дажыць да старасці яму наўрад ці было наканавана.

Уніз яна спусцілася ў чорным, напарфумленая. Падышоўшы да машыны, пані Турэ спынілася, усё роўна як сумнявалася, ці памесціцца яна ў такім маленькім аўтамабілі. Нехта назіраў за імі з суседняга акна.

– Сястра жыве за два кварталы адсюль. Няхай шафёр паверне направа, а потым на другую вуліцу налева.

Домікі сясцёр здаваліся блізнятамі. Адрозніваліся яны хіба што колерам шкла ў акенцы на дзвярах: тут яно было

жоўтае.

– Я зараз вярнуся, – сказала пані Турэ, выйшаўшы з машыны, аднак затрымалася хвілін на пятнаццаць.

Вярнулася яна разам з сястрою, падобнай на яе як дзве кроплі вады і таксама апранутай у чорнае.

– Сястра паедзе з намі. Я думаю, месца хопіць. Яе муж пойдзе да мяне і дачакаецца Монікі. Сёння ў яго выхадны. Ён кантралёр на чыгунцы.

Мэгрэ сеў побач з шафёрам. Сантоні ледзь уціснуўся на сядзенне побач з мажнымі жанчынамі. Па дарозе сёстры перашэптваліся.

Калі яны прыехалі ў Інстытут судмедэкспертызы, цела Луі Турэ ўжо ляжала на мармуровай пліце. Нябожчыка згодна з загадам Мэгрэ яшчэ не распраналі. Камісар сам адкінуў з твару забітага прасціну.

Мэгрэ назіраў за сёстрамі. У цемнаце ён прыняў іх за блізнят. А цяпер, пры яркім святле, заўважыў, што сястра гады на тры-чатыры маладзейшая.

– Вы яго пазнаяце?

Пані Турэ трымала ў руках насоўку, але не плакала. Сястра трымала яе пад руку.

– Гэта Луі... Нябога... – уздыхнула ўдава. – Ці магла б я падумаць уранку... – Раптам яна заўважыла: – Яму ж ніхто не закрыў вочы...

– Можаце гэта зрабіць.

Сёстры пераглянуліся: а чый гэта абавязак?.. Разважыўшы, пані Турэ з урачыстым выглядам закрыла мужу вочы.

Прашаптаўшы: «Бедны Луі...» – яна звярнула ўвагу на чаравікі нябожчыка, бачныя з-пад прасціны, і адразу ж нахмурыла бровы.

– Што гэта?.. Хто надзеў яму гэтыя чаравікі?

– Яны былі на ім, калі мы яго знайшлі.

– Не можа быць. Луі ніколі не насіў жоўтых чаравікаў. Прынамсі, за ўсе дваццаць шэсць гадоў, што мы разам жылі. Ён ведаў: я такога колеру не дапусціла б. Жанна, ты бачыла?

Сястра згодна кіўнула.

– Вы ўсё-такі падумайце, – сказаў Мэгрэ, – ці былі ў яго такія адзежа і абутак... А можа, гэта не ён?

– А хто ж? Але чаравікі не ягоныя. Я ж чышчу іх

кожны дзень. Магла я запомніць іх колер?.. Сёння ўранку на ім былі чорныя чаравікі на двайной падэшве, ён надзяваў іх ца працу.

Мэгрэ адкінуў прасціну да канца.

– Паліто ягонае?

– Ягонае.

– А гарнітур?

– Таксама. А гальштук – не. Ён ніколі не надзеў бы такога яркага гальштука. Гэты ж амаль чырвоны!

– Які лад жыцця быў у вашага мужа?

– Сама мерны. Сястра можа пацвердзіць. Уранку ён ад'язджаў на працу, сядаў у аўтобус, ехаў да вакзала на цягнік у восем семнаццаць. На Ліёнскім вакзале ён спускаўся ў метро і выходзіў на станцыі Сэн-Мартэн.

Супрацоўнік Інстытута зрабіў Мэгрэ знак, і камісар, зразумеўшы яго, падвёў сясцёр да другога стала, на якім былі раскладзены рэчы, знойдзеныя ў кішэнях у забітага.

– Спадзяюся, вы пазнаяце гэтыя рэчы?

На стале ляжалі срэбраны гадзіннік з ланцужком, насоўка без меткі, пачаты пачак цыгарэт, запальнічка, ключ і, побач з кашальком, два сінія білеты.

– Квіткі ў кіно, – адзначыла пані Турэ.

Мэгрэ дадаў, зірнуўшы на іх:

– Кінатэатр «Навіны дня», бульвар Бон-Нувэль. Калі я не памыляюся, квіткі сённяшнія.

– Не можа быць. Ты чуеш, Жанна?

– Цікава, – адказала сястра.

– Будзьце ласкавы, гляньце, што там у кашальку.

Праверыўшы кашалёк, пані Турэ зноў нахмурыла бровы.

– У Луі не было столькі грошай уранку.

– Вы ўпэўнены?

– Я ж кожную раніцу правяраю, ці ёсць у яго грошы. Ён ніколі не бярэ з сабою больш як тысячу дзвесце, тысячу трыста.

– Можа, ён сёння атрымаў грошы?

– Ды не, цяпер жа канец месяца.

– Калі ён вяртаўся ўвечары, у яго заўсёды заставаліся грошы?

– За вылікам тых, што ён плаціў за метро і цыгарэты. А на цягнік у яго праязны.

Яна не рашалася пакласці кашалёк сабе ў сумку.

– Напэўна, ён вам яшчэ патрэбны?

– Пакуль што патрэбны.

– Я ніяк не магу зразумець, чаму ў яго гэтыя гальштук і чаравікі. І чаму, калі ўсё гэта здарылася, ён не быў у сябе ў краме?..

Нічога не адказаўшы, Мэгрэ папрасіў яе распісацца на бланках.

– Вы паедзеце дамоў?

– Калі мы зможам забраць цела?

– Напэўна, праз дзень ці два.

– Яго будуць ускрываць?

– Магчыма. Але не абавязкова.

Пані Турэ паглядзела на гадзіннік.

– Праз дваццаць хвілін адыходзіць наш цягнік, – сказала яна сястры і звярнулася да Мэгрэ: – Ці не маглі б вы давезці нас да вакзала?

– Ты не будзеш чакаць Моніку? – запыталася ў пані Турэ сястра.

– Яна можа вярнуцца сама.

Вяртаючыся з Ліёнскага вакзала ў паліцыю, Мэгрэ і Сантоні яшчэ раз зірнулі з машыны сёстрам услед.

– Ведзьма! – прабурчаў Сантоні па дарозе з вакзала на набярэжную Арфэўр. – Нябозе, відаць, было не надта весела.

– Ва ўсякім разе, з ёю.

– Што вы думаеце пра гэтыя чаравікі? Калі б яны былі новыя, можна было б падумаць, што ён купіў іх сёння…

– Наўрад ці. Ён не пасмеў бы. А цікава, ці падобная на маці дачка?

Заехалі ў піўную перакусіць. Мэгрэ патэлефанаваў жонцы і сказаў, што не ведае, калі вернецца.

Калі яны пад'ехалі да камісарыята, вартавы-паліцэйскі паведаміў Мэгрэ:

– Вас пыталася нейкая дзяўчына. Кажа, што вы яе выклікалі. Я адправіў яе ў вашае бюро.

– Даўно?

– Хвілін дваццаць назад.

Туман зноў змяніўся дажджом, і пыльныя прыступкі лесвіцы стракацелі мокрымі слядамі. Большасць пакояў

ужо апусцела. Але ў некаторых яшчэ гарэла святло.

– Мне застацца з вамі? – спытаўся Сантоні.

Мэгрэ кіўнуў. Раз ужо пачаў расследаванне з ім – будзе з ім і працягваць.

У чакальні сядзела дзяўчына ў блакітным капялюшыку. Твар з-за слабага святла разгледзець было цяжка. Дзяжурны, які чытаў вячэрнюю газету, далажыў:

– Гэта да вас, шэф.

– Я ведаю.

Звяртаючыся да дзяўчыны, Мэгрэ запытаўся:

– Панна Моніка? Хадземце, калі ласка, у мой кабінет.

Мэгрэ запаліў настольную лямпу. Святло ўпала на крэсла, і, калі камісар прапанаваў дзяўчыне сесці, то адразу заўважыў сляды слёз на яе твары.

– Дзядзька ўсё мне сказаў.

Мэгрэ загаварыў не адразу, прыглядзеўся да дзяўчыны. Яна, як і маці, трымала ў руцэ насоўку, але сціскала яе неяк па-дзіцячы, усё роўна як мяла камяк пластыліну.

– Я думала, што заспею маму ў вас.

– Яна паехала дадому.

– Як яна?..

Ён не ведаў, што адказаць.

– Ваша маці – мужная жанчына.

Моніка здалася камісару абаяльнай: непадобная да маці, праўда, таксама ў целе. На ёй быў вельмі элегантны гарнітур, што здзівіла Мэгрэ: пакупка, відавочна, была зроблена ў дарагой краме.

– Каму ж спатрэбілася ягонае жыццё? – Слёзы зноў з'явіліся ў яе на вачах.

Камісару чамусьці здавалася, што яна не зусім шчырая. Маці таксама трымалася насцярожана, аднак калі ўлічыць характар, у якім Мэгрэ паспеў сёе-тое ўгледзець, то яе можна было зразумець. Пані Турэ здавалася ганебным, што яе мужа зарэзалі ў нейкім цёмным тупіку. Яна заціснула жыццё, і сваё, і сваёй сям'і, у строгія рамкі, і гэтая смерць выходзіла з іх. Ды яшчэ гэтыя жоўтыя чаравікі і амаль што чырвоны гальштук!

А дачка нібыта баялася пытанняў.

– Вы добра ведалі бацьку?

– Ну... вядома...

– Вы, пэўна, ведалі яго так, як дзеці ведаюць сваіх бацькоў. А я пытаюся ў вас, ці давяраўся ён вам, ці гаварыў з вамі пра сваё асабістае жыццё…

– Ён быў добры бацька.

– Ён быў шчаслівы?

– Напэўна.

– Вы калі-небудзь сустракаліся ў Парыжы?

– Не разумею. Вы маеце на ўвазе на вуліцы?

– Я ведаю, што вы вярталіся дамоў рознымі цягнікамі. Але вы маглі калі-нікалі разам абедаць.

– Здаралася.

– Часта?

– Не. Рэдка.

– Вы заходзілі да яго ў краму?

Дзяўчына вагалася.

– Мы сустракаліся ў рэстарацыі.

– Вы тэлефанавалі яму?

– Ніколі.

– Калі вы абедалі з ім апошні раз?

– Некалькі месяцаў назад. Да адпачынку.

– Дзе?

– У «Эльзасе». Гэта рэстаранчык на Севастопальскім бульвары.

– Ваша маці ведала пра гэта?

– Не памятаю. Думаю, я ёй казала.

– Ваш бацька быў вясёлы чалавек?

– Вясёлы. Ва ўсякім разе, на маю думку.

– А здароўе ў яго было добрае?

– Ён ніколі не хварэў.

– Сябры ў яго былі?

– Мы бывалі пераважна ў маіх цётак і дзядзькоў.

– Яны жывуць у Жувізі?

– Так, непадалёк ад нас. Дзядзька Альбэр, муж цёткі Жанны, і сказаў мне, што бацьку забілі.

– І шмат іх у вас?

– Дзве цёткі і два дзядзькі. Цётка Сэліна з дзядзькам Жульенам жывуць трохі далей. Дзядзькі абодва чыгуначнікі.

– Панна Моніка, а ці сустракаецеся вы з якім-небудзь маладым чалавекам?

Дзяўчына сумелася.

– Не будзем зараз пра гэта. Мне трэба паглядзець на бацьку?

– Вы што маеце на ўвазе?

– Як я зразумела з дзядзькавых слоў, мне трэба будзе апазнаць цела.

– Ваша маці і цётка зрабілі ўжо гэта. Але, калі вы хочаце...

– Не. Я ўбачу яго дома.

– Пачакайце яшчэ трохі, панна Моніка. Вам прыходзілася сустракаць вашага бацьку ў Парыжы ў жоўтых чаравіках?

– У жоўтых чаравіках? – паўтарыла яна задуменна.

– Не зусім жоўтых, хутчэй бэжавых. У мой час, даруйце за выраз, такі колер называлі «дзіцячым паносам».

– Нешта не памятаю.

– А чырвонага гальштука на ім не заўважылі?

– Не.

– Вы даўно хадзілі ў кіно?

– Учора пасля абеду.

– У Парыжы?

– У Жувізі.

– Не буду вас больш затрымліваць. Думаю, вы зможаце сесці на цягнік...

– Праз трыццаць пяць хвілін.

Яна паглядзела на гадзіннік, узнялася, але не пайшла адразу, а затрымалася на імгненне.

– Да пабачэння, – сказала яна нарэшце.

– Да пабачэння, панна. Дзякую вам.

Мэгрэ праводзіў дзяўчыну і зачыніў за ёю дзверы.

## 2. ПАННА «ІЛЬВІЦА»

Мэгрэ, сам не ведаючы чаму, заўсёды вылучаў участак Вялікіх бульвараў паміж плошчаю Рэспублікі і Манмартрам. Уласна кажучы, гэта быў ягоны квартал. Сюды, у кінатэатр на бульвары Бон-Нувэль, непадалёк ад тупічка, дзе забілі Луі Турэ, ён пешшу, пад руку са сваёй жонкаю, заходзіў амаль кожны тыдзень. Побач, якраз насупраць кінатэатра, была піўная, дзе ён любіў перакусіць сасіскамі з капустаю.

Далей, у накірунку да Оперы, бульвары рабіліся

свабаднейшыя, але тут, паміж Сэн-Мартэн і плошчаю Рэспублікі, яны хутчэй нагадвалі нейкія змрочныя траншэі, у якіх, бы ў мурашніку, віруе жыццё – часам ажно галава кружылася ад усёй гэтай мітусні.

Раніца была шэрая і халодная, але не такая сырая, як напярэдадні. Мэгрэ выйшаў з дому а палове дзевятай і за чвэрць гадзіны, не спяшаючы, дайшоў да вуліцы Бондзі. Недзе тут, у фірме «Каплан і Занэн», і працаваў Луі Турэ ўсё сваё жыццё, у тым ліку, мабыць, і ў дзень сваёй гібелі.

Пошукі патрэбнага нумара прывялі Мэгрэ да старой, занядбанай будыніны. Уваходныя дзверы былі адчынены насцеж, па абодвух баках віселі розныя шыльдачкі: «Урокі машынапісу», «Продаж пёраў», «Набіўка матрацаў», «Юрыдычны кансультант», «Дыпламаваная масажыстка».

Кансьержка раскладвала пошту па скрынях.

– Дзе тут фірма «Каплан і Занэн»? – спытаўся Мэгрэ.

– Шаноўны пан, праз месяц будзе ўжо тры гады, як фірма перастала існаваць.

– І вы ўвесь гэты час жылі тут?

– Я жыву тут ужо дваццаць шэсць гадоў.

– А ці ведалі вы Луі Турэ?

– Яшчэ як! А што з ім здарылася, вы не скажаце? Ён не заходзіў да мяне ўжо некалькі месяцаў.

– Ён памёр.

– Божа літасцівы… Такі здаровы мужчына! Што з ім здарылася? Сэрца, мабыць?..

– Яго забілі ўчора пад вечар ударам нажа ў спіну.

Кансьержка ажно здранцвела.

– Я яшчэ не чытала сёння газет…

Пра гібель Луі Турэ ў газетах было згадана ўсяго ў некалькіх радках, як пра банальнае здарэнне.

– І хто гэта мог забіць такога добрага чалавека?.. Дваццаць тры гады ён хадзіў міма майго пакоя пад лесвіцай, праходзіў па чатыры разы на дзень і кожны раз казаў мне што-небудзь прыемнае. Калі пан Каплан закрыў сваю фірму, пана Луі нібыта падкасіла…

Кансьержка выцерла слёзы і высмаркалася.

– Пан Каплан яшчэ жывы?

– Я вам магу даць яго адрас. Ён жыве на плошчы Маё. Выдатны чалавек, але зусім іншы. Яго бацька, напэўна, таксама яшчэ жывы.

– Чым яны гандлявалі?

– Як, вы не ведаеце гэтай фірмы?!

Яна так здзівілася, што можна было падумаць, увесь свет павінен ведаць фірму «Каплан і Занэн».

– Я з паліцыі, – растлумачыў Мэгрэ. – Мне трэба ведаць усё, што датычыць пана Турэ.

– Для нас ён быў проста панам Луі. Усе яго так і звалі, многія нават не ведалі ягонага прозвішча. Пачакайце, калі ласка, хвілінку...

Яна таропка рассоўвала астатяія лісты па скрынях, прычыніла дзверцы ў грубцы і накінула на плечы шаль.

– Пан Луі забіты! Хто б мог падумаць! Такі чалавек... Хадземце. Я пакажу вам дом. Яго павінны былі знесці яшчэ тры гады назад і пабудаваць на гэтым месцы кінатэатр. Жыхароў загадзя папярэдзілі, я нават з'язджала да сваёй дачкі ў Ньеўр. Таму пан Каплан і закрыў сваю фірму. А можа, яшчэ і таму, што апошнія гады справы ў яго былі няважныя: ягоны сын, пан Макс, глядзеў на жыццё зусім не так, як бацька... Хадземце сюды...

Яны прайшлі ў вялікі ўнутраны двор, і камісар убачыў павільён са шкляным дахам, падобны на вакзальнае памяшканне. Над уваходам можна было яшчэ прачытаць колькі літар на аблезлай шыльдзе «Каплан і Занэн».

– Калі я пасялілася тут, Занэнаў ужо не было. Справы вёў стары Каплан. Ён быў так падобны на Дзеда Мароза, што дзеці на вуліцы спыняліся і глядзелі яму ўслед.

Замок на дзвярах у павільён быў вырваны. Усярэдзіне – рэзрух. Які быў гэты свет, дзе яшчэ тры гады назад жыў Луі Турэ, уявіць было цяжка.

Велізарная зала з разбітым шкляным дахам, уздоўж сцен, як у фешэнебельнай краме, адна над адной – галерэі; прылаўкі і паліцы былі знятыя, але на сценах яшчэ заставаліся сляды ад іх.

– Кожны раз, калі пан Луі заходзіў да мяне...

– А ён часта гэта рабіў?

– Раз у два-тры месяцы. І заўсёды прыносіў што-небудзь смачнае... Я адчувала, што на душы ў яго цяжка... Памятаю, у пана Каплана працавала да дваццаці ўкладчыц, а то і болей, перад святамі даводзілася працаваць і ўначы. Пан Каплан вёў аптовы гандаль,

прадаваў тавар дробным гандлярам. Чаго толькі ў яго не было! Прыстаўныя бароды, кардонныя свістулькі, шары, карнавальны серпанцін, маскі, сувеніры з марскога ўзбярэжжа... Не было як прайсці праз залу... Часта адзін толькі пан Луі і мог знайсці патрэбны тавар...

– Ён быў кладаўшчыком?

– Кладаўшчыком. Ён заўсёды хадзіў у шэрым халаце. Справа, вось у гэтым куце, стаяў за шкляной перагародкаю стол пана Каплана, маладога, бо пасля першага ўдару стары ўжо больш не прыходзіў у краму. З панам Максам сядзела сакратарка, панна Леон, а бухгалтар быў там, на першым паверсе. Ніхто тады і не думаў, што ўсяму гэтаму хутка настане канец. І вось аднаго дня, у кастрычніку ці ў лістападзе, не магу сказаць больш дакладна калі, памятаю адно, было ўжо холадна, пан Макс сабраў усіх і аб'явіў, што закрывае фірму і прадае тавар іншаму аптавіку. Усе тады думалі, што дом будзе знесены і тут пабудуюць кінатэатр. Усе жыльцы атрымалі паведамленне аб зносе. Многія выехалі. А іншыя не сталі спяшацца і не памыліліся: жывуць сабе тут спакойна дагэтуль. Але дом усё-такі прададзены, і новыя ўладальнікі адмаўляюцца рабіць рамонт. Жыльцы ўсё судзяцца з імі, сюды ледзь не кожны месяц з суду прыходзяць. Я сама двойчы збірала рэчы...

– А вы знаёмы з пані Турэ?

– Ніколі не бачыла. Яна жыла ў прыгарадзе, у Жувізі...

– Яна там і цяпер жыве.

– Вы яе бачылі? Якая яна?

Мэгрэ адно скрывіўся.

– Так я і думала. Пан Луі не меў дома шчасця. Толькі тут ён яго і знаходзіў. І ўдар ён перанёс цяжэй за іншых: ён ужо быў у такіх гадах, калі цяжка мяняць лад жыцця.

– Колькі яму было тады?

– Сорак пяць ці сорак шэсць.

– Вы не ведаеце, чым ён займаўся потым?

– Не. Ён ніколі мне пра гэта не казаў. Відаць, цяжка яму бывала. Доўгі час ён зусім не заходзіў. А аднойчы ўранку я ішла па бульвары – раптам бачу яго на лаўцы. Мяне ажно скаланула. Не такому ж чалавеку, як пан Луі, сядзець на лаўцы ў гэткую пару! Я ўжо хацела падысці да

яго, але падумала, што яму будзе няёмка, і прайшла міма.

– Праз колькі часу пасля закрыцця фірмы гэта здарылася?

У павільёне было вельмі холадна, і кансьержка прапанавала:

– Хочаце зайсці да мяне пагрэцца?.. А колькі часу прайшло, цяжка сказаць. Відаць, гэта было ў канцы зімы, бо бралася ўжо на цяпло, але дрэвы яшчэ не зазелянелі.

– А калі вы яго зноў убачылі?

– О, прайшло шмат часу!.. У самы разгар лета. Найбольш мяне здзівіла тое, што на ім былі чаравікі... колеру дзіцячага паносу... Чаму вы так глядзіце на мяне?

– Так проста. Працягвайце.

– Гэта не ў ягонай звычцы. Я заўсёды бачыла на ім толькі чорныя чаравікі. Ён зайшоў да мяне і паклаў на стол маленькую скрыначку, белую, з залатой стужкаю – у ёй былі шакаладныя цукеркі. Сеў на гэтае крэсла. Я згатавала яму філіжанку кавы, потым збегала ў краму, купіла пляшку кальвадосу, а ён застаўся пасядзець за мяне ля ўвахода.

– Што ён расказваў вам?

– Нічога асаблівага. Адчувалася, што яму прыемна дыхаць паветрам нашага дома.

– Так нічога і не сказаў пра сваё новае жыццё?

– Я запыталася, ці задаволены ён сваім цяперашнім жыццём, ён сказаў, што задаволены. Ва ўсякім разе, ён больш не сядзеў ва ўстанове, бо была раніца, дзесяць-адзінаццаць гадзін. Другі раз ён прыйшоў пасля абеду, і на ім быў вельмі яркі гальштук. Я трохі пасмяялася з яго, што ён стараецца маладзіцца, але ён зусім не пакрыўдзіўся – пан Луі мала калі сердаваў. Потым я загаварыла пра ягоную дачку – я яе ніколі не бачыла, але ён паказваў мне яе здымак, калі ёй было ўсяго некалькі месяцаў. Нячаста сустракаеш чалавека, які так ганарыцца сваім дзіцём. Ён усім расказваў пра дачку і заўсёды насіў з сабою яе картку.

Мэгрэ згадаў: у кішэні ў Турэ ніякіх іншых фатаграфій Монікі, апроч здымка зусім маленькай дзяўчынкі, не знайшлі.

– Што вы яшчэ можаце пра яго сказаць?

– А я і не ведаю. Я ж тут з ранку да вечара, у гэтых мурах... Як Капланы закрыліся ды яшчэ цырульнік з

другога паверха з'ехаў, дык тут зусім ціха стала. Жыльцы многія з'ехалі, суды гэтыя пачаліся, архітэктары сноўдаюцца з планамі іхняга кінатэатра, а дом патроху развальваецца – вось і ўсё маё тут жыццё…

Але вялікай горычы ў голасе ў кансьержкі не чулася. Мяркуючы па ўсім, яна збіралася з'ехаць з гэтага дома апошняя.

– Як гэта здарылася? – спыталася кансьержка. – Ён мучыўся?

Ні пані Турэ, ні Моніка не спыталіся пра гэта.

– Доктар кажа, што не, памёр імгненна.

– І дзе ж яго забілі, нябогу?

– Ды зусім побач. У тупічку на бульвары Сэн-Мартэн.

– Каля ювелірнага?

– Так. Нехта падлавіў яго там і ўсадзіў нож у спіну.

Наконт нажа Мэгрэ тэлефанаваў у экспертызу, і яму сказалі, што нож сама звычайны, шырока распаўсюджанай маркі, які можна купіць практычна ў любой краме. Ён быў новы, адбіткаў пальцаў на ім не выявілі.

– Бедны пан Луі! Ён так любіў жыццё!

– Ён быў вясёлы чалавек?

– Ва ўсякім разе, сумным яго назваць было нельга. Не ведаю, як вам растлумачыць. Ён з усімі быў ветлівы і ўважлівы, кожнаму стараўся сказаць што-небудзь прыемнае. І ніколі не імкнуўся набіць сабе цану.

– А жанчынамі ён цікавіўся?

– О не, што вы! Хоць мог іх мець колькі хацеў бы. За вылікам пана Макса і старога бухгалтара ён быў адзіны мужчына ў краме, а нашыя ўпакоўшчыцы дужа цнатлівымі не выдавалі.

– Ён піў?

– Шклянку віна ў дзень, як і ўсе мы. Зрэдку кілішак лікёру.

– А дзе ён абедаў у час перапынку?

– Ён заўсёды палуднаваў на працы. Пакладзе на край стала свой «тармазок», – ён яго ў кавалачак цыраты загортваў, я гэтую цырату як цяпер памятаю, – і есць стоячы. А потым ішоў на двор выпаліць люльку. І зноў за працу. Праўда, іншы раз некуды выходзіў, казаў тады, што ў яго спатканне з дачкою. Але гэта было вельмі рэдка, у

самым канцы, калі дачка стала ўжо паненкаю і працавала ў Парыжы. Я пыталася ў яго: «Чаму вы яе ніколі нам не пакажаце? Я б так хацела зірнуць на яе!» Ён усё абяцаў, што неяк на днях пакажа. Але так і не паказаў. Не ведаю чаму.

– А вы ведаеце, дзе цяпер сакратарка, панна Леон?

– А як жа! У мяне ёсць яе адрас. Яна жыве са сваёй маці, у яе цяпер свая крамка на вуліцы Клін'янкур, на Манмартры. Яна, мабыць, зможа расказаць вам больш за мяне. Пан Луі заходзіў і да яе. Неяк мы загаварылі з ім пра яе, і ён сказаў, што яна прадае розныя рэчы для немаўлят. Смешна.

– Што смешна?

– Што яна, старая дзеўка, такое прадае.

Міма праходзілі жыльцы і, выбіраючы пошту са скрынак, падазрона пазіралі на Мэгрэ, мяркуючы, мабыць, што гэты таксама прыйшоў з нагоды іхняга высялення.

– Ну, дзякую. Я яшчэ зайду да вас.

– У вас ёсць якая-небудзь здагадка наконт забойцы?

– Ніякай, – прызнаўся камісар.

– Кашалёк у яго ўкралі?

– Не. І гадзіннік не ўзялі.

– Ну, тады яго, мабыць, пераблыталі з кімсьці іншым.

Каб трапіць на вуліцу Клін'янкур, Мэгрэ трэба было прайсці праз увесь горад. Ён зайшоў у бар і патэлефанаваў у камісарыят.

– Жанв'е слухае.

– Нічога новага?

– Хлопцы ўсе разышліся згодна з вашымі загадамі.

Уранку Мэгрэ загадаў сваім пяці інспектарам размеркаваць між сабою кварталы Парыжа і абысці ўсе крамы, каб высветліць, дзе забойца або ягоны памагаты мог купіць нож. Сантоні атрымаў заданне сабраць інфармацыю аб Моніцы Турэ.

Калі б у пані Турэ быў тэлефон, Мэгрэ неадкладна пазваніў бы ёй, каб даведацца, ці браў нябожчык з сабою апошнія тры гады абед, загорнуты ў цырату.

– Жанв'е, прышлі па мяне машыну. Я на вуліцы Бондзі. Буду чакаць насупраць кінатэатра «Адраджэнне».

Потым камісар даручыў Жанв'е распытаць у крамах на бульвары Сэн-Мартэн, ці ведаюць там Луі Турэ. Праўда,

такое заданне ўжо атрымаў інспектар Нэвэ, але ў такіх справах, дзе прыходзіцца спадзявацца на шчаслівы выпадак, лішняя праверка ніколі не зашкодзіць.

– І дай фота ў газеты. Няхай яны і далей паведамляюць аб справе Турэ як аб сама банальным забойстве.

– Зразумеў. Высылаю машыну.

Было холадна, і, згадаўшы, як кансьержка з нагоды візіту Турэ бегала ў краму па кальвадос, Мэгрэ выпіў кілішак. Потым, засунуўшы рукі ў кішэні, перайшоў цераз бульвар і зазірнуў у тупік, дзе забілі Турэ.

Мабыць, ніхто не звярнуў асаблівай увагі на газетныя паведамленні аб забойстве: Мэгрэ вельмі доўга стаяў ля вітрын ювелірнай крамы, але ніводны чалавек так і не зазірнуў у тупічок пацікавіцца.

У краме працавалі пяць ці шэсць прадаўцоў. Надта дарагіх вырабаў не было. На большасці тавараў віселі этыкеткі «Рэкламная цана». Было багата брыльянтаў, пераважна фальшывых, сустракаліся, напэўна, і сапраўдныя. Заручальныя пярсцёнкі, будзільнікі, насценныя гадзіннікі, не вельмі густоўныя.

Звярнуўшы на камісара ўвагу, да дзвярэй з ветлівай усмешкаю падышоў прадавец, збіраючыся запрасіць нерашучага, як ён, напэўна, падумаў, пакупніка ў краму, але Мэгрэ рушыў далей.

Праз некалькі хвілін ён ужо ехаў у службовай машыне на вуліцу Клін'янкур.

Раён быў ціхі, небагаты. Крама панны Леон, пад шыльдаю «Усё для сама маленькіх», ледзь віднелася, заціснутая паміж мясной крамаю і шынком для шафёраў.

Увайшоўшы ў краму, Мэгрэ адразу ж сумеўся: ні тая старая жанчына, што сядзела ў фатэлі з кошкаю на каленях у суседнім з крамным пакоі, ні гэтая, маладзейшая, што ціха выслізнула насустрач яму, ніяк не адпавядалі ягонаму ўяўленню аб Капланавай сакратарцы, уяўленню, якое ён паспеў скласці, пагутарыўшы з кансьержкаю. Вядома, камісар разумеў, калі кіраваўся сюды, што сустрэне старую панну, аднак не настолькі ж ужо «кідкую» – сакратаркаю ўсё ж такі жанчына калісь была.

Але, канечне, гадаць не прыходзілася: панна Леон –

гэтая, маладзейшая.

Яна дужа нагадвала мнішку. Вельмі ўжо строгая, як на любы погляд, чорная сукенка, твар і рукі здаваліся зусім бясколернымі, абяскроўленымі. Праўда, на тонкіх вуснах віднелася нешта накшталт слабенькай усмешкі, якая хоць трохі ажыўляла невыразны твар.

Рысы ўсе былі вельмі незаўважныя, так бы мовіць, нават нейкія сцёртыя, але за выняткам адной – тоўстага носа, які так і кідаўся ў вочы.

Як смешна, падумаў Мэгрэ, што яе завуць Леон*.

** Leonne – ільвіца (фр.).*

Вялікі мясісты нос рабіў жанчыну і праўда падобнай да ільвіцы ў заапарку – у час сну. Але ж якая толькі гэта ільвіца…

З суседняга пакоя ішло цяпло ад грубкі. Адчувалася адразу, што палілі тут не шкадуючы. На прылаўку і на паліцах раскладзены пушыстыя распашонкі, пінеткі з ружовымі ці блакітнымі банцікамі, каптурыкі, сукеначкі…

– Што пану трэба?

– Камісар Мэгрэ, крымінальны вышук.

Жанчына сумелася.

– Учора забілі аднаго з вашых былых саслужыўцаў, Луі Турэ…

З усіх жанчын, з якімі камісар паспеў сустрэцца па справе Турэ, гэтую раптоўнае паведамленне ўразіла найбольш: яна знерухомела, вусны збялелі.

– Даруйце, што я так знянацку…

Панна Леон моўчкі пакруціла галавою, паказваючы, што камісару няма чаго прасіць прабачэння.

У суседнім пакоі рыпнуў фатэль.

– Каб знайсці злачынцу, нам трэба сабраць як мага больш звестак аб забітым…

Панна Леон зноў моўчкі кіўнула.

– Я думаю, вы добра ведалі нябожчыка.

Яе твар нібыта прасвятлеў.

– Як гэта здарылася? – спыталася яна нарэшце, з цяжкасцю выгаварыўшы словы. Зазірнуўшы ў суседні пакой, запыталася: – Не хочаце сесці?

– А мы не патрывожым вашу маці?

– Яна зусім глухая. Ёй будзе нават прыемна паглядзець на іншага чалавека.

Мэгрэ не стаў казаць, што яму не надта хочацца ў перагрэты пакой, і прыняў прапанову.

Цяжка было вызначыць узрост панны Леон. Напэўна, ёй было больш як пяцьдзесят. Маці выглядала гадоў на восемдзесят. Свой тоўсты нос дачка, напэўна, займела ад бацькі: на сцяне вісела фатаграфія мужчыны з такой самай «бульбінай». Жанчына, бадай, усведамляла сваю непрыгожасць з самага дзяцінства.

– Я толькі што быў у кансьержкі на вуліцы Бондзі.

– Яна, канечне, не магла паверыць?..

– Не магла. Відаць, што яна яго любіла.

– Яго ўсе любілі. – Панна Леон пачырванела. – Які ён быў добры! – таропка дадала яна.

– Вы яго часта бачылі?

– Ён прыходзіў да мяне... Нячаста, вядома. Я жыву далёка ад цэнтра, а ён чалавек заняты.

– Вы ведаеце, чым ён займаўся апошнім часам?

– Я ў яго пра гэта ніколі не пыталася. Па-мойму, ён жыў нябедна. Думаю, пан Луі меў уласную справу – ён мог заявіцца да мяне ў любы час дня.

– А ён не расказваў пра людзей, з якімі кантактваў?

– Мы пераважна ўспаміналі нашае жыццё ў Капланаў, пана Макса... А жонку яго вы бачылі? – неяк нерашуча запыталася яна.

– Учора ўвечары.

– І што яна вам сказала?

– Яна не разумее, чаму ў яго ў момант смерці былі нагах жоўтыя чаравікі. Яна лічыць, што іх надзеў забойца.

Але панна Леон, як і кансьержка, таксама бачыла яго ў жоўтых чаравіках.

– Ён іх часта надзяваў.

– Ужо тады, калі яшчэ працаваў у Каплана?

– Не, толькі пазней. Прайшло досыць шмат часу, як яго першы раз у іх убачыла.

– А колькі прыблізна, не скажаце?

– Прыблізна год.

– Вас здзівіла, што ён быў у жоўтых чаравіках?

– Здзівіла. Гэта было не ў яго стылі.

– Што вы тады падумалі?

– Што ён змяніўся.

– Ён і праўда змяніўся?

– Ва ўсякім разе, ён быў ужо не такі, як раней. Жартаваў інакш. Нават рагатаў.

– А раней ён смяяўся?

– Цішэй. У ягоным жыцці з'явілася штосьці новае.

– Жанчына?

Мэгрэ разумеў, што пытанне жорсткае, аднак яго трэба было задаць.

– Магчыма.

– Ён дзяліўся з вамі сваёй тайнай?

– Не.

– А за вамі ён ніколі...

– Ніколі! – пачырванеўшы, таропка перапыніла яна. – Клянуся! Я ўпэўнена, што яму гэта нават у галаву не прыйшло б.

Кошка, якая сядзела на каленях у старой, пераскочыла на калені да Мэгрэ.

– Няхай сядзіць, – сказаў ён панне Леон, калі тая хацела сагнаць кошку.

Старая расчаравана пазірала на яго. Камісару захацелася запаліць люльку, але дзе тут запаліш!

– Закрыццё фірмы Капланаў для вас усіх было цяжкім ударам?

– Вельмі цяжкім.

– А для пана Турэ асабліва?

– Пан Луі быў больш за ўсіх прывязаны да гэтага дома. Там яму ўсё было роднае. Ён жа, зразумейце, пачаў працаваць там кур'ерам з чатырнаццаці гадоў!

– Адкуль ён прыехаў?

– З Бэльвіля. Ён расказваў мне: калі памёр яго бацька, маці пераехала ў Парыж. Гэта яна прывяла яго да старога Каплана.

– Маці памерла?

– Даўно ўжо.

Мэгрэ чамусьці здавалася, што жанчына нешта ўтойвала. Яна глядзела яму ў самыя вочы, аднак камісар адчуваў у іх нейкі няўлоўны рух.

– Я чуў, што яму было цяжка знайсці новае месца.

– Хто гэта вам сказаў?

– Мне так здалося са слоў кансьержкі.

– Самі разумееце, як гэта цяжка – знайсці працу, калі табе ўжо за сорак і няма спецыяльнасці. Мне самой...

– Прыйшлося шукаць працу?
– Толькі некалькі тыдняў.
– А пан Луі як?
– Ён шукаў нашмат больш.
– Вы гэта дакладна ведаеце?
– Дакладна.
– Ён заходзіў да вас тады?
– Заходзіў.
– Вы яму чым-небудзь дапамаглі?
Цяпер камісар ужо не сумняваўся, што панна Леон сабрала на чорны дзень сякія-такія грошы.
– Чаму вы ў мяне пытаецеся пра гэта?
– Таму, што пакуль я не буду ведаць, які гэта быў чалавек у апошнія гады, у мяне няма аніякага шанцу натрапіць на след забойцы.
– Я раскажу вам усё, – сказала яна, падумаўшы. – Але прашу вас, каб усё засталося паміж намі. Галоўнае, каб пра гэта не даведалася жонка.
– Вы яе ведаеце?
– Ён расказваў мне пра яе. Яе швагры ўсе добра ўладкаваныя, у кожнага свой дом.
– У яго таксама.
– Гэта яна прымусіла яго купіць дом і пасяліцца ў Жувізі, побач з яе сёстрамі.
Голас у панны Леон задрыжаў.
– Ён баяўся сваёй жонкі?
– Проста ён нікому не мог зрабіць балюча. Калі за некалькі тыдняў да Новага года мы засталіся без працы, ён не захацеў псаваць сваім родным настрой пад канец года.
– І нічога ім не сказаў, каб яны па-ранейшаму думалі, што ён у Каплана?
– Ён спадзяваўся знайсці працу праз некалькі дзён, потым – праз некалькі тыдняў. Але ж гэты дом… Ён купіў яго ў крэдыт і павінен быў плаціць за яго штогод. Самі разумееце, у якое становішча трапіў бы ён, калі б не заплаціў тады.
– У каго ён пазычыў?
– У мяне і пана Сэмброна. Гэта наш бухгалтар. Ён ужо не працуе. Жыве адзін, на набярэжнай Межысэры.
– Як у яго з грашыма?
– Ён ледзьве зводзіць канцы з канцамі.

– Чаму пан Луі не звярнуўся да пана Каплана?

– Той нічога не даў бы. Такі ўжо ў яго характар. Дарэчы, у дзень закрыцця фірмы ён выдаў кожнаму канверт з трохмесячнай зарплатай, дык пан Луі пабаяўся з-за жонкі пакінуць гэтыя грошы пры сабе.

– Яна правярала яго кашалёк?

– Напэўна. Я захоўвала яго грошы ў сябе. Тры месяцы забіраў іх у мяне па частцы, усё роўна як зарплату. Калі гэтыя грошы кончыліся, тады і пазычыў у мяне. Але ён мне ўсё аддаў.

– Калі?

– Месяцаў праз восем-дзевяць.

– Вы доўга яго не бачылі пасля таго, як ён узяў у вас грошы?

– З лютага па жнівень.

– Вы тады не хваляваліся?

– Я ведала, што ён прыйдзе. Нават калі і не зможа іх аддаць...

– Ён сказаў вам, што знайшоў новую працу?

– Сказаў.

– Ён быў ужо ў жоўтых чаравіках?

– Угу. Потым ён зрэдку заходзіў да мяне. І кожны раз прыносіў які-небудзь падарунак, цукеркі маме.

Толькі цяпер Мэгрэ здагадаўся, чаму старая ўвесь час глядзела на яго з расчараваннем. Госці, напэўна, прыносілі ёй салодкае, а ён прыйшоў з пустымі рукамі. Наступным разам трэба будзе прыйсці з цукеркамі, падумаў ён.

– Ён не гаварыў пра сваіх новых знаёмых?

– Якіх новых знаёмых?

– Па працы.

– Не.

– А не казаў, у якім квартале працуе?

– З усіх вуліц ён згадваў толькі адну – Бондзі. Ён туды часта заходзіў. Паглядзець, ці не разбурылі яшчэ наш дом. Дом стаяў, як і раней, і пан Луі ўсё шкадаваў: мы маглі б яшчэ й дагэтуль працаваць там.

Пазванілі. У краму ўвайшла жанчына. Панна Леон, выцягнуўшы шыю, паглядзела на яе.

– Не хачу вас болей затрымліваць, – узняўся Мэгрэ.

– Заўсёды буду вам радая.

– Дзякую.

Мэгрэ ўзяў з прылаўка свой капялюш і выйшаў.
– Куды паедзем, шэф? – спытаўся вадзіцель.
– У бліжэйшы бар.
– Дык тут зусім побач, насупраць крамы.
Але Мэгрэ было б няёмка, калі б ён адразу ж пасля сустрэчы зайшоў у бар на вачах у панны Леон.
– Праедзем куды-небудзь далей.
Цяпер яму трэба было патэлефанаваць пану Каплан і знайсці па адраснай кнізе пана Сэмброна.
А раз ужо дзень пачаўся з кальвадосу, то ён вырашыў выпіць яшчэ кілішак.

## 3. ЯНКА ЎСМЯТКУ

Мэгрэ паабедаў у піўной «Дэльфін», за сваім улюбёным кутнім столікам. У яго не было ніякай тэрміновай справы, і ён мог бы паесці дома, але хацелася пабыць аднаму. Як заўсёды ў гэты час тут пацягвалі аперытыў інспектары з набярэжнай Арфэўр. Яны скосу пазіралі на камісара, а ён глядзеў праз акно на Сену.
Інспектары моўчкі пераглянуліся. Яны былі з іншага аддзела, але добра ведалі камісара. Калі паходка ў Мэгрэ рабілася цяжкая, позірк – туманны, а выгляд – пануры, усе разумелі, што ён разгадвае нейкую галаваломку. Нехта мог усміхнуцца, але кожны паважаў яго, бо ведаў: рана ці позна злачынца будзе знойдзены і прызнае сваю віну.
– Цяляціна ў вас сёння добрая?
– Вядома, пан Мэгрэ. Хочаце піва?
– Не. Паўбутэлькі чырвонага бардо.
Ён заказаў віно толькі таму, што прапанавалі піва. Калі б яму прапанавалі віно, ён пэўна папрасіў бы піва. Мэгрэ быў раздражнёны пасля наведвання Сэмброна.
А было ўсё так.
Спачатку ён патэлефанаваў Максу Каплану, але яму адказалі, што той паехаў у Анціб, на сваю прыморскую вілу, і калі вернецца ў Парыж, невядома. Тады Мэгрэ і накіраваўся да Сэмброна, на набярэжную Межысэры. Каб прайсці ў дом, дзе жыў стары бухгалтар, камісару прыйшлося праціснуцца паміж клеткамі з выстаўленымі на продаж птушкамі, што займалі амаль усе ходнікі.
– Дзе жыве пан Сэмброн? – запытаўся ён у

кансьержкі.

– На самым версе. Вы не памыліцеся.

Дарэмна ён шукаў ліфт. Яго не было. Прыйшлося ўздымацца пешшу. Дом быў стары і брудны. На апошнім, сёмым паверсе слаба свяціла лямпачка. Побач з адзінымі на пляцоўцы дзвярыма вісеў шнур. Мэгрэ пацягнуў за яго, і з кватэры пачулася слабае дзінькание званочка, потым – крокі. Дзверы адчыніліся, і камісар убачыў амаль прывідны твар – неверагодна худы і бледны, зарослы белым шчаціннем. Вочы ў старога слязіліся.

– Пан Сэмброн?

– Ён самы. Будзьце ласкавы, заходзьце.

Нават такую кароткую фразу ён не змог прамовіць як след: пачаўся прыступ кашлю, які глуха аддаваўся ў яго ў грудзях.

– Выбачайце. У мяне бранхіт…

У кватэры стаяў нейкі непрыемны саладжавы пах. Чулася, як шыпіць газавая гарэлка, кіпела вада.

– Камісар Мэгрэ. Крымінальны вышук.

– Я ведаў, што вы прыйдзеце да мяне. Вы ці хто-небудзь з вашых інспектараў.

Пасярод стала, накрытага стракатым абрусам, які цяпер можна было купіць хіба што ў барахольшчыка, ляжала газета, разгорнутая на той самай старонцы, дзе было кароткае паведамленне аб смерці Турэ. Побач з газетаю стаялі талерка, шклянка з вадою, трохі падфарбаванай віном, ляжаў невялікі кавалак хлеба.

– Вы, здаецца, збіраліся абедаць?

– Нічога, я не спяшаюся.

– Я вас прашу, не звяртайце на мяне ўвагі.

– Цяпер ужо ўсё роўна: маё яйка зварылася ўкрутую.

Усё ж стары пайшоў па яго на кухню. Гарэлка перастала шыпець.

– Сядайце, пан камісар. Толькі лепш распраніцеся. З-за свайго бранхіту, ён у мяне застарэлы, я мушу залішне паліць грубку.

Напэўна, ён быў таго ж узросту, што і маці панны Леон, да таго ж яго ніхто не даглядаў. Можа, сюды ніхто і не заходзіў. Адзінай радасцю старога ў гэтым жытле мусіў быць від з акна на Сену і на кветкавы базар.

З-за прыступаў кашлю, дый з-за таго нават, што

стары еў сваё яйка неверагодна марудна, размова з ім доўжылася сама меней паўгадзіны.

Але пра што новае даведаўся ўрэшце Мэгрэ? Стары паўтарыў усё тое, што сказалі ўжо кансьержка і панна Леон. |

Закрыццё фірмы Капланаў для яго таксама стала катастрофаю, ён нават не стаў шукаць новае месца працы. Праўда, у яго былі сякія-такія грошы. Ён збіраў іх гадамі і думаў, гэтага хопіць, каб забяспечыць сабе адзінокую старасць. Але з-за інфляцыі яму іх цяпер хапала толькі на тое, каб не памерці з голаду.

– Добра яшчэ, – сказаў стары, – што ў мяне ёсць дах над галавою. Я жыву тут ужо сорак гадоў.

Ён быў удаўцом, дзяцей не меў, родных не засталося.

Яйка было, магчыма, падумаў Мэгрэ, ягонай адзінай штодзённай ежаю.

Аднак, калі пан Турэ прыйшоў да яго, ён не вагаючыся пазычыў яму грошы.

– Ён сказаў мне, што для яго гэта пытанне жыцця і смерці, і я зразумеў, што гэта сапраўды так. Праз некалькі месяцаў ён мне ўсё аддаў.

А калі б Турэ не вярнуўся? На якія грошы купляў бы тады стары сваё штодзённае яйка? Ці ж не баяўся ён гэтага?..

– Пан Луі да вас часта заходзіў?

– Два ці тры разы. Першы раз, калі прынёс грошы. Ён падарыў мне тады пенкавую люльку.

Стары ўзняўся, каб узяць люльку з паліцы і паказаць яе. Тытунь ён, мабыць, таксама эканоміў.

– А калі вы яго бачылі апошні раз?

– Тыдні тры назад, на лаўцы на бульвары Бон-Нувэль.

Мабыць, стары бухгалтар прыходзіў у гэты квартал таксама як паломнік – паўспамінаць мінулае.

– Вы з ім тады гаварылі?

– Я прысеў побач. Ён хацеў пачаставаць мяне шкляначкай у суседняй кавярне, але я адмовіўся. Памятаю, быў сонечны дзень. Мы пагаманілі з ім не ўстаючы.

– Скажыце, а на ім былі жоўтыя чаравікі?

– Не звярнуў увагі.

– Ён не казаў вам, чым займаецца?

Сэмброн пакруціў галавою. Мэгрэ адчуваў, што стары, як і панна Леон, меў да нябожчыка вельмі цёплае пачуццё. Сімпатычны, відаць, быў чалавек гэты Луі Турэ, – камісар міжволі пачынаў шчыра яго шкадаваць, нібыта ведаў раней, а бачыў жа толькі застылы твар, здзіўлены смерцю.

– Як жа вы развіталіся?

– Мне здалося, што нехта ходзіць вакол крамы і робіць пану Турэ нейкія знакі.

– Мужчына?

– Мужчына. Сярэдніх гадоў.

– Што ён з сябе ўяўляў?

– Такія звычайна сядзяць на бульварах на лаўках. Нарэшце ён падсеў да нас, але не загаварыў. Тады я пайшоў. Калі я азірнуўся, яны гаварылі.

– Па-сяброўску?

– Ва ўсякім разе, мне здалося, яны не спрачаліся.

Вось і ўсё, пра што даведаўся Мэгрэ.

Калі ён вярнуўся ў камісарыят, яму пазваніў суддзя Камельё:

– Сёння ўранку пракурор перадаў мне справу Турэ і сказаў, што расследаваннем займаецеся вы. За што-небудзь ужо зачапіліся? Рабаўніцтва, я мяркую?

– Магчыма.

– Сям'я патрабуе выдачы цела. Я не магу гэтага дазволіць без вашай згоды.

– Доктар Поль ужо агледзеў труп?

– Я толькі што гаварыў з ім. Нож прайшоў наскрозь і прабіў левы жалудачак сэрца. Смерць была імгненная.

– Ніякіх іншых раненняў ці слядоў ад удараў?

– Ніякіх.

– Не бачу неабходнасці замінаць таму, каб сям'я атрымала цела. Толькі няхай адзежу забітага адправяць у лабараторыю.

– Добра. Трымайце мяне ў курсе.

Камельё рэдка быў такі мяккі. Прэса амаль нічога не паведаміла пра забойства, і суддзя меркаваў, што гэта простае рабаўніцтва. Справа не выклікала ў яго цікавасці, як, відаць, не выклікала і ў іншых.

Мэгрэ падышоў да каміна, дастаў абцугамі вугалёк, запаліў люльку і з гадзіну займаўся нуднай

канцыляршчынай: падпісваў акты, рабіў на іх заўвагі.

– Можна, шэф?

Гэта быў, як заўсёды расфранчаны, наадэкалонены, быццам толькі што выйшаў з цырульні, Сантоні. «Ад цябе парфумаю, як ад бабы нясе», – казалі яму таварышы.

Сантоні ззяў:

– Я, здаецца, напаў на след.

Мэгрэ паглядзеў на яго затуманенымі вачыма.

– Спачатку хачу далажыць вам, што кантора «Жэбер і Башэлье», дзе служыць наша панна, займаецца перапродажам акцый. Справы там дробязныя. Яны за бясцэнак скупляюць безнадзейныя акцыі, а потым прадаюць іх крыху даражэй. Уся іхняя праца – бадзяцца па дамах, шукаючы дурняў-пакупнікоў. Панна Турэ сядзіць у канторы толькі ўранку, а пасля абеду шукае кліентаў.

– Зразумела.

– Іх кліенты – пераважна дробныя службоўцы. Іх трэба чым-небудзь уразіць, і тады яны раскашэльваюцца. Сур'ёзных дзялкоў я не бачыў. У абедзенны перапынак я пачакаў, пакуль усе выйдуць, і непрыкметна падышоў да адной сакратаркі не першай маладосці. Я не памыліўся ў выбары: яна не любіць сваю маладую каляжанку і расказала мне ўсё.

– Ну і што?

– У Монікі ёсць сябар.

– Хто ён?

– Усё па парадку, шэф. Яны знаёмыя прыблізна чатыры месяцы. Штодня абедаюць разам у рэстаранчыку на Севастопальскім бульвары. Ён зусім малады, яму дзевятнаццаць гадоў, працуе прадаўцом у кнігарні на бульвары Сэн-Мішэль.

Мэгрэ перабіраў свае люлькі, раскладзеныя на стале. Не заўважыўшы, што адна з іх недапаленая, пачаў набіваць іншую.

– Хлопца завуць Альбэр Жарыс. Я вырашыў зірнуць на яго і пайшоў у рэстаранчык. Там была процьма народу. Нарэшце знайшоў Моніку, яна сядзела за столікам адна. Сам я сеў насупраць у куце і паабедаў, скажу шчыра, вельмі блага. Дзяўчына здалася мне ўзнерваванай, увесь час паглядала на дзверы.

– Ён так і не прыйшоў?

– Не. Яна расцягвала свой абед, як толькі магла. У такіх установах абслугоўваюць хутка і не любяць марудлівых наведнікаў. Урэшце яна выйшла і хвілін пятнаццаць чакала яго на вуліцы.

– А потым?

– Яна так выглядала сябра, што нават не заўважыла мяне. Потым пайшла да бульвара Сэн-Мішэль. Вы ведаеце вялікую кнігарню на рагу?

– Ведаю.

– Яна зайшла туды, загаварыла з прадаўцом, пасля падышла да касіра. Выгляд у яе быў расчараваны, і яна пайшла з крамы.

– Ты зноў пайшоў за ёю?

– Я вырашыў, што лепш заняцца яе сябрам. У кнігарні я спытаўся ў адміністратара, ці ведае ён пана Альбэра Жарыса. Ён адказаў, што ведае, але Жарыс працуе толькі да абеду. Я быў здзіўлены, і адміністратар растлумачыў мне, што ў іх працуюць пераважна студэнты, а яны не могуць стаяць за прылаўкам увесь дзень.

– Дык ён – студэнт?

– Чакайце. Я пацікавіўся, ці даўно працуе ён у кнігарні. Выявілася, трохі больш як год. Спачатку ён працаваў поўны дзень. А месяцы тры назад аб'явіў, што слухае лекцыі на юрыдычным факультэце, і перайшоў на паўдня.

– У цябе ёсць яго адрас?

– Ён жыве са сваімі бацькамі на вуліцы Шацён, насупраць царквы Монруж. Але я яшчэ не кончыў. Сёння Жарыс не прыйшоў на працу. За ўвесь час, што ён працуе, гэта здарылася з ім два ці тры разы, і кожны раз ён папярэджваў па тэлефоне. А сёння – не.

– А ўчора ён працаваў?

– Працаваў. Я падумаў, што вас зацікавіць, дзе ён жыве, і паехаў на вуліцу Шацён. Кватэра дагледжаная. Дома была маці. Вельмі прыстойная кабета.

– Ты сказаў ёй, што ты з паліцыі?

– Вядома, не. Я сказаў, што я ягоны сябра і што мне трэба тэрмінова яго знайсці.

– І яна адаслала цябе ў кнігарню?

– Угадалі. Яна ні аб чым не падазрае. Ён выйшаў з

дому, як звычайна, у пачатку дзевятай. Яна паняцця не мае ні аб якім юрыдычным факультэце. Бацька працуе ў краме па продажу тканін. Яны не такія багатыя, каб іх сын вучыўся ва ўніверсітэце.

– Што ты зрабіў далей?

– Зрабіў выгляд, што памыліўся, што, напэўна, у яе сына тое самае прозвішча, што і ў майго сябра. А пасля папрасіў паказаць яго фатаграфію. Ёй нават у галаву не прыйшло ў чымсьці мяне западозрыць. Яна, калі я прыйшоў, якраз прасавала бялізну, дык больш думала пра тое, каб прас не прапёк прасціну. А я ўсё яе загаворваў…

Мэгрэ маўчаў, не выяўляючы аніякага захаплення. Па ўсім адчувалася, што Сантоні ў камісаравай брыгадзе – пачатковец. Усё, што ён расказваў, нават тон, усё гэта супярэчыла стылю Мэгрэ.

– Адыходзячы, шэф, я непрыкметна…

Мэгрэ працягнуў руку.

– Дай.

Камісар адразу зразумеў, што Сантоні ўкраў фатаграфію. Мяркуючы па здымку, Жарыс быў яшчэ зусім маладзён – худы, нервовы, валасы доўгія, як у дзяўчыны. Напэўна, падабаецца жанчынам і ведае пра гэта.

– Гэта ўсё?

– Паглядзім, ці вернецца сёння ўвечары галубок дамоў?

Мэгрэ ўздыхнуў:

– Паглядзім…

– Вы незадаволены?

Навошта яму нешта тлумачыць?.. Сантоні зрабіў усё так, як зрабіў бы любы пачатковец, чалавек з іншай брыгады. Калі-небудзь ён сам усё зразумее.

– Не думайце, што я ўпусціў дзяўчыну. Я ведаю, дзе яе знайсці. А палове шостай, сама позна без чвэрці шэсць яна вяртаецца ў кантору і здае выручаныя грошы і акцыі. Мне туды ісці?

Мэгрэ ледзь ужо не крыкнуў, каб ён не лез сам, куды не просяць – аднак стрымаўся. Гэта ўсё-такі было б несправядліва: інспектар стараўся як мог.

– Правер, ці вернецца яна на працу і ці паедзе на вакзал.

– Можа, і сябра з'явіцца?

– Можа. Калі ён зазвычай вяртаецца дамоў?

– У сем гадзін. На вячэру. Ён заўсёды прыходзіць у гэты час дамоў, нават калі пасля куды-небудзь сыходзіць.

– У іх, відаць, няма тэлефона?

– Няма.

– А ў кансьержкі ёсць?

– Не думаю. Не такі гэта дом, каб да яго правялі тэлефон. Але я праверу.

Ён пагартаў даведнік.

– Зазірні туды а палове восьмай і папытайся ў кансьержкі, ці вяртаўся ён. А фатаграфію пакінь мне.

Раз ужо Сантоні яе прыхапіў, лепш пакінуць яе тут. Можа, прыдасца.

– Вы застаяцеся тут?

– Не ведаю. Але ты сувязь з аддзяленнем падтрымлівай.

– Дык чым мне пакуль заняцца? У мяне ёсць яшчэ дзве гадзіны.

– Правер спісы мэбліраваных пакояў. Магчыма, які-небудзь запісаны на імя Луі Турэ.

– Думаеце, ён здымаў пакой у Парыжы?

– А дзе ж, ты думаеш, ён пакідаў свае жоўтыя чаравікі і чырвоны гальштук перад тым, як вярнуцца дамоў?

– А сапраўды?..

Дзве гадзіны назад пачалі прадаваць вячэрнія газеты, у іх быў змешчаны маленькі фотаздымак Луі Турэ з кароткім, подпісам: «Луі Турэ, забіты ўчора пасля абеду ў тупіку ля бульвара Сэн-Мартэн. Паліцыя ідзе па магчымым следзе».

Па магчымым следзе... Гэта была няпраўда. Але газеты заўсёды дадаюць што-небудзь ад сябе. Цікава, зрэшты, што дагэтуль ніхто не патэлефанаваў камісару, каб атрымаць дадатковыя звесткі. Мэгрэ ўвесь час чакаў такога званка.

Амаль заўсёды ў такіх выпадках нехта заяўляе, што ведаў забітага або бачыў яго незадоўга да смерці, ці паведамляе, што заўважыў на месцы злачынства якога-небудзь падазронага чалавека. Звычайна большасць сведчанняў праверкаю не пацвярджаецца. Аднак іншым разам яны дапамагаюць натрапіць на след.

Тры гады Луі Турэ ад'язджаў з Жувізі адным і тым самым цягнікам і вяртаўся дадому ў адзін і той самы час. Тры гады ён нязменна браў з сабою свой загорнуты ў кавалачак цыраты абед, як рабіў гэта ўсё сваё жыццё.

Але куды ж ён дзяваўся, прыехаўшы на Ліёнскі вакзал? Вось у чым была тайна.

Першыя месяцы ён хутчэй за ўсё шукаў новае месца. Стаяў, як і многія іншыя, у чарзе перад рэдакцыямі, каб потым імкліва кінуцца па ўказаным у свежым выпуску газеты адрасе. А можа, спрабаваў хадзіць па кватэрах, прадаючы што-небудзь накшталт пыласосаў?..

Але раз яму прыйшлося ўрэшце пазычыць грошы ў панны Леон і старога бухгалтара, то, відаць, нічога ён не знайшоў.

Потым ягоныя сляды губляюцца на многія месяцы. А яму ж трэба было не толькі штомесяц прыносіць дамоў сваю ранейшую зарплату, а яшчэ і аддаць пазыку.

А ён кожнага разу вяртаўся дамоў, як ні ў чым не бывала, з выглядам чалавека, які адпрацаваў увесь дзень.

Ні жонка ягоная нічога не падазравала, ні дачка, ні сёстры, ні швагры-чыгуначнікі.

Але вось аднаго разу ён раптам з'яўляецца на вуліцы Клін'янкур у панны Леон, вяртае пазыку і прыносіць маці цукеркі.

А на нагах у яго новыя і – чамусьці – жоўтыя чаравікі. Можа, менавіта ў гэтых жоўтых чаравіках і была адна з прычын, з якой Мэгрэ адчуваў сімпатыю да забітага?.. Ён сам у свой час марыў аб жоўтых чаравіках. У дні ягонай маладосці яны лічыліся апошнім крыкам моды.

Аднойчы, неяк неўзабаве пасля жаніцьбы, ён купіў сабе такія. Дарэчы, ён купляў іх якраз на бульвары Сэн-Мартэн, у краме насупраць тэатра Амбігю. Калі ён іх набыў, то не рашыўся надзець адразу ж. А калі дома разгарнуў скрутак, жонка засмяялася:

– Ты што, збіраешся іх насіць?

Так ён ніколі іх і не абуў. Жонка сама аднесла іх назад у краму, зманіўшы, што яны малыя.

Луі Турэ таксама купіў сабе незвычайныя чаравікі – і Мэгрэ надаваў гэтай акалічнасці асаблівы сэнс.

Напэўна, гэтая пакупка была для Турэ сімвалам ягонага вызвалення ад хатніх акоў. У жоўтых чаравіках ён

адчуваў сябе вольным. Пакуль ён у іх, пакуль не абувае зноў чорных – ніхто, ні жонка, ні дачка, ні радня, не мае над ім ніякае ўлады.

І яшчэ. Таго дня, калі Мэгрэ купіў іх, яму аб'явілі аб надбаўцы – дзесяць франкаў у месяц. Тады франкі яшчэ былі франкамі, і ён адразу ж адчуў сябе багатым.

Мабыць, тое ж самае здарылася і з Турэ. Ён вярнуў пазыкі, зрабіў падарункі сваім былым саслужыўцам... Пасля таго пачаў наведваць панну Леон і кансьержку...

Але чаму ён ніколі не казаў нікому, чым займаецца?..

Кансьержка выпадкова ўбачыла яго ў адзінаццаць гадзін раніцы на лаўцы на бульвары Сэн-Мартэн.

Яна нават не загаварыла з ім, зрабіла выгляд, што не заўважыла яго. Ведама ж, такі чалавек, як пан Турэ, у ягоным узросце, у гэтакі час, калі ўсе, як мурашкі, завіхаюцца на працы, нібыта апошні абібок, разваліўся на лаўцы!

І Сэмброн таксама ўбачыў яго нядаўна на лаўцы. Праўда, гэтым разам у іншым месцы, на бульвары Бон-Нувэль, але ўсё ж – за два крокі ад бульвара Сэн-Мартэн.

Бухгалтар не быў такі далікатны, як кансьержка. А можа, Турэ яго сам першы прыкмеціў?

Ці меў ён з кім-небудзь на гэтай лаўцы спатканне?

І хто быў гэты чалавек, які хадзіў каля лаўкі, нібыта чакаў нейкага знака?

Сэмброн пра яго амаль нічога не сказаў. Але адно ягонае меркаванне было вельмі істотнае: «Ён быў падобны на чалавека, які прызвычаіўся сядзець на лаўках».

Мабыць, гэта быў чалавек без пэўнага занятку, які бавіў час на лаўках, разглядаючы ад няма чаго рабіць мінакоў.

У кожным парыжскім квартале – свой тып разяватых праціральнікаў штаноў. Можа, гэта быў пенсіянер? Але на бульвары Сэн-Мартэн пенсіянеры – нячастыя госці.

Дзве несумяшчальныя рэчы: з аднаго боку – жоўтыя чаравікі франта, з другога – баўленне часу на лаўцы, занятак чалавека старога або апушчанага.

А нарэшце прыйшоў дзень, калі нехта нячутна пракраўся ўслед за ім у тупічок і за дзесяць крокаў ад натоўпу на бульвары ўсадзіў яму ў спіну нож. І што, што

магло спатрэбіцца Турэ ў гэтым тупіку?..

За акном цямнела, прыйшлося запаліць лямпу. Мэгрэ ўстаў і зняў паліто з вешалкі.

Выходзячы, ён сказаў інспектарам з суседняга пакоя:

– Я буду праз гадзіну-дзве.

Ён не паехаў на службовай машыне, а сеў у канцы вуліцы на аўтобус і, даехаўшы за некалькі хвілін да Севастопальскага бульвара, сышоў.

На вуліцах было людна. Яшчэ зусім нядаўна ў гэты час хадзіў па іх і Луі Турэ, не ведаючы, магчыма, чым заняцца, перш чым змяніць свае жоўтыя чаравікі на чорныя і адправіцца на Ліёнскі вакзал.

На другім баку бульвара Бон-Нувэль Мэгрэ прыкмеціў лаўку.

«Напэўна, гэтая», – падумаў ён.

На лаўцы ніхто не сядзеў.

На рагу Сэн-Мартэн чакалі кліентаў прастытуткі. Іншыя сядзелі ў маленькім бары, мужчыны побач гулялі ў карты.

І тут камісар убачыў інспектара Нэве і зрабіў яму знак. Адна прастытутка вырашыла, што Мэгрэ кліча яе, і ўстала, камісар спыніў яе маўклівым жэстам.

Раз ужо Нэвэ апынуўся тут, дык, пэўна, паспеў распытаць усіх: такіх кабетак у сваім квартале ён ведаў добра.

– Як жыццё? – спытаўся Мэгрэ ў Нэвэ.

– Прыйшлі зірнуць?

– Ды так, на хвілінку.

– А я ўжо з васьмі раніцы. Апытаў ужо чалавек пяцьсот.

– Даведаўся, дзе ён абедаў?

– Даведаўся.

– Я так і думаў.

– Чаму?

– Турэ быў чалавек звычкі, наўрад ці ён стаў бы кожнага дня хадзіць у іншае месца.

– Вось там, – паказаў Нэвэ рукою на сціплы рэстаранчык. – Там дагэтуль ляжыць ягоная сурвэтка з нумарам.

– І што табе там расказалі?

– Ён заўсёды сядаў за адзін і той самы столік у

глыбіні залы, непадалёк ад стойкі. Яго зазвычай абслугоўвала адна афіцыянтка. Здаравенная такая кабыла, рыжая. Ведаеце, як яна яго называла?.. «Мой дружок...» Яна сама мне пра гэта сказала. Так і пыталася ў яго: «Ну што, мой дружок, будзем сёння есці?» Сцвярджае, што яму гэта падабалася. Яна часта загаворвала з ім, але ён ніколі да яе не заляцаўся. Яна не раз бачыла яго на бульвары на лаўцы, і кожны раз ён вітаў яе рукою. І заўсёды гэта было каля трох гадзін дня, у час яе перапынку. Аднойчы яна сказала яму: «Здаецца, мой дружок, вы працаю не струджаны!» А ён адказаў, што працуе ўначы.

– І яна паверыла?

– Ды яна, здаецца, проста малілася на яго.

– А газеты яна чытае?

– Я ёй сказаў, што яго забілі. Паверыць не магла... А ведаеце, рэстаран хоць і сціплы, але і не дужа танны. А Турэ кожны раз заказваў паўбутэлькі марачнага віна.

– Ці ёсць яшчэ ў квартале людзі, якія б ведалі яго?

– Чалавек дзесяць. Адна прастытутка сустракала яго амаль штодня. Першы раз яна паспрабавала завесці яго да сябе, але ён пачціва адмовіўся. А потым, калі яна бачыла яго, то крычала: «Дык што, сёння?» Гэта ўвайшло ў іхнюю звычку і вельмі іх весяліла. Калі яна знікала з кліентам, ён падміргваў ёй.

– І ён ні разу не быў ні ў адной?

– Не.

– А з якой-небудзь іншай жанчынай яго бачылі?

– Яны – не. Але адзін з прадаўцоў ювелірнай крамы бачыў.

– Той самай крамы, каля якой яго забілі?

– Таго самага. Я там усім паказваў яго фатаграфію, і адзін яго прызнаў. «Ды гэта ж той, што купіў у нас пярсцёнак на тым тыдні!» – адразу ж усклікнуў ён.

– А жанчына была маладая?

– Не надта. Прадавец не звярнуў на яе асаблівай увагі. Вырашыў, што гэта муж з жонкаю. Ён толькі заўважыў, што на ёй была гаржэтка з серабрыстага ліса, а на шыі вісеў ланцужок з пазалочаным медальёнам-чатырохлістнікам, рыхтык такія ж, што прадаюць у іхнай краме.

– Дарагі пярсцёнак?

– Пазалочаны, з падробленым каменем.

– Пра што ж яны гаварылі? Прадавец нічога не чуў?

– Ён не памятае. Кажа, гаварылі як муж з жонкаю. Нічога асаблівага.

– А ён змог бы пазнаць гэтую жанчыну?

– Ён не ўпэўнены. Яна была ў чорным і ў пальчатках. Адну пальчатку забыла на прылаўку. Турэ вярнуўся, а яна чакала яго на вуліцы. Яна вышэйшая за яго. На вуліцы ўзяла яго пад руку, і яны пайшлі да станцыі метро «Рэспубліка».

– Больш нічога не ўведаў?

– І гэта з'ела ў мяне ўвесь час: я ж пачаў з Манмартра. Але там нічога не ўведаў. За вылікам адной драбніцы. Ведаеце кіёск на вуліцы Акацый, дзе прадаюць пышкі?

– Ведаю. Іх пякуць там пад адкрытым небам, як на кірмашы.

– Дык вось, прадаўцы пышак памятаюць Турэ. Ён часта купляў у іх, заўсёды па тры штукі і ніколі не еў на вуліцы, а забіраў з сабою. Гэтыя пышкі, як вам вядома, вельмі вялікія, ва ўсякім разе, рэклама сцвярджае, што яны сама вялікія ў Парыжы. Наўрад ці пасля сытнага абеду ў рэстарацыі Турэ еў бы іх адзін. Не еў бы ён іх і на лаўцы – не такі гэта чалавек. Відаць, ён браў іх той самай жанчыне. Значыцца, яна жыве недзе непадалёк.

А можа, падумаў Мэгрэ, ён частаваў таго чалавека, якога бачыў бухгалтар Сэмброн?

– Ну што, шэф, казаць далей?

– Вядома.

– Куды вы?

– Хачу зазірнуць у тупічок.

Тупічок быў зусім побач, і Мэгрэ вырашыў яшчэ раз агледзець месца злачынства.

Час цяпер быў такі самы. Туману сёння не было, але цемната такая ж непраглядная.

А можа, Турэ зайшоў сюды проста да ветру?.. Не, насупраць ёсць прыбіральня...

Нэвэ ўздыхнуў:

– Толькі б знайсці тую жанчыну...

А камісару хацелася знайсці таго чалавека, які на мігах прасіў у Турэ дазволу прысесці побач, пакуль той

гаварыў з Сэмбронам.

Камісар пачаў уважліва прыглядацца да людзей на лаўках. Ён ведаў, што ў кожнай лаўкі ёсць свае заўсёднікі, якія зазвычай прысаджваюцца ў адзін і той самы час. Праходжыя не зважаюць на іх. Але самі заўсёднікі добра ведаюць адно аднаго. Камісар згадаў, як аднойчы пані Мэгрэ, седзячы на лаўцы ў скверы Анвэр, зусім выпадкова навяла яго на след аднаго забойцы.

Цяпер на адной лаўцы сядзеў якраз відавочны заўсёднік: стары бадзяга з пастаўленай побач пляшкай віна.

Трохі далей прымасцілася мажная жанчына, напэўна, правінцыялка. Чакаючы свайго чалавека, які зайшоў у прыбіральню, яна выпрастала, каб хоць трохі адпачылі, ногі – па ўсім відаць, апухлыя ад нязвыклае хаданіны па горадзе.

Але гэта, ведама ж, былі зусім не тыя людзі, якіх трэба было знайсці.

– На тваім месцы, – сказаў Мэгрэ, – я меней бы займаўся крамамі, а болей людзьмі на лаўках. Пасядзі, пазнаёмся з заўсёднікамі.

– Добра, шэф, – зноў уздыхнуў Нэвэ. Такая перспектыва не радавала, хадзіць цікавей, хоць і ногі ўжо балелі ад гэтых няспынных бадзянняў.

Ён ніколі не паверыў бы, што камісар з радасцю згадзіўся б апынуцца на ягоным месцы: і хадзіў бы, і сядзеў бы – Мэгрэ з задавальненнем згадваў той час, калі служыў простым інспектарам.

## 4. ПАХАВАННЕ

Назаўтра камісар змарнаваў паўдня: яго выклікалі на судовае пасяджэнне. Некалькі гадзін ён праседзеў у змрочным пакойчыку для сведкаў. Нехта забыўся ўключыць атаплЯльныя батарэі, і спачатку ў пакойчыку стаяў жудасны холад. Потым, калі радыятары нарэшце нагрэліся, стала невыносна спякотліва і засмярдзела потам і выпарэннямі мокрае адзежы.

Судзілі нейкага Рэнэ Лекэра, які сем месяцаў назад забіў ударам бутэлькі па галаве сваю цётку. Злачынцу было толькі дваццаць два гады, ён быў здаравенны, што

грузчык, але выраз твару меў усё роўна як у вінаватага школьніка.

І чаму толькі дагэтуль ніхто не дадумаўся хоць трохі палепшыць асвятленне судовае залы? Цьмянае шэраватае святло проста прыгнятала Мэгрэ, які і так быў – праз марнаванне часу ды недарэчнасць пасяджэння – не ў гуморы.

Адвакат, яшчэ зусім малады, але ўжо вядомы – дзякуючы сваім пастаянным нападам на сведкаў ды суддзяў, намагаўся пераканаць усіх, што злачынца прызнаў сваю віну толькі ў выніку націску на яго і кепскага з ім абыходжання на допыце. Відавочная хлусня, і адвакат гэта добра ведаў.

– Можа, пан сведка скажа суддзям, колькі гадзін доўжыўся першы допыт майго падабароннага? – дэкламаваў ён.

Камісар чакаў менавіта гэтага пытання.

– Семнаццаць гадзін, – адказаў ён.

– Семнаццаць гадзін без ежы?!

– Лекэр адмовіўся ад бутэрбродаў, якія мы яму прапаноўвалі.

Усім сваім выглядам адвакат казаў прысяжным: «Глядзіце, панове! Семнаццаць гадзін у нябогі ў роце і хлебнай крошкі не было!»

Сам Мэгрэ за ўвесь допыт з'еў толькі два бутэрбороды. А ён жа нікога не забіваў.

– Пан сведка, – па-ранейшаму надрываўся напорысты абаронца, – ці прызнаяце вы, што сёмага сакавіка, а трэцяй гадзіне раніцы, вы ўдарылі абвінавачанага без якіхсьці на тое падстаў – дзеянняў з яго боку, прычым тады, калі ў бедалагі былі кайданкі на руках?

– Не прызнаю.

– Дык сведка адмаўляе, што ўдарыў абвінавачанага?

– Быў момант, калі я даў яму поўху: усё роўна як бацька сыну.

Адвакат памыліўся – пачаў не з таго канца. Але ён, відаць, клапаціўся толькі пра тое, каб уразіць публіку ды журналістаў.

Потым, парушаючы ўсе правілы, ён з'едліва-саладжава запытаўся ў Мэгрэ:

– А ў вас ёсць сын, пан камісар?

– Не…

– У вас ніколі не было дзяцей?.. Даруйце, я недачуў, што вы сказалі…

Мэгрэ быў вымушаны паўтарыць на ўвесь голас, што ў яго была дачка, але яна памерла маленькая.

Вось і ўсё. Мэгрэ нарэшце пакінуў судовую залу і, перш чым вярнуцца ў сваё бюро, выпіў шклянначку каньяку ў буфеце ў Палацы правасуддзя.

Прыйшоўшы ў аддзяленне, Мэгрэ адразу ж запытаўся ў Сантоні, які займаўся сябрам Монікі Турэ:

– Ніякіх навін пра Альбэра Жарыса?

– Ніякіх.

Хлопец так і не прыйшоў дадому. У кнігарню ён сёння таксама не прыходзіў, не быў і ў рэстарацыі, дзе звычайна абедаў з Монікай.

Цяпер Сантоні займаўся хлопцам разам з Люка, які закончыў учора працу па іншым расследаванні. Яны звязваліся з усімі паліцэйскімі пастамі. Жанв'е ўсё яшчэ шукаў краму, дзе быў набыты нож, якім забілі Турэ.

– Нэвэ не званіў?

– Паўгадзіны назад. Сказаў, што пазвоніць у шэсць.

Камісар стаміўся. Перад вачыма стаялі твары прысяжных, злачынцы, адваката. Навошта яму гэтая цяганіна?

– Лапуэнт нічога не знайшоў?

Маленькі Лапуэнт абегаў усе мэбляваныя пакоі раёна, каб даведацца, ці не здымаў адзін з іх Турэ. Павінен жа ён быў недзе пераабувацца!

Цяпер у кожнага быў свой участак працы.

Памаракаваўшы, Жарыса перадалі Люка, а за Сантоні засталася адна Моніка Турэ. Што, калі Жарыс стане шукаць яе ці захоча што-небудзь паведаміць ёй пра сябе?

Тым часам прыходзілася разглядаць розныя службовыя паперы, адказваць на непатрэбныя тэлефонныя званкі. Усё ж такі дзіўна: ніхто так і не пазваніў камісару ў сувязі з забойствам…

– Алё! Мэгрэ слухае.

Гаварыў Нэвэ. Відаць, з нейкага бістро, бо з слухаўкі чуліся гукі музыкі.

– Нічога асаблівага, шэф. Знайшоў на лаўках трох

чалавек, якія памятаюць Турэ. Усе паўтараюць адно і тое ж: Турэ быў заўсёды ветлівы, ахвотна загаворваў з імі. Адна старая кажа, што зазвычай ён ішоў адсюль да метро «Рэспубліка».

– Яна яго бачыла з кім-небудзь?

– Яна – не. Але адзін бадзяга сказаў, што аднаго разу Турэ некага чакаў, а калі той чалавек падышоў, яны разам пайшлі адсюль. Але ён так і не змог апісаць гэтага чалавека, сказаў адно, што гэта тып, якіх багата...

Заставалася толькі ўздыхнуць.

Пахаванне Турэ было назначана на заўтра. Уранку цела нябожчыка забралі ў Жывізі.

Мэгрэ патэлефанаваў жонцы і сказаў, што вернецца позна.

Па дарозе ў Жывізі дзьмуў моцны вецер. Хмары нізка навіслі над зямлёю, збіралася навальніца. Шафёр з цяжкасцю знайшоў вуліцу Таполяў. Ва ўсіх вокнах дома Турэ гарэла святло.

Але званок не званіў. Яго, відаць, выключылі ў знак жалобы. Нехта ўбачыў, як да дома пад'ехала машына, і дзверы адчыніла жанчына, яшчэ не знаёмая камісару, гадоў на пяць старэйшая за пані Турэ і вельмі падобная да яе.

– Камісар Мэгрэ.

Жанчына паклікала сястру з кухні:

– Эмілія!

– Чую. Запрасі яго ў дом.

Мэгрэ прынялі на кухні, бо ў сталовай стаяла труна. У вузкім калідоры пахла кветкамі і свечкамі.

– Выбачайце, што я вас турбую...

– Пазнаёмцеся: пан Маньен, мой швагер. Кантралёр на чыгунцы.

– Вельмі прыемна.

– Вы ўжо знаёмыя з маёй сястрой Жаннай, а гэта Сэліна...

Адна Моніка не ўстала, каб павітацца з Мэгрэ. Яна пільна ўзіралася ў яго і, напэўна, думала, што камісар прыехаў дапытваць яе наконт Жарыса, і была скаваная страхам.

– Прысядзьце, калі ласка.

Мэгрэ пакруціў галавою.

– Хочаце глянуць на яго?

Удаве было прыемна паказаць камісару, што яна не паскупілася на аддзелку труны.

– Нібыта спіць…

Мэгрэ зрабіў усё належнае.

– Ён і зразумець не паспеў, што здарылася, – уздыхнула жанчына. – А як ён любіў жыццё!

Яны ціха выйшлі, і пані Турэ зачыніла дзверы.

– Вы будзеце на пахаванні, пан камісар?

– Буду. Таму і прыйшоў.

Моніка па-ранейшаму сядзела нерухомая. Пачуўшы, што сказаў камісар, яна адразу ж уздыхнула.

– Напэўна, вы і вашы сёстры знаёмыя з усімі, хто будзе на пахаванні, а я не ведаю нікога…

– Разумею! – усклікнуў Маньен, нібыта гэтая думка прыйшла і яму самому ў галаву адначасна.

Сваім пыхлівым выглядам ён паказваў, што ведае ўсё наперад.

– Я проста папрасіў бы вас паказаць мне на пахаванні незнаёмых людзей, калі такія будуць.

– Вы думаеце, прыйдзе забойца?

– Неабавязкова. Але мой абавязак – нічога не ўпускаць.

– Вы маеце на ўвазе якую-небудзь жанчыну? – спыталася пані Турэ.

І яе твар, і твары сясцёр адразу ж сталі аднолькава злыя.

– Я нічога не маю на ўвазе. Я шукаю забойцу. Калі заўтра на пахаванні вы зробіце мне знак, я зразумею.

– Калі заўважым любога незнаёмага?

Мэгрэ кіўнуў, папрасіў прабачэння за клопаты і выйшаў. Маньен правёў яго да дзвярэй.

– Натрапілі на след? – спытаўся ён тонам, якім гавораць з доктарам пасля агляду хворага.

– Не.

– І не маеце ніякіх падазрэнняў?

– Ніякіх. Да пабачэння.

У машыне Мэгрэ ўспомніў, як дваццацігадовым юнаком ён трапіў упершыню ў сталіцу. Тады яго найбольш уразіў няспынны рух натоўпу, калаўрот сотняў тысяч людзей. Ён з міжвольнай трывогаю назіраў за тымі, хто,

страціўшы раўнавагу, кідаўся ў паток і плыў па цячэнні. Але асаблівае спачуванне выклікалі ў яго сціпла і чыста апранутыя людзі. Якіх толькі намаганняў яны не прыклалі, каб застацца на паверхні і стварыць ілюзію, што яны жывуць і што гэтае жыццё вартае таго, каб яго пражыць!

Вось і Луі Турэ дваццаць пяць гадоў сядаў кожнае раніцы ў адзін і той самы цягнік, бачыў адны і тыя ж твары, і пад пахаю ў яго быў адзін і той самы загорнуты ў цырату сняданак; увечары нябога вяртаўся ў сваё жытло, якое Мэгрэ называў у думках «домам трох сясцёр». Хоць сёстры і жылі на суседніх вуліцах, яны закрывалі нябожчыку далягляд, як вялізны мур.

– У камісарыят, шэф? – пытаўся шафёр.

– Не. Дамоў.

Гэтым вечарам ён пайшоў з жонкаю ў кінатэатр на бульвары Бон-Нувэль, той самы, куды хадзіў і Луі Турэ. Яны двойчы прайшлі міма таго самага тупіка.

– У цябе кепскі настрой? – спыталася жонка.

– Не.

– Ты за ўвесь вечар і слова не сказаў.

– Ты што?.. А я і не заўважыў.

Уранку на горад абрынулася залева. Ліло як з вядра. Вецер вырываў з рук мінакоў парасоны.

– Такое надвор'е часта бывае на пахаванне, – заўважыла пані Мэгрэ. – Багата сёння клопату?

– Яшчэ не ведаю.

– Надзень галёшы.

Мэгрэ так і зрабіў, але ўсё роўна паспеў добра прамокнуць, перш чым удалося сесці ў таксоўку. Халодныя кроплі сцякалі з капелюша за каўнер.

– На набярэжную Арфэўр.

Пахаванне адбудзецца ў дзесяць. Мэгрэ з нецярпеннем чакаў, калі прыйдзе Нэвэ. Ён вырашыў узяць яго з сабою: а раптам каго-небудзь пазнае на пахаванні?..

– Ёсць што новае? – спытаўся камісар у Сантоні. – Не?.. Складзі спіс Жарысавых сяброў, знаёмых, увогуле, усіх, з кім ён сустракаўся апошнія гады.

– Я ўжо пачаў.

– Працягвай.

З'явіўся Нэвэ.

– Надвор'е пахавальнае, – буркнуў інспектар.

У дзесяць яны былі ўжо перад домам Турэ. У знак жалобы з абодвух бакоў дзвярэй былі нацягнуты чорныя палотнішчы з серабрыстымі махрамі. Ля ганка, на незаасфальтаваных ходніках стаялі людзі пад парасонамі. Усяго іх было чалавек пяцьдзесят. Многія заходзілі ў дом. Віднеліся людзі і ў суседніх дварах.

Спачатку прыбыў катафалк. Потым таропка прайшлі святар і хлопчык, які нёс крыж.

Нішто не спыняла парываў ветру, мокрая адзежа прыставала да цела. Труна адразу ж намокла.

– Нікога не пазнаеш? – запытаўся Мэгрэ ў Нэвэ, калі працэсія рушыла.

Нэвэ пакруціў галавою.

Жанчына, якой Турэ падараваў парсцёнак, напэўна, не прыйшла. Праўда, на адной кабеце быў лісіны каўнер, але камісар заўважыў яе яшчэ раней, калі яна выходзіла з дома насупраць і замыкала дзверы на ключ. І з прысутных мужчын нікога нельга было ўявіць заўсёднікам лавак на бульварах.

І ўсё ж Мэгрэ застаўся на пахаванні да канца. Камісар двойчы сустрэў позірк Монікі. І кожны раз адчуваў, як сціскаецца яна ад страху.

На могілках было па калена гразі: магілу выкапалі на новым участку, куды яшчэ не праклалі дарожкі.

Калі пані Турэ сустракалася позіркам з камісарам, яна кожны раз уважліва аглядвала прысутных, паказваючы, што памятае аб ягонай просьбе. Калі ён падышоў да сям'і, якая выстраілася ў рад ля магілы, каб выказаць спачуванне, удава шапнула:

– Я нікога не заўважыла...

Дождж пазмываў пудру з твараў у жанчын, ва ўсіх пачырванелі насы.

Мэгрэ і Нэвэ пачакалі яшчэ хвілінку на могілках і прайшлі ў шынок насупраць. Камісар заказаў два грогі. А праз некалькі хвілін тут была ўжо добрая палова працэсіі. Каб сагрэцца, людзі пераступалі з нагі на нагу.

Мэгрэ пачуў абрывак размовы:

– А пенсію яна за яго атрымае?

– Не. Ён жа быў простым кладаўшчыком у нейкай краме. Такім пенсіі не даюць. Гэта за швеграмі ягонымі жонкі файна жывуць – чыгуначнікі ўсё-такі. А пан Луі быў

у іх увогуле кімсьці накшталт сваяка-бедалагі… Вось так вось…

– Дык што ж жонка з дачкою рабіцьмуць?

– Дачка ж працуе… Пакой, можа, здадуць кватаранту…

– Ну што, Нэвэ, хадзем? – прапанаваў Мэгрэ інспектару.

З машыны сцякала брудная вада. Залева секла і секла.

У камісарыяце было сыра і холадна, на падлозе віднеліся брудныя сляды.

– Нічога новага, Люка?

– Званіў Лапуэнт. З бістро на плошчы Рэспублікі. Ён знайшоў пакой.

– Пакой Турэ?

– Ён так думае. Але гаспадыня не надта гаваркая.

– Выклікалі яе сюды?

– Не. Можа, вы самі лепш туды сходзіце?

Мэгрэ і праўда думаў пайсці да Лапуэнта, а не сядзець тут у кабінеце.

Калі Мэгрэ ўвайшоў у бістро, ён адразу ж знайшоў Лапуэнта: той сядзеў ля каміна і піў каву.

– Адзін грог! – заказаў камісар.

– Дзе гэты пакой? – запытаўся ён у Лапуэнта.

– За два крокі адсюль. Знайшоў зусім выпадкова. Дом у спісах не значыцца.

– Ты не памыліўся?

– Не. На вуліцы Ангулем я ўбачыў аб'яву: «Здаецца пакой». Трохпавярховы дом, без кансьержкі. Я пазваніў і папрасіў паказаць пакой. Гаспадыня ў гадах, калісь, мусіць, была прыгажуня, але цяпер сівая, аблезлая, тоўстая. Выйшла да мяне ў халаце. Перш чым упусціць мяне, запыталася, ці здымаю я пакой сабе асабіста і ці адзін буду жыць. Пакуль яна са мною перагаворвалася, на другім паверсе прыадчыніліся дзверы, і я заўважыў вельмі вабную дзяўчыну.

– Бардэль?

– Не зусім. Але мне здалося, што гаспадыня з гэтымі справамі знаёмая. Пакуль падымаліся наверх, яна запыталася, як я збіраюся плаціць – штомесяц ці часцей, дзе я працую. Пакой – вокнамі на двор. Абсталюнак

неблагі. Праўда, як на мой густ, дык зашмат таннага шоўку і аксаміту. Лялька на канапе. У пакоі пахла яшчэ, так бы мовіць, жанчынаю. Гаспадыня пацікавілася, хто мне даў адрас. Я ледзь не прагаварыўся, што даведаўся па аб'яве. Шчыра кажучы, мяне ўвесь час бянтэжыла адна з яе цыцак: яна ўсё выслізгвала з халата. Я сказаў, што паведаміў мне пра пакой адзін мой сябра. І што сябра гэты жыве ў яе. Яна запыталася хто. Калі я назваў Турэ, то адразу зразумеў, што яна яго ведае. Яна і з твару змянілася, і голас стаў іншы. «Не ведаю, кажа, такога!» Як адрэзала. А потым пытаецца, ці няма ў мяне звычкі позна вяртацца дамоў. Было ўжо відаць, што вырашыла пазбавіцца ад мяне. Але я прыкінуўся прасцячком. Кажу: «Можа, мой сябра яшчэ тут? Ён удзень не працуе і позна ўстае». Але яна мне: «Дык вы будзеце здымаць пакой ці не?» Буду, кажу. «Плата наперад». Я дастаў кашалёк і, нібыта выпадкова, выняў фота Турэ. «А, – кажу, – вось і фота майго сябра». Яна зірнула і кажа: «Не, мы, відаць, адно аднаму не падыдзем». І пайшла да дзвярэй. Я хацеў затрымаць яе, але яна папрасіла пакінуць яе ў спакоі, у яе, бачыце, абед на пліце можа згарэць. Так і развіталіся… Шэф, ды я проста ўпэўнены, што яна яго ведала! Калі я выйшаў на вуліцу, фіранка зварухнулася: яна назірала за мною.

– Едзем! – сказаў Мэгрэ.

Хаця дом быў за два крокі адсюль, пад'ехалі на машыне. Гаспадыня, якая выйшла адчыніць дзверы, і цяпер была ў халаце.

– Хто там?

– Паліцыя.

– Што вам трэба? – Зірнула коса на Лапуэнта. – Так і ведала, што нажыву сабе бяду з гэтым малакасосам.

– Думаю, нам будзе зручней перагаварыць у доме.

– А я і не збіраюся трымаць вас на ганку. Мне ад вас хаваць няма чаго.

– Чаму вы не прызналіся, што пан Турэ быў вашым жыльцом?

– Таму, што гэта яго не датычыцца, – зноў змерыла яна Лапуэнта нядобрым позіркам.

Яна ўвяла іх у невялікую гасцёўню. Грубка тут была напалена як след. Усюды ляжалі стракатыя падушкі з

вышытымі на іх кошачкамі, сэрцамі і скрыпічнымі ключамі. Вокны былі занавешаны шчыльнымі шторамі, і гаспадыня запаліла святло.

– Дык што вам ад мяне трэба?

Мэгрэ выняў з кішэні фатаграфію Турэ.

– Гэта ён?

– Ён. Вы і без мяне ўсё ведаеце.

– Доўга ён у вас жыў?

– Прыкладна два гады. Можа, трохі болей.

– У вас шмат жыльцоў?

– Вядома. Мне адной дом задужа вялікі. А ў наш час кватэру знайсці нялёгка.

– Колькі ж іх у вас?

– Цяпер – тры.

– Але адзін пакой свабодны?

– Той самы, што я паказвала гэтаму малойчыку. І цяпер шкадую, што не была асцярожлівая.

– Што вы ведаеце пра пана Турэ?

– Ціхі і сціплы чалавек. Нікому не замінаў. Працаваў уначы...

– А вы ведаеце дзе?

– Я яго ні аб чым не распытвала. Ён сыходзіў увечары і вяртаўся ўранку. Спаў вельмі мала. Я яму часта казала, што трэба спаць болей. Але мне здаецца, што ўсе яны так, хто ўначы працуе, – мала спяць.

– Ён шмат зарабляў?

– А што вас, уласна, цікавіць?

– Вы ж чытаеце газеты?..

На століку ляжала разгорнутая ранішняя газета.

– Бачу, куды вы гняце. Але спярша паабяцайце, што ў мяне не будзе непрыемнасцей. Ведаю я паліцыю...

Мэгрэ падумаў, што кабета павінна быць у картатэцы аддзела нораваў.

– Я ж не рэкламую сваіх жыльцоў на кожным кроку. Не рэгістрырую іх. Гэта не злачынства. Але калі вы пачняце выкручваць мне нервы...

– Усё будзе залежаць ад вас.

– Вы абяцаеце?.. Дарэчы, у якім вы чыне?

– Камісар Мэгрэ.

– Ого! Зразумела. Гэта сур'ёзней, чым я думала. Мяне турбуюць вашы калегі з нораваў. – Яна адпусціла ў іхні

адрас такое слоўца, што Мэгрэ з Лапуэнтам пераглянуліся.

– Ну, добра. Ведаю я, што яго забілі. Але больш – нічога.

– Як ён назваўся вам?

– Проста – пан Луі.

– Да яго прыходзіла жанчына? Чарнявая, сярэдніх гадоў?

– Прыходзіла. Прыгожая, гадоў сорак, умее сябе трымаць.

– Часта прыходзіла?

– На тыдзень тры ці чатыры разы.

– А прозвішча яе вы ведаеце?

– Я называла яе пані Антуанэт.

– Вы, я бачу, прывыклі называць людзей па імені.

– Я не цікаўная.

– Яна, калі прыходзіла, надоўга заставалася ў яго?

– На колькі трэба.

– На паўдня?

– Як калі. Іншым разам – на гадзіну-дзве.

– А ўранку прыходзіла?

– Можа, калі і прыходзіла, я не помню.

– Вы яе адрас ведаеце?

– Ніколі не пыталася.

– Іншыя вашы жыльцы – жанчыны?

– Пан Луі быў адзіны мужчына.

– Ён з імі меў зносіны?

– Любоўныя? Такіх не было. Мне здаецца, ён да гэтага не быў ахвотнік. Можа, калі б захацеў...

– Але ён заходзіў да іх?

– Яны, бывала, заходзілі да яго папрасіць запалак, цыгарэт ці газету.

– І ўсё?

– Ну, яны гаманілі пра сёе-тое. Часам ён нават гуляў у карты з Люсіль.

– Яна наверсе?

– Не. Бадзяецца недзе дні ўжо два. З ёй гэта здараецца. Мабыць, знайшла сабе некага. Але памятаеце, што вы мне абяцалі? Каб ні ў мяне, ні ў маіх жыльцоў не было ніякіх непрыемнасцей.

Мэгрэ хацеў быў сказаць, што нічога не абяцаў, але змаўчаў.

– А апрача гэтай кабеты, ніхто да яго не прыходзіў?

– Нядаўна нехта пра яго пытаўся, разы са два.

– Маладзіца?

– Ага. Яна не стала падымацца наверх. Папрасіла перадаць, што чакае ўнізе.

– Яна назвалася?

– Монікай. Яна засталася ў калідоры, нават у гасцёўню не прайшла.

– Ён спусціўся да яе?

– Першы раз пра нешта з ёю пашаптаўся, і яна пайшла. А другім разам і трэцім выйшаў з ёю.

– Не сказаў вам, калі вярнуўся, што за яна?

– Спытаўся толькі, ці спадабалася яна мне.

– І што вы адказалі?

– Сказала, што цікавая, як зазвычай у яе ўзросце, але што праз некалькі гадоў гэта будзе сапраўдная кабыла.

– А хто яшчэ прыходзіў?

– Вы не хочаце сесці?

– Дзякую. Не хачу пэцкаць вам падушкі – змок да ніткі. Надта ў вас ужо чыста.

– Стараюся як магу. Дык чакайце... Дайце ўспомніць... Прыходзіў адзін чалавек. Малады. Не назваўся. Я перадала пану Луі, што яго чакаюць унізе. Пан Луі, здалося, расхваляваўся і папрасіў мяне правесці госця наверх. Гэты маладзён прабыў у яго хвілін дзесяць.

– Даўно гэта было?

– У сярэдзіне жніўня. Памятаю, была спякота і процьма мух.

– Ён прыходзіў яшчэ калі-небудзь?

– Неяк разам прыходзілі, усё роўна як на вуліцы сустрэліся. Разам падняліся наверх, але хлопец хутка выйшаў.

– Усё?

– Мне здаецца, я і так нагаварыла пад самую завязку. Думаю, вам таксама цікава падняцца наверх?

– Вядома.

– Пан Луі займаў пакой насупраць таго, які я паказвала вашаму памочніку. Вокны выходзяць на вуліцу.

– Правядзіце нас, калі ласка.

Уздыхнуўшы, гаспадыня з цяжкасцю стала ўздымацца наверх.

– Не забывайцеся, што абяцалі.

Мэгрэ пацiснуў плячыма.

– Калi пакрыўдзiце мяне, я заяўлю на судзе, што вы манiце.

Скрозь шчылiну прыадчыненых дзвярэй, мiма якiх яны праходзiлi, камiсар заўважыў маладую жанчыну, зусiм голую, з махнатым ручнiком у руках.

Павярнуўшыся да яе, гаспадыня сказала:

– Не бойся, Iвета, гэта не з нораваў!

## 5. СЯРЖАНТАВА ЎДАВА

Велiзарная шафа з люстрам займала амаль увесь пакой. Гэтай масiўнай мэблi з арэхавага дрэва было, напэўна, гадоў пяцьдзесят сама меней. Яе куплялi няйначай як на аўкцыёне.

На стале, накрытым цыратаю, стаяла клетка з канарэйкаю. Можа, падумаў камiсар, Турэ купiў яе на набярэжнай Межысэры, калi наведваў старога бухгалтара?..

– Гэта ягоная канарэйка?

– Ягоная. Ён прынёс яе з год назад. Але яго падманулi: падсунулi замест самца самку, яна не спявае.

– А хто тут прыбiраў?

– Я здаю пакоi з мэбляю i бялiзнаю, але прыбiральшчыцы няма. Некалi былi пакаёўкi, але з iмi шмат клопату. Дый жывуць у мяне пераважна жанчыны…

– Пан Луi сам прыбiраў?

– Ён запраўляў ложак, выцiраў пыл. Раз на тыдзень, дзеля яго, я мыла тут падлогу.

Камiсар адчуваў, што для Турэ гэты пакой быў прытулкам душы. Усё, што ён прыносiў сюды, мела не простае пабытовае прызначэнне – яно падбiралася з асабiстым, нават патаемным густам.

У шафе не было гарнiтура, але затое ў iм стаялi тры пары жоўтых чаравiкаў. На столiку ляжаў трохi экстравагантны, як для Турэ, капялюш, амаль новы, вiдаць, набыты iм з пратэсту. I, мабыць, з таго ж пратэсту куплены былi стракаты халат i чырвоныя пантофлi.

– А пан Турэ не хадзiў на скачкi?

– Не думаю. Пра гэта ён мне нiчога не казаў.

– А ён часта з вамi гаварыў?

– Часцей на хаду. Але іншы раз заходзіў у гасцёўню і мы гаманілі.

– Ён быў вясёлы чалавек?

– Жыццю ён радаваўся.

Усё ў пакоі было на сваім месцы, нідзе ні пылінкі. У адной шафе Мэгрэ знайшоў пачатую бутэльку партвейну і два келіхі. На вешалцы вісеў плашч: натуральна, не мог жа Турэ вяртацца ў Жувізі мокры, калі ўдзень ішоў дождж?

Было нямала кніг. Яны стаялі ў рад на куфры: танныя выданні, раманы плашча і шпагі, два-тры дэтэктывы. Відаць, дэтэктывы яму не спадабаліся і ён перастаў іх чытаць.

Крэсла стаяла ля акна. Побач маленькі столік. На ім – фатаграфія жанчыны гадоў сарака з цёмнымі валасамі ў чорным. Напэўна, гэта быў здымак тае жанчыны, пра якую казаў прадавец з ювелірнай крамы. На ім яна – такая ж мажная. Такіх кабет у пэўным асяроддзі лічаць прыгожымі.

– Гэта яна прыходзіла?

– Яна.

У шуфлядзе стала камісар знайшоў яшчэ некалькі здымкаў. На адным з іх Турэ быў у сваім «экстравагантным» капелюшы.

Ніякіх іншых асабістых рэчаў, апрача дзвюх пар шкарпэтак і некалькіх гальштукаў, у пакоі не было – ні кашуль, ні трусоў, ні папер, ні лістоў – нічога.

Мэгрэ прыставіў крэсла да шафы і, зусім як у дзяцінстве, калі шукаў схаваныя ад яго бацькамі рэчы, стаў на яго, каб зазірнуць на самы верх шафы. Там быў густы слой пылу, які, аднак, не паспеў яшчэ асесці на квадраце памерам прыблізна з канверт. Відаць, на гэтым месцы зусім нядаўна нешта ляжала. Але камісар нічога не сказаў гаспадыні, якая ўважліва назірала за ім.

– У яго быў ключ ад пакоя?

– Не. Калі ён выходзіў, то пакідаў ключ мне.

– Іншыя жыльцы таксама пакідаюць вам ключ?

– Не. Але пан Луі казаў, што ён усё губляе і няхай лепш ключ застаецца ў мяне. Мне гэта зусім не замінала: ён жа ніколі не вяртаўся ні ўвечары, ні ўначы.

Мэгрэ выняў з рамкі фатаграфію жанчыны і паклаў яе ў кішэню. Потым напаіў канарэйку, пахадзіў яшчэ трохі

па пакоі.

– Я, можа, яшчэ прыйду да вас.

– Не стану прапаноўваць вам шкляначку, – сказала гаспадыня ўнізе. – Вы, напэўна, спяшаецеся?

– У вас ёсць тэлефон? Дайце мне, калі ласка, нумар. Можа, мне прыйдзецца пазваніць, каб што-небудзь запытаць.

– Басцілія 22-51.

– Ваша імя?

– Марыета. Марыета Жыбон.

– Дзякуй.

– Усё?

– Пакуль што ўсё.

Лапуэнт і Мэгрэ нырнулі ў машыну. Дождж усё ліў і ліў.

– Збочвай за рог і спыніся, – загадаў камісар шафёру і дадаў – Лапуэнту: – Зараз ты вернешся да гэтай кабеткі. Я забыў у пакоі люльку.

Мэгрэ ніколі і нідзе не забываў люлькі. Да таго ж, у яго іх заўсёды было з сабою дзве.

– Наўмысна?

– Вядома. Пасакачы з гэтай Марыетай колькі хвілін і вяртайся сюды, – паказаў Мэгрэ на невялікі бар і, выйшаўшы з машыны, рушыў да тэлефоннай будкі.

– Люка, гэта ты?.. Аддай адразу ж загад, каб праслухоўвалі нумар Басцілія 22-51.

Прытуліўшыся да стойкі бара, Мэгрэ пaціху пацягваў кальвадос і разглядваў фатаграфію жанчыны. Яго зусім не здзівіла, што каханкаю Турэ была жанчына таго ж тыпу, што і ягоная жонка. Але які ў яе характар? Можа, і ён такі?..

– Вось ваша люлька, шэф.

– Яна не гаварыла па тэлефоне, калі ты зайшоў?

– Не заўважыў. З ёю былі дзве жанчыны.

– Можаш ісці абедаць. Убачымся ў аддзяленні.

Мэгрэ назваў шафёру адрас панны Леон. Па дарозе спыніліся ў кандытарскай, дзе ён купіў скрыначку шакаладных цукерак.

Выйшаўшы перад крамаю панны Леон з машыны, Мэгрэ схаваў цукеркі пад паліто, каб не прамоклі – дождж усё ліў ды ліў.

Камісар адчуваў сябе ніякавата ў сваім грубым, змоклым паліто сярод лёгкіх, прыгожых, пушыстых дзіцячых строяў.

– Вашай маці, – сказаў ён панне Леон, сарамліва выцягваючы з-пад паліто скрыначку з цукеркамі.

– О, вы падумалі пра яе! Можа, вы ёй самі аддадзіце?

Аднак Мэгрэ палічыў лепшым застацца ў крамным пакоі, куды хоць трохі трапляла паветра з вуліцы: мо толькі таму, што ён апынуўся тут з дажджу, але яму здалося, што сёння грубка ў памяшканні напалена яшчэ больш.

– Прабачце, я да вас на хвілінку. Я толькі хацеў бы паказаць вам гэтую фатаграфію.

Ледзь зірнуўшы на яе, панна Леон усклікнула:

– Ды гэта ж пані Машэр!

Гэта быў ужо нейкі поспех!

Значыцца, гэтую жанчыну ведалі ў асяроддзі Луі Турэ. Так Мэгрэ думаў раней, і цяпер гэта пацвердзілася. Такі чалавек, як Турэ, не стаў бы заводзіць знаёмства з выпадковай жанчынаю.

– Адкуль вы яе ведаеце?

– Яна працавала ў Капланаў. Нядоўга. Недзе з паўгода. А чаму вы паказалі яе фатаграфію?

– Гэта была сяброўка пана Луі.

– А!..

Мэгрэ разумеў, што жанчыне гэта цяжка пачуць, але інакш нельга.

– У той час, калі яны абое працавалі ў Капланаў, вы нічога паміж імі не заўважылі?

– Магу паклясціся, што нічога паміж імі тады не было… Яна працавала на ўпакоўцы – там было дзесяць ці нават пятнаццаць жанчын… Ведаю, што яна была замужам за паліцэйскім.

– Чаму яна звольнілася?

– Здаецца, ёй прыйшлося аперыравацца.

– Вялікі вам дзякуй. Прабачце, што зноў вас патурбаваў.

– Што вы, зусім вы мяне не патурбавалі. Скажыце толькі, калі ласка… Пан Луі, ён што, сапраўды меў нешта з гэтай жанчынай?

– Яна прыходзіла да яго ў пакой, які ён здымаў у Парыжы.

– Я ўпэўнена, што паміж імі нічога не было. Яны проста сябравалі.

– Магчыма.

– Калі засталася дакументацыя фірмы, я дапамагу вам знайсці адрас гэтай жанчыны. Але ж я не ведаю, што з ёю стала, з дакументацыяй.

– Раз яна была жонкаю паліцэйскага, адрас мы знойдзем. Вы сказалі, яе прозвішча Машэр?

– А імя, калі я не памыляюся, – Антуанэта.

– Дзякую, панна Леон. Да пабачэння.

– Да пабачэння.

Мэгрэ спінаю адчуваў, што жанчына разгублена глядзела яму ўслед.

– У муніцыпальную паліцыю, – загадаў камісар шафёру.

У муніцыпальнай паліцыі Мэгрэ адразу ж накіраваўся ў аддзел кадраў. Праз некалькі хвілін яму паведамілі, што паліцэйскі па прозвішчы Машэр сапраўды служыў тут сяржантам, але яго забілі два гады назад у вулічнай бойцы. Пражываў у той час на вуліцы Даменіль. Удава атрымлівае пенсію. Дзяцей няма.

Мэгрэ запісаў адрас. І, пазваніўшы ў аддзяленне, выклікаў да тэлефона Люка.

– Ну як, гаспадыня нікому не званіла?

– Не яшчэ.

– А ёй?

– Ёй – не. Званілі адной з жанчын, Вользе, наконт прымеркі сукенкі.

Мэгрэ вырашыў паабедаць пазней. Ён выпіў у бары шклянку аперытыву і зноў сеў у машыну.

– На вуліцу Даменіль.

Ехаць прыйшлося доўга. Будынак быў бедны, стары.

– Скажыце, калі ласка, дзе жыве пані Машэр? – спытаўся ён у кансьержкі.

– На пятым паверсе, налева.

Ліфт падымаўся рыўкамі – здавалася, зараз спыніцца між паверхамі.

Вельмі чысты дыванчык перад дзвярыма, зіхоткая медная ручка. Мэгрэ пазваніў. Недзе ў глыбіні кватэры пачуліся крокі.

– Хвілінку! – Жанчына, мабыць, надзявала сукенку.

Напэўна, гаспадыня была не з такіх, што сустракаюць гасцей у халаце.

Адчыніўшы дзверы, яна моўчкі паглядзела на Мэгрэ.

– Камісар Мэгрэ.

– Праходзьце.

Было відаць, што прыход такога госця ўсхваляваў жанчыну.

Яна была такая, якой і ўяўляў яе сабе Мэгрэ: высокая, мажная, спакойная. Акуратна прычасаныя валасы, строгая сукенка, усе гузікі зашпіленыя.

Паркет ззяў.

– Я вам тут напэцкаю…

– Нічога страшнага.

Абсталюнак прыкладна такі ж, што і ў доме Турэ. Амаль такія ж забаўкі на палічках. Фатаграфія паліцэйскага, да рамкі прымацаваны медаль.

– Я прыйшоў пагаварыць з вамі пра пана Луі.

– Я гэтага чакала.

Яна не заплакала, хоць твар у яе быў маркотны.

– Сядайце, калі ласка.

– Дзякую. Вы былі блізкімі сябрамі, ці ж не так?

– Ён быў вельмі добры да мяне.

– І толькі?

– Магчыма, кахаў мяне. Ён жа ніколі не быў шчаслівы ў сям'і.

– Ваша знаёмства пачалося з таго часу, як вы працавалі ў Капланаў?

– Што вы?.. Тады быў яшчэ жывы мой муж.

– І Турэ нават не спрабаваў зблізіцца з вамі?

– Ён глядзеў на мяне гэтаксама ж, як і на любую іншую жанчыну з нашага аддзела.

– Значыцца, вы сустрэліся зноў пасля закрыцця фірмы?

– Так. Месяцаў праз восем-дзевяць пасля смерці мужа.

– Выпадкова?

– Выпадкова. Мне прыйшлося шукаць працу – вы ж разумееце, на пенсію ўдавы не пражывеш. Суседка пазнаёміла мяне з дырэктарам кінатэатра, і я ўладкавалася білецёркаю. Пры жыцці мужа я не працавала, хіба што кароткі час у Капланаў… Скажыце, газеты не будуць

пісаць пра мяне?

– Не. Можаце не баяцца.

– Дырэктар такі строгі, я магу страціць месца... Дык вось, у кінатэатры мы з панам Луі і сустрэліся... Неяк на ранішнім сеансе. Ён прыйшоў на фільм «Вакол свету за восемдзесят дзён»... Я яго пазнала, калі паказвала, дзе сесці. Ён таксама пазнаў мяне. Ніякай асаблівай размовы тады паміж намі не было, але з тае пары ён стаў часта прыходзіць да нас і заўсёды на ранішнія сеансы. Аднаго разу прапанаваў мне схадзіць з ім у кавярню. Я згадзілася.

– Ён тады ўжо здымаў пакой на вуліцы Ангулем?

– Думаю, здымаў.

– Ён казаў, што нідзе не працуе?

– Не. Сказаў толькі, што ўдзень заўсёды вольны.

– І вы так і не даведаліся, чым ён займаўся?

– Не. Я ніколі б не стала ў яго пра гэта пытацца.

– А пра жонку ці дачку ён расказваў?

– Шмат.

– Што менавіта?

– Ведаеце, цяжка перадаць... Калі чалавек няшчасны ў сям'і, ён пра гэта часта загаворвае... Жонка яго праз сясцёр зневажала. У сясцёр мужы добра ўладкаваныя, бясплатны праезд усёй сям'і, пенсія... Яны ўсе папракалі Луі за тое, што ён не імкнецца знайсці што-небудзь лепшае за месца кладаўшчыка...

– Куды ж вы, прабачце, хадзілі ўдваіх?

– Амаль заўсёды ў адну і тую ж кавярню на вуліцы Сэнт-Антуан. Мы маглі гаварыць гадзінамі.

– Вы любіце пышкі?

– Адкуль вы ведаеце?

– Я ведаю, што пан Луі купляў іх вам на вуліцы Акацый.

– Гэта было пазней, калі...

– Калі вы сталі хадзіць да яго ў пакой?

– Тады. Ён хацеў, каб я бывала там. Ён называў гэты пакой сваім закуткам... Вельмі ганарыўся ім...

– Ён не казаў вам, чаму ён зняў гэты пакой?

– Яму хацелася мець свой кут, хоць бы на некалькі гадзін у дзень.

– Ён купляў вам каштоўнасці?

– Пярсцёнак, зусім нядаўна. – Жанчына паказала

пярсцёнак на руцэ. – Ён быў такі добры, такі чулы! Яму была патрэбная падтрымка. Я ведаю, што вы думаеце пра мяне, але перш за ўсё я была яму сябрам, адзіным сябрам.

– А сюды ён прыходзіў?

– Ніколі. З-за кансьержкі і суседзяў. Мяне б тады ўвесь дом абгаворваў.

– Вы бачылі яго ў панядзелак?

– Мы прабылі разам прыкладна гадзіну.

– У які час?

– Адразу пасля абеду. Я якраз хадзіла па крамах.

– А як вы сустрэліся?

– Я назначыла яму спатканне.

– Па тэлефоне?

– Не. Я яму ніколі не званіла. Мы, калі развітваліся, заўсёды дамаўляліся аб наступнай сустрэчы.

– Дык дзе ж вы сустрэліся ў панядзелак?

– Як звычайна, у нашай кавярне. Праўда, мы сустракаліся з ім і ў кавярне на рагу Сэн-Мартэн, і ў кавярне на Вялікіх бульварах, але рэдка.

– Ён прыйшоў своечасова?

– Ён ніколі не спазняўся. У той дзень было холадна, а ў мяне крыху балела горла, і мы вырашылі пайсці ў кіно.

– На бульвары Бон-Нувэль?

– Вы, я бачу, многае ведаеце.

– Калі вы развіталіся?

– Каля чатырох. За паўгадзіны да смерці.

– Ён павінен быў з кім-небудзь сустрэцца?

– Ён мне нічога не сказаў.

– Ён гаварыў з вамі пра людзей, з якімі бачыўся?

Яна пакруціла галавою і падышла да серванта.

– Можна, я прапаную вам шклянку? Праўда, у мяне толькі вермут. Даўно стаіць – я ж не п'ю.

Мэгрэ не змог адмовіць ёй. Вермут купляў, напэўна, яшчэ сяржант, такі быў на дне бутэлькі асадак.

– Калі я прачытала ў газеце, то адразу ледзь не пабегла да вас. Мой муж часта пра вас расказваў. Я і фатаграфію вашу часта бачыла. Так што адразу пазнала вас.

– Ці думаў ён развесціся, каб ажаніцца з вамі?

– Ён дужа баяўся жонкі.

– А дачкі?

– Яе ён вельмі любіў. Дзеля яе ён што хочаце зрабіў бы. Але мне здаецца, яна ў чымсьці расчаравала яго…

– Чаму вы так думаеце?

– Проста мне так здавалася. Ён часта быў сумны пасля сустрэч з ёю.

Але і сама яна была не надта вясёлая: гаварыла нейкім вялым, манатонным голасам. Можа, яна прыходзіла да Турэ больш, каб прыбраць у пакоі?.. Ва ўсякім разе, Мэгрэ ніяк не мог уявіць яе ў ложку з каханкам. Яна больш бачылася яму ў паўзмроку за столікам кавярні, у ціхай, лагоднай размове.

– Ён ашчаджаў грошы?

– Не надта. Як на разуменне простага чалавека, дык ён многае сабе дазваляў. Калі б я згадзілася, ён бы мне багата чаго накупіў.

– А вы як-небудзь сустракалі яго выпадкова, калі ён сядзеў на лаўцы?

– На лаўцы?.. – збянтэжылася жанчына. Памаўчаўшы, яна згадала: – Адзін раз, неяк уранку, калі ішла ў краму. Ён размаўляў з нейкім хударлявым чалавекам, дзівачлівым.

– А чым ён вас здзівіў?

– Ён быў падобны на клоўна, толькі без грыму. Праўда, я разгледзець яго не магла, але ўсё ж заўважыла: чаравікі на ім былі стаптаныя і штаны – абтрапаныя.

– Вы спыталіся потым у пана Луі, што гэта за чалавек?

– Канечне. Ён адказаў, што на лаўках якіх толькі тыпаў не сустрэнеш і што яму цікава пагаманіць з незвычайнымі людзьмі.

– Вам хацелася прыйсці на пахаванне?

– Я пабаялася. Праз дзень-два схаджу да яго на магілу…

Развітаўшыся з пані Машэр, Мэгрэ паехаў адразу дахаты, сказаўшы шаферу, каб той забраў яго праз гадзіну.

За абедам жонка прыглядалася да Мэгрэ пільней як зазвычай.

– Што з табою? – нарэшце спыталася яна.

– Нічога…

– Не ведаю… Нешта ты на сябе не падобны…

– А на каго ж тады?

– На каго хочаш, толькі не на Мэгрэ.

Камісар засмяяўся. І праўда, апошнім часам ён столькі думаў пра гэтага нябогу Луі Турэ, што непрыкметна для сябе пачаў нават трымаць сябе так, як мог бы трымаць сябе нябожчык. Нават выраз твару, міміка ў яго змяніліся.

– Змяні гарнітур, – прапанавала жонка.

– Навошта? Усё роўна змокну.

І ўсё ж камісар паслухаўся жонку…

Прыехаўшы ў камісарыят, Мэгрэ зайшоў у аддзел нораваў.

– Ты ведаеш такую Марыету, ці Мары Жыбон? – спытаўся ён у інспектара. – Не?.. Будзь ласкавы, правер па картатэцы.

– Маладая?

– Гадоў пяцьдзесят.

Інспектар узяў скрыначку з пажаўцелымі і запыленымі карткамі. Доўга шукаць не прыйшлося.

– Нарадзілася ў Сэн-Мало, у картатэцы ўжо адзінаццаць гадоў. Тры арышты. Усе да вайны*. Два – за абкраданне кліента.

** Аповесць напісана ў 1952 годзе.*

– Сядзела?

– Адпусцілі. За адсутнасцю доказаў.

– Што яшчэ?

– Чакайце. Пагляджу ў другой скрыні…

Імя яе траплялася яшчэ на некалькіх картках, але ўсе яны былі даваенныя.

– Да вайны была масажысткаю ў салоне на вуліцы Марцір. Жыла з нейкім Наталі, асуджаным за забойства. Я згадваю гэтую справу. Іх было трое. Яны забілі хлопца з іншай банды каля тытунёвай будкі на вуліцы Фантэн. Так і не ўдалося разабрацца, хто парнуў нажом. Вось і далі ўсім траім па дзесяць гадоў.

– Гэты Наталі цяпер на волі?

– Памёр.

Гэтыя факты нічога не давалі Мэгрэ, адно пацвярджалі ягоныя здагадкі адносна мінулага пані Жыбон.

– А чым яна цяпер займаецца? – спытаўся камісар.

– Не ведаю. Можа, памерла.

– Не, жывая яшчэ.

– Значыцца, завязала. Вярнулася, можа, на радзіму і прыкінулася там самавітай дамаю.

– Не, яна ўсё яшчэ ў Парыжы. І здае мэбліраваныя пакоі на вуліцы Ангулем. Неафіцыйна. І, заўважце, у доме амаль што адны дзеўкі.

Інспектар зацікавіўся.

– Аднак я не думаю, што яны прымаюць у гэтых нумарах.

– Мы б ведалі, – запэўніў інспектар.

– Паназірайце, галубкі, за гэтым домам. Можа, суседзі што-небудзь падкажуць. Мае хлопцы могуць не пазнаць вашых добрых знаёмых.

– Зробім усё як след.

Прыйшоўшы ў свой кабінет, Мэгрэ не паспеў і сесці, як увайшоў Люка.

– Што новага?

– Па тэлефоне яна не званіла нікому. Але сёння ўранку да нас звярнулася адна старая, якая жыве са сваім пляменнікам на вуліцы Гэй-Люсака. Яна выходзіла з дому, а калі вярнулася, дык выявіла, што з буфета знікла каўбаса, якая дзве гадзіны назад была яшчэ на месцы. Тады яна ўзяла стары рэвальвер мужа, з якім той ваяваў яшчэ ў першую сусветную, і абшукала кватэру. І знайшла пад пляменнікавым ложкам хлебныя крошкі і насоўку. Чужую, не пляменніка!

– Чым гэты пляменнік займаецца?

– Студэнт. Працуе рассыльным у кнігарні на бульвары Сэн-Мішэль.

– Цікава… Дык, значыцца, цётка выклікала паліцыю?

– Яна патэлефанавала нам, і я адразу паслаў Леруа ў кнігарню распытаць гэтага хлопца. Ён затросся, а потым дык нават заплакаў.

– Жарыс – ягоны сябра?

– Так. Жарыс папрасіў у яго прытулку.

– З якой прычыны?

– Ён нібыта пасварыўся з бацькамі, а бацька ў яго такі жорсткі, што нават забіць можа.

– І колькі гэта ён пражыў пад ложкам?

– Адзін дзень і адну ноч. Першую ноч ён сноўдаўся па горадзе. Прынамсі, так ён расказваў сябру. Я папярэдзіў

усе пасты. Відаць, зноў бадзяецца.

– Грошы ў яго ёсць?

– Гэты хлопец не ведае.

– Вакзальныя пасты напагатове?

– Вядома.

Цікава, падумаў Мэгрэ, а што цяпер адбываецца ў Жувізі? Удава з дачкою і з сёстрамі са швагрaмі, напэўна, паабедалі і разважаюць цяпер наконт будучыні пані Турэ і Монікі...

Швагры, глытнуўшы па кілішку, сядзяць цяпер, мабыць, у фатэлях і паляць цыгары. І ўдаве, бадай, чарачку паднеслі – каб узняць тонус.

Ці згадваюць яны нябожчыка? Наўрад ці. Абмяркоўваюць, хутчэй за ўсё, пахаванне. Адзначылі ж, мусіць, што, нягледзячы на залеву, народу сабралася багата?.. Ці ўцямілі хоць, што гэта перш за ўсё пашана да нябожчыка, якога самі яны так зневажалі?..

Камісару хацелася б апынуцца цяпер там, асабліва ж – убачыць Моніку і шчыра пагутарыць з ёю сам-насам. Але дзе ж там пагутарыш сам-насам ды шчыра!..

І выклікаць яе афіцыйна ў паліцыю нявартa было яшчэ.

Падумаўшы, Мэгрэ набраў нумар службовага тэлефона Монікі Турэ.

– Скажыце, калі ласка, панна Турэ сёння на працы?

– Яна пайшла па сямейных справах, але заўтра... Выбачайце, а хто гэта?

Мэгрэ павесіў слухаўку.

– Сантоні тут?

– Не бачыў з самае раніцы.

– Пакінь яму цыдулку, каб заўтра ўранку забраў панну Турэ з працы, як толькі яна прыйдзе ў сваю кантору, і прывёў да мяне. І каб зрабіў гэта далікатна!

– Прывёў сюды?

– Але, да мяне ў бюро.

– Што яшчэ?

– Больш нічога! Дайце папрацаваць.

Сыты ён ужо сёння па горла і Луі Турэ, і ягонай сям'ёю, і ягонай жанчынаю! Каб не пачуццё службовага абавязку, ён кінуў бы зараз жа ўсе свае справы і пайшоў бы ў кіно.

Ён працаваў да сямі гадзін з такім імпэтам, быццам ад ягонай працы залежаў лёс свету. Ён закончыў і давёў да ладу афармленне раней пачатых спраў, тых, што тыднямі, а некаторыя і месяцамі чакалі сваёй чаргі, і нават тых, што практычна не мелі ніякае важнасці.

Нарэшце ён пайшоў з бюро з пачырванелымі ад доўгага і напружанага чытання-пісання вачыма.

І тут яму здалося, нібыта нешта вакол яго перамянілася. Спачатку ён не мог зразумець, што менавіта. Нарэшце працягнуў руку – і зразумеў: перастаў ісці дождж.

Камісар адчуў, што яму ўжо яго не хапае.

## 6. ЖАБРАКІ

Моніка Турэ сядзела ў «клетцы» – так Мэгрэ называў прыёмную. Камісар даваў ёй «настаяцца» – многія ў гэтай чакальні гублялі ўпэўненасць.

– Што яна там робіць? – спытаўся Мэгрэ ў Сантоні.

– Нічога.

– Як у яе настрой?

– Маўчыць. Змрочная.

Ідучы на ранішні рапарт, Мэгрэ мімаходзь зірнуў на дзяўчыну. Праз паўгадзіны, калі ён вяртаўся ў кабінет, яна сядзела ў той самай паставе.

З зашклёнай чакальні было добра відаць калідор аддзялення. Сноўдалі туды-назад інспектары з пульхнымі папкамі. Правялі арыштаванага ў кайданках, потым – нейкую заплаканую жанчыну. Аднак на дзяўчыну, здавалася, ніштo не дзейнічала. Яна захоўвала поўны спакой, хоць за гэты час у кабінет да Мэгрэ выклікалі ўжо ўсіх наведнікаў.

Праслухоўванне тэлефона Марыеты Жыбон нічога не дало: аніводнага званка. Можа, яна што-небудзь западозрыла?

Назіраючы за домам, інспектар з аддзела нораваў таксама нічога не заўважыў.

– А Жарыса ўчора ў шэсць гадзін вечара бачыў на рагу плошчы Клішы і вуліцы Баціньёль адзін паліцэйскі. Жарыс выходзіў з бістро. Схапіць яго паліцэйскі не паспеў, Жарыс знік у натоўпе. Больш яго ў гэтым квартале не

бачылі, колькі ні пільнавалі.

Як сказаў уладальнік бістро, гэты кліент нікому не тэлефанаваў, але з'еў пяць яек укрутую з булачкамі і выпіў тры кубкі кавы. Даўно, напэўна, нябога не еў як след.

Затым камісара запрасіў да сябе суддзя Камельё.

– Нічога новага? – спытаўся ён.

– Спадзяюся накрыць забойцу ў бліжэйшыя дні.

– Забойства з мэтаю абрабавання?

– Думаю, што так.

Нарэшце Мэгрэ атрымаў ліст з фірмы, дзе быў зроблены нож, якім забілі Турэ. Фірма паведамляла: па нумары на дзяржанні ўдалося высветліць, што нож – з вялікай партыі тавару, прададзенай аптавіку ў Марселі.

Выходзіць, марна пяць інспектараў ажно тры дні апытвалі ледзь не ўсіх парыжскіх гандляроў нажамі. Жанв'е мала не закалаціла.

– Нічога, – супакоіў яго камісар, – звяжыся з Марселем, няхай пашукаюць. Потым захапі Моэрса з лабараторыі і схадзі з ім на вуліцу Ангулем. Няхай Моэрс здыме ўсе адбіткі пальцаў, якія толькі знойдзе ў пакоі Турэ. Асабліва ўважліва трэба агледзець верх шафы.

А Моніка ўсё чакала. Час ад часу Мэгрэ пасылаў каго-небудзь зірнуць на яе. Дзяўчына па-ранейшаму сядзела моўчкі, нічога не рабіла і заставалася зусім спакойная. Камісар дзівіўся: пасядзеўшы гадзіну ў «клетцы», мала хто не пачынаў нервавацца.

Нарэшце, калі прайшло паўтары гадзіны, Мэгрэ загадаў запрасіць яе. Ён сустрэў дзяўчыну стоячы і папрасіў прабачэння.

– Мне хацелася б пагаварыць з вамі грунтоўна, і я быў вымушаны вырашыць спешныя справы. Сядайце, калі ласка.

Дзяўчына села, паправіла прычоску, акуратна паклала сумку на калені.

Мэгрэ сеў за стол, узяў у рот люльку, але перш чым чыркнуць запалкаю, запытаўся:

– Дазволіце?

– Дыму я не баюся, бацька паліў і дзядзькі таксама.

Мінулы раз яна была ўзнерваваная, устрывожаная.

– Панна Моніка, вы вельмі любіце сваю маці?

Мэгрэ збіраўся пачаць допыт «з музыкай»: паступова і

непрыкметна завесці дзяўчыну ў тупік, каб змусіць сказаць праўду. Аднак першы ж яе адказ збянтэжыў камісара.

– Не, – сказала яна зусім спакойна.

– Вы хочаце сказаць, што не ладзіце з ёю?

– Я яе ненавіджу.

– А чаму, вы можаце сказаць?

Яна паціснула плячыма.

– Вы ж былі ў нас дома. Бачылі яе.

– Дакладней можна?

– Яна думае толькі пра сябе, пра сваё становішча ў грамадстве, пра сваю старасць. Злуецца, што выйшла замуж не так удала, як сёстры, і што ёй прыходзіцца рабіць выгляд, што яна жыве не горш.

– А бацьку вы любілі?

Яна маўчала, і Мэгрэ перапытаў.

– Я думаю, – адказала яна, – не вельмі прыемна гаварыць пра гэта цяпер.

– І яго вы не надта любілі?

– Яго можна было толькі пашкадаваць.

– Што вы маеце на ўвазе?

– Ён нічога не рабіў, каб палепшыць сваё становішча.

– У чым палепшыць?

– Ва ўсім. – І тут яна загаварыла з імпэтам: – Я вось дык толькі і думаю пра тое, каб палепшыць нашае так званае жыццё. Мне яно абрыдла. У мяне адна мэта – з'ехаць.

– Выйсці замуж?

– Выйсці не выйсці, але з'ехаць.

– І вы гэта збіраліся зрабіць у бліжэйшым часе?

– На днях.

– А з бацькамі вы раіліся?

– А навошта?

– Значыцца, вы з'ехалі б, не сказаўшы ні слова?

– А чаму не? Што б гэта ў іхнім жыцці змяніла?

Мэгрэ было ўсё цікавей слухаць дзяўчыну. Ён нават забыўся на сваю люльку, і яму прыйшлося запальваць яе два разы.

– Скажыце, а калі вы даведаліся, што бацька не працуе болей у Капланаў? – спытаўся ён раптам.

Мэгрэ чакаў, што дзяўчына расхвалюецца, але тая,

відаць, падрыхтавалася да падобных пытанняў. Інакш растлумачыць яе поўны спакой ніяк было нельга.

– Гады тры назад. Не памятаю дакладна. У студзені ці лютым.

Фірму, згадаў Мэгрэ, закрылі ў кастрычніку.

– А як вы даведаліся?

– Выпадкова. Неяк пад вечар я разносіла квіткі...

– Вы ўжо тады працавалі на вуліцы Рывалі?

– Я пайшла працаваць туды ў васемнаццаць. Дык вось, мне трэба было якраз у той самы дом, у двары якога была бацькава кантора. Было ўжо цёмна, а святло ў ёй не гарэла. Я спыталася ў кансьержкі, у чым прычына, і тая сказала, што фірма Капланаў закрылася.

– І, вярнуўшыся дамоў, вы нічога не сказалі маці?

– Нічога.

– Чаму?

– Не хацела яго выдаваць. Ён пазбягаў сцэн. А тут пачаліся б такія разборы...

– Ён баяўся маці?

– Хутчэй, хацеў, каб яна не чапала яго.

У голасе дзяўчыны чулася пагарда.

– А ў бацькі вы спыталіся, дзе ён цяпер робіць?

– Не.

– Дык вы высачылі яго?

– Высачыла. Назаўтра паехала ў Парыж раней за яго, сказала, што ў мяне тэрміновая праца, а на вакзале дачакалася ягонага цягніка. І пайшла ўслед за ім.

– Што ж ён рабіў у той дзень?

– Хадзіў па розных установах. Папалуднаваў булкаю. Потым спыніўся каля дошкі аб'яў. І я ўсё зразумела: ён шукаў працу.

– Але ж ён кожны месяц, як і раней, прыносіў у дом зарплату?

– І мяне гэта вельмі дзівіла. Я ўсё чакала, калі ён нарэшце прыйдзе дамоў без грошай. А ён замест гэтага неяк нават аб'явіў маці, што запатрабаваў у Каплана надбаўкі і той яе даў!

– Калі гэта было?

– Прыкладна праз паўгода. У жніўні.

– І вы вырашылі, што бацька знайшоў працу?

– Але мне ўсё-такі хацелася праверыць, і я зноў дзень

сачыла за ім. А ён і не думаў ісці ні на якую працу: гуляў па скверы, сядзеў на лаўцы. Я вырашыла, што ў яго выхадны. Праз тыдзень я зноў прасачыла за ім. Тады ён і заўважыў мяне – на Вялікіх бульварах, калі сядзеў на лаўцы. Ён збляднеў, але, доўга не думаючы, сам падышоў да мяне.

– Ён зразумеў, што вы сачылі за ім?

– Не думаю. Напэўна, вырашыў, што гэта выпадковасць. Была спякота, і ён запрасіў мяне выпіць кавы з марожаным на тэрасе.

– Што ён вам сказаў?

– Што фірмы Капланаў больш няма, што ён застаўся без працы, але не кажа нічога маці, каб не турбаваць яе, бо ўпэўнены, што хутка знойдзе новую працу.

– Ён тады ўжо быў у жоўтых чаравіках?

– Не, я ўбачыла іх на ім пазней, калі ён сказаў мне, што знайшоў працу. Ён дадаў тады яшчэ, што ўсё было цяжэй, чым ён думаў, але цяпер усё выдатна, ён займаецца страхаваннем і ў яго багата вольнага часу.

– А чаму ён не сказаў пра гэта маці?

– Яна пагарджае людзьмі, якія, каб зарабіць сабе на жыццё, ходзяць па кватэрах і нешта там прапануюць. Для яе гэта ўсё бадзягі, жабракі. Калі б ён сказаў ёй такое, яна б яго са свету зжыла. І ўсё праз сясцёр…

– Ваша маці, гляджу, дужа да іх прыслухоўваецца.

– Яна ні ў чым не хоча здацца горшай за іх.

– А вы яму паверылі?

– Спачатку.

– А потым?

– А потым засумнявалася.

– Чаму?

– Надта ўжо добра ён зарабляў.

– Надта?

– Не ведаю, што для вас – «надта». Праз некалькі месяцаў ён сказаў маці, што яму зноў павялічылі зарплату, бо прызначылі памочнікам дырэктара. Маці пачала спрачацца: яна хацела, каб ён не пісаўся больш у пашпарце кладаўшчыком – яна гэтага заўсёды саромелася. Яна адчувала прыніжанасць праз тое, што ейны муж – кладаўшчык! А ён адказаў, што не варта мітусіцца з-за такой драбніцы, былі б адно грошы.

– У гэты момант вы з бацькам, мабыць, пераглянуліся?

– Ён заўсёды, калі быў упэўнены, што маці не бачыць, пераглядваўся са мною. З таго часу ён пачаў падкладваць мне ў сумку грошы. Уранку, калі-нікалі.

– Каб заплаціць за вашае маўчанне?

– Не, чаму? Проста яму падабалася дапамагаць мне.

– Вы казалі, час ад часу ён запрашаў вас абедаць.

– Запрашаў. Шэптам прызначаў спатканне і частаваў у рэстарацыі сама дарагімі стравамі. Ён мяне і ў кіно запрашаў.

– І ўвесь гэты час вы сустракалі яго ў Парыжы ў жоўтых чаравіках?

– Заўсёды. Я спыталася ў яго, дзе ён пераабуваецца, і ён сказаў, што здымае для сваіх спраў пакой у Парыжы.

– Ён вам даў адрас?

– Не адразу. Прайшло яшчэ багата часу.

– У вас ужо быў які-небудзь сябра?

– Не.

– А калі вы пазнаёміліся з Альбэрам Жарысам?

Яна не запнулася, не пачырванела. Відаць, яна і да гэтага пытання падрыхтавалася.

– Месяцаў пяць назад.

– Вы яго, прабачце, кахаеце?

– Мы павінны разам з'ехаць.

– Каб ажаніцца?

– Тады, калі можна будзе. Пакуль яму яшчэ толькі дзевятнаццаць і ён не можа ажаніцца без згоды бацькоў.

– А бацькі яе не даюць?

– І не дадуць.

– Чаму?

– Дык у яго ж яшчэ нічога няма: ні працы нармальнай, ні адукацыі. Бацькі ж толькі пра гэта і думаюць. Як мая маці.

– І куды ж вы збіраецеся ехаць?

– У Паўднёвую Амерыку. Я ўжо падала заяву на візу.

– У вас ёсць грошы?

– Трохі. Маці пакідае мне частку майго заробку.

– Калі вы першы раз папрасілі грошай у бацькі?

На нейкі момант яна пільна ўгледзелася ў Мэгрэ, потым уздыхнула.

– Дык вы і гэта ведаеце?

Але адразу ж перастала вагацца.

– Я так і думала, што ведаеце. Таму і кажу праўду. Я не думаю, што вы сподлічаеце і перакажаце ўсё маці. Хіба толькі калі вы такі ж, як і яна.

– Я нічога не збіраюся расказваць вашай маці.

– Зрэшты, гэта нічога б і не змяніла.

– Вы хочаце сказаць, што з'едзеце нягледзячы ні на што?

– І вельмі хутка.

– Дык як вы ўведалі бацькаў парыжскі адрас?

Цяпер яна ўжо відавочна завагалася, але ўсё-такі сказала праўду:

– Альбэр знайшоў ягоны пакой.

– Высачыў?

– Высачыў. Мы ўсё гадалі, як гэта бацька так добра зарабляе. І вырашылі дазнацца. Альбэр меркаваў, што бацька займаецца нелегальнымі фінансавымі аперацыямі.

– А чаму гэта так вас цікавіла?

– Ён павінен быў шмат зарабляць.

– Вы разлічвалі, што ён дасць вам грошай?

– Толькі на аплату парахода ў Амерыку.

– А вы разумееце, як гэта называецца?.. Вымаганне.

– Я лічу, што гэта натуральна, калі бацька...

– Карацей, дружок ваш, Альбэр, пачаў сачыць за бацькам...

– Толькі тры дні.

– І што ён выявіў?

– А вы што-небудзь таксама выявілі?

– Я ў вас пытаюся.

– Па-першае, ён выявіў, што бацька здымае пакой у доме на вуліцы Ангулем, па-другое, што бацька не займаўся ніякім страхаваннем, а бавіў час пераважна на лаўках у скверах Вялікіх бульвараў. Па-трэцяе...

– Што – па-трэцяе?..

– Што бацька мае каханку.

– І як вы да гэтага паставіліся, да трэцяга?

– Я думала, што яна прыгожая і маладая. А яна была зусім не лепшая за маці, нават падобная на яе.

– Вы яе бачылі?

– Альбэр паказаў мне, дзе яны зазвычай сустракаліся.

– На вуліцы Сэнт-Антуан?

– Ага. У кавярне. Я прайшла міма нібыта выпадкова і толькі зірнула. Я не мела часу разгледзець яе, але пэўнае ўяўленне склала. З ёю, мабыць, не весялей, чым з маці.

– А потым вы пайшлі на вуліцу Ангулем?

– Потым туды.

– І бацька даў вам грошы?

– Даў.

– Вы пагражалі яму, што выдадзіце маці?

– Не. Я проста сказала, што згубіла канверт з укладамі кліентаў і што, калі я іх не знайду, мяне выганяць з працы і нават аддадуць пад суд.

– Як ён павёў сябе з вамі?

– Ён сароме́ўся. Я заўважыла на століку фатаграфію, узяла яе і спытала, хто гэта. Ён адказаў, што гэта сяброўка дзяцінства, якую ён выпадкова сустрэў.

– Вам не здаецца, што вы... – абурана пачаў Мэгрэ.

– Не. Не здаецца. Я змагаюся, – перапыніла яна.

– З кім?

– З усім светам. Я не хачу скончыць, як маці, у затхлым жабрацкім доме.

– Альбэр таксама заходзіў да вашага бацькі?

– Я пра гэта нічога не ведаю.

– Вы, мілая мая, маніце.

Яна ўгледзелася ў камісара, потым апусціла галаву ў знак згоды.

– Чаму вы, калі гаворка заходзіць пра Альбэра, хлусіце?

– Таму, што з тае пары, як забілі бацьку, я адчуваю, што Альбэру будуць чыніць непрыемнасці.

– А вы ведаеце, што ён паспеў знікнуць?

– Ён мне званіў.

– Калі?

– Перад тым, як знік. Два дні назад.

– Ён сказаў вам, куды ён дзенецца?

– Не. Ён быў вельмі ўсхваляваны. Ён перакананы, што яго абвінавацяць у забойстве.

– Чаму?

– Таму што ён заходзіў на вуліцу Ангулем.

– Калі вы зразумелі, што мы напалі на ягоны след?

– Калі ваш інспектар сустрэўся з гэтай пляткаркаю,

Бляншь. Яна мяне ненавідзіць. Потым выхвалялася ў аддзеле, што нагаварыла дастаткова, каб збіць з мяне, як яна сказала, пыху. Я хацела падбадзёрыць Альбэра. Сказала яму, што не трэба хавацца: гэтым адно навядзеш на сябе падазрэнне.

– Але ён не паслухаўся?

– Не. Ён быў такі напалоханы, што нават слова па тэлефоне сказаць не мог.

– А якія ў вас ёсць доказы, што ён сапраўды не забіў вашага бацьку?

– А навошта яму было яго забіваць?

Гэтым разам яна і праўда была зусім спакойная.

– Мы ж з Альбэрам пры жаданні маглі атрымаць ад яго любыя грошы.

– А калі б бацька адмовіўся?

– Ён не змог бы. Альбэру трэба было адно: сказаць, што ён раскажа ўсё маёй маці. Я ведаю, кім вы мяне лічыце. Але калі б вы пражылі лепшыя гады ў Жувізі, ды яшчэ ў такім доме, як наш…

– Вы бачылі бацьку ў дзень смерці?

– Не.

– Альбэр таксама не?

– Я амаль упэўнена. Мы ў той дзень, як звычайна, разам абедалі і пра бацьку нават не загаварылі.

– Вы ведалі, куды звычайна бацька хаваў свае грошы? Наколькі я зразумеў, вашая маці мела звычку правяраць увечары ягоны кашалёк.

– Яна заўсёды гэта рабіла.

– Чаму?

– Таму што аднойчы, гадоў дзесяць назад, маці знайшла на ягонай насоўцы сляды губной памады. Я добра запомніла гэты выпадак. Бацькі тады яшчэ не надта зважалі на мяне. А яна вусны не фарбуе. Бацька кляўся, што адной жанчыне ў яго на працы стала блага і ён змачыў насоўку шкіпінарам і правёў ёй па вуснах, таму і сляды.

– Напэўна, ён казаў праўду.

– Але маці не паверыла.

– Выходзіць, ваш бацька не мог вярнуцца дамоў маючы ў кішэні грошай больш, чым магло быць, калі ён працаваў у Капланаў?

– Грошы ён хаваў у сваім пакоі на вуліцы Ангулем.

– На версе шафы?

– А вы адкуль гэта ведаеце?

– А вы?

– Аднаго разу, калі я прыйшла да яго папрасіць грошай, ён залез на крэсла і дастаў з шафы жоўты канверт. У ім былі тысячафранкавыя білеты.

– І шмат?

– Вялікі пачак.

– Альбэр пра гэта ведаў?

– Ведаў. Але я ўпэўнена, што не ён забіў бацьку. Ды ён бы нажом і ўдарыць не мог.

– Адкуль такая ўпэўненасць?

– Неяк ён парэзаў сабе сцізорыкам палец, дык ледзь не самлеў, як кроў убачыў.

– Вы, прабачце, жывяце з ім?

Яна пацiснула плячыма.

– Няўжо вы думаеце, што ў наш час...

– Дзе вы сустракаецеся?

– А дзе прыйдзецца. У Парыжы хапае месцаў для гэтага. Вы, можа, скажаце, што паліцыя пра гэта нічога не ведае?

– Ну што ж. Падсумуем гутарку. Па-першае, зусім відавочна, што вы шантажыравалі бацьку. Згодны?

Яна змаўчала.

– Па-другое, колькі за ім ні сачылі, так і не ўведалі, як жа ён зарабляе грошы.

– А мы і не надта стараліся ўведаць.

– Разумею. Вас цікавіў вынік.

Моніка неяк спачувальна ўсміхнулася. Яна, канечне, лічыла Мэгрэ прасцяком.

– Цяпер вы ведаеце ўсё, – сказала яна, збіраючыся ўстаць. – Заўважце, я не разыгрывала з сябе святую. А што вы думаеце пра мяне, дык мне гэта ўсё роўна.

Але нешта ўсё-такі ўтрымлівала яе.

– Вы нічога не раскажаце маці?

– Вам жа ўсё роўна, вы ж вырашылі з'ехаць.

– Па-першае, я ж не заўтра паеду, па-другое, я б не хацела сцэн.

– Разумею.

– Альбэр – непаўналетні, і бацькі могуць...

– Я хацеў бы пагаварыць з ім.

– Калі б гэта залежала ад мяне, то ён прыйшоў бы сюды сёння ж. Але ён дурань. Сядзіць цяпер у якой-небудзь бярлозе і калоціцца.

– Нешта вы не дужа захоплена пра яго гаворыце.

– А я нічым асабліва не захапляюся. Вы папярэдзілі маё начальства, што выклікалі мяне?

– Я патэлефанаваў да вас і сказаў, што трэба выканаць розныя фармальнасці.

– Калі яны мяне чакаюць?

– Я часу не ўдакладняў.

– Мне можна ісці?

– Я вас не затрымліваю.

– Але загадаеце якому-небудзь інспектару, каб ён пайшоў следам за мною?

Мэгрэ ледзь не засмяяўся, аднак сказаў сур'ёзна:

– Магчыма.

– Марная праца.

– Дзякую за папярэджанне.

Але, калі яна выйшла, Мэгрэ сапраўды аддаў Жанв'е на ўсякі выпадак загад прасачыць за ёю.

Неўзабаве Мэгрэ ўспомніў, што забыўся задаць Моніцы адно важнае пытанне: хто, ён ці яна, захоўваў у сябе грошы на параход у Амерыку? Калі Альбэр, дык у яго цяпер ёсць грошы і, адпаведна, больш магчымасцей знікнуць. Калі грошы ў Монікі, тады яму, можа, і паесці няма на што.

Мэгрэ пачакаў яшчэ нейкі час, потым патэлефанаваў Моніцы на працу:

– Я хацеў бы пагаварыць з паннай Монікай Турэ.

– Хвілінку. Яна толькі што вярнулася.

– Алё! – адгукнулася Моніка.

– Не радуйцеся. Гэта не Альбэр. Камісар Мэгрэ. Я забыўся задаць вам адно пытанне. Грошы ў вас ці ў яго?

Яна зразумела адразу.

– У мяне.

– Дзе?

– Тут. Адна шуфляда ў маім стале замыкаецца на ключ.

– У Альбэра ёсць з сабою грошы?

– Наўрад ці багата.

– Дзякую.

Не паспеў камісар пакласці слухаўку, як яму патэлефанаваў Лапуэнт.

– Ты з вуліцы Ангулем? – здзівіўся Мэгрэ.

– Не з дому, а з бістро на рагу.

– Ну што там?

– Уяўляеце, шэф, у пакоі Турэ дужа дбайна прыбралі: падлогу і ўсю мэблю так нацёрлі, што ажно зіхацяць, пыл усюды выцерты.

– А верх шафы?

– Таксама. Я так і чытаў у гаспадыніных вачах: «Што, з'елі?» Яна сказала, што ўчора прыходзіла прыбіральшчыца, а вы не аддалі ніякіх загадаў, так што яна вырашыла падрыхтаваць пакой да засялення новага жыльца.

Гэта быў добры шчаўчок па носе. Трэба было раней пра гэта падумаць.

– А дзе Моэрс?

– Ён яшчэ там. Шукае сляды, але нічога не можа знайсці. Прыбіральшчыца добра папрацавала. Мне вяртацца ў аддзяленне?

– Чакай. Высветлі імя і адрас прыбіральшчыцы і распытай яе, якія і ад каго яна атрымала ўказанні і хто быў у пакоі, калі яна прыбірала.

– Будзе зроблена.

– Моэрс можа вяртацца. А, яшчэ: хто дзяжурыць з нораваў?

– Дзюмансэль.

– Няхай папросіць, каб узмацнілі пост і прасачылі за тымі, хто выходзіць з дому.

– Яны не надта збіраюцца выходзіць. Адна гуляе ўвесь час голая па лесвіцы, а другая ўсё ніяк не намыецца: у ванну – з ванны, у ванну – з ванны... Ну а трэцяй ужо некалькі дзён як няма.

– Ну, зрабі што трэба і вяртайся.

Мэгрэ выйшаў да свайго начальніка, але па дарозе яго перанялі і вярнулі назад: Нэвэ прывёў нейкага чалавека і хоча неадкладна паказаць яго.

Нэвэ стаяў у прыёмнай. Ён быў вельмі ўзбуджаны. Побач з ім сядзеў на крэсле нейкі надзіва цікавы тып: маленькі, кволы, няпэўнага ўзросту, смешны. Мэгрэ адразу ж падумаў, што ён яго некалі бачыў і нават ведаў.

Камісар прапанаваў Нэвэ:

– Можа, ты спачатку мне ў кабінеце што-небудзь растлумачыш?

– Не мае сэнсу. Да таго ж яго і на момант аднаго пакінуць нельга: уцячэ.

Толькі цяпер Мэгрэ заўважыў, што на руках у чалавека кайданкі.

Камісар адчыніў дзверы кабінета і ўпусціў арыштаванага. Той трохі накульгваў. Ад яго несла спіртным. Нэвэ зачыніў кабінет на ключ і толькі тады зняў з чалавека кайданкі.

– Не пазнаяце, начальнік?

Рот у затрыманага расцягваўся ледзь не да вушэй. Гледзячы на яго, так і хацелася засмяяцца.

Сумненняў не было; чалавек гэты не быў яму незнаёмы. І тут мільганула: ды ён жа на клоўна падобны! А нехта казаў яму нядаўна пра чалавека, падобнага на клоўна, якога... Гэта ж пані Машэр бачыла яго з Турэ на лаўцы!

– Сядай.

Чалавек адказаў як заўсёднік паліцэйскіх аддзяленняў:

– Дзякую, начальнік.

## 7. КЛОЎН

Інспектар Нэвэ быў настолькі ўзбуджаны сваім поспехам, што прадстаўляў арыштаванага так, нібыта аб'яўляў нумар у цырку:

– Джэф Шрамэк уласнай персонаю, або Клоўн Фрэд, ці Акрабат, нарадзіўся ў Рыксвіры, у вярхоўі Рэйна, шэсцьдзесят тры гады назад.

– Згадваеце, начальнік?

Нават арыштаваны, ён не пераставаў крыўляцца. У яго быццам патрэба такая была: выклікаць сваім выглядам і гаворкаю смех.

Мэгрэ пазваніў па ўнутраным тэлефоне:

– Прынясіце мне, калі ласка, дасье Джэфа Шрамэка.

Камісар успомніў: гадоў пятнаццаць назад гэты смешны чалавечак прагрымеў на ўсю краіну.

Гэта здарылася на пачатку вясны, у канцы дня. На

Вялікіх бульварах было людна, так што гледачоў тады ў гэтага клоўна-аматара хапіла.

Нехта заўважыў, што ў акне высокага дома насупраць перамяшчалася святло ліхтарыка. Паднялі трывогу, прымчалася паліцыя, людзі, як заўсёды, збіліся ў натоўп, хоць большасць, вядома, нават і не пачула яшчэ, што ж тут такое здарылася. А чакала іх між тым неверагоднае двухгадзіннае прадстаўленне з камічнымі і драматычнымі нумарамі ўперамешку. Сабралася столькі людзей, што паліцыя вымушана была паставіць загароды.

Калі злодзей зразумеў, што яго ловяць, ён адчыніў акно – і папоўз уверх па фасадзе, трымаючыся за вадасцёкавую трубу! Яму ўдалося дабрацца да карніза наступнага паверха. Але там у акне з'явіўся паліцэйскі, і злодзей папоўз вышэй. Жанчыны ўнізе крычалі ад жаху.

Гэта была адна з сама фантастычных пагонь у гісторыі французскай паліцыі. Злодзей пацяшаў публіку больш за любога цыркача. Паліцэйскія бегалі ўсярэдзіне будынка і, падымаючыся з паверха на паверх, адчынялі вокны, а ўцякач узбіраўся ўсё вышэй і вышэй.

Нарэшце яму ўдалося дасягнуць даху, такога стромкага, што паліцэйскія адмовіліся штурмаваць яго. А ён, не ведаючы ніякага страху, пераскокваў з даху на дах, пакуль не дабраўся такім чынам да вуліцы Дзідро, дзе і знік раптам у акенцы на гары.

Хвілін праз пятнаццаць яго ўбачылі на іншым даху. «Вунь ён!» – крычалі людзі ўнізе, паказваючы рукою.

Ніхто не ведаў, ці ёсць у яго зброя і што ён зрабіў, але па натоўпе пайшла пагалоска, што ён забіў некалькі чалавек.

А ўжо калі прыехалі пажарныя, расставілі свае высачэзныя лесвіцы і накіравалі на дахі святло фар, натоўп завішчаў.

Нарэшце злодзея ўдалося схапіць на даху дома недзе на вуліцы Гранж-Батэльер. Потым газеты пісалі, што ў гэты момант у яго нават дыханне было роўнае! Ён смяяўся з няўклюдных паліцэйскіх. І калі яго ўпіхвалі ў «варанок», вывернуўся, як вуж, і знік у натоўпе.

Газеты яшчэ тыдзень смакавалі ўсялякія акалічнасці пагоні за «Акрабатам» – гэтак празвалі Шрамэка. Нарэшце яго ўзялі, але зусім выпадкова, на скачках.

Яшчэ падлеткам Шрамэк пачаў выступаць у цырку, які ездзіў па Эльзасе і Германіі. Потым ён асеў у Парыжы і выступаў на кірмашах, за вылікам таго часу, які бавіў у турмах за крадзяжы.

– Вырашыў на старасці гадоў прыладзіцца ў маім квартале, – сказаў Нэвэ.

– Я ўжо даўно ніякімі глупствамі не займаюся, – запэўніў камісара Шрамэк.

Нэвэ расказаў, як і чаму затрымаў ён Шрамэка.

– Зайшоў я ў бар на вуліцы Бландэль, гэта за два крокі ад нашага бульвара. Там збіраюцца аматары конных скачак. Называецца ён «У Фернана». Гэтага Фернана я добра ведаю, ён быў жакей. Я паказаў яму фотакартку Турэ, і ён яго пазнаў. Сказаў, што Турэ прыходзіў да яго разы са тры з адным з ягоных кліентаў, Клоўнам Фрэдам. Я здзівіўся, бо думаў, што Акрабат даўно ўжо памёр ці сядзіць у турме, а ён, выяўляецца, прыходзіць да гэтага Фернана кожны вечар выпіць кілішак і паставіць на якога-небудзь каня. Але вось ужо некалькі дзён не заходзіў. З панядзелка. Ці быў ён тады адзін, ці з Турэ, Фернан не памятае. Тут я і вырашыў узяць яго за шкірку. Фернан назваў мне імя жанчыны, з якою Фрэд жыве ўжо некалькі гадоў. Былая прадаўшчыца зеляніны Франсуаза Біду. Але толькі сёння я атрымаў яе адрас: набярэжная Вальмі, насупраць канала. Галубок схаваўся ў спальні – ён не пакідаў яе з самага панядзелка. Я адразу ж надзеў на яго кайданкі і прывёў сюды.

– Я ўжо не такі спрытны, як раней, – жартаўліва пракаменціраваў Шрамэк.

Мэгрэ ўзіраўся ў затрыманага.

З гадамі Шрамэк, відаць, пачаў далучацца да тае пароды людзей, якія могуць дзень пры дні сядзець на лаўках, нічога не робячы. І вось цяпер нібыта пашарэў, што тыя пліты ходнікаў, якія так часта і падоўгу свідраваў сваім абыякавым позіркам нікому не патрэбнага чалавека.

Не спяшаючыся, папыхваючы люлькаю, Мэгрэ пачаў праглядваць пульхную жоўтую папку – гісторыю ўзаемадачыненняў Шрамэка і правасуддзя.

Настаў сама зручны час для допытаў: ад дванаццаці да дзвюх. Усе пайшлі на абед, ніхто не бегае па калідорах, сціхлі тэлефоны.

– Схадзі паабедай, – сказаў камісар інспектару. – Ты, напэўна, галодны, а можаш мне яшчэ сёння спатрэбіцца.

Нэвэ выйшаў без асаблівага жадання: ведама ж, яму б хацелася пабыць на допыце.

Затрыманы праводзіў яго ўхмылкаю.

Мэгрэ запаліў новую люльку, паклаў руку на дасье і, гледзячы Шрамэку ў вочы, ціха сказаў:

– А зараз пагаворым!

Аднак перш чым пачаць допыт, Мэгрэ замкнуў дзверы на ключ, паглядзеў на акно.

– Не турбуйцеся, – зноў ухмыльнуўся Шрамэк. – Я ўжо па карнізах не хадок.

– Думаю, ты здагадаўся, чаму цябе забралі?

– А што тут здагадвацца? Заўсёды забіраюць адных і тых самых. Даўнавата я ў вас не быў. Трэба асвяжыць успаміны.

– Твайго дружка Луі забілі. Толькі не прыкідвайся, што нічога не ведаеш. Ты выдатна разумееш, што мы маем усе падставы абвінаваціць цябе.

– Будзе яшчэ адна судовая памылка.

Мэгрэ зняў слухаўку.

– Злучыце мяне з барам «У Фернана» на вуліцы Бландэль... Пан Фернан?.. Гаворыць камісар Мэгрэ. Я хацеў бы навесці даведкі адносна вашага кліента Джэфа Шрамэка... Так, Акрабата... Рабіў буйныя стаўкі?.. Што?.. Разумею... А апошнім часам?.. У суботу?.. Дзякую... Не. Пакуль дастаткова.

Мэгрэ выглядаў задаволеным, а вось Шрамэк устрывожыўся.

– Хочаш, паўтару табе, што ён сказаў?

– Мала што кажуць!

– Усё сваё жыццё ты гуляеш на скачках і прайграеш.

– Калі б урад забараніў скачкі, гэтага б не здаралася.

– Вось ужо шмат гадоў, як ты купляеш у Фернана квіткі на стаўкі.

– Фернан – афіцыйны букмекер.

– Але, каб рабіць стаўкі, трэба мець грошы. І вось што цяпер высвятляецца: яшчэ два з паловаю гады назад твае стаўкі былі маленькія, ты прайграваў, і Фернан паіў цябе ў крэдыт.

– Ён не павінен быў гэтага рабіць. Ён мяне

заахвочваў, і я прыходзіў зноў.

– Але вось ужо два з паловаю гады ты ставіш буйныя сумы. Зноў прайграеш, а праз некалькі дзён зноў на кані!

– І што гэта даказвае?

– У мінулую суботу ты зноў паставіў буйную суму.

– А што вы скажаце пра багацеяў, якія ставяць мільён на аднаго каня?

– Адкуль у цябе грошы?

– У мяне жонка працуе.

– Кім?

– Прыбіральшчыцай.

– Смяешся з мяне?

– Пан Мэгрэ, я б сабе такога ніколі ў жыцці не дазволіў!

– Хочаш пацягнуць час?

– Самі разумееце, мне спяшаць няма куды.

– А я табе ўсё-такі скажу: дрэнныя твае справы. Некалькі чалавек бачылі цябе з панам Луі, справай якога мы цяпер займаемся.

– Добры быў чалавек.

– Можа быць. Але яшчэ два з паловаю гады назад, два з паловаю, Джэф, ён не меў працы і клаў зубы на паліцу.

– Ведаю я гэтую паліцу! – уздыхнуў Джэф. – Сам на яе зубы клаў – не раз.

– Ты, напэўна, жыў за кошт Франсуазы, а Турэ пазычаў у сяброў.

– Яшчэ адзін доказ таго, што свет не без добрых людзей.

Мэгрэ не надта зважаў на блазенства Шрамэка, а расстаўляў спакваля свае непрыкметныя на пачатку пасткі.

– І вось аднаго дня вы раптам разбагацелі. Расследаванне дакладна ўстановіць гэтую дату.

– У мяне на даты дрэнная памяць.

– І вось з таго часу ты то робіш буйныя стаўкі, то п'еш у крэдыт. Вы, зразумее і дурань, добра засвоілі спосаб здабычы грошай, але не пастаянны. Мы зоймемся гэтым пытаннем пазней.

– Шкада. Я б хацеў адразу ж уведаць, што гэта за спосаб.

– Хутка ты перастанеш смяяцца. Паўтараю, у суботу ў цябе былі вялікія грошы, але ты спусціў іх за некалькі гадзін. А ў панядзелак у тупіку на бульвары Сэн-Мартэн забілі твайго падзельніка.

– Для мяне гэта вялікая страта.

– Ты ведаеш, што такое суд прысяжных?

– Да яго я яшчэ не даходзіў.

– Дык вось, прысяжныя – людзі, з якімі нявара жартаваць, асабліва такому чалавеку, як ты, з такой судовай анкетаю. Ты маеш усе шанцы, што яны прызнаюць цябе адзіным чалавекам, які ведаў, чым займаўся пан Луі, дзе хадзіў, і давядуць, што забіць яго было ў тваіх інтарэсах.

– Значыцца, яны будуць ідыётамі.

– Вось і ўсё, што я хацеў табе сказаць. Цяпер палова першай. Пакуль што мы тут удвух. У гадзіну дня вернецца суддзя Камельё, і я яго сюды запрашу.

– Гэта такі нізенькі, чарнявы, з вусамі шчоткаю?

– Ён самы.

– Сустракаліся некалі. Злы дзядзька. Напэўна, пастарэў... Скажыце, калі ласка, а маладзейшага вы не знойдзеце?

– Ты маеш амаль гадзіну.

Шрамэк уздыхнуў.

– Цыгарэты ў вас не будзе?

Мэгрэ адчыніў шуфляду і працягнуў яму пачак і запалкі.

– А выпіць у вас што-небудзь ёсць?

– Гаварыць будзеш?

– Яшчэ не ведаю. Я ўсё думаю, ці ёсць у мяне што-небудзь такое, каб вам распавесці.

Мэгрэ падышоў да дзвярэй і крыкнуў:

– Люка! Будзь ласкавы, схадзі на набярэжную Вальмі і прывядзі сюды пані Франсуазу Біду. Яна жыве...

– Не трэба, камісар! – адразу ж закруціўся Акрабат на крэсле.

– Гаварыць будзеш?

– Мне б хоць каліва глынуць...

– Чакай, Люка, мы тут яшчэ сёе-тое высветлім... Дык ты, Шрамэк, жонкі баішся?

– Вы ж абяцалі мне глыточак?

Мэгрэ выняў пляшку каньяку, наліў крыху ў шклянку.

– Дык я адзін буду піць?

– Расказвай.

– Задавайце пытанні. Заўважце, што я, як кажуць адвакаты, не спрабую парушаць следства.

– Дзе ты пазнаёміўся з Турэ?

– На лаўцы бульвара Бон-Нувэль.

– Як?

– Ну, як зазвычай знаёмяцца на лаўках. Пагаманілі пра надвор'е...

– Гэта было гады два з паловаю назад?

– Прыкладна. Я гэты дзень у календары не адзначаў. А потым зноў сустрэліся на гэтай самай лаўцы. Ён, відаць, быў рады, што ёсць з кім пагаварыць.

– Ён сказаў, што застаўся без працы?

– З часам ён мне ўсё распавёў: і як працаваў дваццаць пяць гадоў на адным месцы, і як закрылі раптам фірму, і як баяўся прызнацца жонцы, што застаўся без працы, як падманваў яе, што працуе ў той самай фірме. Жонка ў яго, дарэчы, паганая. Здаецца, ён мне першаму ўсё гэта і расказаў. Яму нават лягчэй стала.

– Ён ведаў, хто ты такі?

– Я сказаў, што працаваў раней у цырку.

– А потым?

– А што вас, уласна кажучы, цікавіць?

– Усё.

– Перш чым гаварыць далей, зазірніце, калі ласка, яшчэ раз у мае справы, падлічыце мае ходкі. Я б хацеў прыкінуць, ці не вышлюць мяне ў Гвіяну*. Нешта не цягне туды...

** Гвіяна Французская – заморскі дэпартамент Францыі. Месца катаргі.*

Мэгрэ паглядзеў.

– Калі ты не забіваў, то можаш сесці яшчэ два разы.

– Я так і думаў. Толькі не быў упэўнены, што нашы разлікі супадуць.

– Крадзёж?

– Трохі больш складаней.

– Хто прыдумаў?

– Ён, вядома. Я не такі разумны. А яшчэ крыху

пліснеце?

– Пасля.

– О, мне доўга расказваць, прыйдзецца спяшаць.

Мэгрэ наліў глыток.

– Па сутнасці, усё пачалося з лаўкі...

– Што ты маеш на ўвазе?

– А тое, што, бавячы ўвесь час на адной і той самай лаўцы, пан Луі пачаў назіраць, што ж наўкол адбываецца. Вы ведаеце краму дажджавікоў на бульвары?

– Ведаю.

– Дык вось, лаўка, на якой пан Луі зазвычай сядзеў, была якраз насупраць гэтай крамы. Так што ён міжволі ўведаў усе іхнія парадкі, звычкі прадаўцоў... Тут яму і прыйшла ў галаву думка. Калі днямі няма чаго рабіць, дык усялякія планы самі па сабе з'яўляюцца, няхай сабе і невыканальныя. Ну, ён мне аднойчы і распавёў, каб забавіць час хіба што: народу ў краме заўсёды поўна, дажджавікоў гэтых самых – процьма, усюды навешаны-навалены, і на першым, і на другіх паверхах, а злева ад крамы, як амаль заўсёды ў гэтым квартале, – тупічок, праходнік. Намаляваць?

– Не зараз. Расказвай.

– Дзіўная, кажа мне, справа: як гэта ніхто яшчэ не абакраў гэтую краму? Гэта ж так проста!

– Уяўляю, як ты тады напяўся!

– Ведама ж, зацікавіўся. У абед, кажа ён мне, выходзяць апошнія пакупнікі, і прадаўцы ідуць есці. Гаспадар таксама. Гэты адыходзіць апошні і зачыняе дзверы. І калі хто-небудзь з наведнікаў застанецца ўсярэдзіне?.. Думаеце, немагчыма?.. Я і сам так думаў. Але ж ён ужо добра ведаў, што, перад тым як пайсці на абед, прадаўцы ніколі нічога не правяраюць. А дажджавікоў – процьма. Кеміце?.. Схавацца ў іх – вось і ўся работа.

– Гаспадар цябе зачыняе, ты бярэш касу, а потым ламаеш дзверы?

– Навошта ламаць, начальнік? Тут і пачынаецца фокус. Нават калі мяне і накрыюць у краме, дык не будзе ніякіх доказаў, што я нешта ўзяў. Я ўзяў касу, так?.. А потым пашкандыбаў у прыбіральню. Там пад пралеваю – невялікае акенца – у тупічок. Праз яго не кожны шчанюк пралезе, але ўжо пакет з грашыма прасунуць можна. Тут

Луі нібыта выпадкова заходзіць у двор, падбірае пакет і робіць ногі. А я зноў хаваюся сярод дажджавікоў і спакойна чакаю, калі ўсе прысунуцца назад. Толькі люду пабольшае – я спакойна выходжу, як і ўвайшоў.

– Гршы вы падзялілі?

– Па-брацку. Цяжэй за ўсё было ўгаварыць яго. Ён казаў, што прыдумаў гэта ўсё дзеля забавы. Спярша, як я яму прапанаваў, ён аж узвіўся. Што яго змусіла згадзіцца, дык гэта думка пра тое, што рана ці позна давядзецца здавацца жонцы. Да таго ж у задумы былі шматлікія перавагі. Вось, да прыкладу, павяжуць мяне. Але ж няма ні ўзлому, ні пералязання праз сцяну – справа-чысцяк. Калі я не памыляюся, дык дадуць на два гады меней. Га?..

– Мы яшчэ Кодэкс паглядзім.

– Ну, вось я вам усё і распавёў. Добра мы з Луі папрацавалі, і я ні аб чым не шкадую. Дажджавікі дазволілі нам працягнуць месяцы тры. Як па праўдзе, дык я сваю долю хутка спаліў – на конях. Але Луі мяне падтрымліваў. Ну, а калі грошы скончыліся, знайшлі другую лаўку.

– І падрыхтавалі новы варыянт?

– Спосаб знайшлі, і мяняць яго не было ніякіх падстаў. Цяпер, калі вы ведаеце яго, можаце пакорпацца ў архівах і знайсці назвы ўсіх крамаў, дзе я працаваў. Другі быў прадавец электратавараў на тым самым бульвары, трохі далей. Усюды атрымлівалася адно і тое ж, бо ў гэтым квартале акенцы ўсіх прыбіральняў выходзяць або ў тупічок, або ва ўнутраны двор. Аднаго разу мяне накрыла ў шафе прадаўшчыца. Я прыкінуўся п'яным упокат. Яна паклікала гаспадара, і мяне выштурхалі, толькі напалохалі паліцыяй. Дык скажыце мне зараз, навошта мне было забіваць Луі? Мы ж кенты. Я нават з Франсуазай яго пазнаёміў, каб супакоіць яе, бо яна ўсё распытвала, дзе я шляюся. Луі прынёс ёй скрынку шакаладу, і яна ўпэўнілася, што гэта выхаваны чалавек.

– Вы пракруцілі яшчэ адзін варыянцік на тым тыдні?

– Паглядзіце ў газетах: крама адзежы на Манмартры.

– Думаю, што Луі забілі ў тупічку, калі ён правяраў акенца ювелірнай крамы?

– Мажліва. Мясціны Луі заўсёды сам аглядаў. Ён усё запамінаў лепш за мяне. А потым, людзі заўсёды косяцца

на такіх, як я. І мне даводзілася выфранчвацца, але на мяне ўсё роўна глядзелі з падазрэннем.

– Дык хто ж яго забіў?

– Вы ў мяне пытаецеся?

– Каму было трэба яго забіць?

– Не ведаю. Можа, жонцы?

– А ёй навошта?

– Злая яна… Можа, уведала, што ён ужо два гады як падманвае яе і мае каханку…

– Ты ведаеш яго каханку?

– Ён нас не знаёміў, але гаварыў пра яе, і я яе бачыў здалёк. Ён яе кахаў… Яму хацелася цяпла. Нам жа ўсім яго хочацца?.. Вось у мяне – Франсуаза. І ў вас таксама хто-небудзь ёсць. Яны ладзілі, хадзілі разам у кіно, сустракаліся ў кавярне.

– Яна пра ўсё ведала?

– Не, канечне.

– А хто ведаў?

– Перш за ўсё я.

– Ну вядома!

– І, можа, дачка. Вельмі ўжо ён з-за яе перажываў, усё баяўся, што яна старэе і робіцца падобная да маці. Яна ўсё грошы з яго выцягвала.

– Ты бываў у яго на вуліцы Ангулем?

– Ніколі.

– А ведаеш гэты дом?

– Ён мне яго паказваў.

– Дык чаму ж ты да яго хоць раз не зайшоў?

– А навошта яму псаваць замалёўку? Гаспадыня лічыла яго дужа прыстойным панам. Калі б яна мяне ўбачыла…

– А калі я табе скажу, што ў ягоным пакоі знайшлі адбіткі тваіх пальцаў?

– Туфта.

Шрамэк быў зусім спакойны, хіба што раз-пораз пазіраў на пляшку.

– Хто яшчэ мог ведаць пра вашыя справы?

– Паслухайце, пане камісар, я не дужа важны чалавек, але стукачом ніколі не быў.

– Хочаш, каб у забойстве абвінавацілі цябе?

– Гэта ўжо занадта.

– Дык хто яшчэ ведаў?

– Дружок дачкі. А гэта такі малойчык, за якога я не прысягну, што ён не вінаваты: днямі высочваў Луі, двойчы патрабаваў грошай. Можа, гэта дачка яго падбухторвала. А Луі ажно калаціўся, гэтак баяўся, што смаркач раскажа ўсё жонцы ці ліст ананімны напіша.

– А ты яго ведаеш?

– Не. Ведаю толькі, што зусім маладзён і зранку працуе ў нейкай кнігарні. Апошнім часам Луі ўсё роўна як чакаў бяды. Казаў, што далей так працягвацца не можа, што жонка пра ўсё даведаецца. Але ўсё роўна я, як даведаўся, што яго забілі, дык сам ледзь не грымнуўся.

– Колькі ў яго магло быць грошай з сабою?

– Не ведаю, колькі было з сабою, але за два дні да таго мы добра хапнулі.

– Ён меў звычку насіць грошы з сабою?

– У кішэні, бывала, насіў. Але трымаў іх у сваім пакоі. Сама смешнае ў ім было тое, што калі яму трэба было ўвечары вяртацца дамоў, дык ён ішоў на вуліцу Ангулем і мяняў чаравікі і гальштук. Аднаго разу забыўся і толькі на вакзале ўцяміў, дык прыйшлося ляцець назад. А дома сказаў, што спазніўся, бо на працы затрымаўся.

– Чаму ты з аўторка не выходзіў з дому?

– А што б вы зрабілі на маім месцы? Я як прачытаў у газеце пра гэта, у аўторак уранку, дык адразу прыкінуў, колькі людзей бачылі мяне з Луі. А калі хто-небудзь паведаміў бы вам? Такіх, як я, заўсёды падазраюць.

– А ты не думаў з'ехаць з Парыжа?

– Не. Думаў, хопіць таго, што зашыўся ў сваю нару, можа, забудуцца на мяне. А сёння ўранку як пачуў голас інспектара, дык адразу зразумеў, што накрылі.

– А Франсуаза ведае, у чым справа?

– Не.

– Дык адкуль, яна думае, грошы ў цябе бяруцца?

– Па-першае, яна іх толькі частку бачыць, гэта ўжо што пасля скачак застанецца. А па-другое, яна думае, што я па-ранейшаму абчышчаю кішэні ў метро.

– Дык ты і гэтым займаўся?

– Вы ж не будзеце, камісар, настойваць, каб я вам адказваў і на гэтае пытанне? Вам не хочацца піць?

Мэгрэ наліў яму апошні глыток.

– Усё выклаў? Ты ўпэўнены?

– Як у тым, што вас бачу.

Мэгрэ адчыніў дзверы і паклікаў Люка.

– Адвядзі яго ў камеру. І надзень на ўсякі выпадак кайданкі.

Але калі Акрабат павярнуў да яго свой нібыта гумовы, з дзіўнай, да вушэй, усмешкаю твар, камісар пашкадаваў яго:

– Няхай там будуць з ім ласкавейшыя.

– Дзякую, пан камісар. Толькі не кажыце Франсуазе, што я на скачках прайграваў столькі грошай, а то яна мне перадач не будзе насіць.

Мэгрэ надзеў паліто, узяў капялюш – вырашыў пайсці перакусіць. Ён спускаўся па лесвіцы, як раптам пачуў унізе нейкую валтузню.

Нейкі маладзён з раскудлачанымі валасамі вырываўся з рук бамбізы-сяржанта. У паліцэйскага была разадрана шчака.

– Супакоішся ты ці не, вош малая? – цыкнуў на маладзёна сяржант. – А то я табе зараз увалю!

Мэгрэ перагнуўся цераз парэнчы і ўбачыў, што сяржант прывёў Альбэра Жарыса.

– Адпусціце мяне! – крычаў Жарыс. – Я ж вам кажу, што пайду сам!

Сустрэўшыся з Мэгрэ, паліцэйскі далажыў:

– Я яго толькі што затрымаў на мосце Сэн-Мішэль. Я яго адразу ж прызнаў. Хацеў уцячы.

– Няпраўда! Ён маніць!

Жарыс задыхаўся, твар у яго пачырванеў, вочы блішчалі.

Сяржант трымаў яго за каўнер паліто.

– Скажыце, каб ён мяне адпусціў!

Ён хацеў ударыць паліцэйскага нагою, але прамахнуўся.

– Я ж сказаў, што хачу бачыць камісара Мэгрэ. Я сюды сам ішоў, сам!

Адзежа на ім была падраная, штаны запэцканыя. Пад вачыма – сінякі.

– Я камісар Мэгрэ.

– Тады загадайце, каб ён адпусціў мяне.

– Можаш яго адпусціць, прыяцель.

– Як хочаце, але…

– Ён біў мяне, – задыхаўся Жарыс. – Усё роўна як я нейкі… нейкі…

Раз'юшаны, ён і слова не мог знайсці.

Мэгрэ міжволі ўсміхнууся, зірнуўшы на разадраную шчаку сяржанта.

– А мне здалося, наадварот, што гэта ты яго…

У вачах у юнака бліснуў злы агеньчык.

– Так яму і трэба!

## 8. МОНІЧЫНА ТАЙНА

– Ну, сядай, прахіндзей.

– Я не прахіндзей! – абурыўся Жарыс. Голас у яго зрываўся. – Не думаў я, што камісар Мэгрэ абражае людзей, не выслухаўшы іх.

– Ты еў што-небудзь сёння?

– Я не галодны.

Гэта адказвала ў ім упартасць маладзёна.

Мэгрэ зняў слухаўку.

– Алё! Піўная «Дэльфін»?.. Дайце мне пана Жазэфа. Алё?.. Пан Жазэф?.. Мэгрэ. Прынясі мне, калі ласка, бутэрбродаў. Шэсць. З вяндлінаю… Для мяне. Чакай…

– З вяндлінаю ці з сырам?

– Мне ўсё роўна. З вяндлінаю.

– Піва ці віна?

– Вады, калі можна. Мне вельмі хочацца піць.

– Жазэф, шэсць бутэрбродаў з вяндлінаю і чатыры піва… Чакай… Прынясі яшчэ два вялікія кубкі кавы. І хутчэй, добра?

Паклаўшы слухаўку, Мэгрэ пачаў набіраць другі нумар, прыглядаючыся да Жарыса.

Юнак быў худы, бледны, нервовы. Было відаць, што каву ён піў нашмат часцей, чым еў мяса. Але як на жаночы густ, дык быў прывабны.

Жарыс таксама разглядваў Мэгрэ – спадылба.

– Алё! Аддзел вышуку?.. Аддайце загад не шукаць болей Альбэра Жарыса.

Мэгрэ моўчкі пачаў перакладваць свае люлькі на стале. Пастукалі ў дзверы.

– Уваходзьце!

Вярнуўся Нэвэ.

– Выбачайце, я хацеў бы даведацца…

– Можаш ісці. Дзякую.

Мэгрэ пачаў хадзіць па пакоі. Ён чакаў афіцыянта. Каб прабавіць неяк час, патэлефанаваў яшчэ раз, гэтым разам жонцы:

– Я палуднаваць не прыйду.

– Я так і думала. Ты ведаеш, які ўжо час?

– Не.

Жонка адно засмяялася: абед даўно мінуў.

– Я прыйшоў да вас, каб сказаць… – пачаў быў Жарыс, але Мэгрэ адразу ж перапыніў яго:

– Чакай.

Сёння гэта быў ужо трэці допыт. Трэба было сабрацца з думкамі.

Страшэнна хацелася піць.

Камісар міжволі паглядзеў туды ж, куды глядзеў цяпер Жарыс, і пачырванеў, як школьнік: позірк ягоны спыніўся на пляшцы з каньяком, якім ён, так бы мовіць, частаваў Шрамэка. Ва ўсёй гэтай мітусні ён забыўся прыбраць каньяк са стала. Маўклівы папрок хлопца непрыемна закрануў Мэгрэ: гэта ж трэба было такой недарэчнай прамашкаю пагоршыць у вачах затрыманага ўяўленне аб камісары паліцыі!.. Ён хацеў быў усё растлумачыць, але змаўчаў – проста ўстаў і паставіў каньяк назад у шафу.

Зноў пастукалі ў дзверы. Гэта быў афіцыянт.

– Заходзь, Жазэф. Пастаў паднос сюды.

Калі афіцыянт выйшаў, Мэгрэ прапанаваў Жарысу:

– Перакусім.

Жарыс еў з вялікім апетытам, хоць і казаў зусім нядаўна, што зусім не галодны. Але па-ранейшаму паглядваў спадылба на камісара. Праўда, пасля другой шклянкі піва ён трохі пацяплеў.

– Ну як, лепей?

– Дзякую. Але чаму вы назвалі мяне прахіндзеем?

– Да гэтага мы яшчэ вернемся.

– Гэта праўда, што я сюды сам ішоў.

– А чаму ты вырашыў гэта зрабіць?

– Мне абрыдла хавацца.

– А чаму ты хаваўся?

– Каб не арыштавалі.

– А за што цябе арыштоўваць?

– Самі ведаеце.

– Я не ведаю.

– Таму, што я сябра Монікі.

– Ты быў упэўнены, што мы гэта ведаем?

– Пра гэта вельмі проста даведацца.

– І мы б цябе арыштавалі толькі за тое, што ты яе сябар?

– Вы хочаце як мага болей выцягнуць з мяне. Думаеце, што я пачну маніць, блытацца і вы мяне на чым-небудзь зловіце.

– Ты, я гляджу, дэтэктываў начытаўся…

– Я праглядаю газеты. І ведаю, як вы дамагаецеся прызнання.

Мэгрэ сам сабе вылаяўся: далося ім усім гэтае непаразуменне з поўхаю, якую ён заляпіў Рэне Лекэру!.. Між тым сёння ўранку ён атрымаў ад асуджанага на смерць Лекэра ліст з турмы. Прыгнечаны, забойца прасіў камісара наведаць яго. Можна было б паказаць Жарысу гэты ліст і ўсё расказаць, аднак Мэгрэ зноў не стаў нічога тлумачыць затрыманаму і прадоўжыў допыт. Калі ўжо гэты маладзён дапячэ яго з той поўхаю, то ён яму Лекэраў ліст пакажа.

– Дык чаму ж прыйшоў сюды?

– Каб заявіць, што я не забойца.

Мэгрэ распаліў люльку, дапіў паціху піва. З-за дажджу на вуліцы пацямнела. Ён запаліў лямпу.

– Ты разумееш, што значыць твой уласны прыход да нас?

– Што вы хочаце сказаць?

– Ты вырашыў, што мы збіраемся цябе арыштаваць. Значыцца, у нас ёсць на тое падставы. Якія?

– Вы ж былі на вуліцы Ангулем?

– Адкуль ты ведаеш?

– Гаспадыня ж, напэўна, сказала, што я прыходзіў да яго.

– І што, за гэта цябе трэба арыштоўваць?

– Вы дапытвалі Моніку.

– І ты баішся, што яна прагаварылася?

– Я б здзівіўся, калі б яна ў вас не загаварыла.

– А чаму ты пачаў з таго, што схаваўся ў сябра пад ложкам?

– Вы і гэта ведаеце.

– Адказвай.

– Я не падумаў. Я баяўся. Баяўся, што мяне будуць біць і я прызнаюся ў тым, чаго не рабіў.

– Меней бы ты, хлопча, баяўся... Чаму ж ты тады ўсё-ткі, раз баяўся, вылез з-пад ложка?

– Там нельга было болей заставацца. Сябрава цётка ўвесь час па кватэры хадзіла. Дзверы адчыненыя, у хаце скразняк. Я прастыў, а тут нават чыхнуць страшна. Ні ўстаць, ні паварушыцца...

– І ўсё?

– Есці хацелася.

– І што ж ты стаў рабіць, як выбраўся з кватэры?

– Бадзяўся па вуліцах. Уначы спаў на рынку на мяшках з гароднінай гадзіну-другую. Двойчы падыходзіў да моста Сэн-Мішэль і глядзеў на ваш будынак. Убачыў, як Моніка выходзіла ад вас. Я пайшоў на вуліцу Ангулем, там стаяў чалавек, па ўсім было відаць, назіраў за домам. Ваш, напэўна.

– А чаму мы маглі меркаваць, што ты мог забіць Турэ?

– А вы што, не ведаеце, што я ў яго пазычыў грошы?

– Пазычыў?

– Ну, папрасіў, калі вам так болей падабаецца.

– Папрасіў?

– Што вы хочаце сказаць?

– Ёсць розныя спосабы прасіць. Між іншым, ёсць і такі, калі чалавек, якога просяць, пастаўлены ў такія ўмовы, што не можа адмовіць. А называецца гэта – шантаж.

Камісар замаўчаў і ўгледзеўся Жарысу ў самыя вочы.

– Адказвай.

– Я нічога б не сказаў пані Турэ.

– Але ж пана Турэ ты гэтым прыпалохаў?

– Ён і так бы даў грошы.

– Але даў таму, што баяўся тваёй пагрозы.

– Не ведаю. Вы мяне блытаеце вашымі пытаннямі... Паміраю, хачу спаць...

– Выпі кавы.

Жарыс выпіў і разгублена ўтаропіўся ў Мэгрэ.

– Колькі разоў ты быў у пана Турэ?

– Толькі два разы.

– Моніка пра гэта ведала?

– А што яна вам сказала?

– Цяпер не мае значэння, што што яна сказала. Важна, скажаш ты.

– Яна ведала.

– Што ты яму сказаў?

– Каму?

– Пану Турэ! – не стрымаў свайго раздражнення Мэгрэ.

– Што нам патрэбны грошы.

– Навошта?

– Каб паехаць у Амерыку.

– І як ён адрэагаваў?

– Сказаў урэшце, што гэта найлепшае выйсце.

Допыт нешта не ладзіўся. Жарыс, мабыць, лічыў, што Мэгрэ ведае болей, чым ведаў на самай справе. Трэба было павесці допыт больш асцярожна.

– Ты думаў жаніцца з Монікай?

– Думаў. Але пан Турэ разумеў, што гэта нерэальна. Я непаўналетні. І нават калі б мае бацькі згадзіліся, дык пані Турэ адмовіла б: я ж усё сваё нашу з сабою. Пан Турэ мне сам параіў нават не спрабаваць знаёміцца з ёю.

– А ты яму прызнаўся, што ты з Монікай ужо кахаўся?

Жарыс пачырванеў.

– Я сказаў яму толькі, што яна цяжарная.

Дык вось у чым сакрэт! Мэгрэ выгляду не падаў, але здзівіўся: як жа ён сам не падумаў пра такую паваротку?

– Колькі месяцаў?

– Трохі болей як два.

– Вы былі ў доктара?

– Яна адна хадзіла.

Мэгрэ адкінуўся ў крэсле, набіў тытунём новую люльку.

– Што ж ты збіраўся рабіць у Амерыцы?

– Што прыйдзецца. Я працы не баюся. Мог бы стаць каўбоем.

– Каўбоем? – усміхнуўся сам сабе Мэгрэ: ён згадаў

тых асілкаў, якіх бачыў на ранча Арызоны і Тэхаса.

– Я мог бы працаваць на залатых капальнях. Словам, як-небудзь я б ужо выкруціўся.

– І ажаніўся б з Монікай?

– Яна і так мая жонка. Хіба што мы не распісаныя…

– Як сябе паводзіў пан Турэ, калі даведаўся, што Моніка цяжарная?

– Не паверыў… Нават заплакаў… Але я пакляўся, што намеры ў мяне…

– …самыя добрыя. І што ён тады сказаў?

– Абяцаў дапамагчы. Грошай у яго пры сабе не было. Ён даў мне крыху.

– Дзе яны?

– У Монікі. Яна хавае іх у сваім стале на працы.

– А астатнія?

– Астатнія ён абяцаў даць у аўторак. Ён збіраўся атрымаць вялікія грошы.

– Ад каго?

– Не ведаю.

– Ён не сказаў, адкуль яны раптам возьмуцца?

– А я і не пытаўся.

– Чаму?

– Ён бы ўсё роўна не адкрыўся. Ён нідзе не працуе. Я так і не змог зразумець, як ён зарабляе. Мабыць, яны ўдвух гэтымі справамі займаліся.

– З кампаньёнам, значыцца? Ты яго бачыў?

– Адзін раз, на бульвары.

– Худы, падобны на клоўна?

– Ну.

– Дык вось, яму я і наліў каньяку, які ты бачыў. Гэты чалавек сядзеў тут незадоўга да цябе.

– Тады вы ўсё ведаеце.

– Я хачу ведаць і тое, што ведаеш ты.

– А я нічога і не ведаю.

– Дык чым, ты думаеш, яны б маглі займацца?

– Можа, выціскаюць з каго-небудзь грошы.

– Дык ты і сам вырашыў выціснуць іх з яго?

– Грошы патрэбныя нам на дзіця.

Мэгрэ зняў слухаўку:

– Люка? Зайдзі да мяне на хвілінку.

Калі Люка прыйшоў, Мэгрэ сказаў:

– Пазнаёмся: Альбэр Жарыс. Ведаеш, ён і Моніка Турэ чакаюць дзіця. Ты зараз заедзеш па яе і зводзіш да доктара. Да якога яна сама захоча. Калі не ведае, да якога, звадзі да доктара прэфектуры. Я б хацеў ведаць, колькі месяцаў яна цяжарная.

– А калі яна адмовіцца?

– Тады скажы, што я буду вымушаны арыштаваць яе разам з дружком. Вазьмі машыну і адразу ж, як толькі доктар агледзіць яе, патэлефануй мне.

– Навошта вы гэта робіце? – запытаўся Жарыс, як толькі інспектар выйшаў.

– Таму што я павінен усё праверыць.

– Вы мне не верыце?

– Веру.

– Значыць, ёй не верыце?

Тут, якраз у час, пачуўся тэлефонны званок, і Мэгрэ змог ухіліцца ад адказу. Тэлефонная размова не мела ніякага дачынення да справы Турэ, але камісар расцягнуў яе як мог, замест таго каб адказаць, як зазвычай, коратка.

Калі ён нарэшце павесіў слухаўку, то, нібыта забыўся, на чым яны спыніліся, пачаў задаваць Жарысу новыя пытанні.

– Што ж вы збіраецеся рабіць?

– Калі вы ўпэўнены ў тым, што я нікога не забіваў…

– Я заўсёды быў у гэтым упэўнены. Бачыш, забіць чалавека не так ужо проста. Ды яшчэ нажом у спіну. І зусім ужо цяжка зрабіць гэта так, каб ён нават не крыкнуў.

– Я няздольны на гэта?

– Вядома.

Хлопец амаль што пакрыўдзіўся. Ведама ж, ён лічыў сябе здатным стаць каўбоем ці золатакапальнікам!

– Ты паедзеш да пані Турэ?

– Думаю, што прыйдзецца.

Мэгрэ сам сабе ўсміхнуўся: уявіў, як гэты маладзён, дранцвеючы ад страху, уваходзіць у дом да пані Турэ і ўсё ёй выкладвае.

– Думаеш, яна згодзіцца мець такога зяця?

– Не ведаю.

– Ну, а цяпер прызнавайся, у чым яшчэ ты падманваў пана Турэ?

– Што вы маеце на ўвазе?

– Ты прасіў грошы на параход у Амерыку, а выдаткоўваў іх у Парыжы. Аплачваў мэбліраваныя пакоі, у якіх вы з Монікай сустракаліся. А яны ж не бясплатныя. Ты ж і працаваць перастаў пасля абеду, каб з ёй сустракацца.

– Мы мала расходвалі…

– Ты ведаеш, дзе Турэ хаваў грошы?

– На версе шафы, – адказаў Жарыс без ваганняў.

– Менавіта там ён і браў грошы, якія даваў табе?

– Там. Але я ведаў, куды ён іх хавае, яшчэ раней, ад Монікі.

– У панядзелак ты не хадзіў на вуліцу Ангулем?

– Не. Гэта лёгка праверыць. Спытайцеся ў гаспадыні. Я мусіў прыйсці да яго ў аўторак у пяць гадзін вечара.

– Калі ж вы думалі знікнуць?

– Параход адплывае праз тры дні. За гэты час мы б атрымалі візы. Я ўжо падаў прашэнне.

– Я заўсёды думаў, што непаўналетнім патрэбны дазвол бацькоў.

– Я падрабіў бацькаў подпіс.

Запала маўчанне. Першы раз за ўвесь час Жарыс папрасіў:

– Можна мне запаліць?

Мэгрэ кіўнуў.

Цяпер, пасля кавы, камісару раптам вельмі захацелася глынуць каньяку, але ж ці мог ён пайсці ды зноў дастаць гэтую пляшку з шафы?..

– Вы мяне па-ранейшаму лічыце прахіндзеем?

– А ты сам як думаеш?

– Я не мог не зрабіць гэтага.

– Табе было б прыемна, калі б такое зрабіў твой сын?

– Я выхаваю свайго сына інакш, і яму не прыйдзецца…

Тэлефонны званок зноў перапыніў іхнюю размову.

– Гэта вы, шэф?

Мэгрэ нахмурыўся, пачуўся голас Нэвэ, якому ён нічога не даручаў.

– Я знайшоў усю іхнюю скарбніцу!

– Што ты кажаш? – Камісар паглядзеў на Жарыса. – Чакай. Я перайду на другі апарат. – Ён прайшоў у суседні

пакой, папрасіўшы на ўсякі выпадак паглядзець за Жарысам. – Ну што там у цябе? Дзе ты?

– У бістро на набярэжнай Вальмі. Я заходзіў у дом да Франсуазы.

– Навошта?

– Захацеў паглядзець, што там у яе робіцца ў доме. Вырашыў праверыць: як жа гэта так – Акрабат ідзе на пасадку і пакідае яе ні з чым?.. Ён жа жыве з ёю ўжо дзесяць гадоў і, як мне казалі, дужа яе цэніць. Мне пашэнціла, Франсуаза была дома.

Мэгрэ слухаў, чакаючы навіны, але незадаволены. Ён вельмі не любіў, калі інспектары занадта ўжо «бралі на сябе», асабліва калі яны былі, як Нэвэ, не з ягонай брыгады.

– Ты сказаў ёй, што Шрамэк арыштаваны?

– Нельга было?

– Працягвай.

– Кабета вырашыла, што яго злавілі, калі ён выцягваў кашалёк. Яна ўсчала гвалт, але я абшукаў кватэру. Нічога не знайшоў, пакуль не прыгледзеўся да вялікага жалезнага ложка ў спальні, з такімі меднымі шарамі на сценках. Адкруціў гэтыя шары і знайшоў у адной спінцы дзвесце тысяч франкаў, згорнутых у трубачкі! Франсуаза вачам не паверыла. Як залямантуе: «Мець такія грошы і прымушаць мяне прыбіраць пад'езды! У рай ён ужо пэўна не трапіць. Няхай толькі вернецца!» Кляла як магла. Я пераканаў яе, што ён хаваў гэтыя грошы на той выпадак, калі з ім што здарыцца... Дык вось, ён не мог спусціць адразу такую буйную суму, паспеў прайграць толькі частку. А ў мінулую суботу яны дзялілі, мабыць, здабычу. І, калі падзялілі яе пароўну, то ў Турэ таксама былі вялікія грошы. Усё.

– Дзякую.

– Што мне рабіць з грашыма?

– Ты іх забраў?

– На ўсякі выпадак. Не мог жа я іх там пакінуць.

– Звярніся да свайго камісара. Трэба абшукаць кватэру згодна з парадкам.

– Я ж...

– Не хапала яшчэ, каб нас абвінавацілі, што мы самі падкінулі грошы!

– Выбачайце, я ж хацеў...

Мэгрэ кінуў слухаўку і звярнуўся да інспектара Таранса, які сядзеў у гэтым, куды камісар перайшоў, пакоі:

– Ты цяпер заняты?

– Нічога тэрміновага.

– Тады зайдзі да камісара Антуана. Папрасі яго праверыць даныя па ўсіх крадзяжах у крамах на Вялікіх бульварах прыкладна за два апошнія гады, крадзяжах у час абедзеннага перапынку.

Мэгрэ вярнуўся ў свой кабінет і адпусціў інспектара, які пільнаваў юнака.

– Я б не ўцёк, – з крыўдаю сказаў Жарыс.

– Магчыма. Але ты мог бы зазірнуць у папкі. Мог бы?

– Мог. Але што вы збіраецеся рабіць са мною?

– Чакай.

Мэгрэ зірнуў на гадзіннік і прыкінуў, што Моніка з Люка павінны ўжо быць у чакальні ў доктара.

– Вы пагарджаеце мною?

Камісар пацiснуў плячыма.

– Мне ні разу не пашанцавала ў жыцці.

– У чым?

– Ні разу не ўдалося вырвацца.

– Адкуль?

– Я бачу, вы мяне не разумееце. – У голасе ў Жарыса нарастала раздражненне. – Калі б вам давялося вырасці ў доме, дзе толькі і гаварылі што пра грошы... А маці трэсціся пачынала пад канец месяца...

– У мяне не было маці...

Хлопец змоўк.

Мэгрэ пастаяў ля акна, спінаю да затрыманага, пазіраючы на кроплі дажджу, што сцякалі па шкле. Потым, пахадзіўшы па пакоі, рашуча адчыніў шафу. Спаласнуўшы шклянку, наліў каньяку.

– Ты, я думаю, – запытаўся ён у Жарыса, – не хочаш піць?

– Дзякую. Не.

Аднак Мэгрэ і сам не стаў піць, паставіў шклянку назад у шафу.

Хлопец ледзь трымаўся, каб не заснуць. Шчокі ў яго пачырванелі, павекі прыпухлі. Ён пачынаў ужо пагойдвацца.

– Калі-небудзь, можа, з цябе ўсё-такі выйдзе чалавек, – задуменна сказаў ён, гледзячы на Жарыса.

Пачуліся крокі ў калідоры. Два чалавекі: мужчына і жанчына.

Мэгрэ адразу здагадаўся, што гэта Люка і Моніка. Трэба было вырашыць: прымаць дзяўчыну ў кабінеце або ў суседнім пакоі.

Убачыўшы Жарыса, Моніка сутаргава прыціснула да сябе сумку, застыла і раз'ятрана зірнула на камісара.

– Ты звадзіў яе да доктара? – спытаўся Мэгрэ.

– Спачатку яна не хацела, але я...

– Вынікі?

Жарыс адразу ўскочыў, гатовы кінуцца дзяўчыне ў ногі і прасіць прабачэння.

– Зусім яна не цяжарная. І ніколі ёю не была.

Жарыс не верыў сваім вушам. Напэўна, цяпер ён лічыў камісара сама жорсткім з людзей.

Тым часам Мэгрэ зачыніў дзверы і прапанаваў дзяўчыне сесці.

– Што вы можаце на гэта сказаць?

– Я думала...

– Вы думалі...

– А што вы пра гэта можаце сказаць. Вы ж не жанчына.

Павярнуўшыся да Жарыса, яна сказала:

– Клянуся табе, я сапраўды думала, што зацяжарала.

Мэгрэ запытаўся як мага спакайней:

– І як доўга вы так думалі?

– Некалькі дзён.

– А потым?

– А потым не хацела расчароўваць Альбэра.

– Расчароўваць?

Камісар падміргнуў Люка, і яны выйшлі ўдвух з кабінета, пакінуўшы Моніку і Жарыса сам-насам.

– Як толькі я сказаў, – пачаў Люка, – што нам трэба схадзіць да доктара, яна адразу ж закруцілася... Але я перадаў ёй тое, што вы сказалі...

Мэгрэ не слухаў: ён ужо ўсё зразумеў.

Вярнуўся Таранс.

– Даныя яшчэ зводзяць. Спіс будзе доўгі. А Антуан са сваёй брыгадаю якраз два гады шукае, хто ж гэта так

спраўна абчышчае крамы…

Мэгрэ падышоў да дзвярэй свайго кабінета, прыслухаўся. Жарыс і Моніка маўчалі.

Камісар зайшоў да свайго начальніка і далажыў яму ўсе навіны, пабываў у іншых кабінетах, пагаманіў з калегамі.

Калі ён вярнуўся ў свой кабінет, Жарыс і Моніка сядзелі на тых самых крэслах і на той самай адлегласці. Твар у дзяўчыны быў такі ж суровы, як у маці і яе цётак. Калі яе позірк спыняўся на Жарысе, вочы напаўняліся нянавісцю і пагардаю.

Жарыс выглядаў прыгнечаным. Вочы ў яго яшчэ больш пачырванелі.

– Я адпускаю вас, – сказаў Мэгрэ, сядаючы ў крэсла.

– У газетах пра ўсё гэта будзе? – спыталася Моніка.

– Я ім нічога такога паведамляць не збіраюся.

– А маці раскажаце?

– Можна абысціся і без маці.

– А майму начальству?

Калі Мэгрэ адказаў, што не, яна рэзка ўстала і накіравалася да дзвярэй, не зважаючы ўжо на Жарыса. Узяўшыся за ручку, спыталася ў камісара:

– Вы ўсё гэта наўмысна зрабілі?

– Наўмысна. Ты, Альбэр, таксама вольны.

Але Жарыс нават не зварухнуўся.

– Што ж ты не бяжыш за ёю?

Моніка была ўжо на лесвіцы.

– Вы думаеце, трэба бегчы?

– Што яна табе сказала?

– Назвала мяне ідыётам.

– І ўсё?

– Яшчэ забараніла мне размаўляць з ёю.

– Ну, а ты?

– Я не ведаю.

– Можаш ісці.

– Што мне сказаць бацькам?

– Што хочаш. Яны і так будуць рады, што ты знайшоўся.

– Вы думаеце?

Прыйшлося яго крыху падштурхнуць.

– Ну, ідзі, ідзі…

– Скажыце, я не прахіндзей?.. – Жарыс з наіўнасцю маладзёна зазіраў камісару ў самыя вочы.

– Ты дурань. Яна сказала праўду.

– Дзякую, – разгублена прамармытаў хлопец, азіраючыся.

Толькі цяпер, застаўшыся адзін, Мэгрэ змог урэшце выпіць даўно наліты каньяк.

## 9. СУДДЗЯ КАМЕЛЬЁ НЕРВУЕЦЦА

– Гэта вы, Мэгрэ?

– Я, пан суддзя.

Так звычайна пачыналася штодзённая размова па тэлефоне, і, калі побач быў які-небудзь супрацоўнік, Мэгрэ па-змоўніцку падміргваў яму. З суддзёй камісар заўсёды гаварыў мякчэй.

– Як справа Турэ?

– Усё выдатна.

– А вам не здаецца, што яна зацягнулася?

– Забойствы з абрабаваннем – гісторыі заўсёды заблытаныя.

– А вы ўпэўнены, што Турэ забілі менавіта з гэтай мэтаю?

– Вы ж самі казалі, што ўсё відаць голым вокам.

– Вы верыце паказанням Шрамэка?

– Я ўпэўнены, што ён сказаў праўду.

– Хто ж тады, па-вашаму, забойца?

– Той, каму былі патрэбны ягоныя грошы.

– Пастарайцеся, аднак, не зацягваць расследавання.

– Абавязкова, пан суддзя.

Але камісар, здавалася, зусім не спяшаўся закончыць справу, а больш займаўся дзвюма іншымі.

Пані Турэ, Моніка, Жарыс, які цяпер па-ранейшаму працаваў поўны дзень у кнігарні, цяпер былі нібыта забытыя. Можна было падумаць, што камісар іх ніколі і не ведаў.

Справу Шрамэка аб абрабаванні крамаў ён перадаў камісару Антуану, і той дапытваў Акрабата амаль штодня.

Праўда, у Марселі працягвалі пошукі, і не толькі ў горадзе, але і ў наваколлі. Правяралі крымінальнікаў, асабліва тых, хто наведваў апошнім часам Парыж.

Тры чалавекі і ўдзень, і ўначы назіралі за домам на вуліцы Ангулем. Пастаянна праслухоўваўся тэлефон.

Аднак вынікаў не было.

Праязджаючы неяк па вуліцы Клін'янкур, Мэгрэ зноў зайшоў да панны Леон, узяўшы яе маці торт. Але казаць закаханай у Турэ жанчыне, чым жа займаўся апошнія гады нябожчык, не стаў.

Аднак калі панна Леон запыталася, ці ведае ўжо камісар хоць тое, чаму забілі Турэ, Мэгрэ адказаў:

– За грошы.

– У яго іх было так шмат? – здзівілася жанчына.

– Аж вельмі.

– Гаротны чалавек!.. Загінуць тады, калі ўрэшце зажыў па-людску...

Да пана Сэмброна, старога бухгалтара, саслужыўца Турэ, Мэгрэ не заходзіў, але сустрэў яго неяк выпадкова каля кветкавага базара, і яны абмяняліся пачцівымі паклонамі.

Насталі халады, скончыліся дажджы. Пані Жыбон, гаспадыня дома на вуліцы Ангулем, новых жыльцоў не знайшла, і пакой Турэ заставаўся пусты. Тры жанчыны, пастаянныя жыхаркі дома, заўважыўшы, што за домам сочаць, выходзілі цяпер толькі ў рэстарацыю ці краму.

– Чым жа тады яны займаюцца? – спытаўся Мэгрэ ў Жанв'е.

– Спяць, гуляюць у карты, раскладваюць пасьянс, – адказаў Жанв'е. – Адна, як угледзіць мяне з акна, дык язык паказвае. А ўчора ўзяла, павярнулася да мяне задніцай ды падняла халат!

Аднойчы ўранку камісару патэлефанавалі з Марселя. Размова была доўгая. Пасля яе Мэгрэ адразу ж падняўся ў картатэку і прабыў там прыкладна гадзіну. Потым спусціўся ў архіў – і там затрымаўся на добрую гадзіну.

Было прыблізна адзінаццаць, калі камісар сеў у машыну.

– Ну вуліцу Ангулем.

За домам назіраў Лапуэнт.

– Усе там?

– Не, адна выйшла. Відаць, у краму.

Камісар націснуў на званок у дзвярах. Зварухнулася фіранка. Неўзабаве гаспадыня адчыніла дзверы. Як

заўсёды, яна была ў халаце і ў пантофлях.

– Што гэта? Сам шэф уласнай персонаю? Вашым малойчыкам яшчэ не надакучыла бадзяцца ў нас пад вокнамі?

– Арлета дома?

– Паклікаць яе?

– Не, дзякую. Я лепш сам падымуся.

Гаспадыня засталася ў калідоры – усхваляваная, глядзела ўслед камісару.

Падняўшыся на другі паверх, Мэгрэ пастукаў у дзверы.

– Калі ласка!

Арлета, як і ўсе тут заўсёды, ляжала ў халаце на непрыбраным ложку і чытала нейкі танны раманчык.

– Гэта вы?

– Я. – Мэгрэ паклаў капялюш на куфар і прысеў на крэсла.

– Хіба гэтая гісторыя яшчэ не скончылася? – здзівілася Арлета.

– Яна скончыцца, калі мы знойдзем забойцу.

– А вы ўсё яшчэ не знайшлі? Думала, вы хітрэйшыя. Спадзяюся, нічога страшнага, што я ў халаце?

– Нічога.

– Вы да ўсяго павінны былі прывыкнуць, – усміхнулася дзяўчына. Не падымаючыся з ложка, яна пасунулася бліжэй да камісара, і ў яе агаліліся грудзі. Мэгрэ зрабіў выгляд, што нічога не заўважае.

– Гэта ўсё, чым вы можаце адказаць? – стрэліла Арлета.

– На што?

– На тое, што бачыце.

Мэгрэ змаўчаў.

– Хочаце? – Дзяўчына паднесла руку да крыса халата.

– Дзякую.

– Дзякую – хочаце?

– Дзякую – не.

– Што з вас возьмеш: пенсіянер…

– Табе не абрыдла замалёўвацца?

Яна закрыла халатам грудзі і прысела.

– Што вы ад мяне хочаце?

– Твае бацькі ўсё яшчэ думаюць, што ты працуеш у

краме?

– Вас гэта хвалюе?

– Ведалі б яны, чым ты займаешся…

– Вы ім гэта хочаце распавесці?

– Мажліва.

Цяпер яна ўжо занепакоілася.

– Вы што, ездзілі ў Клермон-Феран? Бачылі бацькоў?

– Яшчэ не.

Раптам Арлета ўскочыла з ложка, кінулася да дзвярэй і адчыніла іх. Там стаяла гаспадыня.

– Дык ты падслухоўваеш?

– Я хацела ўвайсці.

– Пакінь мяне ў спакоі! Не стой тут, чуеш?

Мэгрэ і не паварушыўся.

Дзяўчына вярнулася і села на ложак.

– Вы жывяце тут ужо год, – распачаў Мэгрэ. – Бавіце ў гэтым доме амаль увесь час і ведаеце пра ўсё, што тут адбываецца. Ці бываў тут адзін чалавек, які прыходзіў раней досыць часта, але пасля смерці пана Луі нагою сюды не ступіў?

Зрэнкі ў дзяўчыны, здавалася, звузіліся. Яна яшчэ раз падышла да дзвярэй, прыслухалася. Але за дзвярыма нікога не было.

– Ва ўсякім разе, ён прыходзіў не да мяне.

– А да каго?

– Самі ведаеце. Думаю, мне трэба апрануцца.

– Навошта?

– Пасля гэтай размовы мне лепш тут не затрымлівацца.

Яна скінула з сябе халат, гэтым разам ужо не думаючы спакушаць камісара, надзела трусы, ліфчык і падышла да шафы.

– Мне трэба было ведаць, што скончыцца гэтым… А вы, напэўна, вялікі спец?

– Гэта мой хлеб – знаходзіць злачынцаў.

– Дык вы яго знайшлі?

Яна надзела сукенку і цяпер хуткімі рухамі фарбавала вусны.

– Не яшчэ.

– Вы ведаеце, хто ён?

– Вы мне скажаце гэта.

– Вы ўпэўнены?

Мэгрэ выняў з кішэні партманет і дастаў з яго фатаграфію чалавека гадоў трыццаці, са шрамам на левай скроні.

Арлета зірнула на фатаграфію, аднак нічога не сказала.

– Гэта ён?

– Вы ж ведаеце.

– Я памыляюся?

– Куды мне дзецца, пакуль вы яго арыштуеце?

– Наш інспектар знойдзе вам надзейнае месца. Што вы ведаеце пра Марка?

– Каханак гаспадыні. Можа, тут не трэба гаварыць пра гэта?

– Дзе ён цяпер?

Не адказаўшы, яна згэмтала рэчы ў валізу. Відаць было, што яна дужа спяшаецца выйсці з гэтага дома.

– Мы прадоўжым гаворку на вуліцы, – сказала яна, сабраўшыся.

Камісар узяў валізу.

– А вы галантны кавалер!

Яны спусціліся ўніз. Дзверы ў гасцёўню былі адчыненыя. Гаспадыня замерла на парозе.

– Ты куды? – з трывогаю запыталася яна ў Арлеты.

– Туды, куды павядзе камісар.

– Вы яе арыштавалі?

Больш гаспадыня ні пра што не запыталася. Праводзіўшы Мэгрэ з Арлетаю позіркам, яна падышла да акна і адсунула штору.

Мэгрэ ўпіхнуў валізу ў машыну і сказаў Лапуэнту:

– Я прышлю каго-небудзь на змену. Прыходзь адразу ў бар на плошчы Рэспублікі.

– Добра, шэф.

Потым Мэгрэ аддаў загад шафёру і пайшоў з Арлетаю.

– Дзе цяпер Марка? – запытаўся камісар у яе ўжо ў бары, заказаўшы два аперытывы.

– Не ведаю. Калі вы прыйшлі да нас упершыню, гаспадыня папрасіла мяне пазваніць яму і сказаць, каб ён болей не прыходзіў і не званіў ёй, пакуль яна сама не акажацца.

– Калі і адкуль вы яму званілі?

– Праз паўгадзіны пасля таго, як вы пайшлі, з рэстарацыі на бульвары Вальтэра.

– Вы гаварылі з ім асабіста?

– Не. Я патэлефанавала Феліксу, афіцыянту з бара «Покер Дас» на вуліцы Дуэ.

– Марка не аказваўся?

– Не. Яна страшэнна нервуецца. Яна старэйшая за яго гадоў на дваццаць і падазрае, што ён падгульвае.

– Грошы ў яго?

– Не ведаю. Але ён прыходзіў таго дня, калі забілі пана Луі.

– А якой гадзіне?

– Каля пяці. Яны зачыніліся ў яе ў пакоі.

– А гаспадыня заходзіла ў пакой Турэ?

– Магчыма. Я не звярнула ўвагі. Ён прабыў у яе прыкладна гадзіну і пайшоў, я чула.

– Хто-небудзь з вас звязваўся з ім пасля па просьбе гаспадыні?

– Не. Яна чакала, што за намі будуць сачыць.

– І што тэлефон могуць праслухоўваць, таксама падазравала?

– Яна аб усім здагадалася, калі вы пакінулі люльку. Ёй палец у рот не кладзі. Я яе не надта люблю, але ўсё-такі мне яе шкада. Яна шалее праз яго. Гэта ўжо хвароба.

Калі прыйшоў Лапуэнт, яны ўжо спакойна гаманілі аб нейкіх драбніцах. Ён сеў, не падымаючы вачэй на дзяўчыну, – яна ж разглядвала яго, усміхаючыся.

– Зараз ты адвядзеш гэтую прыгажуню ў які-небудзь ціхі гатэль і здымеш два сумежныя пакоі. Шукай непадалёк. Калі ўладкуешся, патэлефануй. Глядзі, каб яна ні з кім не сустракалася і не выходзіла з нумара.

Калі Лапуэнт з Арлетаю выйшлі з бара, камісар усміхнуўся: нельга было зразумець, хто каго вядзе, гэтак Лапуэнт заглядваўся на дзяўчыну.

Мінулі два дні.

Афіцыянт Фелікс з бара на вуліцы Дуэ раптам знік. Знайшлі яго на кватэры ў сябра. Ён вытрымаў доўгі начны допыт, але ўранку прызнаўся, што ведае Марка, і сказаў, дзе яго шукаць.

Марка ўцёк з Парыжа і хаваўся ў начлежным

рыбацкім доме.

Ён двойчы стрэліў, перш чым яго схапілі, але нікога не параніў. Грошы Турэ ён хаваў у поясе, які яму пашыла Марыета Жыбон.

Ужо ўвечары таго дня, напісаўшы рапарт суддзю Камельё, Мэгрэ згадаў дома пра Арлету з Лапуэнтам і ляпнуў сябе па лобе.

– От чорт, забыўся!

– Што-небудзь важнае? – запыталася пані Мэгрэ.

– А, думаю, што не. Ужо позна, і лепей паправіць гэтую справу ўранку, – усміхнуўся ён.

# Пад страхам смерці

## I

Першае пасланне, паштоўка з каляровай выявай палаца Негуса* ў Адыс-Абебе і эфіопскай маркаю, было, як, зрэшты, і ўсе наступныя, лаканічнае:

«Вось я цябе і знайшоў, сабака. Пад страхам смерці, прыгадваеш?

Твой даўні знаёмы Жуль».

** Негус – тытул імператара ў Эфіопіі да скасавання манархіі.*

Аскар Лябро атрымаў гэтую паштоўку праз колькі тыдняў пасля вяселля дачкі. У той час ён уставаў штодня ў пяць гадзін раніцы і выходзіў на сваёй лодцы ў мора лавіць рыбу. Вяртаўся ён зазвычай гадзін у адзінаццаць, амаль заўсёды акурат пасля таго, як у дом да яго прыносілі пошту.

Пакідалі яе на століку ў калідоры.

У гэты самы час пані Лябро прыбірала пакоі на другім паверсе.

Ці спускалася яна тады ўніз, ці заўважыла гэтую надта ўжо маляўнічую паштоўку? Ва ўсякім выпадку, мужу, калі ён вярнуўся, яна не сказала нічога. І твар у яе быў спакойны – дарэмна пан Лябро падоўгу прыглядаўся да жонкі.

А ці прачыталі, думаў Лябро, гэтае больш чым дзіўнае паведамленне сам паштальён і сарціроўшчыца пошты

панна Марта?

Пан Лябро яшчэ выйшаў у мора некалькі разоў, але вяртаўся цяпер ужо раней, а дзесятай гадзіне, і сам заходзіў на пошту – якраз тады, калі панна Марта заканчвала сарціраваць карэспандэнцыю.

– Мне што-небудзь ёсць? – пытаўся ён, пільна ўглядаючыся ў дзяўчыну.

– Газеты і праспекты, пан Лябро. Ліст ад вашай дачкі…

Выдавала на тое, думаў з хваляваннем Лябро, што за работаю яна ўсё ж такі паспявала разгледзець як след канверты, прачытаць, што на іх напісана.

Нарэшце праз два тыдні прыйшла новая паштоўка. Падаючы яе пану Лябро, дзяўчына ўсміхнулася.

– А гэта ад таго самага дзівака…

Значыцца, Марта прачытала і першую паштоўку.

Другая паштоўка, з выяваю залітага сонцам марскога вакзала, была даслана ўжо з Джыбуці.

«Чакай, свіное рыла. Неяк сустрэнемся. Пад страхам смерці, будзь упэўнены.

Прывітанне ад Жуля».

– Ён сябар ваш, што так жартуе?

– Не надта ён дасціпна гэта робіць, – адказаў пан Лябро.

Але так ці інакш, гэты Жуль наблізіўся да яго…

Праз месяц прыйшла трэцяя паштоўка – з выяваю порта. Гэтая была з Порт-Саіда – у сваёй вандроўцы Жуль пасоўваўся на поўнач, спакваля падбіраючыся да адрасата.

«Бачыш, я цябе не забываю. Пад страхам смерці, прыяцель. У самы раз цяпер табе гэта сказаць, га?

Твой канчаны Жуль».

З гэтага дня пан Лябро зусім перастаў выходзіць у мора. Плыць ад Порт-Саіда да Марселя ўсяго толькі чатыры ці пяць дзён, а ўжо адтуль да Паркэроля, астраўка, на якім жыў пан Лябро, дабірацца некалькі гадзін.

Цяпер кожны дзень у восем гадзін раніцы можна было ўбачыць, як пан Лябро выходзіў з дому ў накінутым на піжаму халаце і ў пантофлях на босую нагу. Калі Паркэрольская плошча з яе чысцюткімі рознакаляровымі домікамі – адна з сама прыгожых у свеце, дык дом пана

Лябро, які пазнавалі здалёк па вялікай верандзе ў чырвонай герані, – сама пекны на гэтай плошчы.

Выпальваючы першую люльку, пан Лабро павольна ішоў да порта. Дарогі было сама больш метраў сто – адразу ж за партовым гатэлем «Ноеў каўчэг» пачыналася мора.

Выгляд у пана Лябро ў час гэтага шпацыру быў сама што ні ёсць спакойны: шчаслівы буржуа на пенсіі дыхае свежым марскім паветрам.

Гэтаю парою каля мола можна было сустрэць і некаторых іншых паркэрольцаў. Рыбакі, што вярнуліся з мора, перабіралі рыбу або рапаравалі сеткі. Стаяў непадалёк ад іх са сваёй каляскаю грузчык з каапературнай крамы. Побач спыняў свой запрэжаны аслом вазок дзядзька з гатэля «Лавец лангустаў», што на другім канцы выспы.

На Паркэролі, дзе жыхароў было ўсяго толькі чатырыста чалавек, усе ведалі адно аднаго і кожны называў пры сустрэчы або па імені, або па прозвішчы. Лябро быў адзін, каго называлі панам: ён нідзе не рабіў, меў грошы, а раней чатыры гады быў на выспе мэрам.

– Вы яшчэ не на рыбалцы, пан Лябро? – пыталіся ў яго.

Два-тры словы ў адказ – абы адчапіліся.

Якраз у гэты самы час «Баклан», невялікі карабель, які паўгадзіны назад выйшаў з Паркэроля, ужо прычальваў да Ж'янскай касы, што віднелася на тым баку зіхоткага праліва, які аддзяляў выспу ад мацерыка. Ад Францыі, як казалі самі жыхары Паркэроля. Удалечыні была бачная маленькая белая кропка – гэта і быў «Баклан». У залежнасці ад часу можна было меркаваць, ці вернецца яно поўнае пасажыраў і грузу ці амаль зусім пустое.

Сто шэсцьдзесят восем разоў, дзень у дзень выходзіў пан Лябро сустракаць невядомага госця, назіраў, як заліты сонцам «Баклан» адплываў ад Ж'янскай касы і ішоў да Паркэроля.

Белая кропка спакваля павялічвалася. Неўзабаве можна было разгледзець пасажыраў на палубе, яшчэ праз нейкі час іх твары. Нарэшце судна прычальвала, і людзі на беразе і на палубе «Баклана» перагукаліся між сабою ў час манеўру слоўцам-другім.

Грузчык падымаўся на судна, выцягваў на бераг

скрыні, бочкі, паштальён звальваў на свой вазок мяшкі з поштаю, турысты фатаграфаваліся сем'ямі і ішлі ў гатэль услед за прысланым адтуль хлопчыкам.

Сто шэсцьдзесят восем разоў! Пад страхам смерці, як пісаў Жуль.

Акурат побач з месцам, адведзеным для стаянкі «Баклана», пагойдвалася на вадзе лодка пана Лябро, зробленая па яго спецыяльным заказе на мацерыку. Гэта было сама прыгожае на выспе рыбацкае судна. Яно так зіхацела шклом і меддзю, адпаліраваным дрэвам і начышчаным да бляску металам, што астраўляне назвалі яго «Люстраной шафаю».

Пан Лябро няспынна ўдасканальваў лодку, аздабляў яе і рабіў усё больш камфартабельнай. І хоць даўжыня ў яе была толькі пяць метраў, уладальнік абсталяваў на ёй даволі прасторную, у свой рост, шкляную кабіну – так што судна выдавала больш на які-небудзь буфет, а не шафа.

І вось цяпер пан Лябро ўжо сто шэсцьдзесят восем дзён не карыстаўся лодкаю, хадзіў кожнае раніцы да прычала ў піжаме і пантофлях, пасля ўслед за паштальёнам на пошту – і першы на выспе атрымліваў карэспандэнцыю.

Але чацвёртай паштоўкі прыйшлося чакаць каля шасці месяцаў – і прыйшла яна з Александрыі.

«Не адчайвайся, старая порхаўка! Пад страхам смерці – цяпер як ніколі! А тут горача.

Жуль».

Ад Александрыі да Порт-Саіда, адкуль прыйшла папярэдняя паштоўка, – як плыць морам, дык амаль рукою падаць, варта адно на карту зірнуць. А прайшло ажно паўгода...

Чым мог ён займацца ў дарозе?.. І ўвогуле, чым ён займаўся ў жыцці? Які быў з выгляду? Якога ўзросту? Мусіць, яму не менш за пяцьдзесят, бо столькі ж было і Лябро.

Паштоўка з Неапаля. Праз некалькі тыдняў – з Генуі.

Можа, ён перасаджваецца з судна на судна?.. Але навошта так доўга затрымлівацца ў кожным порце?

Паштоўка сёмая.

«Я прыбываю, гарэза! Пад страхам смерці – ты зразумеў?

Жуль».

Марка на ёй – партугальская. Ну і ну!.. Значыцца, ён не спыніўся ў Марселі. Рабіў круг. Аддаляўся.

І раптам – паштоўка з Бардо!.. Ён зноў набліжаўся. Адтуль да порта насупраць Паркэроля – ноч дарогі чыгункаю.

Але наступная паштоўка прыйшла ўжо з Булоні.

Дзесятая была даслана з Антверпена.

«Пачакай яшчэ крыху, міленькі. Час не прыспешвае. Пад страхам смерці.

Жуль».

– А ён усё-ткі жартаўнік, ваш сябра, – сказала панна Марта, перадаючы Лябро гэтае паведамленне.

«Ці расказвала яна пра гэтыя паштоўкі каму-небудзь?» – узіраўся Лябро ў вочы дзяўчыне.

І вось, нарэшце, цудоўным лагодным ранкам – на моры быў поўны штыль, пад шчодрым сонцам вада так і зіхацела – незнаёмы з'явіўся.

Жуль быў на судне!

Лябро ўпэўніўся ў гэтым ужо тады, калі «Баклан» быў яшчэ толькі за мілю ад паркэрольскага берага. Удалечыні бялела маленькае судна, на палубе якога стаяў адзеты ў цёмнае чалавек – усё адно як невялічкая лялька на дзіцячым караблiку. Але ўжо і з такой адлегласці было відаць, што пасажыр гэты – вельмі высокі.

Чаму Лябро заўсёды здавалася, што незнаёмы – чалавек высокага росту?..

Цяпер ён буйнеў на вачах, з кожнай хвілінаю. Застаючыся ўвесь час нерухомым, ён стаяў каля самага носа, які рассякаў ваду, уздымаючы па абодвух баках судна пышныя срэбраныя вусы марскога шуму.

Аскар Лябро зняў свае чорныя акуляры, з якімі расставаўся, толькі кладучыся спаць. Пакуль ён выціраў запацелыя шкельцы, можна было разгледзець ягоныя вочы: адно – жывое, другое – напалову заплюшчанае, даўно мёртвае.

Нарэшце ён павольна, быццам прысутнічаў на якойсьці ўрачыстасці, надзеў акуляры і машынальна зацягнуўся люлькаю, але тая патухла.

Ён, Лябро, і сам быў высокі і шырокі ў плячах, нават дужы, праўда, трохі ўжо азызлы. Але чалавек на носе

«Баклана» ўсё роўна быў вышэйшы, мажнейшы. Ягоная прасторная адзежа – карычневыя палатняныя штаны, чорная люстрынавая куртка, шырокі саламяны капялюш – рабілі яго яшчэ больш вялізным. Дый тое, што ён дагэтуль не зварухнуўся яшчэ са свайго месца, толькі надавалі ягонай постаці важнасці.

Калі «Баклан» досыць наблізіўся і чалавека можна было ўжо ўбачыць у твар, ён нарэшце ступіў па палубе некалькі крокаў. Ураджанне было такое, нібыта манумент аддзяліўся ад пастамента.

Лябро прыкмеціў, што незнаёмы высока ўзнімае правае плячо.

Незнаёмы падышоў да капітана «Баклана» Батыста, які стаяў у сваёй шкляной кабіне, загаварыў з ім. Лябро здалося, што ён ужо чуў некалі гэты голас. Пасажыр кіўнуў галавою на людзей, што сабраліся на прычале, і капітан, выцягнуўшы руку, тыцнуў пальцам якраз у Лябро.

– Гэта вунь той, – мусіць, дадаў Батыст.

Пасля ён паказаў тым самым пальцам на лодку Лябро і зноў нешта сказаў. Відаць, растлумачыў, чыя гэта лодка.

Людзі на судне і беразе жэстыкулявалі, абменьваліся звычайнымі ў гэтых выпадках словамі. З «Баклана» кінулі трос, які адзін з рыбакоў прымацаваў да кнехта. Судна дало задні ход, прычаліла, але незнаёмы, які, здавалася, зноў прырос да таго месца, на якім спыніўся, заставаўся настолькі спакойны, што можна было ўпэўнена сказаць, нішто на беразе не цікавіла яго.

Каб сысці з судна, ён вымушаны быў высока ўзняць правую нагу – і ўсе адразу зразумелі, што яна ў яго драўляная. Павярнуўшыся тварам да «Баклана», ён пачакаў, пакуль матросы спусцяць па сходах яго старую валізу, вельмі цяжкую на выгляд і абвязаную вяроўкамі, – пэўна, за доўгае яе жыццё абыходзіліся з ёю не надта далікатна.

Пан Лябро так і застыў на месцы, усё адно як загіпнатызаваны ўдавам трус. Цяпер яны стаялі за колькі метраў адзін ад аднаго. Постаці ў іх на самай справе былі вельмі падобныя: прыкладна адзін рост, адной шырыні плечы, адна і тая ж сіла людзей аднолькавага ўзросту.

Жуль ступіў яшчэ некалькі крокаў – паходка ў яго з-за драўлянай нагі была вельмі адметная.

Каля прычала стаяла прыблізна чалавек сорак: рыбакі ў сваіх лодках, грузчык з кааператыўнай крамы, Марыс – уладальнік «Ноевага каўчэга», які прыйшоў забраць з судна правізію ў гатэльную рэстарацыю. Некалькі чалавек апынуліся тут проста так – не было чаго рабіць. Бегала сярод дарослых малое дзяўчо ў чырвонай сукенцы.

Спыніўшыся, Жуль дастаў з кішэні вялізны складны нож. Бліснула лязо. Нейкі час чалавек нібы лашчыў яго сваім позіркам. Пасля нахіліўся. Мабыць, нагу яму адрэзалі да самага сцягна, бо сагнуўся ён папалам, усё роўна як нейкая марыянетка.

Лябро збянтэжана, нічога не разумеючы, глядзеў на яго праз свае чорныя акуляры. Раніца ж была такая светлая, такая зусім звычайная…

«Пад страхам смерці!» – прыгадалася раптам…

Швартоў «Люстраной шафы» быў прымацаваны да пірса. Адным ударам нажа з жудасна шырокім лязом чалавек перарэзаў трос, лодка, падскочыўшы, скранулася з месца – і павольна паплыла па ціхай вадзе.

Людзі на прычале ўтаропіліся вачыма ў свайго былога мэра і аднаногага. Нельга было не здагадацца, што паміж імі былі нейкія асабістыя рахункі.

Выбрык незнаёмага быў да таго нечаканы і недарэчны, што ў натоўпе запанавала цішыня. Адна толькі дзяўчынка ў чырвонай сукенцы залівіста зарагатала, але і яна адразу ж змоўкла.

Аднаногі выпрастаўся, задаволена агледзеў натоўп, нетаропка паклаў нож у кішэню. Калі ж адзін рыбак сабраўся быў зачапіць лодку бусаком, ён ляніва вымавіў:

– Кінь гэта, галубок…

Не было ў гэтых словах ні злосці, ні асаблівай цвёрдасці, але разам з тым адчуваўся ў іх настолькі ўладны загад, што рыбак скарыўся і ніхто больш і не думаў спыніць судна, якое само па сабе выплывала ў мора.

А тут яшчэ і сам Лябро сказаў рыбаку:

– Кінь, Віяль?..

Усе зразумелі: на іх вачах адбываецца нешта дужа незвычайнае.

Дарэчы, і Лябро, і аднаногі гаварылі прыблізна адным тонам, амаль аднолькавым голасам, і ў абодвух быў

відавочны паўднёвы акцэнт.

Нават сам Лябро, лоб у якога пакрыўся кропелькамі поту, прыкмеціў у госця гэты акцэнт – і адкрыццё вельмі яго ўразіла.

Жуль рушыў да Лябро.

Тры крокі... Чатыры... Рух пляча, сцягна, рывок драўлянай нагі – увесь правы бок ягонай фігуры неяк дзіўна ўздрыгваў, то падымаўся, то апускаўся...

– Прывітанне, Аскар! – зноў пачуўся ягоны голас, які можна было б назваць лагодным, нават вясёлым.

Лябро, застыўшы на месцы, бы статуя, не выпускаў з зубоў люлькі.

– Ты бачыш, я тут! – усміхаўся Жуль.

– Хадземце да мяне, – ледзь вымавіў у адказ Лябро.

– Ты не хочаш быць са мною на «ты»?

Ні слова ў адказ. У горле ў Лябро захрас камяк. Люлька ў зубах дрыжала.

Жуль агледзеў Лябро з галавы да ног, памацаў рукою тканіну піжамы, кіўнуў на пантофлі.

– А ты, я гляджу, позна ўстаеш! Яшчэ не адзеўся як след...

Здавалася, Лябро пачне зараз прасіць прабачэння.

– Нічога!.. Нічога!.. Гэй ты, карантыш! Але, ты, кухар! – крыкнуў аднаногі Марысу, гаспадару «Ноевага каўчэга», які і праўда быў нізкі ростам і хадзіў у белым кухарскім халаце. – Скажы, каб мой куфар аднеслі да вас!.. І падрыхтуй мне найлепшы пакой!

Марыс зірнуў на Лябро. Той кіўнуў галавою.

– Слухаю, пане...

– Жуль.

– Прабачце.

– Я сказаў, што мяне завуць Жуль... Скажы яму, Аскар, што мяне завуць Жуль.

– Яго завуць Жуль, – паслухмяна паўтарыў Лябро.

– Ідзеш, Аскар?

– Іду.

– У цябе, напэўна, вока не ў парадку? Ану, здымі на хвілінку акуляры, каб я мог паглядзець!

Лябро зняў акуляры, праўда, не адразу. Разгледзеўшы выбітае вока, Жуль прысвіснуў, усё роўна як выказаў гэтым сваё захапленне ўбачаным:

– Нішто сабе, га?.. У цябе адно вока, а ў мяне адна нага. Добрая кампанія!

Ён узяў Лябро за руку, быццам старога сябра, і павёў яго, падскокваючы, да гатэля. Пры кожным кроку Лябро адчуваў рывок драўлянай нагі.

– Ведаеш, я спыніўся б лепш не ў цябе, а ў «Ноевым каўчэзе». Не люблю замінаць людзям. Дый жонка ў цябе не надта памяркоўная. – Ягоны гучны голас быў адначасна і злы і насмешлівы. – Я распытаў пра цябе на «Баклане»... Гэтая старая малпа расказала мне ўсё, што трэба...

Старою малпаю быў капітан судна Батыст – Жуль празваў марака так, напэўна, таму, што яго загарэлы твар парос сівым шчаціннем. Батыст нешта незадаволена буркнуў. Зірнуць на яго Лябро не асмеліўся.

– Калі хочаш, можаш ім сказаць, каб яны паставілі лодку на месца... Яна яшчэ нам спатрэбіцца... Палаўлю і я рыбку... Скажы ім! Ну, чаго ты чакаеш, га?

– Віяль! – крыкнуў Лябро рыбаку. – Злаві лодку і пастаў на месца!

Па твары ў Лябро цёк пот. Акуляры ссунуліся ўніз і блішчалі на мокрым пераноссі.

– Трэба трошкі перакусіць, га?.. – запытаўся Жуль. – А мясціны тут прыгожыя, нічога не скажаш...

Дарога ішла ўгару – яны ўзбіраліся ўверх павольна і важка, бы надавалі гэтай хвіліне ўрачысты характар.

Плошча. Рады эўкаліптаў з пяшчотнай лістотаю. Маленькая жоўтая царква, падобная на цацачны дамок.

– Дзе тут твая хацінка?.. Вось гэтая?.. Ты, я бачу, любіш герань... Паслухай, гэта не твая кабета на нас пазірае?..

Пані Лябро, у бігудзі, развешвала на другім паверсе бялізну.

– Дык праўда гэта, што яна ў цябе не надта памяркоўная?.. Будзе злавацъ, калі мы замочым нашу сустрэчу шкляначкай беленькага?

У гэты момант пану Лябро, нягледзячы на яго пяцьдзесят гадоў, вялікі рост і вагу, аўтарытэт багатага чалавека і былога мэра выспы, захацелася ўпасці прылюдна на калені і ўголас маліць: «Пашкадуйце!..»

Больш таго, ён ледзь не зрабіў яшчэ горш. Бо гатовы ўжо быў завыць: «Забіце мяне адразу ж!»

І не таму не зрабіў ён гэтага, што баяўся страціць павагу людзей. Проста пан Лябро не ведаў ужо больш, дзе ён знаходзіцца, не валодаў ні целам сваім, ні думкамі, проста госць трымаў яго за руку, абапіраўся на яго і паволі і ўладна цягнуў да чырвона-зялёнай тэрасы «Ноевага каўчэга».

– Ты, мабыць, часта сюды заходзіш, га?

Лябро адказваў, бы вучань настаўніку:

– Некалькі разоў на дзень.

– Выпіваеш?

– Не... Трохі...

– Але зрэдку хоць напіваешся?

– Ніколі...

– А ў мяне бывае... Убачыш яшчэ... Толькі не бойся... Гэй, там ёсць хто-небудзь?

З гэтымі словамі Жуль падштурхнуў Лябро ў залу кавярні, да бара, які зіхацеў у змроку нікелем.

З кухні выйшла маладзенькая афіцыянтка. Яна яшчэ, мусіць, нічога не ведала пра прыезд такога дзіўнага госця.

– Дзень добры, пан Лябро...

– А мяне завуць Жуль... Дай нам, крошка, пляшку беленькага... І што-небудзь паесці...

Дзяўчына зірнула на Лябро.

– Анчоўсы? – спыталася яна.

– Няхай будуць анчоўсы, – адказаў за Лябро Жуль. – Я бачу, Аскар іх любіць. Анчоўсы дык анчоўсы... Падай нам на тэрасу.

Ён сеў, ці, хутчэй, упаў у лазовае крэсла, выцягнуў драўляную нагу, выцер твар вялікай чырвонай насоўкаю – горача было і яму.

Пасля доўга пляваўся, харкаў. Урэшце паднёс шклянку з віном да вуснаў, паглядзеў яе на святло, уздыхнуў.

– Цяпер ужо лепш!.. За тваё здароўе, Аскар!.. Я заўсёды казаў, што калі-небудзь усё роўна знайду цябе... Пад страхам смерці, памятаеш?.. А дзіўна ўсё ж такі... Я ж зусім не ведаў, які ты...

Ён зноў паглядзеў на Лябро – задаволены, нават шчаслівы.

– А ты тлусцейшы за мяне... У мяне адны мускулы... – Ён напружыў біцэпсы. – Памацай... Ну, не бойся... Я ж

толькі і ведаў, што тваё імя ды прозвішча, якія ты напісаў на шчытку. А ты не з тых людзей, пра якіх пішуць газеты… Адзін з сарака мільёнаў французаў… Адгадай, як я цябе знайшоў. Ну, адгадай!..

– Не ведаю…

Хочучы ўлашчыць госця, Лябро змушана ўсміхнуўся.

– Гэта ўсё твая дачка Івона…

Лябро занепакоіўся яшчэ больш: як магла яго дачка…

– Я напаў на твой след якраз тады, калі ты выдаваў яе замуж, дзевяць месяцаў назад… Слухай, дзіцяці ў іх яшчэ няма?.. Дык ты, значыць, такое закаціў вяселле, што пісалі пра яго ажно на першай старонцы «Вара»*… Газета выходзіць у Тулоне, га?.. Уяўляеш, мне сустрэўся ў Адыс-Абебе, адкуль ты і атрымаў першую паштоўку, тып з гэтых мясцін, які пражыў у Афрыцы дваццаць гадоў і ўсё яшчэ падпісваецца на вашу газету… Вось у адным з яе нумароў я і напаткаў тваё імя… Тут і ўспомніўся шчыточак…

** Вар – дэпартамент на паўднёвым усходзе Францыі.*

Ён нахмурыў бровы. Твар у яго пасуравеў. Ён глядзеў Лябро ў самыя вочы – позірк у яго быў і люты, і адначасна насмешлівы.

– Прыгадваеш, га?..

Памаўчаўшы крыху, Жуль, хоць і груба, ды ўсё ж зычліва дадаў:

– Давай пі віно… Пад страхам смерці, чуеш?.. Я ад гэтых слоў не адракуся… Пі, я табе кажу!.. Гэта, браток, усяго толькі віно, а будзе яшчэ і ром… Як яе зваць, афіцыянтачку?..

– Жажо…

– Жажо?.. Хадзі сюды, прыгажуня… І прынясі нам другую бутэльку… У Аскара вельмі ўжо ў горле сушыць…

**II**

Кожныя пяць хвілін аднаногі выпіваў адным глытком шкляначку віна і загадваў Лябро такім тонам, што пярэчыць ніяк было нельга:

– Дапівай, Аскар!

І Лябро піў. Пасля трэцяй бутэлькі ён ужо ледзь бачыў стрэлкі гадзінніка на званіцы царквы: было ці то дзесяць

гадзін, ці то адзінаццаць. А Жуль, адкінуўшыся ў крэсле, паліў і паліў да самага канца цыгаркі, якія ён сам скручваў, і бурклíва дапытваў Лябро:

– Адкуль ты?

– З Пон-дзю-Ляса... Гэта непадалёк ад Тулона...

– Ведаю! А я з Марселя, з квартала Сэн-Шарль, – радасна ўсміхнуўся Жуль. Але ў радасці гэтай, як, зрэшты, і ва ўсіх астатніх праявах ягоных пачуццяў, было і нешта жахлівае. Нават калі ён прыкметна мякчэў у гаворцы, то ўсё роўна глядзеў на Лябро, бы на мураша, якога збіраўся вось-вось раздушыць.

– Бацькі багатыя?

– Бедныя... Так сабе... Не, хутчэй бедныя...

– Як і ў мяне. Вучыўся ты дрэнна – іду ў заклад. З матэматыкай заўсёды было кепска. Зноў жа – як і ў мяне!.. Дапівай! Кажу табе, ну!.. Як ты трапіў у Габон?

– З адной марсельскай фірмы, пасля службы ў арміі.

Жуль спытаўся ў Лябро і пра ўзрост. Выявілася, што Лябро быў на год старэйшы – і гэта вельмі ўзрадавала аднаногага.

– Урэшце, мы маглі сустрэцца на якім-небудзь параходзе, а яшчэ раней у арміі... Весела было б, га?.. Яшчэ пляшку, міленькая...

Лябро ўжо дрыжаў ад адной думкі, што яму яшчэ прыйдзецца піць.

– Не бойся! – засмяяўся Жуль. – У мяне норма. Дый табе лепш, калі я набяруся: убачыш тады, які я чуллівы...

І ўсё гэта было на вачах у людзей: адны заходзілі да Марыса выпіць, другія гулялі на вуліцы ў шары. Усе ведалі свайго былога мэра, але дапамагчы яму не мог ніхто. Лябро махалі рукою, клікалі яго, але адзінае, што мог ён зрабіць, – гэта вымушана ўсміхнуцца.

– Значыцца, калі ты так брыдка абышоўся са мною, табе было дваццаць два гады... Як ты апынуўся ў балотах Мбале?

– Фірма даручыла наладзіць у тамтэйшых селішчах збор пальмавага алею.

– Такой спякоты, як там, я больш нідзе не сустракаў... Сама малярыйны экватарыяльны лес... Але ж ты не адзін там быў?..

– Са мною былі яшчэ кухар і два весляры.

– І ты згубіў сваю пірогу?.. Адказвай?.. Чакай… Выпі спачатку… Выпі, або раструшчу табе галаву!

Лябро цераз сілу піў. Усё яго цела пакрывалася потам, як некалі ў час службы ў Габоне, але гэты пот быў халодны. Аднак зманіць смеласці не хапіла. Ён шмат думаў з таго часу пра гэты выпадак з Жулем – і ўдзень, і ўначы, калі не спалася. Каб не гэтая афрыканская гісторыя, ён мог бы лічыць сябе сумленным чалавекам, нават шчаслівым чалавекам. Успамін аб ёй прыходзіў кожныя два-тры месяцы, працінаў душу знянацку і стаў ягоным сапраўдным кашмарам.

– Я не губляў пірогі, – прызнаўся Лябро.

Жуль глядзеў на яго, нахмурыўшы бровы, і не мог паверыць таму, што пачуў.

– Дык што ж ты тады?..

– Была страшэнная задуха… Мне здалося, што ў мяне ліхаманка… Тры дні ледзь паспявалі адмахвацца ад камароў…

– Я таксама…

– Мне было дваццаць два гады…

– Мне таксама… Яшчэ менш: дваццаць адзін…

– Я не ведаў Афрыкі…

– А я?.. Пі!.. Пі, я табе сказаў!.. У цябе была пірога, і, нягледзячы на гэта…

Цяпер, праз многія гады, пан Лябро, былы мэр Паркэроля, і сам не мог зразумець свой колішні ўчынак.

– У мяне быў мурын, вясляр з племені пагу… Ён сядзеў зусім блізка ад мяне, і ад яго нясцерпна смярдзела…

Гэта і была сапраўдная прычына ягонага злачынства. Бо Лябро ўсведамляў, што зрабіў злачынства, і не шукаў сабе апраўдання. Калі б трыццаць гадоў назад ён проста забіў чалавека, то, мажліва, і не пакутаваў бы гэтак праз тое цяпер. Але ягоны ўчынак быў горшы за забойства – і Лябро разумеў гэта.

– Расказвай далей, – утаропіўся ў яго Жуль. – Значыцца, ты, паскуда, не любіш, як пахнуць пагу…

Лябро ўспамінаў.

Балоты Мбале… На паверхні мутнай вады лопаюцца велізарныя бурбалкі… Усё кішма кішыць кракадзіламі, змеямі і ўсялякай іншай брыдотаю… І нідзе ні купінкі цвёрдай зямлі – толькі балота, такое зарослае дрэвамі і

кустоўем, што ледзь удавалася прадзірацца скрозь гэты гушчар... І ўдзень і ўначы камары, а кусаліся яны так балюча і небяспечна, што ён не здымаў з твару маскітнай сеткі, пад якой проста задыхаўся...

Можна было плыць цэлымі тыднямі і не сустрэць ніводнай халупы, ніводнага чалавека... І тут ён убачыў раптам схаваную паміж карэннямі мангля* пірогу, а на ёй – маленькі шчыток з надпісам:

«Лодку не браць – пад страхам смерці.

Жуль».

** Мангль – трапічнае дрэва, якое расце на ілістых берагах і мае спецыфічныя паветраныя карані, што ідуць ад ствала і галін у глебу.*

Словы «пад страхам смерці» былі двойчы падкрэсленыя. Гэта і выклікала ў Лябро смех.

Тут, у гушчары экватарыяльнага лесу, за сотні кіламетраў ад усякай цывілізацыі, ад бліжэйшага жандарскага паста, гэтае папярэджанне, напісанае друкаванымі літарамі, здавалася вар'яцкім. Вось яму і прыйшла ў галаву не менш вар'яцкая думка, якая магла нарадзіцца хіба што ў гэтай саракапяціградуснай спякоце. Ногі ў яго зацяклі, бо ў цемнаце ён вымушаны быў падкурчваць іх пад сябе. Ад мурына нясцерпна смярдзела – той невядома калі апошні раз мыўся... А калі ён возьме гэтую пірогу і прывяжа яе да сваёй, то застанецца ў лодцы зусім адзін да самага канца падарожжа і не будзе больш чуць, як смярдзіць ягоны вясляр...

«Пад страхам смерці?» Вось і добра! Якраз таму і вазьму, што пад страхам смерці!

– І ты яе ўзяў?

– Я прашу ў вас прабачэння...

– Я ўжо сказаў табе, каб ты быў са мною на «ты»... Паміж намі гэта больш натуральна... А я якраз у той самы момант пайшоў раздабыць што-небудзь паесці, бо здыхаў ужо з голаду некалькі дзён... І вось, вярнуўшыся назад да пірогі, апынуўся раптам у становішчы вязня на выспе...

– Я не ведаў...

Але гэта было яшчэ не ўсё. Лябро не толькі ўзяў чужую пірогу, але і дадумаўся нават брыдка адказаць яе невядомаму гаспадару. Узяў і напісаў на тым самым шчытку, які пакінуў на месцы ўкрадзенай пірогі:

«С… я на цябе!»

І, смеючыся, падпісаўся: «Аскар Лябро».

– Я прашу ў вас прабачэння, – паўтарыў цяпер ужо пяцідзесяцігадовы Жулеў злоснік.

– Адзін, у балоце, – узіраўся ў Лябро Жуль, – сярод кракадзілаў… Што б, цікава, рабіў на маім месцы ты?.. Га?..

Лябро не ведаў, куды і дзецца.

– Адзін, – працінаў яго сваім позіркам Жуль, – сярод змей і велізарных ядавітых павукоў… Я быў там зусім адзін, ты разумееш?.. Мурыны-насільшчыкі кінулі мяне яшчэ за некалькі дзён да таго… Ты сволач, Аскар…

– Але…

– Сволач жудасная, якіх пашукаць… Аднак, гляджу, цяпер ты шчаслівы…

Сказаўшы гэта, Жуль паглядзеў на прыгожы ружовы дом у герані, на пані Лябро, якая час ад часу падыходзіла да акна – выглядала, ці не вяртаецца муж дамоў.

Лябро не было чаго сказаць у адказ. Не стане ж ён сцвярджаць адваротнае: гэта была б няпраўда.

Пастукаўшы па драўлянай назе, Жуль сказаў:

– Там я нагу і пакінуў…

Лябро не асмеліўся нават спытацца, як гэта здарылася: ці яе адкусіў кракадзіл, ці гэта вынік якойсьці інфекцыі.

– З таго часу што толькі я ні рабіў, каб не здохнуць з голаду… Ты не думаў, чаму я не выправіўся да цябе напрасткі адразу ж пасля першай паштоўкі?.. Да цябе з Адыс-Абебы не так ужо і доўга дабірацца… А таму, што ў кішэні ў мяне не было ніводнай манеты, і я павінен быў увесь час адкладваць нашу сустрэчу, каб зарабіць на хлеб і дарогу… З гэтым паленам, ты разумееш? – зноў дакрануўся Жуль да драўлянай нагі.

Але цяпер позірк у яго не быў ужо такі пагрозлівы, як гадзіну назад. Часам, гледзячы на іх, можна было сказаць, што гэта сядзяць старыя сябры.

Раптам Жуль прыўзняўся, нагнуўся над Лябро і, схапіўшы яго за каўнер халата, прахрыпеў:

– Яшчэ пляшку!.. Але, я п'ю… І ты будзеш піць са мною кожны раз, як я таго захачу… Не так ужо і шмат я патрабую, га?.. А што ў цябе з вокам?

– Няшчасны выпадак, – адказаў Лябро, усё роўна як саромеючыся таго, што не страціў гэтае вока ў тым самым лесе, у якім Жуль страціў нагу.

– Які выпадак?

– Адкаркоўваў бутэльку... Бутэльку з воцатам, жонка папрасіла... Рыльца адскочыла, і асколак шкла трапіў у вока...

– Ну і ну!.. А ты доўга яшчэ заставаўся ў Афрыцы?

– Дзевяць гадоў... Усяго тры кантрактныя тэрміны па тры гады, разам з адпачынкам. Пасля мяне перавялі ў Марсель.

– Тут ты і стаў вялікім начальнікам? Дырэктарам, здаецца?

– Намеснікам дырэктара... Пяць гадоў назад я пайшоў на пенсію, з-за вока...

– Багаты, мусіць?.. Грошы, відаць, не лічыш...

У Лябро з'явілася надзея. А што, калі адкупіцца грашамі? Чаму не? Нават пасля суда, калі выносяць смяротны прысуд, і то не заўсёды вядуць на гільяціну. Ёсць катарга, турма, штраф, нарэшце.

Чаму б не заплаціць штраф?

Але адначасна з надзеяй прыйшла і трывога. Лябро не ведаў апетытаў гэтага аднаногага і баяўся назваць першы суму, на якой яны маглі б пагадзіцца.

– Жыву няблага, – адказаў асцярожна Лябро.

– Рэнту ж маеш! Які пасаг даў ты за Івонаю?

– Хацінку ў Гіеры.

– А ў цябе яшчэ ёсць такія хацінкі?

– Ёсць... Дзве. Невялікія...

– Ты, напэўна, скупы?

– Не ведаю...

– Зрэшты, гэта не мае значэння, бо нічога не мяняе...

Што ён хацеў гэтым сказаць? Што яму не патрэбныя грошы? Што прагне выканаць свой колішні прысуд?

– Ты разумееш, Аскар, я, калі ўжо што вырашыў, ніколі не перадумваю. Слова даю адзін толькі раз! Хіба што цяпер у мяне ёсць час...

Але, думаў Лябро, гэта не сон, а праўда. І плошча – хоць і цьмяна ён яе бачыў цяпер – стаіць на месцы. І галасы ў кавярне і на тэрасе былі знаёмыя.

Праходзячы міма кавярні па вуліцы, Віяль, босы, з

сеткаю на спіне, спыніўся і крыкнуў:

– Пан Лябро! Лодка ў парадку!

– Дзякуй, Віяль, – адказаў машынальна Лябро.

Ніхто, вядома, і не падазраваў, што ён, іх добры знаёмы, былы іх мэр і паважаны на выспе чалавек, – асуджаны на смерць. І якім чынам асуджаны – горш ужо і не прыдумаеш!

У судзе хоць ёсць адвакаты. Журналісты, якія даюць у друку паведамленні аб ходзе працэсу. Нарэшце, рашэнне суда можна абскардзіць. І апошні злачынца можа выклікаць спачуванне ці нават нейкія сімпатыі. А тут...

– Урэшце, гэта будзе залежаць ад таго, што за жыццё будзе ў мяне на тваёй выспе, ты разумееш?

Не, Лябро нічога не разумеў. Бачыў адно, як зноў налівае яму Жуль у шклянку віно. Няўмольны погляд прымусіў паднесці шклянку да вуснаў і зноў піць...

А Жуль ужо крычаў:

– Жажо, паўтарыць!

Лябро зусім атупеў. Пяць бутэлек – гэта ўжо занадта. Ды яшчэ раніцай! Ён ніколі і за тыдзень столькі не выпіваў. Страўнік у яго яшчэ з Афрыкі быў не ў парадку.

– А нумар мой нічога, га? – спытаўся Жуль. – Спадзяюся, плошчу з яго відаць?

– Вядома... Пайду скажу Марысу...

З'явіўся шанц хоць на якую хвіліну адысці ад гэтага невыноснага тыпа, пастаяць аднаму ў цяньку, перадыхнуць крыху ад яго няўмольнага, здзеклівага позірку. Але толькі Лябро прыўзняўся, як аднаногі паклаў яму на плячо сваю цяжкую, бы свінцовую, руку.

– Паглядзім яшчэ... Мажліва, мне тут спадабаецца, і тады нам хопіць часу на сёе-тое...

Ці ж не давалі гэтыя словы хоць якую надзею?

– Не думай пра гэта, Аскар. Ты яшчэ мяне не ведаеш.

Лябро не сказаў ні слова. Твар у яго быў абсалютна нерухомы, а вочы, дакладней, вока праз цёмныя акуляры ніяк нельга было разгледзець.

Дык як тады ўгадаў аднаногі, пра што ён думае?

– Я ж сказаў: «Пад страхам смерці» – хіба не так? Га?.. Але пакуль што, у чаканні прысуду, нішто не перашкаджае нам пазнаёміцца трохі бліжэй. Урэшце, мы ж зусім не ведаем адзін аднаго... Дык праўда, што твая жонка не

надта памяркоўная?.. Іду ў заклад, што яна намыліць табе шыю, бо ты смярдзіш шынком і праседзеў тут да паўдня... У піжаме... А дзіўна, братка, бачыць цябе ў такім выглядзе ў гэты час... Жажо!..

– Я малю вас...

– Апошняя... Пляшку, Жажо!.. Што я табе казаў?.. А, што ў нас ёсць час пазнаёміцца бліжэй... Рыбу разам палавіць... Ніколі не было на гэта ні часу, ні магчымасці... Заўтра ты мяне навучыш... Як тут, бярэ?

– Бярэ.

– І ў цябе?

– І ў мяне... Як і ў іншых...

– Ну, і мы пойдзем на рыбалку... Возьмем з сабою віна... Ты гуляеш у шары?.. Выдатна, я так і думаў... Навучыш і мяне... Мы час марнаваць не будзем!.. За тваё здароўе!.. «Пад страхам смерці», не забывай... А цяпер я пайду спаць...

– Не пад'еўшы? – спытаўся збянтэжаны Лябро.

– Крошка Жажо прынясе мне снеданне ў нумар...

Ён устаў, уздыхнуў і, хістаючыся, рушыў да дзвярэй, у якія так і не патрапіў. Нехта засмяяўся, і Жуль раз'юшана агледзеў прысутных.

– Паклапаціся, Аскар, каб такога больш не было, – сказаў ён Лябро.

Пасля прайшоў праз усю залу на кухню, падняў, ні на кога не звяртаючы ўвагі, накрыўку з рондаля і гучна загадаў:

– Мне ў нумар!

– Зараз, пан Жуль!

У кавярне было чуваць, як ён стукаў драўлянай нагою па прыступках, пасля па падлозе. Мяркуючы па гуку, які данёсся з ягонага нумара, ён адразу ж, не раздзеўшыся, упаў на ложак.

– Адкуль ён? – спытаўся Марыс, спусціўшыся ў кавярню. – Калі гэты тып збіраецца тут заставацца...

Лябро перапыніў яго, пераймаючы тон Жуля, каб і слова супраць сказаць было нельга:

– Застанецца дык застанецца.

Пасля чаго выйшаў з кавярні і накіраваўся дамоў праз плошчу. На ганку яго чакала жонка. Лябро, хоць і сціснуў у кулак усю сваю волю і не зводзіў з жонкі вачэй,

зрабіў усё ж некалькі добрых кругоў.

– Што гэта цябе так разабрала? Што ты робіш у кавярне ў такіх строях? – паказала яна на ягоныя піжаму і пантофлі. – Мне распавядалі, быццам нейкі тып перарэзаў трос у тваёй лодкі. Хто ён?

Лябро не мог адказаць на ўсе пытанні адразу і таму адказаў толькі на апошняе:

– Гэта сябра. – І дадаў, націскаючы на склады са стараннасцю п'янага чалавека, які хоча здавацца цвярозым: – Гэта мой лепшы сябра... Больш чым сябра... Гэта брат, ты чуеш?.. Я не дазволю нікому...

У пяць гадзін дня ў нумары, дзе спыніўся новы пастаялец «Ноевага каўчэга», усё яшчэ было ціха.

Калі ў той самы час звычайныя партнёры пана Лябро па гульні ў шары пастукаліся ў дзверы ягонага дома, выйшла да іх гаспадыня.

– Тс-с! – ціха сказала яна. – Ён спіць. Вельмі стаміўся сёння...

## III

Кожны наступны дзень яны выходзілі зранку ў мора. Лодка мерна пагойдвалася на лагодных хвалях. У гэты час мора заўсёды было спакойнае, гладкае, бы атлас, – брыз падымаўся толькі праз некалькі гадзін пасля ўсходу сонца. І марскі лазурак, і нябесная сінь так і пераліваліся дзівоснымі вясёлкавымі адценнямі. А непадалёк ад «Люстраной шафы», за колькі сотняў метраў ад мыса, бы снег, бялела высачэзная скала Мэд.

Спадзяванні аднаногага спраўдзіліся: ён усур'ёз захапіўся рыбалкаю. Часцей за ўсё Жуль сам будзіў Лябро свістам гадзін у пяць раніцы.

– Не забудзь узяць вінца! – напамінаў ён кожны раз.

Сеўшы ў лодку, Лябро заводзіў маторчык, і «Люстраная шафа», ірвануўшыся з месца, ускаламучвала ваду, пакідаючы шумны след уздоўж пляжаў і бухтаў да самай скалы Мэд, непакоіла сваім гудзеннем ціхі світанак.

– Насадзі мне новую піяду! – раз-пораз гучна загадваў Жуль.

Як прынаду на Паркэролі выкарыстоўвалі ракаў-адзінцоў, па-тутэйшаму піядаў. Ракавіны, у якіх

сядзелі піяды, даводзілася разбіваць малатком або каменем.

Жуль гадзіўся нават дакранацца да ракавін. Насаджваць ракаў на кручок стала работаю аднаго Лябро. Рака нельга было параніць, і таму апрацоўка ракавіны вымагала вялікай далікатнасці, так што самому Лябро рыбу лавіць часу амаль не заставалася. Скручваючы цыгарку, Жуль кідаў на яго позірк.

– Як ты думаеш, Аскар: мне здалося, што…

Кожнага дня яму прыходзіла ў галаву якая-небудзь новая ідэя, звязаная са спосабам смяротнага пакарання Лябро, і ён абмяркоўваў яе з ім у сама зычлівым тоне, усё роўна як давяраў сябру.

Аднаго разу ён сказаў:

– Спачатку я думаў задушыць цябе. Ведаеш чаму?.. Бо неяк у бары, не памятаю ўжо дзе, адна жанчына сказала мне, што ў мяне рукі забойцы, які ўжо задушыў не аднаго чалавека. Дык цяпер добры выпадак паспрабаваць, га?..

Ён прыглядаўся да шыі Лябро, пасля пазіраў на свае рукі, круціў галавою.

– Не, наўрад ці я буду душыць цябе…

Перабіраў уголас усе магчымыя варыянты смяротнага пакарання.

– Калі я цябе ўтаплю, ты будзеш такі непрыгожы ў труне… Мне агідна пра гэта думаць… Ты калі-небудзь бачыў тапельца, Аскар?.. А цябе ж і цяпер прыгажуном не назавеш…

Апусціўшы вуду ў ваду, ён нерваваўся, калі не торгала хоць пяць хвілін. І тады Лябро, які ўжо даўно перастаў маліцца, пачынаў прасіць Бога, каб той паслаў Жулю рыбы, бо баяўся, што той разлюбіць рыбалку і… Страшна было падумаць, што тады можа здарыцца…

– Скажы, Аскар… Не, дай мне спярша пляшку… Час ужо…

З кожным днём ён пачынаў піць усё раней і раней.

– А ведаеш, справа ўсё больш ускладняецца. Раней я думаў, што заб'ю цябе і не мае, урэшце, значэння, як я гэта зраблю, бо як ужо выйдзе ўсё, так яно няхай і будзе… Ты разумееш, што я хачу сказаць? У мяне не было асаблівых прычын чапляцца за жыццё… Урэшце, магу табе

прызнацца, што мне было б нават цікава трапіць у турму, каб вакол мяне ўсчаўся ўвесь гэты гвалт: паліцыя, суддзі, журналісты, прыгожыя дамы ў зале суда… Грандыёзны быў бы працэс, га?.. Я расказаў бы ім усё, што ёсць у мяне на сэрцы… А чаго толькі там няма – аднаму Богу вядома!.. Упэўнены, галаву мне не адсеклі б… А ў турме мне было б не так ужо і блага… Але ўяві: цяпер я зноў адчуў смак жыцця… Што ўсё і ўскладняе, бо цяпер мне трэба, каб я забіў цябе і мяне не сцапалі… Тры ці чатыры спосабы пракруціў я ўжо ў сваёй галаве – ад самага пачатку да самага канца… Гадзінамі думаю… Дзіва, дый годзе… Прадумваю кожную дэталь, спрабую прадугледзець любы магчымы паварот… І толькі пачне ўжо здавацца, што ўсё гладка, ды тут раптам – ба-ба-ах! Нейкая драбяза нішчыць увесь план…

На якісьці час ён змоўк, пасля абсалютна спакойна спытаўся ў Лябро:

– Ну а як бы ты ўзяўся за гэтую справу, га?..

З дня яго з'яўлення на выспе прайшло ўжо амаль тры тыдні. Лябро ўжо прызвычаіўся да такіх размоў. Якраз у той самы момант ён даставаў з вады добрую, ці не кілаграмовую скарпену.

– А можа, не трэба мяне забіваць? – асцярожна спытаўся ён у адказ.

Жуль здзіўлена, нават дакорліва паглядзеў на яго.

– Ну, сам падумай, Аскар… Ты ж выдатна ведаеш, што я напісаў: «Пад страхам смерці…»

– Гэта было так даўно…

Жуль стукнуў кулаком па сваёй драўлянай назе:

– А хіба я адмяняў свой прысуд?

– Мы тады яшчэ не былі знаёмыя…

– Ну і што?.. Дык тым больш, што знаёмыя!.. Не, галубок!.. Трэба, каб я знайшоў добры спосаб… Відаць, зраблю гэта ўсё ж такі ў моры… Хто тут можа бачыць нас цяпер?.. Ніхто. Ты плаваць умееш?

– Трошкі.

Лябро адразу ж пашкадаваў, што сказаў гэтае «трошкі», якое магло канчаткова падштурхнуць Жуля да здзяйснення задуманага. І асцярожна зазірнуў свайму кату ў вочы.

– Я заўсёды няблага плаваў…

– Але ты не зможаш плыць, калі атрымаеш добры ўдар па галаве... І слядоў пасля майго ўдару не застанецца... Трэба, каб я навучыўся кіраваць лодкаю, бо буду ж вяртацца на бераг адзін... Насадзі ж мне новую піяду!

Калі не торгала і Жуль быў у кепскім настроі, ён зусім ужо дапякаў Лябро.

– Ты, мусіць, думаеш купіць мяне тым, што будзеш карміць і паіць? Га?.. А ўвесь час лічыш, колькі я выпіў пляшак... Ты сквапны, Аскар! І эгаіст. А баязлівец які! Памерці нават прыгожа не зможаш. Ведаеш, што я табе скажу? Ты мне агідны. Дай выпіць...

Трэба было піць разам з ім. Лябро жыў усё роўна як у нейкім кашмары – аглушаны віном ужо з дзесяці гадзін раніцы і п'яны ўшчэнт апоўдні. А Жуль нават праспацца яму не даваў пасля гэтага, будзіў у чатыры-пяць гадзін дня, каб ісці гуляць на плошчу ў шары.

Гуляць ён не ўмеў зусім, але ўпарта імкнуўся выйграць. Спрачаўся пасля кожнага ўдару, вінаваціў іншых гульцоў у махлярстве. А калі хоць хто-небудзь з прысутных дазваляў сабе зрабіць заўвагу або ўсміхнуцца, Жуль кідаў тады шалёныя позіркі на Лябро.

– Спадзяюся, што ты перастанеш урэшце сустракацца з гэтым тыпам? – казала пані Лябро. – Думаю, гэта не ты плаціш за віно, якое вы, кажуць, літрамі смокчаце?..

– Ды не... Не я...

Ведала б яна, што ён плаціў не толькі за віно, але і за пражыванне Жуля ў «Ноевым каўчэзе», у тым ліку і за сталаванне!

– Паслухайце, пал Лябро, – казаў яму гаспадар гатэля Марыс. – Усялякія кліенты ў нас былі. Але гэты зусім навыносны. Учора ўвечары ён пагнаўся ў калідоры за маёю жонкаю... Пазаўчора – за Жажо. Цяпер дзяўчына адмаўляецца заходзіць да яго ў пакой... Ён падымае нас сярод ночы, грукочы сваёю драўлянкаю па падлозе, каб запатрабаваць шклянку вады і таблетку аспірыну... Лямантуе з любой нагоды, адсылае назад ежу, якую ён, ці бачыце, не ўпадабаў... Адбівае, словам, ад гатэля пастаяльцаў... Я так больш не магу...

– Я прашу цябе, Марыс... Калі толькі ты паважаеш

мяне, як сябра...

– Дзеля вас я ўсё гатовы зрабіць, пан Лябро... Але не дзеля гэтага аднаногага, не...

– Пацярпі яго яшчэ два тыдні...

Два тыдні... Тыдзень... Трэба было выйграць час... Пазбегчы смерці... А яшчэ прыходзілася штодня па некалькі разоў улагоджваць гульцоў у шары: людзі адмаўляліся гуляць з гэтым нахабным шаленцам, які няспынна сварыўся і кляў кожнага, не лезучы за словам у кішэню...

– Трэба табе пагуляць сёння, Віяль... І Герсі папрасі прыйсці... Скажы яму ад майго імя, што гэта вельмі важна... Проста неабходна, каб ён сёння прыйшоў...

Плакаць хацелася ад такой абразы. Іншы раз Лябро казаў сам сабе, што Жуль – вар'ят. Але гэта нічога не мяняла. Не мог жа ён запраторыць свайго нязванага госця ў вар'ятню?

Ён нават не мог пайсці ў паліцыю і заявіць, што гэты чалавек пагражае яму смерцю.

Перш за ўсё таму, што ў яго не было ніякіх доказаў. Не паштоўкі ж паказваць – абсмяялі б адно. Па-другое, яго мучыла сумленне. Бо Жуль такі, як ён ёсць цяпер, быў, можна сказаць, яго ўласным творам. Хто ж, як не ён, Лябро, быў адказны за ўсе тыя рысы, якія набыў Жуль разам са стратаю нагі і веры ў людзей?..

Але няўжо ён павінен быў даць забіць сябе?.. Павінен, што яшчэ горш, жыць тыдзень за тыднем, мажліва, месяц за месяцам (гэта калі пашанцуе) з думкаю, што ў любую гадзіну, у сама нечаканы момант Жуль скажа яму сваім адначасна і зычлівым і здзеклівым голасам: «Час прайшоў, Аскар...»

А Жуль быў садыст, якіх пашукаць. Дбайна падкідаў і падкідаў дровы ў вогнішча страху свайго колішняга злосніка. Варта было Лябро супакоіцца крыху хоць на якую хвілінку, як Жуль адразу ж казаў ліслівым голасам:

– А што, калі мы гэта зробім зараз?..

Яшчэ гэтае сапраўды езуіцкае «мы»! Нібыта ён, Лябро, даў ужо яму сваю згоду і самахоць пойдзе на смерць.

– Павер мне, Аскар, я пастараюся зрабіць усё так, каб ты пакутаваў як мага меней... Не такі ўжо я і жорсткі, як можаш ты думаць... Усё гэта зойме хвіліны тры, сама

больш…

Лябро заставалася адно ўшчыкнуць сябе, каб пераканацца, што гэта не сон, не вар'яцкае насланнё.

– Дай пляшку, – зноў і зноў казаў Жуль.

Выпіўшы, Жуль пачынаў гаманіць пра рыбалку, гульню ў шары, пра пані Лябро, якую ён, хоць і бачыў толькі здалёк, дужа незалюбіў.

– Ты ніколі не думаў развесціся?.. Табе гэта трэба зрабіць. Прызнайся, што ты не шчаслівы з ёю, га?.. Яна ж на ланцужку цябе водзіць, бы сабачку якога!..

І Лябро прызнаваўся, хоць тое, што казаў яму толькі што Жуль, поўнай праўдаю назваць ніяк нельга было. Гэта была праўда хіба што ў пэўнай ступені. Але лепш было не пярэчыць, бо тады Жуль адразу ж тэрарызаваў яго новымі жорсткімі меркаваннямі пра ягоную не надта далёкую смерць.

Дый без пярэчанняў не вельмі лёгка было яго слухаць.

– Калі ты развядзешся, – зазіраў у будучыню Жуль, дачакаўшыся ад Лябро прызнання, – думаю, мне будзе лепш перабрацца да цябе. Возьмем Жажо за служанку…

Лябро ўпіваўся пазногцямі ў далонь. Былі моманты – у моры, на тэрасе кавярні ў Марысавым гатэлі, на плошчы ў час гульні ў шары, – калі яму жудасна хацелася выць. Выць, як вые на месяц сабака. А што, калі гэта наставала вар'яцтва?..

– Я заўважыў, што ты ўмееш гатаваць, – сказаў Жуль.

– Я гатую толькі рыбу…

– Але ўсё роўна няблага, што ты ўмееш гатаваць… Кажуць, ты нават мыеш посуд… Дык як табе мая ідэя?..

– Жонка не захоча.

Праз якія тры-чатыры дні Жуль зноў браўся за сваё.

– Падумай… Тады я яшчэ пачакаю… Урэшце, пратуляўшыся ўсё жыццё па гатэлях, я пачынаю цяпер думаць, што, як і ўсе іншыя людзі, маю права на свой кут…

– А калі я дам вам грошы, каб уладкавацца дзе-небудзь у іншым месцы?

– Аскар!

Жуль сурова заклікаў яго да парадку.

– Сцеражы цябе Бог загаварыць са мной так хоць адзін яшчэ раз! Бо тады я зраблю гэта адразу ж. Ты чуеш?

Адразу ж!

Не, жыць так далей было нельга. Трэба было нешта прыдумаць. «А як бы ты сам узяўся за гэтую справу, га?» – спытаўся ў яго неяк на днях Жуль, выцягваючы здаравенную скарпену.

Гэтыя згаданыя цяпер словы падказалі Лябро выйсце: што мог зрабіць аднаногі, тое мог здзейсніць і ён сам.

«Упэўнены, – сказаў яму Жуль аднаго разу, – што ёсць усё ж такі спосаб забіць цябе так, каб пасля самога не сцапалі…»

А чаму б і яму не знайсці такі спосаб? Чаму не пазбавіцца ад свайго ката?

Калі гэтая думка прыйшла раптам Лябро ў галаву, яму стала страшна, што Жуль прачытае яе на ягоным твары, ледзь азірнуўшыся. І тут аднавокі гаротнік упершыню ў жыцці парадаваўся, што вымушаны насіць чорныя акуляры.

«Слушна, – думаў Лябро. – Трэба гэта ўлічыць: ён таксама мажны… Малаток у мяне заўсёды пад рукою… Не, малаток не падыдзе: сляды застануцца… Штурхнуць яго як след, і ёнываліцца за борт… А што, як выплыве?.. Ды не павінен… Калі гэта лепш зрабіць?.. Праз нейкі час, выбраўшы сеткі на другім канцы выспы, міма іх пройдуць рыбацкія лодкі… Пасля, гадзін прыкладна ў восем, дзесьці за паўмілі ад «Люстраной шафы» праплыве на сваёй пасудзіне стары ў каланіяльным шлеме… Паміж праходам рыбакоў і васьмю гадзінамі, во калі трэба!..»

Праўда, і Жуль ведаў, хто і калі тут праплывае, бо паспеў, напэўна, прыгледзецца за ўвесь гэты час… Так што і ён мог прыступіць да задуманага ў тыя ж самыя паўгадзіны…

З гэтага моманту Лябро пачаў прыглядацца да ворага. Ён прыкмеціў, што пасля трэцяй бутэлькі Жуль заўсёды робіцца абыякавы да рыбалкі і пачынае драмаць. Але ці драмаў ён напраўду? Можа, сачыў употайкі за ім?

Вырашыўшы аднойчы праверыць Жуля, Лябро рэзка ўстаў.

Аднаногі адразу ж расплюшчыў вочы і, утаропіўшыся ў яго сваім хітрым, пільным позіркам, буркнуў:

– Што ты збіраешся рабіць?

Лябро лёгка падмануў Жуля, бо загадзя падрыхтаваў

на гэты выпадак праўдападобны адказ, але, баючыся выклікаць падазрэнні, вырашыў не праводзіць больш такіх эксперыментаў. Сумнявацца не прыходзілася: адгадаўшы ягоную задуму, Жуль адразу ж, як і абяцаў, зробіць тое, што збіраўся.

А пакуль што аднаногі дзяліўся з ім сваімі меркаваннямі:

– Урэшце, раніцой тут амаль што заўсёды прыліў, і хвалі, думаю, вынесуць цябе на бераг непадалёк ад порта…

Абодва глядзелі на тыя самыя хвалі. Толькі труп ім бачыўся не адзін і той самы.

– Трэба будзе, напэўна, – разважаў Жуль, – зрабіць гэта, калі ты будзеш на нагах. Ты цяжкі, і, калі мне прыйдзецца падымаць цябе, каб выкінуць за борт, лодка можа перакуліцца, і я апынуся ў вадзе разам з табой…

Але была яшчэ адна акалічнасць, невядомая Жулю, якую, каб зрабіць усё гладка, нельга было не ўлічваць. На беразе, у соснах, стаяла халупа флоцкага кватармайстра, ахоўніка форта Мэд. Лябро ведаў, што два разы на тыдзень, у аўторак і пятніцу, кватармайстар выпраўляўся ў Гіер на «Баклане». Значыць, ён выходзіў з дому прыблізна без дваццаці пяці, сама пазней без дваццаці восем.

Без пятнаццаці восем… Якраз тады і трэба гэта зрабіць!.. А яшчэ трэба сачыць, каб дазорац маяка не стаяў у той самы момант каля парапета, а то ўгледзіць усё ў свой бінокль…

– Бываюць дні, Аскар, – гаманіў і гаманіў Жуль, – калі я пытаюся ў сябе, ці не час ужо скончыць з усім гэтым… Гатуюць у Марыса нядрэнна, але мне ўжо абрыдла дзень пры дні есці адно і тое… Я ўжо не кажу, што жанчын не хапае… Жажо і глядзець на мяне не хоча…

Лябро чырванеў, бы школьнік. Няўжо гэты аднаногі монстр думае, што ён яшчэ і жанчыну шукаць яму павінен?..

– Мы бавілі разам неблагія хвіліны, гэтага я адмаўляць не буду… Амаль што сябрамі сталі, во як!.. Так і быць, скажу тое, што думаю… Цяжка мне будзе ісці за тваёю труной… Цябе ж на Паркэролі, мусіць, пахаваюць, га?..

– Я ўжо купіў сабе месца на могілках…

– Выдатна!.. На могілках лепш, чым пад вадою… Дай

пляшку, Аскар… Не, выпі спачатку сам… Ну, пі!.. Хай твая баба скуголіць – рабі тое, што кажу табе я…

Тысячы, сотні тысяч, мільёны людзей жылі – і не так ужо далёка ад іх – нармальным жыццём. Хіба ж можна было цярпець больш гэтакі здзек з сябе?..

– Што мяне дзівіць, Аскар, дык тое, што ты быў тады такі хам… Ты ж цяпер зусім далікатны чалавек… У прынцыпе, ты стаў тыповы буржуа… Ну, прызнайся, што так… Іду ў заклад, што ты нашмат багацейшы, чым кажаш… На біржы не гуляеш?

– Трошкі.

– Во як яно ў цябе выйшла… А я яшчэ сумняваўся… Заўваж, пачыналі мы абодва аднолькава… Хто ведае, можа, калі б не гэты твой фокус з пірогаю, каб не мая дзеравянка, і я стаў бы кімсьці накшталт цябе… Ну і гад ты быў!.. Падумай, што ты зрабіў: пакінуў чалавека, белага чалавека, у афрыканскім балоце, без аніякай надзеі выбрацца адтуль… Дагэтуль не разумею, як гэта здолеў я ўратавацца… задумваўся ты хоць калі-нікалі пра гэта?.. А напісаў ты мне што тады?.. Я і цяпер гэтакіх слоў не вымаўлю, хоць і не буржуа, як ты… Ты нават уявіць не можаш, падарваў ты маю веру ў людзей…

У такія моманты Лябро нават паварушыцца не смеў, бо баяўся, што гэта здарыцца менавіта зараз. Стараўся не пакідаць малаток паблізу ад Жуля…

– Баішся памерці, га?.. А мне дык глядзець на цябе смешна, бо напляваць мне на смерць… Ты таму баішся, што стаў буржуа, што табе ёсць што траціць…

«Ну, – думаў Лябро, – калі табе няма чаго траціць…»

– Я нават не ведаю, ці жывыя яшчэ мае бацькі… Была сястра, збіралася замуж, але так ні разу і не аказалася… Не дай Бог, таксама шалапутная…

Цікава, падумаў раптам Лябро, а якое ў яго прозвішча? Там, у Габоне, ён падпісаўся на гэтым праклятым шчытку проста: «Жуль».

– Прозвішча?.. Шапю… Ты хіба не ведаў?.. Жуль Шапю… Не горшае за тваё, га?.. Іду ў заклад, што ёсць на свеце і вельмі прыстойныя людзі з прозвішчам Шапю… Дай пляшку… Не… Трымай… Я пытаюся ў сябе іншы раз…

«Чаму ён раптам прыўзняўся?» – падумаў Лябро і ўхапіўся за сядзенне. Ён уклаў у гэты рух усю сваю сілу.

Але адчуў, што спацеў, толькі тады, калі заўважыў: устаў Жуль, каб схадзіць да ветру.

І тут у галаву Лябро закралася думка:

«Час настаў…»

Лябро дрыжаў – у ім вiравала цяпер усё тое, што перажыў ён побач з гэтым страшным чалавекам… Ён таксама ўстаў і ступіў два крокі…

## IV

Былы мэр Паркэроля забыўся на ўсё, што так старанна абдумваў: і на кватармайстра-вартаўніка, і на рыбакоў, якія павінны былі вяртацца на выспу з другога канца Паркэроля, і на старога ў каланіяльным шлеме.

Дазорац з маяка, які пазіраў на мора ў бінокль акурат у тую самую хвіліну, расказваў пасля:

– Прыблізна без дзесяці восем, гледзячы ў бок мыса Мэд, я заўважыў, што пан Лябро і гэты ягоны дзівак-прыяцель стаяць каля самага борта «Люстраной шафы», абхапіўшы адзін аднаго. Спярша я падумаў, што некаму з іх стала блага і другі прытрымлівае таварыша, каб той не ўпаў у ваду. Але пасля зразумеў, што яны боруцца. Лодка была ад мяне за некалькі сотняў метраў, і ўмяшацца я ніяк не мог. І вось урэшце яны ўпалі разам на планшыр*, і лодка перакулілася…

** Планшыр – парэнчы ўздоўж борта лодкі.*

Рыбак Віяль у той момант разам са сваімі двума сынамі агінаў мыс Мэд.

– Я ўбачыў перакуленую лодку, – расказваў Віяль, – і пазнаў, што гэта была «Люстраная шафа». Я заўсёды казаў, што судна пана Лябро калі-небудзь конча перакуліцца, бо надта ўжо шмат усяго на ім пабудавана і кабіна дужа высокая… У той момант, як мы заўважылі пана Лябро і гэтага вар'ята ў вадзе, яны яшчэ віслі адзін на адным… Я падумаў быў, што пан Лябро, добры плывец, ратуе аднаногага, які ўпаў у ваду і, мусіць, не ўмее плаваць… А гэты чалавек, як часта бывае, учапіўся ў яго ад страху кляшчом…

Стары, што не знімаў ніколі свайго каланіяльнага шлема, не бачыў нічога.

– Я якраз выцягнуў добрую скумбрыю… Лодка пана

Лябро была на ўсход ад мяне, і сонца сляпіла вочы…

Такім чынам, ніхто не мог дакладна расказаць, што ж здарылася на самай справе. Ніхто, апроч Лябро, які выйграў бой.

А было ўсё так.

Калі ён падышоў да Жуля і штурхнуў яго, той, устояўшы неяк на нагах, павярнуўся назад, і Лябро ўбачыў у колькіх сантыметрах ад сябе ягоны скрыўлены твар. Толькі не злосць, не лютасць былі на ім, а неверагодны жах.

Але, неверагодны, бо цяпер перад Лябро стаяў зусім іншы, непадобны на ранейшага шаленца чалавек, вочы якога малілі пашкадаваць яго, вусны дрыжалі…

– Не трэба, пан Лябро!

Ён сказаў не «Аскар», як звычайна, а «пан Лябро»!

Нават голас яго нельга было пазнаць, столькі чулася ў ім мальбы: і Лябро стала шкада гэтага слабага цяпер чалавека. Ды позна было ўжо. Адступіць ён не мог. Хоць бы таму, што замах ён ужо зрабіў. Што станецца пасля гэтага, пашкадуй ён Жуля, з ім самім?.. Як паводзіць сябе з чалавекам, якога ты спрабаваў забіць?.. І як будзе абыходзіцца з табою той самы чалавек?.. Не, адступленне стала ўжо абсалютна немагчымае.

Па сутнасці, усё здарылася ў адзін момант.

Лябро моцна ўдарыў Жуля плячом, але той невядома як паспеў ухапіцца за яго.

Кароткі час яны яшчэ ўтрымлівалі нейкім чынам раўнавагу на невялікім судне, якое ўжо гайдалася, бы ў шторм.

Абодва цяжка дыхалі, абодва адчувалі страх.

Хто каго?

Сілы былі прыкладна роўныя.

– Паслухайце, я… – прахрыпеў Жуль, але ці ж мог Лябро пачуць што-небудзь цяпер? Адзін павінен быў прайграць у іх паядынку.

За борт упалі абодва, бо «Люстраная шафа» перакулілася.

Жуль і ў вадзе здолеў учапіцца за Лябро. Ён адчайна спрабаваў яшчэ нешта сказаць, але марна, бо захлёбваўся вадою.

Пачуўся буркат матора. Да іх набліжалася чыясьці

лодка. Нейкім чынам, проста інтуітыўна, Лябро здагадаўся, што гэта лодка Віяля. Жадаючы вызваліцца, ён ударыў Жуля ў нос з такой сілай, што ажно адчуў боль у костках параненых пальцаў.

Нарэшце ўсё скончылася…

– Трымайцеся, пан Лябро! – бы ў сне пачуў голас Віяля.

Лябро згубіў у вадзе акуляры, ногі заблыталіся ў лёсцы.

– Хапай яго, Фердынанд! – крыкнуў Віяль аднаму з сыноў.

Яго зачапілі бусаком і трымалі над вадою, быццам нейкую цяжкую торбу, якую не стае сілы падняць. Бусак балюча ўрэзаўся ў бок.

– Трымай мацней, тата!.. Чакай, я ўхаплю яго за ногі!

Праз якісьці час Лябро ляжаў на дне Віялевай лодкі. У вачах у яго былі слёзы. Стары рыбак і яго сыны думалі, што гэта вада, але сам Лябро добра разумеў, чаму ён плача…

* * *

Маніць яму амаль не давялося. Хлусілі за яго ўсе паркэрольцы, хлусілі, не падазраючы, што дапамагаюць тым самым свайму былому мэру. Кожны жыхар мястэчка, усёй выспы прыдумаў і расказваў гісторыю, якая здарылася ў моры, яшчэ да прыезду следчага.

– Вы яго добра ведалі? – спытаўся ў хворага Лябро, які ляжаў у ложку, камісар паліцыі, упэўнены, што так яно і было.

– Я сустрэў яго ў Афрыцы, вельмі даўно…

– І ласкава далі яму прытулак… А ён круціў вамі, як толькі хацеў… Нам ужо багата пра гэта расказалі… Нікому тут жыцця не даваў…

– Але…

– Піў з самага ранку, усім хаміў, пагражаў… Калі здарылася ўсё гэта з вамі ў моры, ён паспеў ужо да таго выпіць дзве бутэлькі, ці ж не так?..

– Я ўжо і не памятаю…

– Сама меней дзве, калі меркаваць па астатніх днях… Ён вас абразіў… Мажліва, накінуўся на вас. Ва ўсякім

разе, вы біліся…

– Біліся…

– У вас не было з сабой ніякай зброі?

– Не… Я нават не ўзяў у руку малаток…

Ніхто і ўвагі не звярнуў на гэтыя словы, аб якіх сам Лябро неўзабаве пашкадаваў, бо яны маглі лёгка стаць завязкаю абвінавачвання.

– Ён адштурхнуў вас, і лодка перакулілася… А ў вадзе ўчапіўся ў вас, бо не ўмеў плаваць… Тут яму і канец прыйшоў… Ну, што ж, адным меней…

Лябро нічога не мог зразумець. Можа, ён трызніць? Можа, кашмар усіх апошніх тыдняў дабіў яго, і прыйшоў гэты салодкі і лёгкі сон?..

Усё, калі паслухаць следчага, было так проста, што здавалася ўжо немагчымым, зусім нерэальным.

– Я прашу, каб мне даравалі тое, што я зрабіў…

– Ды пра што вы, смешны вы чалавек! Вы абараняліся, і закон на вашым баку. З такімі тыпамі…

Не, здавалася Лябро, нешта ў гэтай гісторыі не так, вельмі ўжо спакойным быў следчы. Лябро пачаў яшчэ больш турбавацца і адчуў сябе зусім няшчасным. А паколькі ў яго была пасля халоднага купання і перажытага страху гарачка, ён блытаў дні сённяшнія і ўчарашнія, казаў нешта такое, чаго ніхто не мог уцяміць, напрыклад, згадваў раптам нейкую пірогу дзесьці ў Мбале.

– Вядома, цяпер я разумею, што нельга было так рабіць, – умольваў Лябро следчага.

– Ваша жонка, Марыс, рыбак Віяль і многія іншыя расказалі нам усё…

Што маглі яны расказаць, гэтыя людзі, якія нічога не ведалі?

– Вы велікадушны, гасцінны чалавек. Дзівак, якіх пашукаць… Не кожнага ж чалавека, з якім пілі калісь раз-два, трэба так сустракаць, калі ў яго за душою ніводнага франка. Шаноўны пан Лябро, адзіная ваша памылка ў тым, што вы не пацікавіліся ў паліцыі, што гэта за тып… Калі б вы зайшлі да нас…

– Га?..

Што гэта кажа яму камісар?.. Пра якога тыпа трэба было яму пацікавіцца ў іх?..

– Гэтага чалавека шукала па абвінавачванні ў

махлярстве паліцыя не менш як пяці краін. Яму ўжо не было куды дзецца. Дзе б ён ні з'явіўся, яго маглі пазнаць і схапіць. Таму і кажу, што адным меней… Больш ужо гэтага прайдзісвета Марэльве ўспамінаць не будуць…

Што ён чуе?.. Як… Марэльве?..

– Прабачце, – спытаўся Лябро далікатна нейкім чужым голасам, – што вы сказалі?

– Марэльве… Жуль Марэльве… Дваццаць гадоў гастраляваў па Паўночнай Афрыцы і міжземнаморскім узбярэжжы, жыў адным махлярствам, не грэбуючы нічым… А да таго адседзеў дзесяць гадоў у турме за крадзеж з узломам.

– Хвілінку!.. Хвілінку… Вы ўпэўнены, што яго звалі Жуль Марэльве?

– Мы не толькі знайшлі ў валізах гэтага тыпа яго дакументы, але і маем адбіткі яго пальцаў і антрапаметрычную картку…

– Вы сказалі, што ён… што ён сядзеў у турме?.. Чакайце… Вы прабачце… галава баліць… Калі дакладна ён сядзеў у турме?

– Трыццаць гадоў таму…

– А нага ў яго…

Лябро змоўк. Сілы не было гаварыць.

– Што – нага?

– Як ён застаўся без нагі?

– Ён страціў яе, калі спрабаваў аднойчы ўцячы з турмы. Саскочыў у цемнаце з дзесяціметровага муру акурат на жалезныя штыры… Не ведаў, што там, унізе… Пан Лябро, здаецца, вы стаміліся… Доктар у суседнім пакоі, гаворыць з вашай жонкаю. Зараз я яго паклічу.

– Не… Чакайце… А калі ён быў у Габоне?

– Ніколі… Мы ўсю яго біяграфію ведаем… Ніжэй Дакара ён у бок экватара не спускаўся… Вам што, кепска?

– Не звяртайце ўвагі… І што… ён ніколі не быў у балотах Мбале?

– Прабачце?

– Гэта адзін з раёнаў Габона…

– Я ж вам сказаў…

І тут Лябро адчайна прастагнаў:

– Значыцца, гэта не ён!.. Не той Жуль…

Занепакоены камісар адчыніў дзверы і паклікаў

доктара:

– Пан доктар!.. Мне здаецца, хвораму кепска!..

– Ды не! Пакіньце мяне аднаго! – закрычаў Лябро, адчуваючы жаданне біцца галавою аб сцяну. – Вы не зможаце зразумець… Гэта быў не той Жуль… Я забіў другога Жуля… Другога Жуля, які…

– Супакойся, Аскар, – перапыніла ягоныя крыкі жонка. – Не варушыся. Ты трызніш, мой дарагі…

– Што я сказаў? – спытаўся Лябро, ачуняўшы.

– Глупства… Але ж ты нас і напалохаў… Так ты да інсульту дойдзеш…

– Дык што я сказаў?

– Кажу ж, глупства нейкае… Усё пра Жуля… То пра аднаго, то пра другога… Толькі і трызніш гэтым махляром, дык ён табе ўжо дваіцца стаў…

– Што яшчэ я казаў? – горка ўсміхнуўся Лябро.

– Што забіў яго нізавошта… Супакойся, дурненькі… Выпі мікстуры… Выпі, яна не горкая… Заснеш…

Ён адразу ж выпіў гэту мікстуру, так хацелася заснуць: цяперашні яго кашмар быў проста невыносны! Нізашто забіў чалавека!.. Нейкага абармота, які не быў тым самым Жулем, з якім ён так жорстка абышоўся некалі ў Габоне… Забіў нікчэмнага тыпа, які не хацеў зрабіць яму нічога благога, звычайнага жуліка, які толькі і думаў, што, пагражаючы яму час ад часу, пажыць спакойна за ягоны кошт на Паркэролі!..

«Не трэба, пан Лябро!» – усё яшчэ стаялі ў яго ў вушах апошнія словы гэтага прайдзісвета, вымаўленыя ў неверагодным жаху.

Ён маліў яго.

А хамства, пагрозы былі яго прафесійнай гульнёю.

Значыцца, ён, Лябро, і баяўся марна, і забіў нізашто.

* * *

– Дык што, пан Лябро, адным менш, га?.. Цяпер можна і ў шары пагуляць спакойна, – казалі Лябро на плошчы гульцы.

Ціха было цяпер і ў Марыса ў «Ноевым каўчэзе» – паркэрольцы забываліся патроху на стук драўлянай нагі, які і наводзіў на ўсіх жах.

– А вы яшчэ ўпрошвалі нас быць з ім цярплівымі, бо ён сам, гаротны, нацярпеўся ўсяго ў Габоне... Гм... У Габоне, куды ён і нагою не ступаў!.. Ну і штукар быў гэты ваш Жуль... Дык што, шклянку белага, пан Лябро?

– Дзякую...

– Як настрой? Відаць, пакуль што яшчэ не надта?..

– Нічога, наладзіцца пакрысе...

Трэба было прывыкнуць да таго нялёгкага факту, што з гэтага часу і назаўсёды ён – забойца. Але крычаць пра гэта ўсюды ён, вядома, не стане.

Ды вось падумаць адно балюча, што ўся гэтая недарэчная гісторыя толькі таму і здарылася, што нейкі нікчэмны шарлатан, які стаміўся цягацца па свеце, хаваючыся ад паліцыі, падслухаў зусім выпадкова расказаную якімсьці каланістам гісторыю пра ўкрадзеную пірогу, гісторыю, перажытую невядомым па імені Жуль Шапю. Невядомы гэты памёр сваёй смерцю праз пятнаццаць гадоў пасля таго, як усё ж такі здолеў выбрацца з балот Мбале, памёр на службе ў Індакітаі, куды быў накіраваны сваёю фірмаю з Габона.

А спрытнаму махляру выпала не толькі пачуць гэтую гісторыю, але і разгарнуць неяк у Адыс-Абебе, каб прагнаць нуду, нумар тулонскай газеты «Вар» і напаткаць у ім знаёмае імя – Аскар Лябро.

Гэта і наштурхнула яго на думку скончыць у спакоі свае нялёгкія дні на маленькай і ціхай выспе Паркэроль.

# Дзяўчына і бясхвостыя парсючкі

## Раздзел першы. МАЛАДЫЯ ЖОНКІ ЛЮБЯЦЬ УШЫВАЦЬ ГУЗІКІ

Хто тэлефанаваў ёй цяпер, у сем гадзін вечара, Жэрмэн не сумнявалася: Марсэль павінен быў пазваніць ёй з рэдакцыі. Дзяўчына толькі прыйшла ў «Французска-італійскую» рэстарацыю на бульвары Клішы, дзе яны звычайна вячэралі і сустракаліся пасля працы, калі не дамаўляліся на якое іншае месца. У іх і столік быў ужо свой, заўсёды свабодны ў гэты час, каля акна. Месца гэтае было ім па-хатняму ўтульнае.

Яна якраз толькі села і была падумала, што да трох гадзін засталося ўсяго тры хвіліны, як да яе падышла Лізэта, гардэробшчыца. Гэтая маленькая жанчына з відавочным задавальненнем называла яе пасля замужжа мадам і ўвесь час пазірала на прыемную ёй наведніцу з цікаўнасцю і хваляваннем.

– Пані Блан… Пан просіць вас да тэлефона…

Яна сказала толькі «п а н», не дадаючы «Марсэль», і выгляд у яе быў такі змоўніцкі, што можна было падумаць, быццам гэты пан належаў ім абедзвюм.

Напэўна, у яго планах нешта змянілася. З Марсэлем заўсёды трэба быць гатовай да гэтага. Мусіць, скажа зараз:

– Ідзі хутчэй пераадзенься і падрыхтуй мой смокінг… Пойдзем на такую прэм'еру ці на такое рэвю…

Колькі вечароў правялі яны дома з таго часу, як ажаніліся? Два, ёй няцяжка было палічыць.

– Гэта ты, Марсэль?

Не, гэта быў не ён. Сакратарка з рэдакцыі газеты, у якой працаваў Марсэль. Жанчыны ўжо добра ведалі адна адну па голасе.

– Перадаю слухаўку вашаму мужу, пані Блан.

Значыць, ён быў у рэдакцыі. І нічога яшчэ не піў. Бо варта было яму выпіць два-тры глыткі аперытыву, і яна прыкмячала гэта па тым, як ён гаварыў: язык у яго ўжо тады трохі заплятаўся. Ёй, дарэчы, падабалася слухаць Марсэля, калі ён быў крышачку на падпітку: ён быў тады такі добры, лагодны – бы дзіця. Яму яна пра гэта не

казала, але заўсёды слухала яго ў такія моманты прыязна.

– Гэта ты, зайчык? Калі ласка, не крыўдзіся, павячэрай без мяне. У мяне ў кабінеце Джон Дзіксан… Ага, Тэрнераў мэнэджэр… Настойвае, каб я павячэраў з ім перад матчам, ну, ніяк нельга адмовіцца…

Жэрмэн успомніла, што Марсэль мусіў пайсці на матч па боксе. Гэтага спорту яна не любіла. Апроч таго, адразу ж зразумела, што сёння ў яго рабочы вечар, а ў такія яна старалася не замінаць яму.

– Ведаеш, гэтыя баксёрскія заўзятары не дужа пакутуюць ад залішняга выхавання, дык я баюся, што пацапаюся з імі.

– Што ты будзеш рабіць, зайчык? У кіно пойдзеш?

– Не ведаю яшчэ. Відаць, пайду дамоў.

– Я вярнуся недзе ў адзінаццаць трыццаць. Пасядзім трохі, гарбаты вып'ем… Я напішу матэрыял, занясём яго разам у рэдакцыю. А можа, хочаш пасядзець, як закончу, у шынку?..

– Не, пабудзем дома.

Ёй не стала сумна. Вядома, яна і не павесялела, але трэба было прывыкаць. Такая ўжо ў яго работа. Павячэрала адна. Два ці тры разы ледзь не загаварыла сама з сабою, нахіліўшыся над талеркаю, так прывыкла ўжо думаць уголас.

– Дэсэрту не будзеце? А мо кавы, пані Блан?

– Дзякуй… Не хачу болей…

Праходзячы каля рэкламных агнёў кінатэатра, падумала: дарма сказала, што адразу вернецца дамоў. Але потым заспяшалася. Настрой у яе быў цудоўны, быццам гэта свята – чакаць мужа, пакуль ён вернецца. Дагэтуль яна чакала яго зазвычай ці ў барах, ці ў шынках, дзе ён назначаў ёй спатканне. Такім чынам, яны, па сутнасці, і да кватэры сваёй як след не прывыклі.

Яна прайшла пехам па вуліцы Каленкур, якая спакваля аціхала і ўсё больш выдавала на правінцыйную – па меры таго, як аддаляліся Манмартрскія бульвары. Вечар быў мяккі, даволі цёплы як на снежань, але даждлівы. Лёгкі туман ахутаў вулічныя агні пяшчотнай смугою.

Іх дом быў на рагу вуліц Каленкур і Ламарк, каля плошчы Канстанціна Пэкэра. Яна ўбачыла яго здалёк,

разгледзела на сёмым паверсе доўгі рад балконаў з жалезнымі парэнчамі, адзін з якіх быў іхні.

Праходзячы па калідоры, павіталася з брамніцай, якая мыла на ноч ногі свайму маленькаму сыну. Ліфт стаяў. Адзінае, што крышачку пагоршыла настрой. Падымаючыся па лесвіцы, бачыла вузкія палоскі святла пад дзвярыма, чула радыё, людскую гамонку, пахі шматкватэрнага жытла.

«А ў вас ёсць кватэра, га?» – спытаўся ён у яе чатыры месяцы назад сваім непаўторным голасам, ні кропелькі не падобным на чый-небудзь іншы, – ніколі нельга было ўгадаць, ці жартуе ён, ці гаворыць сур'ёзна.

Гэта было ў Марсанзе, на беразе Сены, дзе яны пазнаёміліся ў канцы лета. Жэрмэн каторы ўжо год ездзіла туды адпачываць па выхадных са сваімі прыяцелямі. Адзін хлопец неяк прывёў у іх кампанію Марсэля, і той пачаў заходзіць у катэдж, дзе яны спыняліся.

«Я здымаю мэбляваны пакой».

«Я таксама. Вам гэта даспадобы?»

«А што зробіш, калі нічога лепшага няма?»

«Дык вось, я знайшоў на днях кватэру…»

Свая кватэра! Цуд з цудаў! Мара паўмілёна парыжан!

«Чакайце! Гэта на Манмартры. З усіх вокнаў – гарадская панарама. І балкончык ёсць. Не большы, праўда, за тры насоўкі, але паснедаць на ім у сонечнае надвор'е можна. Калі яно сонечнае… Я ўжо заплаціў. Цяпер шукаю жонку. Гэта тэрмінова, пятнаццатага кастрычніка перабіраюся».

Памаўчаўшы, дадаў:

«Кухня, сталоўка, спальня, балкон, ванная – як вам усё гэта?..»

Ёй гэта была ўсё яшчэ вялікая радасць: выйшаўшы на сваю лесвічную пляцоўку, апусціць руку ў сумку, пашукаць там ключ, адчыніць дзверы, запаліць святло, кінуць позірк на Марсэлевы паліто, люльку, пантофлі ў спальні…

– Шкада, дарагі, што цябе няма дома, – сказала яна сама сабе. – Прабавілі б разам цудоўны вечар…

Размаўляючы ўголас, яна пачувала сябе весялей. Усё-такі надта часта заставалася дома адна. Марсэль жартаваў:

«Разумееш, я яшчэ не зусім прызвычаіўся быць мужам, але гэта прыйдзе, пазней, калі мне будзе… калі мне будзе, як ты думаеш, колькі?.. Пяцьдзесят? Шэсцьдзесят?»

Яна пачала была чытаць. Пасля вырашыла навесці парадак у гардэробе: дзе перашыць гузік, дзе паглядзець, ці не распаролася што. У дзевяць гадзін зірнула, колькі часу, і падумала, што матч у зале «Ваграм», пэўна, пачаўся. Уявіла заліты святлом рынг, запоўненыя балельшчыкамі трыбуны, баксёраў, Марсэля за журналісцкім столікам.

А палове адзінаццатай – яна ўсё яшчэ аглядвала адзенне – зазваніў тэлефон. Апарат у іх паставілі толькі тыдзень назад, яна яшчэ не прывыкла да яго – і таму адразу ж ускочыла.

– Гэта ты, зайчык?

Пачуўшы мужаў голас, Жэрмэн падумала, што Марсэль тэлефанаваў ёй дадому ўпершыню. На тыдні ён званіў ёй у краму сясцёр Каро, дзе яна працавала, і рабіў гэта крыху часцей, чым хацелі б патранэсы.

– Ну, што робіш?

– Гузікі перашываю…

Нешта не спадабалася ёй у Марсэлевым голасе, а што, пакуль зразумець не магла. Ён яшчэ не піў, яна гэта адчувала, аднак голас у яго быў нейкі незвычайны. Нібыта няёмка яму было, акурат як тады, калі спрабаваў маніць.

– Не ўмееш ты хлусіць! – сказала яна, пасля паўтарыла гэта яшчэ і яшчэ.

– Проста хацеў сказаць табе: «Добры вечар», – прамармытаў ён у адказ. – Ну і матч зараз пачнецца!.. Людзей – яблыку няма дзе ўпасці… Чуеш, мусіць, як тут?..

Але колькі яна ні напружвала слых, не чула ніякага шуму ўсхваляванай залы.

– Думаю, што да апоўначы вярнуся… Алё!.. Чаму ты маўчыш?..

– Я цябе слухаю…

– Ты не ў гуморы?

– Ды не…

– Сумна?..

– Не, мілы… Не разумею, чаму ты турбуешся…

– Не турбуюся я… Слухай… Калі я…

Жэрмэн вырашыла, што зараз усё-такі дапытаецца, чаму ён ёй пазваніў.

– ...калі я трохі спазнюся...

– Ты думаеш, прыйдзецца? – перапыніла яна.

– Не... Але ж ты сама ведаеш, як усё ў нас... Можа, мне трэба будзе прапусціць з арганізатарамі шкляначку...

– Надоўга затрымаешся?

– Ды не... Да сустрэчы... Цалую...

Ён зымітаваў пяшчотны пацалунак.

– Марсэль, я... – пачала была яна, але ён паклаў слухаўку.

Жэрмэн з сумам глядзела на бялізну і адзежу вакол сябе.

Калі яна была абсалютна ўпэўнена, што першы званок і праўда быў з рэдакцыі, бо пазнала сакратарчын голас, дык гэтым разам ніщто ўжо не пацвярджала таго, што Марсэль званіў з залы «Ваграм», – наадварот, яна была перакананая: тэлефанаваў ён не адтуль.

У адзінаццаць Жэрмэн расклала ўсё па шуфлядах. Што ж рабіць далей? Збіралася ўжо зноў узяць у рукі кнігу. Але ўбачыла выпадкова на крэсле Марсэлева паліто з вярблюджай воўны і ўспомніла, што колькі дзён таму прыкмеціла на ім гузік, які вось-вось павінен быў адарвацца. Было тое ў горадзе, а вярнуўшыся дамоў, яна пра гузік забылася. І вось цяпер, кінуўшы позірк на паліто, усміхнулася, бо згадала іх колішнюю размову.

Марсэль быў вельмі какетлівы, іншы раз аж занадта. У адзенні любіў светлыя колеры, гальштукі падбіраў яркія.

Неяк раніцаю ў Марсанзе, яшчэ да таго, як загаварылі пра кватэру, яна сказала яму:

«Вы згубілі гузік з вашага світэра...»

«Не, не згубіў, ён у мяне ў кішэні».

«Тады дайце яго мне, я прышыю...»

«Уяўляю, што з вамі будзе, калі выйдзеце замуж!» – засмяяўся Марсэль.

«Што?»

«Я так заўсёды кажу, калі хто з сяброў жэніцца. Маладыя жонкі так любяць прышываць мужам гузікі, што я падазраю, быццам яны адрываюць іх наўмысна: каб зноў прышыць. Калі ў вас гэтая звычка з'явілася да таго...»

Гледзячы на паліто, якое яна паклала ўжо сабе на калені, Жэрмэн засмяялася. Прасунула нітку ў іголку – і раптам намацала рукою ў кішэні ў мужавым паліто нешта

нязвыкла вялікае.

Яна і не думала ніколі корпацца ў Марсэлевых кішэнях. Раўніваю яшчэ не стала. І, магчыма, не будзе ёю ніколі, гэтак верыла яму, такому ласкаваму і пяшчотнаму.

Прадмет быў цвёрды. Ён не быў падобны ні на адну рэч, якія Марсэль клаў звычайна ў кішэню, і не з цікаўнасці, а з любові да парадку дастала.

Калі яна ўбачыла, што гэта было, аж змянілася ў твары. Нейкі час яна была абсалютна нерухомая, разгубленыя вочы напаўняліся жахам.

У руцэ ў яе быў маленькі фарфоравы парсючок.

* * *

Яна паглядзела на гадзіннік: палова дванаццатай. Ружовы парсючок ляжаў на стале перад ёю. Паліто спаўзло на падлогу. Жэрмэн набірала нумар на тэлефонным дыску – рука ў яе дрыжала, – але кожны раз абанент быў заняты.

Яна сціснула пальцы і раз за разам зноў набірала нумар, быццам гэта было пытанне жыцця і смерці і секунды вырашалі ўсё. Зноў няўдача. Жэрмэн устала, пагартала тэлефонны даведнік і ўпэўнілася, што нумар яна не пераблытала.

Калі Марсэль пазваніў а палове адзінаццатай, матч толькі пачынаўся. Колькі часу ідзе бой у лёгкай вазе? Раз на раз, відаць, не прыходзіцца. А пасля што магло здарыцца? Ці хутка разышліся балельшчыкі? Ці пайшлі дамоў арганізатары адразу ж пасля іх?

– Алё! Зала «Ваграм»?

– Яна самая, пані.

– Скажыце, пане, калі ласка, матч ужо закончыўся?..

– З паўгадзіны назад…

– Усе разышліся?.. А з кім я гавару?

– З дзяжурным электрыкам… Тут яшчэ багата людзей…

– Зрабіце ласку, спытайцеся, ці ёсць там пан Марсэль Блан… Але, Блан… Ну, журналіст… Дык спытайцеся, ці там ён яшчэ… Ён павінен быць з арганізатарамі… Гэта вельмі важна… Я вас прашу, зрабіце ўсё, што можаце, каб знайсці яго… Алё!.. Так, калі ён яшчэ там, паклічце яго да тэлефона…

Чакаючы, яна пашкадавала, што была такая нястрыманая і цяпер вось уткнулася, мусіць, Марсэлю сваім недарэчным званком. Што яна яму скажа?..

Можа, ён вернецца, пакуль яна будзе чакаць яго каля тэлефона. На лесвіцы пачуліся чыесьці крокі. Не, гэта на чацвёртым паверсе. А што, калі ён узяў таксі адразу ж пасля матча?.. Марсэль не любіў чакаць аўтобусаў, а ў метро ўвогуле не ездзіў: баяўся...

– Алё... Што вы кажаце?.. Яго ў вас няма?.. А вы не ведаеце, ці...

Электрык паклаў слухаўку. Яна зноў разгублена ўтаропілася вачыма ў ружовага парсючка на стале... Бясхвостага парсючка...

– Слухай, Марсэль, трэба, каб ты мне сказаў, – забыўшыся, вымавіла яна.

Але Марсэля тут не было. Яна была адна, і ёй раптам стала жудасна ад свайго адзіноцтва. Жэрмэн падышла да акна, адчыніла.

Ноч была светлая, цемрадзь разрэджвалася нейкім шэрым блакітам. Выразныя абрысы дахаў, комінаў, кароткіх і доўгіх вуліц, абрысы зіхоткіх ліхтароў... Манмартрскі бульвар, Белая плошча, плошча Пігаль, Мулен-Руж, сотні начных рэстарацыяў, шынкоў, піўнушак, усюды вакол іх – слабае святло...

Па вуліцы Каленкур паволі ўзбіраліся ўверх легкавыя аўтамабілі. Кожны раз, калі адзін які спыняўся, Жэрмэн здавалася, што зараз з машыны выйдзе Марсэль і яна ўбачыць, як нязмушана павернецца ён да шафёра, каб расплаціцца, пасля кіне позірк на іх вокны. Глядзела яна і на аўтобусны прыпынак каля дома: было позна, і з кожнага выходзілі, падымаючы каўняры, толькі два-тры чалавекі, не больш.

– Гэтага не можа быць, Марсэль, – ціха сказала сама сабе...

Раптам яна адчула, што не можа больш заставацца ў хатнім халаце – прыйшоўшы дамоў, Жэрмэн, як звычайна, дараадзелася. Яна хутка прайшла ў спальню, узяла шарсцяную сукенку – першую, якая трапілася. Тую самую, зашпілька ў якой была на спіне і якую Марсэль так любіў адшпільваць, цалуючы яе ў патыліцу.

Чаго яна баялася? Прайшло, можа, некалькі дзён ці,

сама больш, тыдняў, як фарфоравы парсючок апынуўся ў кішэні яго паліто. Калі Марсэль апранаў яго? Трэба было ўспомніць: у яго ж былі толькі два паліто. І ўвогуле, яна павінна была згадаць гэта, бо кахала яго і таму ўсё ў ім прыкмячала. Сто разоў на дзень яна ўпотайкі з захапленнем разглядвала яго, асабліва ягоную дужую постаць. А як любіла яна глядзець на мужа, калі ён тушыў цыгарэту: Марсэль рабіў гэта так элегантна!

Удзень яны яшчэ паабедалі разам, і не ў «Французска-італійскай» рэстарацыі, куды звычайна хадзілі ўвечары, а бліжэй да Вялікіх бульвараў, у «Матухны Катрын»… Але яна ніяк не магла ўзгадаць, калі ён апошні раз апранаў гэтае паліто!..

Ва ўсякім разе, сама меней дзён восем таму, бо на тым тыдні яна насіла паліто ў хімчыстку.

А яшчэ ўпэўненая была, што нічога не абмінала ў мужу сваёю ўвагай! Ён расказваў ёй усё, нават рэдакцыйныя анекдоты. Бесперапынку званіў ёй. Яны часта сустракаліся ўдзень. Калі ў яго толькі з'яўлялася вольная хвілінка, ён заскокваў да яе ў краму – проста каб сказаць «добры дзень».

Жэрмэн павярнулася да балкона і, усхваляваная, яшчэ больш збляднела…

«Ты ж ніколі не ездзіла ў горы катацца на лыжах?» – спытаўся ён неяк у яе.

«Не, – адказала яна, – адзін раз была, але як прадаўшчыца: сёстры Каро адчынялі ў Межэў сезонны філіял».

«Табе спадабалася там? Як ты думаеш, дадуць табе два тыдні адпачынку? Вось давяду да ладу адну справу, і махнём удваіх!..»

Чаму яна не пагаварыла з ім сур'ёзна, не сказала, што такія забавы не для іх?.. Ёй, вядома, прыемна было гэта чуць, але яна ў гэта ні секунды не верыла. Часам ён дурыў ёй галаву і не такімі пражэктамі, зусім ужо фантастычнымі, і кожны з іх патрабаваў шалёных грошай, больш, чым папярэдні, быццам у іх гэтых грошай мора было – на адны ж яго рэпартажы ды яе невялікую зарплату і жылі.

Толькі і сказала яму:

«Ты нарадзіўся, каб быць багатым. Усё хочаш мець…»

«Асабліва для цябе, – адказаў ён нязвычна сур'ёзна. – Я яшчэ і машыну хачу купіць… З тае пары, як ведаю цябе, проста нясцерпна хачу…»

«Ты ўмееш вадзіць?»

«У мяне была калісь машына…»

Яна не стала пытацца, калі гэта было. Урэшце, яны нічога не ведалі адно пра аднаго – кахаліся толькі, ды ўсё. І тое, што яны сышліся, таксама было чымсьці накшталт вясёлай гульні.

«У цябе ёсць бацькі?»

«Мой бацька… – пачаў быў ён і раптам змяніў тон. – Ну, вядома, у правінцыі!.. Але ты ў маім жыцці галоўны чалавек… Няма ў мяне нікога болей… Займіся паперамі… Будзем распісвацца ў дзевятнаццатай акрузе…»

У гэтай акрузе, каля сквера святога Георгія, Жэрмэн здымала мэбляваны пакой.

«Там не вельмі брудна, у аддзяленні мэрыі?.. Праўда, што калі мы там будзем…»

Зноў праехала таксі. Не, не спынілася. Яна паглядзела на гадзіннік. Мінула поўнач. Мінакі цяпер былі настолькі рэдкія, што Жэрмэн нават чула, як аціхалі ўдалечыні іх крокі.

«Мне трэба было сустрэць цябе тры гады таму…»

«Чаму?»

«Бо калі малады, дык растрачваеш час…»

Яна помніла процьму такіх фраз. І значэння ім ніякага нібыта не надавала, але яны пастаянна ўсплывалі ў памяці.

Увогуле ён быў тэмпераментны, і ўсё ў яго выходзіла неяк нязмушана. Натуральная была ў яго весялосць, гуллівая. І, аднак, бывалі моманты, калі ён рабіўся раптам вельмі сур'ёзны.

«Ты ўбачыш, што я не такі благі, як здаецца…»

«Чаго гэта ты благі?..»

Ён смяяўся, цалаваў яе.

«Урэшце, я ад іншых не адрозніваюся… Ёсць ува мне і добрае, і кепскае – так перамяшалася, што, бывае, і сам не магу разабрацца, што я за тып…»

Толькі б ён вярнуўся! Пад'ехаў у таксі да дома, выйшаў з машыны, павярнуў за рог… Толькі б яна пачула на лесвіцы яго крокі!

Чаму ён пазваніў а палове адзінаццатай?.. Чаму ў яго быў такі ненатуральны голас, нібыта ён, калі тэлефанаваў першы раз, нешта ад яе ўтойваў?

Дарэмна яна званіла ў залу «Ваграм». Цяпер ёй гэта было ясна. Невядома яшчэ, да чаго яно можа прывесці... Ці сказала дзяжурнаму электрыку, што яна Марсэлю жонка? Гэтага Жэрмэн ужо не памятала.

Ды не! Немагчыма, каб менавіта сёння... Чаму якраз сёння?..

Але чаму тады ён гаварыў з ёю пра адпачынак у гарах і нават пра аўтамабіль? На якую такую справу, што трэба давесці да ладу, мог разлічваць? Што ў яго было, апроч рэпартажаў пра спорт? Адсоткі, якія атрымліваў як удзельнік маленькага акцыянернага таварыства? Але там ён мог зарабіць максімум некалькі тысяч франкаў.

Яна зноў падышла да тэлефона. Не, не трэба. Вярнулася да балкона. На вуліцы ішоў дробны, але шумны дождж. Паветра было свежае. Уначы Парыж рабіўся больш загадкавы. Чаму ж Марсэль не вяртаецца?..

Тэлефон... Яна падыходзіла да яго, перадумвала званіць, адыходзіла, вярталася зноў...

– Алё... Міжгародні?.. Будзьце ласкавы, пані, дайце мне Жуанвіль, нумар сто сорак сёмы...

Глядзець гэты нумар у даведніку ёй не трэба было.

Ёй чуўся бой гадзінніка на тэлефоннай станцыі. Бог яго ведае чаму, але яго ўдары будзілі ў ёй успамін пра вялізны, пусты бацькаў дом...

– Ніхто не адказвае...

– Пазваніце яшчэ раз, прашу вас, пані... Я ўпэўнена, што гаспадар дома... Проста спіць у гэты час – вось і ўсё... Яшчэ раз, зрабіце ласку...

Зноў званок... Чакаючы, яна ўслухоўвалася ў цішыню... Крокі на лесвіцы... Сцішыліся, не ягоныя... На вуліцы спынілася таксі... Аўтобус...

– Алё... Гэта я, Жэрмэн... Ты спіш?.. Праўда, спіш?.. У цябе нікога няма?

Загаварыўшы, яна адразу ж зрабілася змрочная.

– Прабач, што разбудзіла... Што ты кажаш?.. Падагра?.. Даруй, не ведала... Ды не, нічога...

Голас на тым канцы лініі быў бурклівы. Акурат голас чалавека, хворага на падагру, які вымушаны быў у час

прыступу ўстаць сярод ночы з ложка і спусціцца на першы паверх да тэлефона.

– Трэба, каб ты сказаў мне дакладна, ці ведаеш такога чалавека, як Марсэль Блан…

– Мне прозвішчаў не называюць, – раздражнёна адказаў чалавек.

– Гэта неабходна… Ты разумееш?.. Марсэль…

– А што будзе, калі адкажу?

– Ты яго ведаеш?

Ні слова адказу.

– Трэба, каб ты адразу ж адказаў… Гэта вельмі важна. Апошняе, пра што я ў цябе пытаюся… Ты яго ведаеш?

– Што ён сабой уяўляе?

– Дваццаць пяць гадоў… Прыгожы малады мужчына… Брунет, элегантны… Часта апранае паліто з вярблюджай воўны, – затаіла яна дыханне, – светлае, зусім светлае…

Зноў цішыня.

– Ты яго ведаеш?

– А ты?

– Якая розніца! Адказвай. Ведаеш?

– А што будзе, калі адкажу?

– Нічога… Проста мне трэба знаць… Ты ж яго ведаеш, га?..

Ёй здалося, што нехта падымаўся па лесвіцы. Але, як выявілася, гэта быў кот.

– Заедзь да мяне, як захочаш…

– Не кладзі слухаўку… Чакай… Што я хачу, каб ты мне сказаў, дык толькі тое, ці збіраецца ён гэтым вечарам…

– Што?

– Ты не разумееш?

– Я думаў, ты выйшла замуж…

– Але… Гэта… – Пасля некаторых ваганняў яна даказала: – Гэта мой муж.

І чаму ёй здалося, што чалавек на другім канцы лініі пацïснуў плячыма?

– Ідзі спаць, – толькі і сказаў ён.

Дарэмна спрабавала яна пасля гаварыць нешта ў апарат. Сто сорак сёмы жуанвільскі абанент паклаў

слухаўку.

Ужо была палова другой ночы, а Марсэль усё яшчэ не вярнуўся. На стале побач са скрынкаю з прыладамі для шіва ружавеў бясхвосты парсючок, а паліто з вярблюджай воўны ўсё яшчэ ляжала на дыване.

## Раздзел другі. ГАНДЛЯР БЯСХВОСТЫМІ ПАРСЮЧКАМІ

Гадзіны ў чатыры раніцы з усіх вокнаў, якія можна было бачыць з балкона кватэры Бланаў, святло гарэла толькі ў адным, дый тое за штораю там угадвалася постаць чалавека, які, мяркуючы па ўсім, даглядаў хворага.

Марсэль не вярнуўся. Ён не пазваніў, не даў па сабе знаку, і роўна а пятай гадзіне Жэрмэн вырашыла зрабіць яшчэ адзін тэлефонны званок.

– Алё... Гэта ты, Івэта?.. Спіш, бедная?.. Не злуйся на мяне... Ну, гэта я, Жэрмэн... Але... Хочаш выручыць мяне?.. Што ты кажаш?

Дзяўчына на другім канцы лініі прамармытала:

– Ну, што табе?..

Івэта працавала разам з ёю. Гэта была мажная дзяўчына дваццаці васьмі гадоў, зусім непрыгожая. Яна ведала сваю непрывабнасць і, адкінуўшы ўсякую зайздрасць да панаднай Жэрмэн, патрапляла заставацца лепшай яе сяброўкай – сама вясёлай і зычлівай.

– Хуценька апранайся, няважна як. А каб хутчэй паспела, закажу табе таксі. Адразу ж едзь да мяне...

Сказаўшы: «Ну, што табе?..» – Івэта не выявіла ні здзіўлення, ні цікаўнасці. Праз чвэрць гадзіцы яна ўжо была ў Жэрмэн.

– Ты, мусіць, здзіўлена...

– Усякае бывае, цётка...

– Марсэля няма...

– Я і не сумнявалася. Калі б быў, ты б мяне не клікала...

– Я табе пазней усё растлумачу... Не, скажу табе шчыра, я не змагу растлумачыць гэта, нават табе...

– Куды мне ісці шукаць яго?.. Сказаць яму, што ты захварэла ці што стралялася?

– Гэта я выйду... Ты застанешся тут... Толькі слухай... Сядзі каля тэлефона... Пазвоняць – запішы як след, што

скажуць... Калі гэта будзе Марсэль, скажаш, хто ты... Ён цябе ведае... Скажы яшчэ, што я выйшла і хутка вярнуся... Калі ж ён прыйдзе, скажы тое самае... скажы, што я ўстрывожылася... і пайшла яго шукаць...

– Палова пятай, – заўважыла Івэта. – І раздзявацца не варта... Можна легчы на канапу?..

– Вядома!

– Піць у цябе нічога няма?..

– Ёсць бутэлька каньяку ў насценнай шафе...

Праз хвіліну-другую Жэрмэн ужо садзілася ў таксі, якое прывезла сюды Івэту і чакала дагэтуль новага кліента.

– У Жуанвіль... Уздоўж Марны... Я скажу, дзе спыніцца.

Яна супакоілася, узяла сябе ў рукі. Чакаць яна ўжо больш не магла. Трэба было нешта рабіць.

Вуліцы былі пустыя, толькі некалькі грузавікоў з гароднінай праехалі на рынак.

Менш чым праз паўгадзіны таксі ўехала ў Жуанвіль. Трохі пазней Жэрмэн спыніла машыну каля вялікай адзінокай вілы на беразе ракі.

– Чакайце мяне, калі ласка.

Яна пазваніла. Ведала, што не хутка адчыняць. Да таго як пачула першыя мяккія крокі за дзвярыма, дакладней, перш чым, напружыўшы слых, угадала іх, званіць прыйшлося некалькі разоў. Цяпер чакала, пакуль гаспадар уважліва разгледзіць яе праз вочка ў дзвярах. Нервавалася. Ішоў дождж. Яна была ўжо ўся мокрая.

– Гэта я, – сказала Жэрмэн. – Адчыні.

– Прынесла ж цябе халера! – прабурчаў за дзвярыма бацька.

Аднак адчыніў. Зачыніўшы за ёю дзверы, запаліў ярчэйшае святло і запрасіў дачку ў пыльную, няпаленую залу. Там было сыра, непрыбрана, пахла цвіллю.

– Не вярнуўся муж? – спытаў ён, хутаючыся ў халат, асцярожна сеў у старое крэсла.

– Калі б вярнуўся, мяне б тут не было.

Гэты вялізны чалавек з гадамі стаў азызлы, твар у яго праз хваробу сасудаў пабарвовеў ледзь не да сінявы, пад вачыма з'явіліся страшэнныя мяшкі. Час ад часу ён дакранаўся рукою да распухлай ад падагры нагі.

Бацька глядзеў на дачку з цікаўнасцю. Не без іроніі,

але і крыху задаволена.

– Ну, як жывеш?.. Не заязджаеш... Не варта задужа казырыцца... Калі я іншы раз думаю пра ўсё, што ты мне колісь напляла...

– Пасля пра гэта... Я прыехала пагаварыць з табой сур'ёзна... Ты ведаеш Марсэля...

– Ты ж не лічыш, мусіць, што я ведаю толькі аднаго Марсэля... Ты б хоць прозвішча сказала, а не задавала загадак... Што з ім здарылася, га?.. У турму засадзілі?

Яна не стала абурацца, толькі прашаптала:

– Не ведаю... Ён яшчэ не вярнуўся дамоў сёння ноччу... І я выпадкова знайшла ў яго ў кішэні аднаго з тваіх парсючкоў... Калі ён прыходзіў да цябе?

Бацька, якога ўсе ведалі як пана Франсуа, праводзіў на гэтай вялізнай цаглянай віле толькі ночы і выхадныя. У самым цэнтры Парыжа, каля сабора святой Маці Ларэты, за два крокі ад залы мастацкіх выстаў Друо, у яго быў вялікі салон антыкварыяту, які больш выдаваў на краму старызніка. У краме можна было знайсці ўсё: старадаўнія фатэлі, сакрэтнікі, зжаўцелыя эстампы, карціны – нібыта арыгіналы, кітайскія забаўкі з нефрыту, вырабы са слановай косці...

Там, таксама, як і на віле, было пыльна, адусюль патыхала старызнаю, дый сам гаспадар крамы быў заўсёды ў пракаветным, завэдзганым гарнітуры, які проста вісеў на ім, – локці свецяцца, засалены каўнер ажно блішчыць.

– Дні тры-чатыры назад, – адказаў ён.

У глыбіні крамы можна было ўбачыць на паліцы некалькі бясхвостых парсючкоў, адзін з якіх, знойдзены ў кішэні ў Марсэлевым паліто, так усхваляваў Жэрмэн. А ў падсобным памяшканні гэтых парсючкоў была цэлая скрыня.

Калісьці іх было тысяча – падобных адзін на адзін як дзве кроплі вады. Адсутнасць звычнага скручанага хвосціка, які надае жывым парсючкам такі вясёлы выгляд, рабіла іх фарфоравых братоў вельмі прыкметнымі.

Некалькі гадоў таму ў краму прыйшоў коміваяжор і паказаў пану Франсуа адну такую забаўку.

«Гэта сапраўдны ліможскі фарфор, – растлумачыў ён. – Іх роўна тысяча – абсалютна аднолькавых. Не буду

расказваць пра тонкасць фарфору і колеру: самі бачыце. Гэта частка велізарнага заказу… Партыя розных жывёлін, на экспарт… Што здарылася, пра што думаў мастак, як так магло выйсці, што на заводзе ніхто не прыкмеціў памылкі, не ведаю. Так ці інакш, праца была выканана, калі ўрэшце нехта заўважыў, што парсючкі бясхвостыя… Ну, дык вось, пан Франсуа: бясхвостых іх ніхто не хоча купляць… Я аддаю вам усю партыю, тысячу штук… Колькі вы за яе дасце?..»

Гаспадар назваў смяхотную цану – і назаўтра ў яго былі поўныя скрыні гэтага дабра. За год ён прадаў толькі двух парсючкоў: кожны раз, калі паказваў забаўку кліенту, той круціў галавою:

«Шкада як, што хвост адламаны…»

«Ён не адламаны – яго ніколі не было…»

Аднак патроху парсючкі знікалі адзін за адным з крамы. Больш таго, тыя кліенты, што забіралі іх, не прадавалі забаўкі зноў, не шукалі нічога ў краме, толькі пыталіся, ледзь пераступіўшы парог:

«У вас ёсць фарфоравыя парсючкі?»

Пры гэтым адбывалася нешта зусім дзіўнае. Калі кліент пытаўся пра цану, гаспадар думаў больш, чым звычайна, і называў амаль кожны раз іншую.

«Дваццаць два франкі…»

Або дваццаць адзін ці дваццаць тры, радзей – менш за дваццаць. А іншы раз, напрыклад, і ўвогуле толькі адзін франк.

Дваццаць два франкі – дваццаць дзве гадзіны, вось што гэта значыла. Дзесяць гадзін вечара. Адзін франк – гадзіна ночы. У гэты час пан Франсуа мусіў чакаць кліента ў сябе на віле.

Такім чынам, усе гэтыя людзі маглі прыходзіць да гаспадара ў краму, і ніхто чужы ні пра што не здагадваўся. Дый госцю, нават новаму, не трэба было нічога расказваць: толькі ён пытаўся пра парсючкоў, як адразу ж рабілася ясна, што прыслаў яго сюды свой чалавек, які прадаў яму арыгінальную забаўку, – і гаспадар назначаў кліенту час спаткання ў Жуанвілі.

– Ён прынёс табе што-небудзь? – спытала Жэрмэн, утупіўшыся позіркам у бацьку.

– Гэты раз – не, – паціраў той хворую нагу.

Марсэль прыходзіў да яго тры ці чатыры дні назад... А пяць-шэсць дзён таму гаварыў з ёю пра паездку ў горы...

– Ну, і чаго яму ад цябе было трэба?..

– Таго, дзеля чаго звычайна прыходзяць, калі з грашыма нявыкрутка... Бабкі прасіў... Калі ў іх ёсць што піхнуць мне, тады яны памяркоўныя і прымаюць маю цану моўчкі... А як не свеціць нічога, дык тон у іх мяняецца... Песня адна і тая ж: «Вы няблага зарабілі на мне... Апошні раз вы мяне абдурылі... Вы б маглі пазычыць мне колькі тысяч, пакуль выгарыць справа...» І тут яны пачынаюць расказваць, на што выйшлі. Ну, сенсацыйныя проста палотны: Рэнуар, Сезан, а то ажно і старыя майстры... «Праз тыдзень прынясу, не, праз пяць дзён, добра?.. Трэба, каб я пачакаў зручнага выпадку, разумееце?.. Гэта ж больш у вашых інтарэсах, чым у маіх: які будзе мой заробак – і які ваш...»

Ён перадаў усё гэта ляніва, з пагардаю. Уздыхнуў.

– Усе аднолькавыя! Думаюць, я скупы. Дзіўлюся нават, як гэта хто з іх не прыйдзе сюды, каб прыкончыць мяне ды прыхапіць мае бабкі... Бо ж думаюць, я сплю над імі, што матрац у мяне набіты купюрамі, золатам...

Зрэшты, Жэрмэн знала, што ён не быў скупы. Яна была, бадай што, адзіны чалавек, які ведаў яго. Бацька не быў скупы – ён быў маньяк.

Мала якія з карцін і іншых каштоўнасцей з тых, што кралі яму на вілах і ў багатых кватэрах гэтыя дурні (як казаў, бязмерна пагарджаючы кліентамі, пан Франсуа), прадаваліся. Аматар мастацтва згаджаўся развітацца з некаторымі набыткамі толькі тады, калі яны выклікалі ў яго сумненне ў сваёй арыгінальнасці або былі відавочна другарадныя.

Лічылі, што няўвартыя рэчы ішлі ў Амерыку, а большасць калекцыі, творы сапраўды каштоўныя, заставаліся на віле, і па вечарах стары ў адзіноце з асалодаю аглядаў сваё багацце.

– Ты яму што-небудзь даў?

– Не.

– Што ён табе сказаў?

Яна добра ведала бацьку. Менавіта таму, што ведала, і пайшла аднойчы з яго дому. Ёй не было тады яшчэ і дваццаці.

Адзін з яго кліентаў, дваццацідвухгадовы хлопец, загінуў, здабываючы бацьку антыкварную рэч. Ён таксама купіў у аднаго з ранейшых кліентаў бясхвостага парсючка, прыйшоў у краму, на сценах якой віселі жудасныя літаграфіі ў чорных рамках. Хто б мог надумацца шукаць у гэтым склепе якія-небудзь шэдэўры?

Жэрмэн выпадкова апынулася сведкам іх размовы.

«Толькі дзве тысячы, – упрошваў малады чалавек. – Клянуся вам, што прападаю без іх... Мая сяброўка хворая... Трэба рабіць аперацыю... Я не хачу пасылаць яе ў дзяржаўны шпіталь... Вы разумееце?..»

Бацька ўздыхнуў:

«Што ты прынёс мне апошні раз?»

«Маленькага Манцічэлі, вы ж памятаеце... Вы далі мне хіба толькі за адну раму... Я пытаўся пасля і ведаю, што карціна каштуе сама меней сто тысяч франкаў...»

«Але ж яе яшчэ трэба прадаць і не папасціся... Бачыш, дружок, я таксама бедны чалавечак... Прынясі мне што-небудзь сур'ёзнае, і я заплачу табе як след... Я не настолькі багаты, каб строіць з сябе філантропа...»

«Але ж гэта будзе толькі аванс...»

«За што – аванс?»

«За тое, што на днях прынясу...»

«У цябе ёсць на прыкмеце што-небудзь вартае?»

Ясна было, што не. Хлопец вагаўся, расчырванеўся.

«Вось калі б ты прынёс мне Манэ... Толькі аднаго маленькага Манэ...»

У той час ён захапляўся Манэ. У яго пастаянна было якоесьці галоўнае захапленне.

«Што там ёсць?» – спытаўся хлопец.

«Яшчэ не ведаю... Відаць, усяго патроху, але гэта нялёгкая справа – прабрацца ўначы на выставу...»

«Ноччу яе сцерагуць... А электрычная сігналізацыя і процьма ўсялякіх новых штучак...»

«На тым тыдні адзін банкір набыў там на распродажы карціну, якая б мне спадабалася...»

«Што за ён?»

«Люка-Мартон... Запомні, тое, што я табе кажу...»

«Калі я прынясу вам ягонага Манэ, – перапыніў хлопец, – колькі вы мне дасце?»

«Хоць дваццаць тысяч... Трыццаць нават...»

Праз два дні Жэрмэн прачытала ў ранішняй газеце, што ў доме ў пана Люка-Мартона, у Версалі, начны вартаўнік забіў дваццацідвухгадовага злодзея ў той момант, калі той спрабаваў зламаць дзверы і залезці ў хатнюю галерэю.

«Ты чытаў?» – спыталася яна ў бацькі.

Ён прабег вачыма паведамленне – і нават жылка не сцепнулася ў яго на твары.

«Табе ўсё роўна?»

«А пры чым тут я? Га?..»

Яна б многае магла яму сказаць. Але маўчала. А пасля пайшла з дому. Праз месяц, абышоўшы ўсе бюро па працаўладкаванні, нанялася прадаўшчыцаю ў краму сясцёр Каро.

З тае пары Жэрмэн бачыла бацьку толькі адзін раз, у яго ў краме.

«Падпішы», – сказала яна яму, працягваючы паперу.

«Што гэта?»

«Бланк на твой дазвол выйсці мне замуж».

«За каго?»

«Якое гэта мае значэнне?..»

Ён нахіліўся і падпісаў, уздыхнуўшы:

«Як хочаш…»

Глядзеў ёй услед, калі яна выйшла з крамы, але Жэрмэн не азірнулася – і таму не ўбачыла, які ўсхваляваны быў у яго твар.

Цяпер яна была з ім вельмі халодная, цвёрдая. Дапытвала, як суддзя:

– Што ты яшчэ яму сказаў?

Як ніколі раней, не магла яна забыць таго забітага ў Версалі хлопца. Забітага за нейкія трыццаць тысяч франкаў. Куды ж гэтым разам паслаў бацька Марсэля? Марсэля, які меў патрэбу ў грошах толькі таму, што ажаніўся нядаўна і не мог адмовіцца ад задумы звазіць маладую жонку на адпачынак у горы…

– Нічога я яму не сказаў… Дамовіліся адно, што ён прынясе мне што-небудзь і я дам яму грошы…

– Ён да цябе часта прыходзіў?

– Пяць-шэсць разоў…

– За які час?

– За тры гады… Заўсёды прыносіў неблагія штучкі…

Калі што выгарала… Ён у гэтым разбіраецца… І не ўдаецца ў падрабязнасці…

Цяпер Жэрмэн зразумела, чаму – нібы насміхаючыся з самога сябе, як заўсёды гэта рабіў, калі казаў нешта сур'ёзнае, – прызнаўся ёй Марсэль:

«Шкада, што я не сустрэў цябе тры гады таму…»

Тады яна падумала, што ён жартуе. Яна ўвогуле ніколі не прымала ўсур'ёз яго прызнанняў, і шкадавала цяпер, што не зрабіла гэта тады!

«Я не які-небудзь жулік», – сказаў ён ёй неяк.

Яна зноў пачала распытваць бацьку.

– Апошнія месяцы ён прыходзіў?

– З год ужо, мусіць, як не быў…

– А цяпер я хачу ўсё-такі, каб ты сказаў, што іменна ты ў яго папрасіў. Чуеш?

Звычайны скупшчык крадзенага бярэ ўсё, што яму прыносяць, усё, што хоць нешта каштуе, што можна больш-менш лёгка прадаць. Але яе бацька быў не звычайны скупшчык, а чалавек, якога з'ядала маніякальная любоў да твораў мастацтва.

Размаўляў з тым хлопцам, якога забілі, пра Манэ… Гэта ж ён, урэшце, і паслаў няшчаснага на смерць у дом да банкіра…

– Адказвай…

– Цяпер я цікаўлюся перш за ўсё Рэнуарам… Не вялікімі штукамі, якія можна ўбачыць у любым музеі, а маленькімі Рэнуарамі… Жаночымі галоўкамі, нацюрмортамі… Ёсць нацюрморты, якія…

– Ты не сказаў яму, да каго ісці?

– Здаецца, не…

– Падумай…

– Не… З Марсэлем можна без гэтага… Ён сам добра ведае, дзе ёсць што вартае…

– Пачакай. Я пазваню…

Жэрмэн заказала свой нумар. Ледзь пачуўшы Івэцін голас, задрыжала. Тая была ўсхваляваная, думала, пэўна, што гэта званіў Марсэль.

– Гэта ты?.. Слухаю… Нічога, цётка… Я б табе з радасцю добрае што сказала, але, на жаль, нічога новага… Скажы мне вось што… Я тут кніжку захацела пачытаць, а знайшла толькі другі том… «Пармскі манастыр»… Не

ведаеш, куды ты першы засунула?..

Гэта нагадала Жэрмэн пра тое, што колькі дзён таму Марсэль чытаў, лежачы разам з ёю ў ложку, другі том «Пармскага манастыра».

– Ты не вяртаешся?

– Думаю, што хутка... Кніга павінна быць у спальні... Там ёсць невялічкая палічка побач з ложкам...

– Дзякуй... Жадаю ўдачы!..

Паклаўшы слухаўку, Жэрмэн ціха загаварыла сама з сабою. Пра бацьку, які хацеў легчы, ужо не думала.

– У газету званіць нельга: калі яго яшчэ не ўзялі, гэта будзе небяспечна... Цікава, ці аддаў ён у рэдакцыю рэпартаж?.. Калі аддаў, значыцца, заставаўся на матчы да канца, да адзінаццаці гадзін... Пасля пісаў, заносіў у рэдакцыю ці перадаваў праз кагось... У гэтым разе...

Яна зірнула на гадзіннік. Палова шостай. Яна ўжо праседзела ў бацькі амаль паўгадзіны. А лічыльнік у таксі з'ядаў пацiху грошы, якіх і так не было, толькі пра гэта яна не думала.

– Рэнуары... – пачала была яна, хочучы спытацца, дзе цяпер ёсць «малыя» Рэнуаравы творы.

– Шмат у каго яны ёсць, – уздыхнуў бацька. – Ехала б лепш дадому, паспала... Ну з чаго ты ўзяла ў галаву, што яго накрылі?.. Дый калі б павязалі, то гэта яму не задужа страшна: яго ж яшчэ не бралі ні разу... Разумееш? Іншая справа, калі б ён быў рэцыдывіст... З добрым адвакатам...

Яна зразумела. Бацька ёй не адкажа. Можа, не хоча, а хутчэй за ўсё, калі верыць яго словам пра Марсэля, проста не ведае, дзе той шукае грошы...

Грошы ці...

Не, гэтага не можа быць. Узяўшы сябе ў рукі, яна ўстала. Задуменна сама сабе паўтарыла:

– Рэнуары...

Чаму ёй здаецца, што менавіта ад яе залежыць выратаванне Марсэля? Ніводнага разу не падумала пра яго са злосцю. А чаму яна павінна была злавацца? Хіба не сама ўтойвала ад яго, хто ў яе бацька?

І, паколькі Жэрмэн была дачкою такога чалавека, яна ведала, як усё гэта робіцца. Перш за ўсё, думала яна, адпадае, што крадзеж, на які ён сёння, пэўна, пайшоў, быў даўно абдуманы. Тады б яна адчула, што голас у Марсэля

ненармальны, калі ён тэлефанаваў ёй яшчэ першы раз, у сем гадзін.

А палове адзінаццатай ён толькі прыняў рашэнне. Чаму менавіта ў дзесяць трыццаць? І чаму ў зале «Ваграм»?..

Бацька праводзіў яе да дзвярэй.

– На вуліцу Каленкур, – сказала яна шаферу на вуліцы.

Усё яшчэ ішоў дождж, па-ранейшаму дробны. Было холадна і ў таксі: акно да канца не зачынялася.

Марсэль, як і большасць бацькавых «кліентаў», мусіў дзейнічаць хіба што ў пустой кватэры. Так лягчэй. У Парыжы прыслуга амаль заўсёды кладзецца спаць не ў саміх апартаментах, а на сёмым ці восьмым паверхах, дзе ёй адведзены пакоі.

Але хлопец, якога ў Версалі забіў вартаўнік, памыліўся...

Яна зноў і зноў міжволі вярталася да пачатку.

Ён пазваніў другі раз а палове адзінаццатай...

Зала «Ваграм». Заліты святлом рынг... Канаты... Тысячы балельшчыкаў... Марсэль за столікам прэсы...

Напэўна, ідэя прыйшла яму ў галаву там... Рэнуары... Значыцца, ён некага ўбачыў там, у натоўпе, хто мае гэтых Рэнуараў... Некага, у каго кватэра будзе пустая да канца вечара...

Жэрмэн здалося, што прыдуманая ёю гіпотэза настолькі бясспрэчная, што яна ўжо і пад сумненне яе не ставіла.

Зала «Ваграм»... Адпачынак у гарах, магчыма, аўтамабіль, які ён так хоча мець... І гэты стары корч, які адмовіўся пазычыць яму колькі там тысяч франкаў, але затое абяцаў даць шмат больш, калі ён прынясе аднаго, некалькі маленькіх Рэнуараў...

Сярод гледачоў, твары якіх высвечвалі пражэктары, у сама першых радах, вядома, сядзеў нехта той, хто навёў Марсэля сваім з'яўленнем у зале на думку аб Рэнуары, зімовым адпачынку ў гарах, хуткім аўтамабілі...

І паколькі гэты нехта глядзеў у той час бокс, Марсэль вырашыў: небяспекі ў тым, што задумаў, няма...

Але чаму тады ён пазваніў ёй? Прадчуванне?.. Можа, ён, ні разу раней не злоўлены, адчуў раптам інтуітыўна,

што гэтым разам замах будзе няўдалы? Ці яшчэ вагаўся? Што, як яна пачала б настойваць на тым, каб ён вярнуўся раней, бо ёй сумна адной?..

Але не! Яна, наадварот, яшчэ пялася перад ім прыкінуцца бадзёрай! Ніколі не хацела замінаць яму ў чым-небудзь, бо з першага дня іх сумеснага жыцця вырашыла, што ён павінен адчуваць сябе з ёю вольным.

Нават не сказала яму, калі ён званіў увечары, што хацела:

– Не вяртайся надта позна...

А гэта зрабіла б любая жанчына.

Не прызналася яму, што ў гэты вечар у яе быў вельмі меланхалічны настрой.

Гэта была яе віна.

У яго была ў запасе прыблізна адна гадзіна.

Куды ж ён пайшоў? У які квартал?

А як з ключом? Звычайна гэта праблема, вырашэнне якой патрабуе часу. Трэба дастаць ключ ад кватэры або зрабіць злепак і ўжо з яго – сам ключ.

Часу ў Марсэля на гэта не было. Жэрмэн была ў тым упэўнена. Ёй хацелася верыць, што ён нічога загадзя не падрыхтаваў. Цэлы ж год не быў у яе бацькі!

Так ці інакш, адчуў Марсэль агіду да гэтага занятку ці не, але ён захацеў змяніць сваё жыццё. Доказ – тое, што ажаніўся з ёю. А можа, ён зрабіў гэта толькі дзеля таго, каб цягнула на новыя замахі, бо пачаў баяцца, што зловяць?

Бывае і такое: калі ўдаюцца тры-чатыры буйныя пакражы, злодзей раптам не можа саўладаць са страхам. Тады ён звычайна кажа сабе, што дагэтуль проста ішла дзікая лафа, што гэта не можа працягвацца бясконца і ўжо наступным разам прыйдзецца за ўсё заплаціць.

Небяспечны стан, калі менавіта ў гэты час ён надумае распачаць свой ранейшы занятак: вось тады яго і «накрываюць». Бо няма ўпэўненасці. Падводзіць нядбаласць. «Падстаўляюцца» па-дурному, «гараць» на якойсьці ідыёцкай драбніцы.

Пазваніць у паліцыю яна не магла. Газеты з'явяцца толькі праз гадзіну.

Яна ўжо ўяўляла, як ён сядзіць у паліцэйскім участку, у кабінеце ў якога-небудзь інспектара на допыце. Гальштук, рэмень, шнуркі з чаравікаў ужо адабралі... А то

раптам бачыла яго ў бальніцы…

Але не ў трупярні! Толькі гэтае слова, адно з усіх, што з'яўляліся ў яе ў думках, выклікала жаданне крычаць.

– Рэнуары…

Цікава: ёй здавалася, што варта яшчэ крышачку напружыцца – і яна разгадае праўду. Чаму імя Рэнуара – карціны мастака былі ёй, вядома, знаёмыя – развярэджвала памяць, падказвала нешта звязанае з Марсэлем, штосьці пачутае зусім нядаўна?..

Больш таго: яна магла паклясціся, што менавіта Марсэль і прамовіў перад ёю гэтае імя. Але калі? Дзе? З якой нагоды?

Таксі спынілася, і яна ўбачыла святло ў вокнах сваёй кватэры. Пачала шукаць у сумачцы кашалёк… Грошай было вельмі мала. Пра ўсё ж думала раней, толькі не пра гэта.

– Пачакайце мяне, калі ласка, хвілінку. Я падымуся, вазьму грошы…

Пабегла па лесвіцы. Чырванела пры адной толькі думкі, што аддала ўчора шпалершчыку ўсе грошы, якія толькі мела…

– Слухай, Івэтачка, дарагая…

Ёй было сорамна, як ніколі яшчэ ў жыцці. Івэта, якая, каб адчуваць сябе ямчэй, раздзелася да камбінацыі, чытала, лежачы на канапе ў зале.

– У цябе ёсць грошы?

– Многа трэба?

– За таксі заплаціць… Не ведаю, колькі… Марсэля няма, а ў яго ўсе нашы грошы…

Івэта пашукала, дастала чатырыста франкаў.

– Думаеш, хопіць? – спытала яна.

– Здаецца…

Жэрмэн спусцілася ўніз, размаўляючы сама з сабою: рэпеціравала размову з шафёрам. Якую ж страшэнную спляжанасць адчувала яна сёння ў душы – быццам перад усім светам была вінаватая.

Паволі паднялася наверх. Стамілася ўжо, цяжка дыхала. Івэта надзела сукенку і з капелюшом у руцэ ішла да дзвярэй.

– Думаю, я табе больш не патрэбна?

Жэрмэн хацела сказаць, што, наадварот, неабходная,

што ёй страшна заставацца тут адной, але не асмелілася.

– Дзякуй табе, Івэтачка... І прабач яшчэ раз... Праўда, ты можаш зрабіць мне яшчэ адну паслугу... Калі а восьмай я не прыйду ў краму, будзь ласкавая, скажы тады патранэсам, што я кепска сябе адчуваю, з'яўлюся пазней, а можа, і зусім мяне не будзе... Добра?.. Я табе калі-небудзь растлумачу... Гэта шмат страшней, чым ты думаеш...

– Усе замужнія так кажуць!.. Дый незамужнія таксама...

– Ты не зразумееш...

– Ведаю... Ніхто ніколі нічога не разумее...

Пасля, надзяваючы паліто, дадала:

– Можа, хочаш, каб я засталася?

– Дзякуй... Гэта вельмі далікатна з твайго боку... Я паспрабую крыху паспаць...

– Ну, добра... Усё будзе ў парадку... Я табе пакінула трохі каньяку... Раю выпіць каліва...

Бледны твар, чырвоныя павекі – рыхтык клоўн, як паглядзець на яе цяпер. А грымаса, дзіўнаватая ўсмешка, якой яна, мусіць, думала падбадзёрыць сяброўку, адно павялічвала гэтае падабенства.

– Дабранач, цётка...

Жэрмэн ледзь ужо была не паклікала Івэту назад, бо, толькі засталася адна, здалося, што яе кліча Марсэль, які меў дзесьці патрэбу ў ёй, чакаў жончынай дапамогі.

Але дзе?

Праз паўгадзіны развіднела, зазіхацелі дахі дамоў, з усіх гарадскіх комінаў пацягнуўся ў неба дымок, ажывалі вуліцы, пад'езды, пайшлі аўтобусы, тысячы людзей рушылі на працу халоднай снежаньскай раніцай...

Марсэль быў недзе ў гэтым вялікім горадзе... Жэрмэн, трымаючыся рукамі за мокрыя парэнчы балкона, глядзела ва ўсе бакі гіганцкай панарамы, нібы спадзеючыся ўбачыць у ёй яго...

## Раздзел трэці. ВЯЛІКАЯ СЭЎРСКАЯ ВАЗА І ГРАФІНІН ДЗЯДЗЬКА

Палова восьмай раніцы. З балкона бачны быў грузавічок паштовай службы, які развозіў газеты і спыніўся цяпер каля шынка насупраць іх дома. Шафёр у

скураной кепачцы выйшаў на ходнікі з тоўстым стосам пошты.

Жэрмэн збегла па лесвіцы з непакрытаю галавою. Брамніца якраз мыла калідор. Жэрмэн яшчэ мала ведала гэтую крыху касавокую жанчыну. Вось ужо з месяц, як яна ўлашчвала кансьержку: у Парыжы з імі трэба ладзіць. У брамніцы, можа, таму, што яна касавурыла, позірк быў поўны падазрэння.

– Сёння ноччу да вас, здаецца, прыходзілі? – спыталася яна. – Я званіла вам тры ці чатыры разы. У вас усё ў парадку, га?

Ёсць людзі, якія проста чуюць бяду. Вось і гэтая жанчына была такая. Нельга нічым выдаць сябе! Жэрмэн, падабраўшыся, адказала з усмешкаю:

– Гэта муж паслаў дадому сакратарку з рэдакцыі перадаць мне, што тэрмінова адбывае ў Лондан... Там сёння сур'ёзны матч... Марсэля паслалі ў сама апошні момант... Мне трэба было завезці ў рэдакцыю яго рэчы...

– Дык добра!.. А то я падумала, што ў вас хто-небудзь захварэў...

Жэрмэн выйшла на вуліцу, купіла газету. Зайшла ў бар і, нязмушана гартаючы газету, выпіла кавы і з'ела рагалік.

Матч у зале «Ваграм»... Рэпартаж на тры чвэрці калонкі... Падпісаны Марсэлем Бланам.

Гэта зрабіла на яе такое ўражанне, быццам яна атрымала раптам ліст ад чалавека, які ўжо даўно памер, ці ўбачыла яго раптам у кінакроніцы.

Але не! Марсэль не памёр!

Яна з'ядае яшчэ тры рагалікі. Ёй сорамна, што так шмат есць уранку, але яна галодная. Чатыры рагалікі!

Прачытаўшы рэпартаж, Жэрмэн адразу зразумела, што напісаны ён не Марсэлевай рукою. Ёсць нешта ў гэтых радках не ўласцівае яму: пабудова асобных фраз, выразы, словы... Ёй вядома, што час ад часу журналісты робяць адзін аднаму такія паслугі: пішуць за калегу і пасылаюць у газету патрэбны матэрыял.

Вярнулася ў кватэру. Глынуць, каб узбадзёрыцца, каньяку? Івэта, аказваецца, выпіла амаль усю бутэльку. Жэрмэн заўсёды падазравала, што сяброўка не грэбуе спіртным. Яна дапіла рэшту і выпрасталася на канапе:

забалелі ныркі. За тое, што выпіла, было сорамна яшчэ больш, чым за жудасны апетыт, але яна заснула.

У газеце не было паведамлення ні пра які кватэрны ўзлом, ні пра іншае здарэнне, якое магло б датычыць мужа.

Але гэта нічога яшчэ не значыла: не кожная ранішняя газета газета паспявае паведаміць пра ўсе начныя здарэнні, а тут яшчэ яна чытала тую, у якое працуе сам Марсэль!

Дзесяць гадзін. Тэлефон маўчаў. Праз паўгадзіны на Вялікіх бульварах пачнуць прадаваць дзённыя газеты. Жэрмэн апранулася. І хоць яна і выпіла ўсяго толькі два-тры глыткі каньяку, адчуванне было такое, як пасля сапраўднай гулянкі. І як гэта Івэта магла выпіць ажно тры чвэрці бутэлькі?

У кашальку – троху меней за сто франкаў. Нягуста! Але ўсё ж яна ўзяла таксі!

Купіла ў вулічнага гандляра газету. Ногі зрабіліся проста ватныя. Яна і праўда была п'яная – і гэта нагадала ёй адзін вечар, калі яны былі разам з Марсэлем у гасцях і выпілі лішняе…

Зайшла ў кавярню «Мазарыні» – і вось там раптам убачыла на першай старонцы газеты тое, што шукала: «Няўдалы напад на кватэру графа Ньёля».

Граф і Маленькая Графіня – так завуць у свеце яго жонку за яе мініяцюрныя фігурку, тварык і неверагодную рухавасць… Арыстакраты, якія займаюцца ўсім: спортам, мастацтвам, кіно… Пастаянна выбіраюцца на балі, кактэйлі і розныя іншыя вечарыны. З Енскага праспекта, на якім знаходзяцца мастацкія выставы-аўкцыёны, у іх кватэру шмат чаго прыбывае. Аднаго разу Жэрмэн хадзіла да іх з Марсэлем на адкрыты вечар паглядзець на калекцыю твораў жывапісу. Было сама мала трыста чалавек: журналісты, акторы тэатра і кіно, знакамітыя дактары і адвакаты… Стаяў гармідар.

«Глядзі, – сказаў Марсэль, – у іх, бадай што, сама прыгожыя Рэнуары ружовага перыяду…»

Яна амаль што нічога не ўбачыла. Надта ўжо зашмат было народу. Слугі, падыходзячы да кожнага госця, налівалі віскі, шампанскае проста бесперапынна. Можна было сказаць, спіртное лілося ракою.

Вось тое, што яна так доўга хацела ўведаць уначы: граф і графіня Ньёль. Матч па боксе яны не прапусцяць, гэта ўжо напэўна: ім гэта тое самае, што тэатральная прэм'ера... Безразважная Маленькая Графіня проста зачараваная гэтым мужным спортам...

«Гэтай ноччу на кватэру вядомых усяму Парыжу графа і графіні Ньёль быў зроблены напад з узломам, які ледзь не закончыўся смерцю рабаўніка. Граф і графіня былі тым часам на матчы па боксе ў зале «Ваграм». Цікавая дэталь, выяўленая неўзабаве пасля замаху: вярнуўшыся дамоў у дзве гадзіны ночы, графіня заўважыла, што згубіла на матчы ключ ад кватэры, які быў у яе сумачцы яшчэ тады, калі яна выпраўлялася з дому. Гэты факт дазваляе меркаваць, што напад не быў запланаваны загадзя і насіў выпадковы характар.

Невядомы...»

Жэрмэн збялела.

«...які трапіў у кватэру, скарыстаўшыся ключом, у дванаццатай гадзіне, мог завалодаць ім толькі ў зале «Ваграм». Немагчыма, каб ключ быў наўмысна ўкрадзены якімсьці спрытным «кішэннікам»: сумка ў графіні была на засцежцы-маланцы.

Маленькая Графіня, як заве яе ўвесь Парыж, згадала, што калі яна падыходзіла да свайго месца, то дастала з сумкі насоўку. Можа, ключ упаў на падлогу якраз у той самы момант? У натоўпе ёй самой цяжка было тое прыкмеціць.

Ва ўсякім разе, той, хто падняў ключ, добра ведаў, каму ён належаў і якую можна тут мець выгаду.

Далей невядомы трапіў у кватэру, у якой нікога не павінна было быць. Толькі выпадак прывёў у яе дзядзьку графіні Ньёль пана Марціно, які зайшоў да пляменніцы ўвечары і, адчуўшы стому, застаўся ў кватэры адпачыць замест таго, каб пайсці на матч у зале «Ваграм».

Ледзь ён заснуў, як яму пачуўся шум у вестыбюлі, дзе былі вывешаны сама каштоўныя палотны з калекцыі гаспадароў. І, натуральна, спалоханы, пан Марціно ўзяў у рукі рэвальвер...»

Словы, літары расплываліся. Прагнучы ведаць, чым усё скончылася, Жэрмэн усё ж была вымушана, каб дайсці да сэнсу, перачытваць кожны радок па два-тры разы.

Хлопчык-афіцыянт паставіў на яе стол мандарынавы лікёр.

«У вестыбюлі стаяў на крэсле невядомы з кішэнным электрычным ліхтаром. Убачыўшы пана Марціно з рэвальверам у руцэ, ён выключыў ліхтар, скочыў на падлогу і збіў графінінага дзядзьку з ног ударам кулака.

Устаўшы, пан Марціно стрэліў, будучы, як ён кажа, у стане афекту. А куля выпадкова трапіла ў злодзея, бо і на дыване, і на лесвіцы былі знойдзены сляды крыві.

Наколькі цяжка быў ранены нападчык? Немагчыма меркаваць аб гэтым цяпер, але, бясспрэчна, яго арышт – пытанне сама блізкага часу. Вечарам вы, напэўна, ужо даведаецеся пра тое. Пан Марціно, чалавек у гадах, да таго ж яшчэ і збянтэжаны незвычайным здарэннем, не мог дагнаць злодзея.

Напэўна, ім быў або дэбютант у гэтай справе, або аматар-выпадковец – але толькі не рэцыдывіст-прафесіянал. На гэтую думку наводзіць той факт, што шум, які пачуў дзядзька Маленькай Графіні, быў выкліканы падзеннем вялізнай сэўрскай вазы, рэчы сапраўды гістарычнай, вельмі вялікай каштоўнасці: датуецца яна напалеонаўскай эпохаю. Стаяла ваза пад адмысловай карцінай Рэнуара ружовага перыяду «Купальшчыца», якую, бадай, усхваляваны прафан-няўдаліца выпусціў з рук, ледзь зняўшы.

Вось і ўсе нашы здагадкі, якімі мы можам падзяліцца з чытачом. Але ў зале «Ваграм» было, заўважым, некалькі тысяч гледачоў – і...»

Жэрмэн машынальна выпіла лікёр, склала газету і паклала яе ў сумку.

Нягледзячы на ўсё, што здарылася, вочы ў яе, калі яна выходзіла з кавярні, свяціліся радасцю. Яна была ўпэўнена: Марсэля яшчэ не ўзялі! Хвалявалася і таму яшчэ, што некалькі гадзін назад сама аб усім здагадалася.

Яна прайграла загадзя ў сваім уяўленні ўсю гэтую гісторыю дзякуючы толькі званку Марсэля а палове адзінаццатай і знойдзенаму ў кішэні ў мужавым паліто бясхвостаму фарфораваму парсючку. Яна ўжо бачыла і постаць невядомай тады яшчэ ёй арыстакраткі, якая ўпусціла ключ, і пра Рэнуара згадала – сама.

А што больш за ўсё было ёй прыемна ўведаць, дык

гэта тое, што ён быў няспрытны! Выпусціў карціну на сэўрскую вазу. Можа, рукі ў яго дрыжалі? Ва ўсякім разе, яму было страшна. Ён паводзіў сябе, быццам пачатковец або нявопытны дылетант, які кажа сабе:

«Яшчэ раз... Толькі раз!..»

Кажа гэта сабе, адчуваючы, што бярэцца не за сваю справу, што і праўда не будзе больш ёю займацца...

– Ідыёт, – ледзь чутна сказала яна сама сабе ў натоўпе, калі выйшла на Вялікі бульвар.

Але дарагі ёй ідыёт! Што ён рабіў, паранены, на вуліцы, пакідаючы за сабою сляды крыві? Трэба было адбегчыся ад дома графа Ньёля. Толькі б ён не дадумаўся ўзяць таксі!.. Тады яго непазбежна знойдуць: паліцыя ж, вядома, апытае ўсіх шафёраў таксі. Ужо апытвае. Але нават усхваляваны, Марсэль мусіў быць хітрэйшы.

– Ідыёт! – зноў паўтарыла сама сабе.

Але, ідыёт, што не прыйшоў адразу ж дадому. Яна б дагледзела яго, вядома ж! Знайшла б знаёмага доктара, любога доктара, які б перавязаў яго і зрабіў усё неабходнае, не выдаючы паліцыі. Каго хочаш можна знайсці, як спатрэбіцца.

Напэўна, яму было сорамна перад ёю.

«Урэшце, я не які-небудзь жулік», – зноў успомніла яна яго словы.

Ідучы, Жэрмэн размаўляла з Марсэлем – і ні разу яшчэ не была яна з ім такая лагодная. Гэты хлапчук, але, нягодны хлапчук, што так гарэзліва ўсміхаўся, меў цяпер як ніколі патрэбу ў ёй: яго трэба было выцягнуць з бруднай гісторыі, у якую ён трапіў.

Ідыёт, так!.. Хлапчук, смелы на словах, нават у нейкіх учынках, але зусім яшчэ баязлівы ў душы.

Хацеў – пан такі! – звазіць яе на адпачынак у горы і пакатаць на аўтамабілі! А яна і не пярэчыла, не заікнулася нават: адкуль жа мы возьмем на гэта грошы? Усміхалася адно. А трэба было сказаць:

«Ты з глузду з'ехаў, дурненькі... Пра гэта падумаем неяк пазней... А пакуль што пішы свае рэпартажы пра бокс ды рэгбі...»

Вядома, уначы яна не памылілася, калі адчула раптам, што ён яе кліча. Як яна была яму тады патрэбная! Толькі духу ў яго не хапіла паклікаць яе на дапамогу.

– Пан вельмі горды, – з'едліва сказала яна сама сабе.

Ну і дурань, ну і ідыёт!.. Але ж які дарагі ёй!.. Дагэтуль яшчэ не набраўся розуму…

Толькі ж не застаўся ён на вуліцы на ўсю ноч?.. Дзе ён мог спыніцца, каб прывесці сябе ў парадак?..

Ці ж думаў ён пра тое, што перажывае цяпер яна? Ну, вядома! Мабыць, уяўляе яе ўсю ў слязах. Думае, ягоная Жэрмэн баіцца, што ён кінуў яе, падмануў!..

Дурненькі…

Толькі таму і не паддалася роспачы, што, нягледзячы ні на што, адчувала радасць: цяпер яна ведала, што ён яшчэ зусім маленькі і мае патрэбу ў ёй.

Напачатку баялася яна. Думала, што прыйдзе неяк дзень і Марсэль даведаецца, хто яна такая, чым займаецца яе бацька, дрыжала, бо ў параўнанні з мужам, журналістам, яна была зусім ніхто…

А ён, аказваецца…

Яна ішла і ўсё яшчэ думала, думала – толькі ўжо старалася не гаварыць сама з сабою, бы старая дзеўка.

Трэба было спяшацца, каб паспець Марсэлю на выручку. Хто-небудзь мог прыкмеціць яго ў зале «Ваграм», якраз тады, калі ён падбіраў з падлогі ключ Маленькай Графіні.

Цяпер ужо роўна гадзіна, як Марсэль павінен быў з'явіцца ў рэдакцыі. Яна зноў зайшла ў кавярню. Божа мой, і тут мандарынавы лікёр! Падышла да тэлефона, набрала нумар.

– Алё, мадэмуазэль, будзьце так ласкавы, дайце мне рэдактара. Гэта пані Блан…

Так, спакойна, не хвалявацца. Жэрмэн не ведала, ці правільна яна рабіла, што званіла, але трэба было захоўваць абсалютны спакой.

– Алё? Пан Манш?.. Гэта пані Блан… Муж просіць у вас прабачэння… Калі ён вярнуўся ноччу, пасля таго, як паслаў вам рэпартаж, я ўжо чакала яго з тэлеграмай ад цёткі з правінцыі: у яе толькі што памёр муж… Марсэль выехаў першым ранішнім цягнікам… Некалькі дзён яго не будзе…

Яна адчувала ўздым усіх сваіх сіл. Пазваніўшы рэдактару, адразу ж згадала пра Жуля.

Марсэль двойчы прыязджаў разам з ім у Марсанг.

Гэта быў доктар. Ён атрымаў дыплом яшчэ летась, але, каб практыкаваць самому, яму не хапала яшчэ грошай, і ён служыў нарыхтоўшчыкам лекаў у вялікай аптэцы на Севастопальскім бульвары. Высокі, кашчавы хлопец з крыху падобным на конскі тварам і кучаравымі, усё роўна як у херувімчыка, светлымі валасамі, што так не адпавядалі яго фізіяноміі.

Трэба было знайсці яго. А яна нават прозвішча яго не помніла. І адраса ніколі не ведала.

Узяла таксі. А ў кашальку толькі сто франкаў. Ды дзе там: частку гэтай сумы растраціла ўжо ў кавярне… А што заставалася рабіць, калі час быў такі дарагі?..

– Выбачайце, пане, я хацела б пагаварыць з мсьё Жулем… Вы ведаеце: высокі бландзін, часта бывае ў гэтым раёне…

– Доктар Бэлуар?

– Але… Кучаравы бландзін, з вялікім носам.

Адрас ёй даваць не хацелі.

– Сёння раніцай доктар не прыходзіў і не тэлефанаваў. Прыходзьце пасля абеду. Можа, з'явіцца.

– Мне трэба бачыць яго цяпер. Я яго стрыечная сястра. Толькі што прыехала ў Парыж, а ён мяне падвёў: павінен быў чакаць на вакзале…

Шушуканне. Нарэшце:

– Калі вы на самай справе яго кузіна…

– Ды клянуся вам… Мой бацька – ягоны…

– Вуліца Мон-Сэніз, дзвесце сорак шэсць…

Зноў таксі. Яна праехала ўверх па Манмартры, да сабора Сакрэ-Кэр… Заплаціла пятнаццаць франкаў. Дзіўны двор, усё адно як на вясковай ферме. У глыбіні – невялікая двухпавярховая будыніна. На першым паверсе жыве сталяр.

– Дзе тут можна знайсці пана Бэлуара?

– На другім паверсе…

Яна паднялася, пастукала ў зашклёныя дзверы: званка не было.

– Што там такое? – крыкнуў нехта незнаёмы.

– Гэта я! – холадна адказала яна.

Чаканне. Асцярожныя крокі. Нарэшце да шкла прыціснуўся конскі твар Марсэлевага сябра. Яшчэ праз нейкі час Жуль павярнуўся і знік. Жэрмэн была ўпэўнена,

што гаспадар з кімсьці гаварыў. Сэрца ў яе часта білася.

– Адчыняйце...

Адзеты быў Жуль па-хатняму, твар – няголены.

– Выбачайце, не пазнаў вас. За што такі гонар?..

– Дзе Марсэль?

Аднапакаёвая доктарава кватэра была адначасова і спальняю, і залаю, і чымсьці накшталт майстэрні, як у сталяра ўнізе. Джутавая шторка падзяляла яе на дзве часткі. Два старыя прамятыя крэслы, стол, кнігі, лямпа.

– Але... я не ведаю...

– Слухайце, Жуль...

Калі ён пазнаў яе праз шкло, то загаварыў з кімсьці, яна ж чула. Значыць, за штораю нехта быў. А калі жанчына? Што ж, тым горш для яе, Жэрмэн. І якая розніца, надаваў ёй смеласці мандарынавы лікёр ці што іншае...

Яна ступіла тры крокі. Болей не трэба было. Падняла штору.

За ёю стаяў Марсэль. Ён глядзеў на яе так спалохана, што яна ледзь не зарагатала ад слёз, і толькі адно і сказала:

– Ідыёт!..

І вось яна ўжо і плакала і смяялася. Не асмельвалася дакрануцца да яго, бо быў вельмі бледны і грудзі былі шчыльна перавязаны – ён прыкметна раздаўся.

– Думаеш, хітры?..

– Дарагая...

– Ідыёт...

– Слухай, дарагая... Клянуся табе...

– Але спачатку ты адразу ж вернешся дамоў...

– Ён не дасць...

– Хто?

– Жуль...

Доктар выйшаў, каб не замінаць ім, на лесвічную пляцоўку – там яму, мусіць, холадна было ў адной кашулі.

– Кляніся, што... – пачала яна.

– Не трэба... я і так...

– Чаму раптам?

– Сама разумееш...

– Прызнайся, што было страшна...

Ён адвярнуўся ад выбеленай сцяны.

– Было...

– Прасі ў мяне прабачэння…

– Даруй…

– Скажы, што ніколі больш не будзеш гэтага рабіць і што я буду хадзіць з табою на ўсе матчы па боксе…

– Згодзен…

– А калі я яшчэ раз знайду ў тваёй кішэні бясхвостага парсючка…

І толькі тады яны загаварылі сур'ёзна.

## Раманіст

Лекцыя, прачытаная ў Французскім інстытуце ў Нью-Ёрку 20 лістапада 1945 года

Шаноўныя панове!

Мяркую, што расчарую вас, прынамсі, у двух пунктах. Па першым вы ўжо гэта адчулі. Вы зразумелі: я належу да сама нуднай і страшнай пароды дакладчыкаў, што сядзяць перад шклянкай вады і моцненька звязаны пупавінаю са стосам аркушаў, якія яны перагортваюць з халоднай бязлітаснасцю машыны. Зрэшты, што я кажу? Прызнаюся вам, ніякі я не дакладчык. У мяне так мала вопыту ўдзелу ў падобнага кшталту ўрачыстасцях, што з простасці душэўнай я спачатку вырашыў выйсці да вас з пустымі рукамі. Мне ўяўлялася, як я хаджу па эстрадзе, часам спыняюся, каб падкрэсліць якую-небудзь дасціпную думку, уражваю вас красамоўствам і, не буду залішне сціплы, натхненнем.

Так было прыкладна месяц назад, калі я тэлеграфаваў П'еру Бэдару, што прымаю вельмі прыемнае мне запрашэнне. Я жыў у Канадзе ў зрубе на беразе возера. Там мне ўсё здавалася простым. Але ў цягніку, па дарозе ў Нью-Ёрк, упэўненасць пачала пакідаць мяне, і я падумаў: а ці не падрыхтаваць мне якія-небудзь нататкі? Гэта ж таксама ўражвае, і нямала: у чалавека ў руцэ лісточкі паперы, на якія ён час ад часу кідае кароткі позірк. Але ішлі дні, а галоўнае, ночы, і гэтыя лісточкі ператварыліся паціху ў кашмар. А раптам я іх усе

пераблытаю? Ці мо забуду ў хваляванні сэнс якога-небудзь запісу і спатыкнуся?

Кашмар ператварыўся ў страх, у той каламутны страх, што знаёмы кожнаму артысту, і таму, панове, у апошнюю хвіліну я скарыўся з тым, што мне прыйдзецца паўстаць перад вамі гэтакім раманістам-лектарам, чалавекам, які перагортвае аркуш за аркушам, тым часам як слухачы позіркам ацэньваюць таўшчыню стоса і ў думках прыкідваюць, калі ж скончыцца гэтая кара.

Другое расчараванне: вам паабяцалі – і ў гэтым вінаваты толькі я – гутарку аб рамане і раманісце, дакладна не ведаю. Усё таму, што неабходная была назва. Бо я падумаў: раманіст, натуральна, мусіць гаварыць аб рамане. Я быў перакананы, што гэта будзе проста. Аднак я зразумеў, што зусім няздатны распавесці вам што-небудзь дужа слушнае аб рамане. І калі дазволіце, паспрабую вызначыць прычыну: каб вы не надта сердавалі на мяне з-за гэтай другой здрады.

Бачыце, раманіст зусім неабавязкова разумны чалавек. Вядома, такія існуюць. Мне зусім не хочацца настройваць супраць сябе маіх калег, надзеленых гэтай выдатнай вартасцю. Але ёсць і такія, што пазбаўлены яе. І гэта зусім не парадокс. Існуе, паводле майго вызначэння, «чысты» раманіст, чалавек, які выстройвае раманы, як іншыя лепяць з каменя ці пішуць карціны, раманіст, які свядома, а найчасцей несвядома збірае наўкол чалавечыя дакументы, назапашвае іх у сабе, пакуль не пачынае ад іх задыхацца і адчуваць настойлівую патрэбу выказаць нарэшце свае пачуцці, зашмат моцныя для аднаго-адзінага чалавека. Навошта ж патрабаваць ад яго, каб ён быў разумны? Як мне здаецца, аналітычны розум у яго дужа часта – недахоп. Я маю на ўвазе свядомы, сістэматычны аналіз.

Што ж да крытычнага пачуцця, то я думаю: а ці не будзе яно яго скоўваць? Як бачыце, я прымаю перасцярогу, перш чым прызнацца вам, што не валодаю ні крытычным пачуццём, ні аналітычным розумам і што, маючы справу з ідэямі, адчуваю ў сабе гэтакую няўклюднасць рабочага-муляра. Дарэчы, мне падабаецца слова «рабочы», і, калі дазволіце, скажу, што я ўсяго толькі рабочы славеснасці. Уяўляеце сабе муляра, які гутарыць з

вамі аб архітэктуры?.. Ён проста бярэ цагліну. Кладзе яе, потым кладзе раствор. Адзінае, што ад яго патрабуецца, – добра выкананая работа. Вам хочацца пагаварыць з ім, не баючыся занудзіцца? Тады нявартa разважаць ні пра мастацтва, ні пра палітыку, ні пра эканоміку: пагаманіце пра ягонае мулярскае рамяство – і, ўпэўнены, не расчаруецеся.

Большую частку жыцця я баўлю ў сельскай мясцовасці, дзе няма чым забаўляцца і дзе на пяцьдзесят міль вакол не знойдзеш аніводнага чалавека. Мае сябры вельмі спачуваюць мне:

– Як ты можаш месяцамі жыць, ні з кім не размаўляючы?

– Ды я размаўляю дні напралёт.

Іх гэта дзівіць. Яны не разумеюць. Не разумеюць, што кожнаму чалавеку ёсць што расказаць, кожны чалавек цікавы, калі гаворыць пра сваё, гэта значыць пра сваю прафесію. Вазьму хоць бы нашага вясковага лекара: проста дзіва, калі ён вечарамі пачынае згадваць ля каміна сваіх пацыентаў і ўсялякія гісторыі пра іх!.. Ды я нашмат болей уведаў пра чалавечую прыроду з гамонак з вясковымі лекарамі, чым чытаючы філосафаў. А каваль, які расказвае пра сваю кузню?.. Сталяр за варштатам... Селянін, калі ідзеш разам з ім па ягонай зямлі... Не трэба толькі ўцягваць іх у сферу чыстых ідэй – гэтыя людзі імгненна губляюць усю сваю сілу, усю непаўторнасць і пачынаюць апавядаць моваю перадавіц.

Чаму ж, мяркую я, раманіст павінен маніпуляваць ідэямі спрытней за вясковага лекара ці аратага? Мяне заўсёды бянтэжылі пытанні, якія задаюць нам журналісты, беручы інтэрв'ю:

– Што вы думаеце пра пасляваенны перыяд? Пра рускае пытанне? Пра атамную бомбу? Пра беспрацоўе ці пра забастоўкі?

Уявіце сабе, нічога не думаю! Вельмі рэдка рэпарцёр, несумненна пазбаўлены цалкам фантазіі, просіць мяне проста расказаць пра маю справу.

І аднак, калі б я вырашыўся пагаварыць з вамі аб рамане ўвогуле, калі б пачаў: «Раман – гэта...»

А праўда, што гэта такое – раман?.. Як на маю думку, дык гэтае паняцце вельмі шырокае. Я нагаварыў бы вам

процьму глупстваў і банальнасцей. Калі стаіш за варштатам, бачыш толькі варштат. Так і са мною. Іншыя раманісты? Я альбо не ведаю іх, альбо ведаю вельмі дрэнна, так што мне не выпадае гутарыць пра іх.

Адкуль ці куды ідзе раман? Тэма адмысловая, але тут мусова патрабуецца погляд звонку, а не знутры. Так што гэта справа крытыка альбо якога-небудзь доктара літаратуразнаўства.

Шаноўныя панове, гэта ўступ, каб прызнацца вам, што я не буду гаварыць ні аб рамане, як было абяцана, ні нават аб раманістах, а ўсяго толькі пра аднаго з іх, пра таго адзінага, каго хоць трохі ды ведаю – гэта значыць пра сябе.

І прашу зразумець, што гэта зусім не з пыхлівасці, а, наадварот, ад сціпласці: я не адчуваю сябе падрыхтаваным гаварыць пра нешта іншае. Зрэшты, паверце, я не буду закранаць ні сваю творчасць, якая, дальбог, не заслугоўвае такога гонару, ні пра свае творчыя планы. Я хачу пагутарыць з вамі прыкладна ў такім духу:

– Вось як я стаў сталяром, выбачайце, раманістам... Гэта варштат, а гэта інструменты... Гэта вось робіцца такім чынам... Каб зрабіць стол, гэта значыць раман, трэба пачынаць вось з гэтага і вось з гэтага...

Толькі майце на ўвазе, гэта зусім не азначае што іншыя робяць гэтаксама. Але ўрэшце, каб зразумець рамесніка, трэба хоць трохі ўяўляць сабе ягонае рамяство. Вось прыкладна тое, пра што я хачу сёння расказаць.

– Як вы сталі раманістам? Калі і як да вас прыйшла думка пісаць раманы?

Класічныя пытанні, якія заўсёды задаюць нам. Аднак, за рэдкімі выняткамі, адказы бываюць адны і тыя самыя. Думаю, мне не было і трынаццаці гадоў, калі я вырашыў, што прысвячу сваё жыццё пісьменніцтву. Чаму? Мне цяжка адказаць, а ўжо тады я ўвогуле не змог бы растлумачыць. Бацька мой не пісаў. Ніхто з радні, ніхто з нашых сяброў і знаёмых – таксама. Аднак я казаў адно: «Я буду пісаць...» А паколькі я не ўяўляў, што пісьменніцтва можа быць прафесіяй, што літаратурная праца можа даць чалавеку сродкі на існаванне, бацькам я заяўляў:

– Хачу быць святаром ці афіцэрам.

Яны не разумелі гэтага «ці». Чаму святаром ці

афіцэрам? Сотні разоў яны задавалі мне гэтае пытанне, але я ўпарта адмаўляўся адказваць на яго. Прычына, вымушаны вам прызнацца, была ў тым, што маё жаданне пісаць здавалася мне калі ўжо не сараматным, дык, ва ўсякім разе, чымсьці такім, пра што нельга казаць уголас.

Дык чаму ж усё-такі казаў я, што хачу стаць менавіта святаром ці афіцэрам?

Я бачыў, як кюрэ нашага прыхода нетаропка гуляе ў садзе свайго дома, пачытваючы малітоўнік. Бачыў афіцэраў, якія ў любы час раз'язджалі вярхом ці прагульваліся па горадзе. І ў іх, і ў святароў быў вольны час, які яны спакойна і прыемна бавілі. Іхняя прафесія, нават адмысловае адзенне надавалі ім нейкую вартасць, якая злівалася ў маім уяўленні з роляю пісьменніка. І нарэшце я меў адно яшчэ больш наіўнае меркаванне: у іх былі чыстыя рукі; ні тым, ні другім не даводзілася займацца цяжкаю працаю, ад якой рукі грубеюць і пакрываюцца мазалямі.

Ішлі школьныя гады. Як многія, я пісаў благія вершы. Як многія, у трэцім класе я арганізаваў часопіс, які выходзіў у некалькіх экземплярах; былі выпушчаны ўсяго два нумары, але гэтага хапіла, каб мяне ледзь не выкінулі з калежа. Няварта дадаваць, што часопіс быў страшэнна непачцівы да настаўнікаў. Я прыводжу гэтыя малацікавыя драбніцы толькі таму, што, як і ўсе, чытаў біяграфіі пісьменнікаў, якія былі да мяне, і згадваю толькі адно выключэнне з агульнага правіла: усе пісьменнікі ў пэўны момант адчувалі патрэбу выдаваць школьны часопіс і закранаць у ім сваіх настаўнікаў. Усе яны ледзь не вылецелі са школы, а нехта, думаю, і сапраўды быў выключаны.

Я не сцвярджаю, што гэта ўмова sine qua non[7], абавязковая прыкмета прызвання, і не хацеў бы бянтэжыць кандыдатаў у раманісты, якія ў школьныя гады не выдавалі часопісаў.

І ўсё ж я пытаюся ў сябе: а ці не было гэта сімптомам? Ці не выяўлялася тут патрэба аднаўляць на свой лад людзей, якіх бачыш побач? Бо ў часопісах

---

[7] *Абавязковая (лац.).*

падобнага кшталту амаль ніколі не знаходзіш выкладу якіх-небудзь ідэй. У некаторых, праўда, вучні ставяць і абмяркоўваюць палітычныя і філасофскія пытанні. Але гэтыя не стануць раманістамі. Як мне здаецца, будучага раманіста характарызуе патрэба ператвараць жывых людзей ці, калі вам даспадобы больш прэтэнцыёзнае вызначэнне, замешваць чалавечае цеста. Рэдка ён таксама вылучаецца і прыкладнымі паводзінамі. Хіба не трэба ўбіраць у сябе жыццё ўсімі порамі, каб перастварыць яго? Хіба не трэба як мага болей кантактаваць з людзьмі, каб нанова стварыць іх? Адсюль жудасны голад, жудасная прага жыцця ва ўсіх ягоных праявах, патрэба пагружацца ў чалавечае, пакуль не аб'ясісся ім да агіды.

У семнаццаць, вымушаны зарабляць сабе на жыццё, я стаў рэпарцёрам. Чаму? Не ведаю. Ніколі раней я не чытаў газет. Не меў аніякага ўяўлення аб палітыцы. Наўрад ці мог сказаць, якія партыі супернічаюць у нашым маленькім горадзе. І, аднак, у дзень, калі мне прыйшлося шукаць працу, я зусім натуральна, можна нават сказаць, непазбежна зайшоў у змрочны калідор рэдакцыі аднае газеты і пастукаўся ў кабінет да галоўнага радактара. А колькі маладых людзей да мяне рабілі тое ж самае – з такім жа няведаннем, але несвядома падпарадкоўваючыся таму ж інстынкту?

Я не знаходжу іншага слова, іншага тлумачэння. Тут, у гэтым цяжкім паху свінца і друкарскай фарбы, кандэнсавалася ўсё жыццё горада. Тут была процьма чалавечага цеста, і яно замешвалася на поўных абаротах. Бо гэтая машына заглытвала ўсё жыццёвае, чалавечае: пяцьдзесят тысяч чалавек, якія шалелі на баксёрскім матчы ці палітычным мітынгу; аўтамабільная ці трамвайная катастрофа, якая паламала жыццё многім людзям; крывавая драма, якая ўсхвалявала многія сем'і; валацуга, злодзей, пануры хуліган, наркаман у пошуках порцыі атруты; палітык, які вымольвае галасы, ці паважны абыватаsurvey, які дамагаецца ордэна або прэзідэнцтва ў якім-небудзь таварыстве, у чымсьці такім, што дазволіць яму вырвацца з кола пасрэднасці…

Які цуд для хлопчыка акунуцца ва ўсё гэта! Усе дзверы раптам расчыняюцца перад табою. Муры страчваюць сваю непранікальнасць. Ты зведваеш

чалавечыя таямніцы. З нататнікам у руцэ нясешся да яшчэ не астылага трупа, гонішся за паліцэйскай машынаю, сустракаешся ў калідорах Палаца правасуддзя са злачынцам у кайданках, змешваешся з забастоўшчыкамі, з беспрацоўнымі, дый ці ж мала чаго яшчэ?..

Яшчэ некалькі хвілін назад я быў усяго толькі нікому не вядомы вучань. Але пасля таго, як я ўвайшоў у кабінет і нясмела пагаварыў з барадатым панам, у якога пад пазногцямі жалоба, гэтым прарокам сярэдняга чытача нашага горада, я мог лічыць, што мне належыць увесь свет.

Думаю, што, калі б сёння я апынуўся на месцы гэтага барадатага рэдактара і да мяне ў кабінет увайшоў семнаццацігадовы кандыдат у рэпарцёры, які дрыжаў бы ад хвалявання, я яму ласкава сказаў бы:

«Мой юны дружа, я бяру вас. Бяру, хоць загадзя ведаю, што ў вас на стале часцей будуць ляжаць старонкі рамана, чым гарадская кроніка. Верагодна, вы нават самі гэтага яшчэ не ведаеце, затое ведаю я, бо існуюць практычна непахісныя правілы, згодна з якімі вы прыйшлі сюды, каб адгадаваць зубы і кіпцюры і вывучыцца – але не прафесіі журналіста, да якой вам справы няма, а прафесіі чалавека і раманіста. І я прашу вас, малады чалавек, толькі адно: не выбірайце мяне першай ахвяраю вашых літаратурных практыкаванняў».

І праўда, пасля паступлення ў газету першым маім клопатам стала, як і ў многіх да і, трэба меркаваць, пасля мяне, напісанне рамана. І, натуральна, першым маім героем стаў наш галоўны рэдактар. Думаю, няма сэнсу казаць, што партрэт быў напісаны без аніякага спачування. Ды што я кажу! У юнацтве ў чалавеку крыюцца невычэрпныя радовішчы лютае бязлітаснасці. У раман трапілі не толькі рэдактар, але і ўсе мае прыяцелі, а таксама, што, дарэчы, страшней за ўсё, адзін з маіх дзядзькоў, адзіны, ад якога была надзея нешта атрымаць у спадчыну, сама паважаны чалавек у нашай радні.

Расказваю я вам гэта толькі таму, што па-ранейшаму іду следам за лёсам.

Я мог бы, мусіў схаваць гэты рукапіс у стол, тым больш што літаратурныя яго вартасці былі дужа спрэчныя. Але не зрабіў гэтага. Не мог зрабіць. Я абабегаў выдаўцоў,

друкароў і з уласцівай юнацтву неабдуманасцю перакуліў усё дагары нагамі. У нашым невялікім горадзе аўтар сур'ёзнага твора, тут няма аніякіх сумненняў, ніколі не змог бы дабіцца, каб яго надрукавалі. А я, хлапчук, дамогся, хоць сам дагэтуль не разумею як. Выйшла кніга, танюсенькая, бляклая, і я, вядома, адразу ж паспяшыў разаслаць яе з прысвячэннямі ўсім сваім ахвярам, пачынаючы з галоўнага рэдактара і багатага дзядзечкі.

Неабдуманасць? Несумненна. Выклік? У нейкім сэнсе, напэўна.

І ўсё-такі я думаю, што гэта нашмат больш складана, што бывае, ад тых ці іншых учынкаў проста немагчыма ўтрымацца, бо іх рабілі да цябе ўсе, хто ішоў той самай дарогаю. У калежы, рызыкуючы вылецець, я высмейваў сваіх цудоўных настаўнікаў у прыдуркаватым часопісе, а ледзь уступіўшы ў жыццё, выбраў у якасці мішэні тых, хто зусім нядаўна сардэчна і спачувальна працягнуў мне руку.

Праўда, за вылікам багатага дзядзечкі, якога я з тае пары больш ані разу не бачыў і натарыус якога не паклікаў мяне да сябе пасля ягонай смерці, ніхто на мяне не сердаваў. Ну, а калі быць да канца шчырым, дык сердаваў я – на іх: за абыякавасць, успрынятую мною як непавагу. Я ж думаў, што кінуў бомбу, якая змяшае неба з зямлёю. А выявілася, гэта быў усяго толькі жарцік, які нікога не напалохаў, а выклікаў толькі ўсмешку.

Вы, вядома, разумееце, што я парушыў бы ўсе традыцыі, калі б не пагарджаў сваім гарадком і не лічыў, што толькі Парыж варты мяне. Цярпець нягоды ў Парыжы, пажадана на Манмартры, гэтак жа неабходна будучаму раманісту, як весці рукапісны часопіс і пісаць першы раман пра сваіх начальнікаў ды радню.

І вось я прыбыў у Парыж і пасяліўся ў гатэлі, у нумары пад самым дахам, які быў звычайнай мансардаю, дзе я стукаўся галавою ў столь, калі прачынаўся іншы раз сярод ночы. Але думаю, што, калі б у мяне нават былі грошы, я ўсё роўна выбраў бы такі ж бедны пакойчык, бо, жывучы па-сярэдняму ўтульна, лічыў бы, што здрадзіў літаратуры.

Суседнюю мансарду займала гатэльная пакаёўка, якая бавіла большую частку ночы ў калідоры за чысткаю абутку пастаяльцаў. Але богі і тут спрыялі мне. Гэтая

сціплая дзяўчына была стрыечная сястра пісьменніка, які толькі што «адарваў» Ганкураўскую прэмію, і ягоныя партрэты красаваліся ў вітрынах усіх кнігарняў! Мне здавалася – калі ласка, не смейцеся! – што, жывучы ў суседняй каморцы, я ўжо неяк далучаны да славы яе знакамітага кузэна.

Я сустракаўся з Калет[8], вялікай Калет: тады яна была першым літаратурным рэдактарам у газеце «Матэн», і я насіў ёй свае першыя апавяданні.

– Бачыце, галубок, гэта вельмі літаратурна, задужа літаратурна.

Ах, разумніца Калет, які цудоўны эўфемізм знайшла яна! Літаратурна – азначала прэтэнцыёзна, невыносна прэтэнцыёзна.

Я імкнуўся ўкласці ўвесь дрыготкі свет у аповяд на паўтары калонкі і абурыўся б, калі б мне заўважылі, што публіка патрабуе, каб ёй проста расказалі якую-небудзь гісторыю. Гісторыю! Яшчэ чаго! Прынізіцца да расказваняя гісторый, гісторый, калі ўва мне сусвет і я жадаю ўвесь яго цалкам!

Кожнае раніцы я прыходзіў у «Матэн» з новымі апавяданнямі, але Калет не здавалася.

– Галубок, гэта яшчэ ўсё-такі трохі літаратурна... Трэба спускацца да ўзроўню публікі... Газету чытаюць у аўтобусе, у метро... У чытача няма часу пераварваць вялікую літаратуру...

Нядаўна ў папцы з надпісам «Адмоўленае» я знайшоў аповяды, якія меў нахабства падсоўваць гэтай выдатнай жанчыне, і толькі тады ўсвядоміў усю ступень яе выдатнасці.

Аднак здарылася немагчымае: урэшце я зразумеў, чаго яна ад мяне чакае. На гэта спатрэбілася некалькі месяцаў.

– Яшчэ трохі літаратурна, галубок... Гісторыя! Проста распавядзіце гісторыю... Усё астатняе дадасца...

У дзень, калі я гэта зразумеў, я перастаў хадзіць у «Матэн»: мне было сорамна, і толькі праз шмат гадоў я зноў

---

[8] *Калет Сідані Габрыэль (1873–1954) – вядомая французская пісьменніца, сябра Ганкураўскай акадэміі.*

сустрэў Калет і пасябраваў з ёю. Мне трэба было вучыцца расказваць гісторыі.

Гэтае вучэнне доўжылася дзесяць гадоў, і я не зусім перакананы, што і цяпер яно скончанае.

Расказваць гісторыі, інакш кажучы, чалавечыя жыцці... Гэта значыць прымушаць людзей жыць, запоўніць дзве ці там пяць сотняў старонак кнігі чалавечым духам – як мага паўней... Чым больш я сталею, чым больш пішу, тым больш разумею, колькі ў гэтым гардыні. Такой гардыні, што я знаходжу – толькі не палічыце гэта блюзнерствам – адно такія словы, каб выкласці сваю думку: «Дасканалы раманіст мусіць быць своеасаблівым богам-бацькам...»

Ствараць людзей, несці ў далонях свет... Але хіба героі Бальзака, Дзікенса, По, Дастаеўскага не такія ж рэальныя, як тыя людзі, з якімі вы сустракаецеся на вуліцы? Хіба пані Бавары не здаецца вам больш знаёмай, чым сама блізкая сяброўка?

Аднак Калет казала мне:

– Галоўнае, ніякай літаратуры!

І казала праўду.

Проста распавядаць гісторыі, з самага пачатку, са стараннасцю чырванадрэўшчыка, які працуе за варштатам. І няважна, ці здарыцца цуд, ці не, дадасца астатняе ці не дадасца. Я, некалі такі неўтаймаваны, раптам настолькі змірнеў, што вырашыў расказваць свае гісторыі сама простым людзям.

Аднае раніцы я скупіў у кіёсках усе танныя народныя раманы, якія мог знайсці. Тады іх было безліч, прычым усіх відаў. Раманы для краўчых, для машыністак, неверагодныя драмы для брамніц, гісторыі на ружовай вадзічцы для анемічных паненак. Былі і прыгодніцкія раманы для хлопчыкаў – пра індзейцаў, буканьераў, піратаў, разбойнікаў з вялікае дарогі і джэнтльменаў-рабаўнікоў. Я адкрыў сапраўдную індустрыю, якая выпускала велізарную колькасць дакладна вызначанай ці, як мы сказалі б цяпер, стандартызаванай прадукцыі – ад кніжачкі ў некалькі старонак за дваццаць пяць сантымаў да таўшчэзнага, надрукаванага дробненькім шрыфтам на шурпатай паперы народнага рамана за франк дзевяноста пяць.

Я навучыўся вырабляць усе віды гэтае прадукцыі,

пачынаючы са сціплага танюткага раманчыка, які краўчыха суне сабе ў сумку, каб потым праліваць над ім слёзы, і канчаючы чуллівай гісторыяй, якая паўгода друкуецца на апошняй старонцы тыднёвіка. І цяпер я зусім не саромеюся. Наадварот. Прызнаюся вам, што гэты перыяд свайго жыцця я ўспамінаю з сама вялікай пяшчотаю, калі не з журбою. Безумоўна, тады я не надта ганарыўся сваімі творамі, якія падпісваў шаснаццаццю псеўданімамі. І, каб не вельмі ўжо апускаць галаву, мне прыходзілася часта паўтараць сабе, што Бальзак дый многія іншыя пісьменнікі дэбютавалі гэтаксама. Сціпласць прыходзіць да чалавека з узростам, і гэта, несумненна, цудоўна.

Я быў гэтакі дробны рамеснік, вырабляльнік, так бы мовіць. І, як такі, кожны тыдзень прыходзіў па заказы да буйных прадпрымальнікаў – выдаўцоў народных раманаў. І, як кожны рамеснік, пачаў з адліку сабекошту ў залежнасці ад гадзіннай выпрацоўкі.

«Значыцца, – прыкідваў я, – працуючы па восем гадзін, я магу друкаваць па восемдзесят старонак у дзень. Інакш кажучы, тры дні на прыгодніцкі раман у дзесяць тысяч радкоў[9] за пятнаццаць тысяч франкаў ці шэсць дзён на раман пра каханне ў дваццаць тысяч радкоў за тры тысячы франкаў…»

І я выстройваў свой бюджэт. За столькі вось тысяч радкоў у год, інакш кажучы, за столькі вось гадзін працы, я меў магчымасць набыць аўтамабіль. За столькі вось мог дазволіць займець шафёра, які будзе развозіць мае рукапісы. А пачынаючы з вось стольких – гэта ўжо яхта, якую мне страшэнна хацелася мець, гэта плаванні, адкрыты мне цалкам свет.

Але гэта толькі адзін бок праблемы. Разумееце, я хацеў жыць. Але не дзеля сябе, не праз звычайную прагу жыцця, а таму, што ўсвядоміў: іншаму чалавеку можа быць перададзена з дапамогаю літаратуры толькі тое, што я перажыву сам. Мне трэба было зведаць свет ва ўсіх

---

[9] *Тут пісьменнік, канечне, мае на ўвазе нейкія іншыя, а не нашыя звыклыя кніжныя або машынапісныя старонкі. 10 000 радкоў – гэта сама болей 37 старонак такой кнігі, якую вы цяпер чытаеце. Найлепшая машыністка наўрад ці зможа механічна перадрукаваць за дзень 80 старонак чыстага «сіменонаўскага» тэксту. (Заўв. перакладніка.)*

ягоных абліччах, па гарызанталі, інакш кажучы, на ўсім ягоным працягу: убачыць краіны і народы, мясціны і звычаі, але адначасна зведаць гэты свет і па вертыкалі, інакш кажучы, трапіць у сама розныя слаі грамадства, быць сваім і ў маленькім бістро, куды ходзяць рыбакі, і на кірмашы сярод гандляроў худобаю, і ў салоне ў банкіра.

Дарэчы, пра банкіраў. Дазвольце мне нагадаць адно маё выказванне – магчыма, наіўнае – таго часу:

«У маіх кнігах не будзе банкіраў да тае пары, пакуль я не з'ем з адным з іх за сняданкам яйка ўсмятку».

Жыць, і, паўтараю, жыць напружана.

Жыць, каб потым прыдумваць жыццё.

Жыць, каб расказваць гісторыі.

Сумуючы па тым часе, я згадваю сваю кватэру на Вагезскай плошчы ў Парыжы, якая некалі называлася Каралеўскаю; на ёй жылі кардынал Рышэлье і пані дэ Сэвінье[10].

Успаміны мае пераважна зімовыя, бо ўвесну я ўцякаў з Парыжа куды-небудзь на прыроду ці на мора. У чатыры гадзіны раніцы я ўжо быў на нагах. Не забывайцеся: за дзень я павінен быў адстукаць свае восемдзесят старонак рукапісу!

Патрэбны прыгодніцкі раман? Я наўздагад разгортваў Энцыклапедыю Ларуса. Вось велізарны, амаль невядомы трохкутнік Афрыкі... І амаль у самым ягоным цэнтры раён Вялікіх вадаспадаў... Готэнтоты... Пігмеі... Невядомыя расліны, назвы якіх падобныя на песню: напрыклад, калі я не памыляюся, Welchirshia Mirabelis – і ўжо гэтая расліна проста павінна быць чымсьці зусім незвычайным. Я ўжо бачыў раман... Ён будзе называцца «Місцюкі Вялікіх вадаспадаў», бо я імгненна ўяўляю сабе, як корпаюцца, нібыта мурашкі, у неўладкаваным, зусім яшчэ першабытным сваім свеце пігмеі ростам з дзіця. Я жыву ў фантастычным свеце, і кніжак менавіта пра гэты фантастычны свет патрабуюць маленькія і нават не вельмі маленькія дзеці. І вось, седзячы спінаю да агню ў доме на пышнай Вагезскай плошчы, якая з'яўляецца шэдэўрам

[10] *Сэвінье Мары дэ Рабютэн-Шанталь, маркіза (1626–1696) – французская пісьменніца, майстар эпісталярнай прозы.*

архітэктуры XVII стагоддзя, я пражыву тры дні ў афрыканскіх джунглях, буду сустракацца з ільвамі, са статкамі сланоў і буйвалаў, з гарыламі і грымучымі змеямі!

Я расказваю гісторыі, расказваю іх самому сабе. Разумееце? Калі заўтра мяне пацягне ў Азію, я напішу «Таямніцу ламаў» ці «Шы Мацзін, ахвярнік», а потым перабяруся ў Ціхі акіян, пабываю ўсюды, куды дазволіць мне забрацца Лярус, дайду ажно да вашай краіны, дзе перажыву ў сваіх уяўленнях змрочную гісторыю «Вока Юты», а трохі пазней яшчэ адну – у стылі Ракамболя[11] – «Чыкагскія гангстэры»; там будуць і высачэзнейшыя гмахі, і аўтаматныя перастрэлкі.

Я вучуся расказваць і расказваю, мажліва, няўмела – абмежаванай групе чытачоў, якая не жадае, каб парушалі яе звычкі. Кожны тыдзень новы раман, і кожны раз ён адрасаваны новаму чытачу: сёння пятнаццацігадовым хлапчукам ці сентыментальным жанчынам, заўтра аматарам вострых адчуванняў ці экзотыкі. Так, не сыходзячы з месца, я аб'ехаў увесь свет. І клянуся вам, свет гэты быў цудоўны. Ён жа быў несапраўдны – складзены з кубікаў, прызначаных чытачам, якія не жадаюць расчароўвацца.

Час ад часу дзе-небудзь усярэдзіне раздзела, у дыялогу ці апісанні, я спрабаваў практыкавацца, для самога сябе, у больш тонкім пісьме, гэтаксама як іграюць гамы, і ніхто аніводнага разу не выявіў гэтых фальшывых нот у маіх народных раманах. Я вучыўся сумленна, цярпліва і адначасна пачынаў жыць.

Праз год у мяне ўжо быў аўтамабіль з шафёрам. Яшчэ праз год – яхта, і цяпер ужо прадукцыю сваёй серыйнай вытворчасці я пасылаў літаратурным падрадчыкам з галандскіх, дацкіх, нарвежскіх ці гішпанскіх портаў.

І тут мне хочацца зрабіць вам адно прызнанне. Не пакідаючы Вагезскай плошчы, я з дапамогаю энцыклапедый і атласа аб'ездзіў увесь свет. Але аднойчы – я гэта і цяпер памятаю – я прыехаў у Марсель, каб сесці

[11] *Ракамболь – галоўны персанаж многіх твораў французскага пісьменніка П.А.Пансон дзю Тэрайля (1829–1871). Былы гарсон парыжскай кавярні, Ракамболь цаною неверагодных прыгод пракладвае сабе шлях у вышэйшы свет.*

там на карабель і адправіцца ў Афрыку. Я накіроўваўся ў той самы раён Вялікіх вадаспадаў, які з такім імпэтам апісваў. Але калі едзеш у Афрыку, патрэбны трапічны шлем. І вось я зайшоў у краму капялюшніка на вуліцы Сэн-Фэрэоль. Гаспадар пачаў прымяраць мне шлемы.

Ці заўважалі вы, што найбольш недарэчна пачувае сябе мужчына (у адрозненне ад жанчыны!), калі перад цьмяным экранам люстра прымервае новы капялюш? Я стаяў у гарадскім гарнітуры са шлемам на галаве, а прадавец запэўніваў мяне:

– Усё роўна якраз як для вас. Менавіта тое, што вам трэба ў Цэнтральнай Афрыцы.

Дык вось, таго дня я зразумеў, што з прыдуманымі народнымі раманамі скончана. Гледзячы на сваё вартае жалю адлюстраванне, я адчуў, што збочыў за новы мыс, можа, сама небяспечны з усіх, што назаўжды развітаўся з мараю дзеля рэальнасці, з юнацкай наіўнасцю дзеля трывог і страхаў дарослага мужчыны. Гэты першы мой трапічны шлем стаў па сутнасці маім пашпартам, пропускам у сапраўднае жыццё. І калі б люстэркі мелі памяць, калі б іх кожны тыдзень не мылі, гэтае магло б вярнуць мне аблічча маладога чалавека, які да таго гуляў са светам, а цяпер нарэшце ўступаў у яго.

Выгляд у мяне быў досыць напалоханы. Я спрабаваў усміхнуцца, і ўсмешка мая павінна была перадаваць упэўненасць, але вусны крывіліся ад боязі заплакаць, ад чалавечага страху перад рэальнасцю. Згадайце, што так проста і з такім прадбачаннем казала мне Калет:

– Галоўнае, ніякай літаратуры!

Ну што ж! Цесныя кантакты з людзьмі, падарожжы, нават сама мая прафесія расказчыка гісторый, якую я пачаў асвойваць, напаўнялі мяне палкім жаданнем памерацца нарэшце не з надуманымі драмамі, а з рэальнасцю; тады я яшчэ не смеў казаць – з Жыццём.

Зміранасць прыйшла з узростам. Мне было амаль трыццаць, і Жыццё ўяўлялася мне гэтакай свецкай паненкаю, да якой я не смеў падступіцца з налёту. Вось чаму я прыйшоў аднойчы да Феяра, выдаўца большасці маіх народных раманаў, і сказаў:

– Я вырашыў узняць планку.

– Як вас зразумець?

– Хачу пасля народных раманаў паспрабаваць раман паўлітаратурны.

Гэты тэрмін развесяліў яго, але ў той самы час і збянтэжыў:

– Што вы маеце на ўвазе пад «паўлітаратураю»?

Блытаючыся, я паспрабаваў растлумачыць:

– Існуе дзесяць, а то і дваццаць відаў літаратуры. Яны ўсё роўна як розныя аддзелы ўнівермага. Інакш кажучы, існуюць толькі з маўклівай дамовы паміж прадаўцом і пакупніком. У кожнай з гэтых катэгорый свае правілы, і парушаць іх забаронена з прычын камерцыйнай прыстойнасці. Над усім гэтым узвышаецца «чысты» раман, твор мастацтва, які арыентуецца толькі на сябе самога і не падпарадкоўваецца аніякім выдавецкім правілам. Пакуль я яшчэ не адчуваю сябе досыць сталым, каб падступіцца да яго. Раман, сапраўдны раман нельга напісаць да сарака гадоў: ён вымагае сталасці, а раней за сорак яе не дасягнуць. Аднак я лічу сябе здатным адысці ад некаторых шаблонаў і ствараць герояў, амаль падобных да жывых людзей, пры ўмове, што буду карыстацца апораю, каркасам, буду абапірацца на павадыра, а такім з'яўляецца дэтэктыў. І ад гэтай пары мне хацелася б пісаць вам па дэтэктыве ў месяц.

– Чаму па адным у месяц?

– Бо паводле маіх разлікаў гэтага вымагае мой бюджэт.

– А хто мне гарантуе, што вы зможаце вытрымаць такі тэмп?

– Вось вам шэсць раманаў, напісаных за тры месяцы.

Феяр прачытаў іх і праз тыдзень сказаў:

– Я іх выдаю. – Аднак адразу ж дадаў: – Толькі мы ідзём да катастрофы.

– Чаму?

– Таму што, па-першае, вашы дэтэктывы – ніякія не дэтэктывы. Яны не навуковыя. Вы не выконваеце правілаў гульні.

– Далей?

– Па-другое, у іх няма кахання, хоць бы ў той меры, у якой яно дапускаецца ў дэтэктывах.

– Што яшчэ?

– Па-трэцяе, у іх няма персанажаў відавочна

сімпатычных і відавочна антыпатычных. Вашыя раманы канчаюцца ні добра, ні дрэнна. Гэта катастрафічна.

Усё гэта праўда. У свеце не знойдзеш дэтэктываў, зробленых горш за мае. І ўсё-такі Феяр іх выдаў, дагэтуль не разумею чаму. Напэўна, усё з тае ж прычыны: кіруючыся спачуваннем, якое ўратавала мяне ад выгнання з калежа, а пазней ад звальнення з газеты, дзе я працаваў рэпарцёрам. Разумееце, гэтыя раманы былі даволі нізкай якасці. Яны ўяўлялі сабою этап. У багатых на ўмоўнасці рамках я спрабаваў прымусіць людзей жыць.

Вынік быў вельмі сціплы. І я прызнаюся вам у гэтым без падманнай сціпласці. Я тады ўсё яшчэ быў на ўзроўні гам. Іграў, як піяніст, гамы. І ўсё ж то тут то там мог паспрабаваць перастварыць атмасферу, характар.

Я напісаў Феяру за вызначаны дамовамі тэрмін ці то васемнаццаць, ці то дваццаць дэтэктываў. Яны былі перакладзеныя амаль на ўсе мовы, у тым ліку ідзіш, эсперанта і японскую. І, аднак, роўна праз паўтара гады пасля падпісання нашай дамовы я прыйшоў да Феяра, які так ніколі і не змог зразумець майго рашэння, і аб'явіў:

– З дэтэктывамі канчаю. Хопіць з мяне Мэгрэ.

Думаю, ён палічыў мяне вар'ятам і ўжо ва ўсякім разе параноікам. Добры камерсант, ён ніяк не мог уцяміць, як можна рэзаць курыцу, што нясе залатыя яйкі. Але пасля ўсяго, што я вам ужо распавёў, пасля ўсіх маіх шчырых прызнанняў, вы, спадзяюся, разумееце мяне. Я адчуваў, верыў, што цяпер я досыць моцны, каб адмовіцца ад усіх шаблонаў, каб адкінуць мыліцы, на якія абапіраўся.

Я наблізіўся да чалавека – чалавека аголенага, чалавека, які стаіць твар у твар са сваім лёсам, а ён, мяркую, сама галоўны рухавік рамана.

Згадайце, што я вам казаў у самым пачатку пра мае ілюзіі ў дванаццаць гадоў, пра пары ў шаснаццаць, пра самалюбівыя памкненні ў дваццаць. Мне хочацца, каб вы адчулі, што бывае прызванне, якому немагчыма не давярацца, хоць у гэтым няма аніякай нашай заслугі. Існуе нейкі ўнутраны фактар, якому немагчыма супраціўляцца, як нельга супраціўляцца страсці.

Гэтай страсці мне вельмі хацелася б даць дакладнае вызначэнне, але, як бачыце, я няздольны гаварыць пра яе ў дакладных тэрмінах, а магу толькі, выкарыстоўваючы

ўспаміны, прымусіць вас адчуваць яе; дык вось, гэтая страсць называецца любоўю да чалавека, да ягонага Лёсу, да ягонай Велічы і Нікчэмнасці, да жорсткага, бязмернага разрыву паміж ягонымі адмысловымі памкненнямі і мажлівасцямі.

Калет казала мне:

– Навучыцеся распавядаць гісторыю, а ўсё астатняе дадасца!

Дзесяць гадоў майго жыцця пайшло на тое, каб я сяк-так навучыўся расказваць гісторыі хлопчыкам, краўчыхам, машыністкам, брамніцам. Але вось наспеў дзень, калі я, можа, заўчасна, палічыў сябе здатным і на астатняе – і аб'явіў:

– Адгэтуль я буду пісаць проста раманы.

Вядома, мне хацелася растлумачыць вам, што я разумею пад проста раманам ці, карацей, раманам. Але мне гэта цяжка перш за ўсё таму, што я дрэнна падрыхтаваны мець справу з ідэямі. Уявіце сабе, на працягу дваццаці гадоў усе мае намаганні, усе памкненні накіроўваліся на тое, каб выкарыстаць толькі матэрыяльныя словы. Вось яшчэ адно вызначэнне, якое трэба было б дадаць і якое я не магу сфармуляваць. Калі хочаце, гэта словы, якія маюць матэрыяльную вагу, словы, якія маюць тры вымярэнні, як стол, дом, шклянка вады. Гэта здаецца простым, і, шчыра кажучы, у пачатку шляху мяне больш за ўсё ўражвала адсутнасць шчыльнасці ў людзях і прадметах, якія я апісваў. Адсутнасць гэтае шчыльнасці ўражвае мяне й дагэтуль – ва ўсім, што пішацца ў дваццаць гадоў.

Нехта, гаворачы пра жывапіс, заўважыў:

– Ідэальная, дасканалая карціна – гэта тая, у якой можна выразаць у правым ці левым кутку кавалачак у дзесяць квадратных сантыметраў, і ён будзе ўяўляць сабою нешта цудоўнае.

Гэтыя словы праследавалі мяне ўжо тады, як я, невядомы – з прычыны шаснаццаці маіх псеўданімаў і нягледзячы на іх, а таксама з-за штодзённага васьмідзесяцістаронкавага ўроку – пісьменнік, штодня дапускаў найцяжэйшыя памылкі і прамашкі ў адносінах да мастацтва і добрага густу. Прымусіць жыць дрэва ў садзе насуперак трагедыі, што адбываецца побач… Надаць

лістам гэтага дрэва ўласцівую ім важкасць… Здаецца, я знайшоў патрэбнае слова – важкасць. Важкасць аркуша паперы, шматка неба, якойсьці рэчы, усіх тых рэчаў, якія ў сама напружаныя моманты нашага жыцця набываюць патаемнае значэнне…

Важкасць электрычнага асвятлення, сонечнага промня, зеленаватага святла, якое льецца з-за аблокаў у марозны ранак, важкасць усяго, што вакол нас – дажджу, вясны, гарачага сонца, сонечнага зайчыка на стале, ды ці ж мала чаго яшчэ… Важкасць рэчаў, ці, калі дазволіце выкарыстаць слова, якое з дзіўнай упартасцю круціцца на языку, важкасць Жыцця.

Я не рашаюся гаварыць пра важкасць чалавека, а то ў мяне будзе адчуванне, што я спакушаю Бога. Не рашаюся гаварыць, але думаю, думаю ўвесь час, і мне хацелася б адным рухам вуснаў перадаць усё значэнне чалавечае тэмы, усю драматычнасць сутыкнення чалавека з жыццём.

Выбачайце. Я спрабаваў проста даць вызначэнне рамана, як я яго разумею, а дазволіў сабе заглыбіцца ў напышлівыя словапляценні. Аднак менавіта гэта і ёсць раман, а таксама многае іншае. Раман – гэта чалавек, чалавек аголены і чалавек адзеты, чалавек будзённы; часам гэта жорсткая драма, якая разыгрываецца паміж чалавекам аголеным і чалавекам адзетым, чалавекам вечным і чалавекам пэўнага адукацыйнага ўзроўню, пэўнае касты ці пэўнага гістарычнага моманту, але перш за ўсё гэта драма Чалавека, які змагаецца са сваім лёсам.

Ці ж не праўда, пасля ўсяго, што я тут нагаварыў, не дужа лёгка прызнаць сябе раманістам ці заявіць, што хочаш ім быць або стаць?

Разумееце цяпер маё параўнанне раманіста з богам-бацькам?

У шаснаццаць гадоў я аб'явіў сябрам:

– У трыццаць я напішу свой першы раман!

У трыццаць я задаволіўся тым, што сказаў:

– Сваім першым раманам я буду лічыць той, які напішу ў сорак гадоў.

Ну а ў сорак… Цяпер мне сорак трэці, і я ўсё адсоўваю назначаны тэрмін, бо чым больш сталею, тым больш разумею ўсю пыхлівасць сваіх намераў.

Першы раман? Можа, я напішу яго ў пяцьдзесят, а можа, пазней, калі буду жывы; толькі дзеля гэтага мне і хочацца жыць, і толькі таму я зайздрошчу Гётэ, ягонай плённай старасці. У яго быў час акрэсліць усю лінію і замкнуць круг. Паэт можа памерці маладым: у паэзіі няма ўзросту, яна ўваходзіць у нас, калі мы яшчэ падлеткі, можа, нават калі яшчэ зусім дзеці – ды што я кажу, яна звязаная з дзяцінствам таямніцаю… А раман – гэта цяжар, гэта сусвет, які могуць трымаць толькі моцныя плечы.

Вы хочаце, каб я вам расказаў, як я пішу раман? Вымушаны папярэдзіць, што гэта ні ў якім разе нельга ўспрымаць як рэцэпт, бо ў кожнага аўтара свой метад, які адпавядае ягонаму тэмпераменту ці, калі выкарыстоўваць слова, якое я не надта люблю, ягонаму натхненню. Скарыстаўшы выпадак, я хацеў бы абвергнуць адну легенду. У мяне часта высакамерна пытаюцца:

– Вы хутка пішаце?

– Вельмі.

– Здаецца, за месяц раман?

– Не, за адзінаццаць дзён[12].

– Усё правільна! Усё правільна!

Мой суразмоўца трыумфуе. Ён мяне не чытаў. А цяпер ён атрымаў пацвярджэнне, што мяне і чытаць няварта, бо раман, напісаны за адзінаццаць дзён, можа належаць толькі да сама нізкасортнай прадукцыі.

Не думайце, што я перабольшваю. Многія крытыкі гэтак жа прадузята настроены супраць аўтараў, якія пішуць хутка, але гэта сведчыць, што яны блага знаёмыя з гісторыяй літаратуры. Не, яны, канечне, ведаюць, што вялікі Бальзак вельмі часта выдаваў за ноч па сорак старонак. Але яны могуць палічыць Бальзака нейкай пачвараю, а то і аўтарам народных раманаў.

Ну, а Стэндаль? Вось ужо хто з'яўляецца, і зусім справядліва, літаратарскім аўтарытэтам. Аднак Стэндаль

[12] *Звычайны сіменонаўскі раман (накшталт «Порта ў тумане») – гэта найчасцей прыкладна 180 старонак такой кнігі, якую вы цяпер чытаеце. Такім чынам, пісьменнік у сталую сваю пару пісаў прыблізна 16 старонак у дзень. Калі ўлічыць ягоную фенаменальную працаздольнасць, багатыя фантазію і вопыт, характар і надзвычайную стылёвую простасць многіх раманаў, распрацаванасць абраных метадаў і выдатныя ўмовы жыцця, а таксама той факт, што з узростам Сіменон пісаў раманы ўсё радзей (да чатырох на год), то ў гэтай, няхай сабе і неверагоднай, выніковасці няма нічога фантастычнага. (Заўв. перакладніка.)*

напісаў «Пармскі манастыр», у якім амаль тысяча старонак, калі я не памыляюся, менш як за паўтара месяца[13].

Гюго закончыў «Марыён Дэлорм» за дзевяць дзён, іншыя п'есы забіралі ў яго таксама менш як месяц, і кожнае раніцы, перш чым заняцца штодзённымі справамі, ён пісаў па сотні радкоў вершаў.

Я выглядаю так, нібыта апраўдваюся. І тым не менш кажу з усёй шчырасцю: як на маю думку, дык хутка ты працуеш ці не, не мае аніякага значэння. У мяне ёсць сябры-мастакі, якія пішуць карціну за некалькі гадзін, а ёсць і такія, якія тыднямі працуюць над адным матывам, аднак і тыя і другія ў роўнай ступені адметныя жывапісцы.

У мяне часта пытаюцца:

– Як вы знаходзіце сюжэт?

А ніяк не знаходжу. Я яго не шукаю. Я мог бы сказаць, практычна зусім не перабольшваючы, што сюжэт мяне не цікавіць. Давайце паглядзім. Праз некалькі дзён я вярнуся ў свой канадскі дом і сяду за пісьмовы стол. У мяне проста рукі чэшуцца пісаць: ужо некалькі месяцаў я не пісаў, а мне гэта неабходна, як наркаману наркотык.

Калі я апынуся дома, мне будзе вельмі проста ўвайсці ў стан мілаты. Гэты выраз, які, несумненна, выклікча ў вас усмешку, – адзіны, які я змог знайсці, каб вызначыць стан, неабходны для творчае працы. Калі хочаце, гэта своеасаблівыя ўцёкі ад рэальнага жыцця. За дзень да таго, як трэба сядаць за раман, я зазвычай прагульваюся і не пазнаю знаёмага наваколля, ці, дакладней, яно страчвае для мяне сваю рэальнасць, шчыльнасць. Я сустракаю людзей, з якімі бачуся звычайна, і вітаю іх усё роўна як у сне, а то і зусім забудуся паздароўкацца.

Ці не ў трансе я? Гэта задужа гучнае слова, а я баюся і гучных слоў, і гучных ідэй. І тым не менш. Аднак прадоўжым…

Адвячорак… Гэта сама спрыяльны час… Мякчэюць абрысы, звычайны рог вуліцы, цёмны ўваход у дом, водбліск святла на вільготным бруку – усё раптам становіцца невытлумачальна таямнічым. Мне згадваюцца дзесяткі

---

[13] *«Пармскі манастыр» – раман памерам прыкладна 560 старонак такой кнігі, якую вы цяпер чытаеце. Калі Сіменон і праўда не памыляецца, то Стэндаль пісаў па 12–14 такіх старонак у дзень. (Заўв. перакладніка.)*

гарадкоў, дзе я вось гэтак жа бадзяўся; успаміны хлынулі патокам, яны захапляюць мяне. Маленькая кавярня ў Дзюнкерку, восеньскі вечар, падобныя да статуй рыбакі ў зюйдвестках, што блішчаць ад марской вады... Зямля пасыпана апілкамі, у нагах у людзей ляжаць рыбы, пакінутыя на вячэру... Згадваецца яшчэ адна дэталь: зязюлька з гадзінніка... Я тады ўздрыгнуў: яна пракукавала шэсць... Пах гарэлкі, якую там называюць «гарладзёркаю»... Здаецца, гэта была каманда маленькага судна «Мары Жанна»?..

Трэба пажыць некалькі дзён з імі... Дарэчы, там быў адзін тып, Маленькі Луі, які, калі напіваўся, а напіваўся ён кожнага вечара, грыз шклянкі і глытаў аскепкі... Ён хадзіў на парусніках да Нюфаўндленда... Паўгода ва ўсім абмежаванага, цяжкага жыцця ў моры... Ён сыходзіў на бераг з невялікімі грашыма і кожнага разу даваў сабе слова заўтра паехаць у Брэтань наведаць сваіх старых бацькоў. Аднак назаўтра валяўся п'яны што цэп дзе-небудзь у канаве ці ў камеры паліцэйскага ўчастка. Праз тры-чатыры дні ў яго не заставалася ніводнага франка, так што пра білет на цягнік думаць ужо не прыходзілася, і ён падпісваў новы кантракт, асуджаючы сябе на паўгода матроскага жыцця і ўстрымання. Маленькі Луі...[14] Іншыя... Дзюнкерк...

Рубільнік уключаны. Цяпер на працягу адзінаццаці дзён я буду жыць там, мяне акружыць натоўп маіх персанажаў, ужо скажоных часам. Але гэтага мне хапае, каб зрабіць іх персанажамі рамана, паставіць іх у сітуацыю, дзе яны вымушаны будуць дайсці да мяжы сваіх магчымасцей.

Разумееце? Герой рамана – гэта любы праходжы на вуліцы, любы мужчына, любая жанчына. У кожным з нас сядзяць інстынкты, уласцівыя чалавечай прыродзе. Але мы падаўляем гэтыя інстынкты, прынамсі, многія з іх, ці то праз нашую дужа ўжо пільную прыстойнасць, ці то саромеючыся, ці то пад уплывам атрыманага выхавання, а найчасцей проста таму, што ў нас не бывае падставы даць

---

[14] *Гэты Маленькі Луі – відавочны прататып Луі Вялікага, персанажа рамана «Порт у тумане», надрукаванага ў гэтай кнізе. (Заўв. перакладніка.)*

ім волю. А герой рамана пойдзе да мяжы сваіх магчымасцей, і мая роля, роля раманіста, – паставіць яго ў такую сітуацыю, калі ён вымушаны гэта зрабіць.

Як бачыце, усё проста. І мне зусім яе трэба шукаць якую-небудзь гісторыю. Мне патрэбныя людзі, жывыя людзі ў іх атачэнні, іх асяроддзі. І невялікі штуршок, каб яны пачалі дзейнічаць...

З гэтага моманту я павінен прымушаць іх жыць. Гісторыя – гэта тое, што яны робяць, прычым я няздольны ўмешвацца ў гэта, бо ў маіх герояў, калі яны на самай справе сапраўдныя, свая логіка, і мая аўтарская логіка тут зусім бяссільная.

Аніякага плана. Некалькі імёнаў, якія я запісваю на аркушы паперы: справа ў тым, што ў мяне благая памяць на імёны. Іх узрост, нумары іх тэлефонаў, калі яны ў іх ёсць. Гэта рэальныя персанажы, і трэба забяспечыць іх поўную рэальнасць. Апрача таго, гэтыя некалькі дзён на сцяне ў мяне вісіць план горада ці мясцовасці. Чыгуначны расклад, бо ў рамане, як і ў жыцці, здараецца, ездзяць у цягніках, і трэба, каб гэта былі сапраўдныя цягнікі.

Застаецца нарэшце праца, якою я з задавальненнем займаюся: чышчу машынку да сама дробных шасцяронак, змазваю яе, запраўляю новую стужку, карацей, рыхтую машынку, каб яна стала хуткая і прыгожая, усё роўна як ёй трэба будзе браць удзел у спаборніцтве.

Вось і ўсё. Заўтра я ўстану да світання і нашча, не скінуўшы з сябе туману ночы, пайду да свайго стала, дзе, я ў гэтым упэўнены, чакаюць мяне мае героі. Праз дзве гадзіны ў мяне будзе надрукаваны раздзел роўна на дваццаць старонак, бо я сябе настроіў менавіта на дваццаць старонак. Такую норму лічу вельмі някепскай.

Цяпер я магу расчыніць насцеж вокны, пайсці прайсціся, як нармальны чалавек. Але ўсе адзінаццаць дзён, пакуль ідзе праца, людзі сустракаюць не мяне, а Маленькага Луі ці некага іншага, чыю паходку я падсвядома пераймаю, як нярэдка пераймаю і звычкі. Але, але! Ажно да чарачак «гарладзёркі» – і гэта пры тым, што я амаль не п'ю.

Вось, шаноўныя панове, усё, што я хацеў вам распавесці – проста і шчыра.

Я, як і абяцаў загадзя, гаварыў пераважна пра сябе,

за што і прашу ў вас прабачэння, але, галоўнае, прашу зразумець: калі я так рабіў, дык толькі таму, што нічога іншага і не мог сказаць.

Раман – гэта не проста мастацтва, а ўжо менш за ўсё прафесія. Перш за ўсё гэта страсць, якая цалкам апаноўвае вас і занявольвае.

Нарэшце, гэта патрэба, мажліва, патрэба ўцячы ад сябе, жыць, хоць бы нейкі час, па сваёй ахвоце ў свеце, табою абраным.

І хто ведае, ці не з'яўляецца ён, раман, да таго ж, – і галоўным чынам, – спосабам пазбавіцца ад сваіх прывідаў, даўшы ім жыццё і выштурхнуўшы ў свет?

Вось, без сумнення, прычына, з якой не выбіраюць характар герояў – вясёлых ці сумных, неспакойных, змрочных ці бесклапотных.

Раман – усё гэта разам, а для таго, хто яго піша, ён яшчэ і Вызваленне.

Так што цяпер вы разумееце, што раманіст ні пра што іншае і няздольны гаварыць?